

Юныя ленінцы — дастойная змена камсамолу.
Радасна сустракаюць дзень нараджэння піянерскай арганізацыі імя Уладзіміра Ільіча Леніна школьнікі нашай рэспублікі. Выдатныя адзнакі ў вучобе, багаты плён піянерскіх спраў — усё гэта табе, Радзіма, прыносяць юныя спадарожнікі сямігодкі.

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

5 (99)

Май
1961.
Год выдання IX.

У НУМАРЫ

☼
Савецкі чалавек у космасе!
☼
Аповесць Леаніда Гаўрылкіна «Каця».
☼
Вершы Васіля Віткі.
☼
У нас у гасцях «Дніпро». Вершы Андрэя Малышкі, Барыса Алейніка, Любові Забашты, Анатоля Касматэнкі, Паўла Ключыны. Апавяданні Юхіма Тасенкі, Яўгена Гуцалы, Майі Фідчуновай.
☼
З сельскага дзённіка Сцяпана Кухарава «Веснавыя настроі».
☼
Гары камсамольскі аганёк. Рэпартаж Уладзіслава Нядзведскага «Будні аднаго райкома».
☼
Навука і культура.
☼
Размова аб майстэрстве. Артыкул Уладзіміра Богана «Спецыфіка жанра».
☼
Нататкі Іржы Ганзелкі і Міраслава Зікмунда «Па дарогах свету».
☼
Спорт.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР.
Мінск.

На вокладцы малюнак А. Зайцава **«Вясна майская»**

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Карла Маркса, д. 40. Тэлефон 93-8-54.

Фармат паперы 70×108 1/16. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 8250. Цана 40 кап.

АТ 04335. Здадзена ў набор 1.IV.61 г. Падпісана да друку 3.V.61 г. Зак. 263.

Газетна-часопіснае выдавецтва, г. Мінск, праспект імя Сталіна, 79.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 79.

# *Савецкі чалавек у космасе!*



**Першы касманаўт Герой Савецкага Саюза Юры Аляксеевіч Гагарын.**

Іван **НАВУМЕНКА**

## ЭРУ КАСМАНАЎТАЎ ПАЧАЛІ МЫ

Бяздоннае зорнае неба... З часоў далёкай, сівой старажытнасці яно нястрымна вабіла да сябе чалавека, абуджаючы яго фантазію, нараджаючы тысячы легенд і міфаў. У нямым здзіўленні і страху глядзелі на неба нашы далёкія продкі. Яны пасадзілі туды сваіх багоў, якіх самі выдумалі, стварылі. Бог, што на небе, быў сімвалам бездапаможнасці старажытнага чалавека, абмежаванасці яго ведаў, магчымасцей.

І ўсё ж нават у тыя далёкія часы, калі людзі пакорліва схілялі галаву перад неспазнанымі сіламі прыроды, смелая чалавечая фантазія апярэджвала ход падзей. Ляцеў на неба Ікар, сын Дэдала, зрабіўшы сабе крылы з пер'я, змацаванага воскам, і загінуў, як толькі наблізіўся да Сонца...

Крылы з пер'я... Большага яшчэ не маглі ўявіць сабе нашы продкі.

У змрочныя стагоддзі сярэдневякоўя гінулі на зямлі тыя, што думалі пра неба. Згарэў на кастры Джардана Бруна. Царква прымусіла адмовіцца ад свайго вучэння Галілея. Але немагчыма было спыніць ход гісторыі. Чалавек набіраўся сілы і збіраўся ляцець да зорак. Сціплы настаўнік з купецкай Калугі Канстанцін Эдуардавіч Цыялкоўскі глядзеў на неба як гаспадар, разлічваючы праекты касмічных ракет, папярэднік сённяшніх...

Эру касманаўтаў пачалі мы, савецкія людзі, будаўнікі камунізма. Тым большы наш гонар, бо мы з'яўляемся законнымі наследнікамі найвышэйшых дзярзанняў чалавецтва. Веліч гэтай эры прадбачылі, прадчувалі нашы бацькі, якія штурмавалі Зімні палац, будавалі першую ў свеце сацыялістычную дзяржаву. Толькі разняволеная праца мільёнаў у саюзе з навукай магла прывесці да тых бліскучых поспехаў у асваенні космасу, якімі захапляецца сёння ўсё чалавецтва.

Ужо чатыры гады савецкія спадарожнікі лётаюць у небе. Але дзень 12 красавіка 1961 года — самая яркая, незабыўная дата, той бліскучы рубеж, з якога пачынаецца эра касманаўтаў. Ён будзе запісаны на скрыжалях гісторыі, як будзе запісана і імя героя — савецкага чалавека, выхаванца Ленінскага камсамола Юрыя Гагарына, першага з мільярдаў жыхароў планеты Зямля, які падняўся ў космас...

Мы поўныя радасці і гордасці за поспехі сваёй Радзімы, свайго народа, які пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі здзяйсняе самыя высокія, самыя смелыя мары чалавецтва. Гісторыя крочыць з намі, яе робім мы, савецкія людзі. Мы ведаем, што палёт Юрыя Гагарына — толькі пачатак, першы крок. Заўтра, паслязаўтра ў космас, да далёкіх планет, панясуцца новыя савецкія падарожнікі, смелыя людзі з гарачымі марамі і сэрцамі.

Шчаслівага лёту вам, савецкія касманаўты!

Шчаслівага лёту, Радзіма!

**Пятрусь МАКАЛЬ**

## ДАВАЙ ПАЛЯЦІМ!

Яшчэ майго прадзеда ў дні навальніцы
Арліныя крылы гукалі з цямніцы:
— Давай паляцім!
Каб прыцягненне зямное засведчыць,
Сядала імперыя продку на плечы:
— Давай паляцім...
Сама не адстане — упрошвай,
не ўпрошвай —
І людзі спіхнулі груваcтую ношу!
— Давай паляцім...
Нясуць нас да зорак далёкіх ракеты.
Пад намі — Радзіма.
Імперыйка,
дзе ты?
Амерыка,
дзе ты?
Ляцім!





Леанід Гаўрылкін нарадзіўся ў 1935 годзе ў пасёлку Стэп Церахоўскага раёна на Гомельшчыне. Закончыўшы ў 1952 годзе сярэднюю школу, паступае ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна, дзе заканчвае аддзяленне журналістыкі.
Працаваў у рэдакцыі церахоўскай раённай газеты «Ленінец», а цяпер — старшы рэдактар рэдакцыі літаратурна-драматычных перадач Гомельскай студыі тэлебачання.
Чытачы ведаюць Л. Гаўрылкіна як апавядальніка. «Каця» — першая аповесць маладога празаіка.

**Леанід ГАЎРЫЛКІН**

# КАЦЯ

## Аповесць

Мал. Ю. Выхадцава.

### I

Гасцінец, што ішоў на захад з гарадскога пасёлка Цярэшкі, адразу ж за прысадамі перасякаў чыгунку і вырываўся ў поле-стэп. Там ён, шырокі, раздольны, вёў да бліжэйшай вёскі. Зарадзвінне і хаваўся ў густой зеляніне.

Па ім амаль без спачынку імчалі машыны, таму на пераездзе дзяжурылі круглыя суткі.

Калі ўдалечыні, дзе чырванела ваданапорная вежа на станцыі, паказаўся сіні дым і адтуль данеслася глухое рэха гудка, Каця апусціла шлагбаум і выцягнула з чахла жоўты сцяжок. Яна была ў доўгім чорным шынялі, дужа раскошным на яе тонкай постаці. Ён быў перахоплен рамянём і таму пузырыўся на грудзях і спіне. З-пад цёплай хусткі ў дзяўчыны пазіралі сумныя вочы.

Міма прагрукацеў задымлены паравоз, прамільгнулі вокнамі зялёныя вагоны... Каця ўздыхнула.

Яна яшчэ зусім нядаўна сама марыла паехаць вось на такім цягніку... Толькі не ведала, куды...

— Гэй, чаго спіш? Давай дарогу! — закрычаў амаль побач шафёр, вытыркнуўшыся з кабіны.

Ля пераезду сабралася больш дзесяці грузавікоў. Каця падняла шлагбаум, машыны зараўлі, задымілі і пратарахцелі міма...

У цішы, што наступіла амаль раптоўна, Каця пачула, як заплакала Ленка, і кінулася ў будку.

У будцы было цемнавата — маленькае акенца давала толькі крыху святла, асабліва тады, калі неба заплывала цёмнымі хмарамі. На табурэтках, захутаная ў цёплую коўдру, варушылася Ленка. З-пад хустачкі, што насунулася ёй на тварык, ружавеў мокры носік. Ён паднімаўся і апускаўся — дзіця заходзілася ад плачу.

— А мая ты маленькая, мая ты... — Каця асцярожна ўзяла дачку на рукі, выцерла ёй тварык, кранулася вуснамі мяккай шчочкі. — Ну чаго ты, дачушка? Ну? Зараз мы пакормім цябе... Зараз...

На руках Ленка хутка супакоілася.

Дзынкала ад ветру шыба, па бляшаным даху барабаніў дождж. На дварэ стаяла асенняя непагадзь. А ў будцы было ўтульна, ад грубкі дыхала прыемным, такім дамашнім цяплом, што хацелася забыцца на ўсё і задрамаць.

... Нялёгка склалася жыццё ў Каці. Ёй было толькі пяць гадоў, калі зімой, у 1945 годзе, ад тыфусу памерла маці. Бацька ж вярнуўся з вайны з прастрэленымі лёгкімі.

Спачатку гібелі ў сырой зямлянцы. Даводзілася і недаядаць — не адразу пасля разрухі калгас стаў на ногі.

У вёсцы ад вайны ўцалела толькі хата Сцёпы Камарынскай. Кацін бацька і прыстаў да Сцёпы ў прымы. Не таму, што пакахаў Сцёпу, а таму, што не мог ужо сам адбудавацца і выхаваць дачку.

Спачатку мачаха даглядала Кацю, як родную.

А гады тры назад бацька памёр. Перад смерцю толькі і папрасіў жонку, каб тая памагла ягонай дачцы закончыць дзесяцігодку.

Калі ж Каця прынесла атэстат сталасці і пахвалілася мачасе, што цяпер яна пойдзе працаваць на ферму, бо ўвесь жа клас ідзе, то тая не выпусціла яе з хаты.

— Калі на тое пайшло — пойдзеш туды, куды я скажу...

Так Каця апынулася на пераездзе.

Неўзабаве Каця пазнаёмілася з адным студэнтам-чыгуначнікам. Хлопец праходзіў на станцыі практыку. Васемнаццацігадовая Каця даверылася яму, а ён пасля практыкі знік — і след яго прастыў.

Каця не стала яго шукаць — сілаю мілай не будзеш. Спачатку яна рашылася на аборт ды пасаромелася ісці ў сваю бальніцу, — чакала адпачынку, думала паехаць у Растоў, дзе жыве яе далёкая радня, але адпачынак далі занадта позна...

Успомнілася раптам мачаха і тое, як яны ўчора счапіліся за грошы. Каця хацела тое-сёе прыдбаць сабе к зіме, але мачаха ўзлавалася.

— Дык ты не толькі яслі разводзіш, але і карміцца хочаш за маё? Калі так — шукай сабе другую кватэру, а з мяне хопіць, нацярпелася!

Мачасе абы зачэпка.

Давялося Каці скласці ў чамаданчык свой небагаты набытак, узяць на рукі Ленку і пайсці на работу...

На вуліцы мацнеў вецер, шумеў дождж, густа, несціхана.

Раптам дзверы шырока адчыніліся, і разам з мокрым ветрам у будку ўскочыла Аўдоцця Лямех.

— Во лупцуе.... Ледзь дабегла.



Аўдоцця — жанчына гадоў пад сорак. Бліскучыя гумавыя чабацікі ладна аблягаюць яе моцныя, стройныя ногі. З фуфайкі на падлогу капае вада.

Яна акінула Кацю сваімі шэрымі вачыма, прысела на табурэтку, зняла хустку і папраўла валасы.

— Вы даруйце, што я так... без усялякай там цырымоніі.

— Ды нічога, нічога. — Каця не здзівілася яе паяўленню: ці мала каго застае на дарозе дождж.

— Гэта ваша малое? — Аўдоцця нагнулася над Ленкай.

— Мая.

— Пастой, пастой, маё ты дзіцятка. Ці не тая ты Каця, якую мачаха выгнала? Ага... А я думала, што людзі так сабе гавораць, плёткі...

— Каб жа плёткі...

— То ж трэба так, — абуралася жанчына. — Ну да чаго мы дайшлі? Ох, людзі... У такое надвор'е добры гаспадар сабаку з двара не гоніць, а то бедную сірату... Што творыцца толькі на зямлі?.. Я заўсёды казала, што людзі цяпер... Пекла на іх мала. Толькі на кожным вуглу распінаюцца, што душу роняць за чалавека, а на самай справе з дому, во, гоняць...

Аўдоцця нахілілася да дзяўчыны і зашаптала:

— Але не бядуй, сястра. Ёсць на свеце справядлівасць, вялікая і непадкупная. Прыйдзе час, яна ўсіх рассудзіць. Ай-яй-яй... Выходзіць, табе цяпер хоць пад куст ідзі з малым? Не сэрцы ў людзей, а... Эх, колькі гора паспытаеш, дзіцятка... Але ёсць і добрыя людзі... Ёсць. Іх толькі цурацца не трэба.

... На вуліцы было цёмна. Дождж пераціх, удалечыні над гарадскім пасёлкам цьмяна адсвечвалі нізкія воблакі — гэта ад вулічных ліхтароў. Вецер самотна гудзеў у правадах і шумеў у мокрым ельніку, што рос ля самай чыгункі.

Калі Каця была занята работай, яна менш думала аб сабе. Ды і ў душы была надзея, што раптам возьме ды і здарыцца нешта незвычайнае, каб змяніць яе жыццё. Але ішлі дні, праносіліся імклівыя цягнікі, нерваваліся ля закрытых шлагбаумаў шафёры, — а нічога не здаралася.

Каця, хаваючы ад ветру малое, стаяла на вуліцы, як укапаная. Яна не магла рашыцца, куды ж ёй пайсці, да каго...

— Ну чаго стаім? Дзіця прастудзіць можна, — гаварыла тым часам Аўдоцця. — Мо' пойдзем да мяне? Хата неблагая. Ёсць і асобны пакойчык.

— Ды я думала да Веры пайсці, на Зарадзвінне, — схлусіла Каця. Яна і не думала ісці да Веры, з якой даўно ўжо не бачылася, ды і няёмка неяк уваліцца ў чужую хату з малой на руках.

— Ды што ты? Гэта ж аж на тым канцы вёскі, а я тут, пад бокам жыву... Пайшлі! — Аўдоцця ўзяла ў рукі чамадан. — Да мяне адсюль рукой падаць.

— Што вы, што вы... — пярэчыла Каця можа толькі таму, каб не выдаць Аўдоцці сваёй радасці.

— Ды ты ж не будзь ганарлівай. Я да цябе са шчырым сэрцам...

Неўзабаве яны былі ўжо ля Аўдоццінай хаты. За дарогу Каця стамілася — нялёгка было ісці з Ленкай на руках, а Аўдоцця спяшалася. Дзеці, гаварыла, сядзяць не еўшы.

У першай хаце, амаль ля дзвярэй, стаяла канапа. На ёй масцілася спаць трохгадовае дзіця. Старэйшая дачка Аўдоцці сядзела за нейкай тоўстай парудзелай кнігай.

Каця спынілася ў парозе.

— Выкінь, дзетка, усё сваё з галавы і праходзь, — Аўдоцця ласкава правяла рукой па Каціных плячах і клікнула сваю старэйшую дачку: — Любка, правядзі госцю ў пакойчык.

Пакойчык быў невялікі, з адным акном. Ля сцяны стаяў засланы новенькі жалезны ложак. Насупраць — старая шафа для адзення.

— Калі прыязджаў тата, дык гаварыў, што я пайду ў школу і буду тут жыць, — пахвалілася Любка. — Але я тут не жыву.

— А чаму?

— Баюся.

— Чаго?

— Мала чаго... — Любка нечага не дагаварыла.

Каці адразу кінулася ў вочы, што Любка нейкая хваравітая. Цяпер яна больш уважліва разгледзела яе. Дзяўчынка была зусім тоненькая, як быліначка, з жоўтым тварам, кволая.

Хутка з'явілася сама гаспадыня. Яна прынесла невялічкую калыску, сплеценую з лазовых размаляваных пруточкаў.

— Мама, а гэта тая цётка, па якую ты хадзіла? — спыталася ў яе Любка.

— Ідзі адсюль. Распусціла язык! — гыркнула на яе Аўдоцця. — Там лыжкі памый. Забылася... — І ласкава да Каці: — Гэта ж я хацела пляменніцу папрасіць пабыць у мяне дні з чатыры, а то збіраюся ў Ленінград з'ездзіць... Ну, як падабаецца табе тут? Усё, што тут ёсць, тваё.

— Колькі ж вы хочаце ў месяц?

— Мне нічога не трэба. І не будзем пра гэта гаварыць, — махнула рукой Аўдоцця.

Каця хутка заснула ў гэты вечар. Моцна, без трывогі на сэрцы, не тое, што ў мачахі.

Яна не чула, як апоўначы нехта асцярожна пастукаў у акно, як гаспадыня хуценька падхапілася і, не спытаўшы, хто там, адчыніла дзверы.

## II

— ...Такім чынам, таварышы, мы з вамі не можам прыняць рэлігію, мы адвяргаем яе, бо яна засланяе людзям вочы, перашкаджае ім будаваць самае гуманнае грамадства, перашкаджае бачыць прыгожы свет, напоўнены радасцю і шчасцем.

Аляксей змоўк, выцер хустачкай лоб, прыгладзіў рукой непакорлівую чупрыну. Пасля абвёў прысутных праніклівым позіркам, чакаў пытанняў.

Усе маўчалі. Нехта з палёгкай уздыхнуў.

У хаце-чытальні было чалавек пяцьдзесят. Больш за ўсё маладыя. На першым услоне сядзелі, праўда, дзве бабулькі. Іх сілай зацягнуў старшыня сельсавета Міхаіл Сцяпанавіч Карэба і знарок пасадзіў наперадзе, на «самае ганаровае месца», як ён абвясціў. Цяпер бабулькі шапталіся між сабой і кідалі ў бок лектара цікаўныя позіркі.

— Ну што, бабкі, можа запытацца пра што хочаце? Давайце тады пытанні, — звярнуўся да іх Міхаіл Сцяпанавіч, які сядзеў за сталом побач з лектарам.

— А што пытацца? — засмяялася адна з іх. — Няма бога, дык няма. Яно начальству відней...

А другая буркнула:

— Такія лекцыі вунь бы штундам чыталі. А то нам... Мы ўжо разумеем, што да чаго.



— Правільна, бабулька, правільна! — нехта падтрымаў яе насмешлівым голасам.

Неяк нясмела рыпнуў гармонік, і хлопцы пачалі хутка рассоўваць услоны.

Аляксей збіраў раскіданыя па стале лісткі. Было нечага сорамна, нібыта ён вунь як абняславіўся. Ён хуценька прашмыгнуў у кабінет старшыні сельсавета, каб хоць хвіліну пабыць аднаму...

— Рады, рады за вас, Аляксей Іванавіч. Цудоўная лекцыя! — следам за ім убег у кабінет і сам старшыня Карэба. Ён быў невысокага росту і можа таму заўсёды высока насіў галаву з чорным жорсткім вожыкам. У яго былі такія ж чорныя бровы і вочы. — Скажу вам адно, — гаварыў Карэба. — Даўно ў нас лекцыі такой не чулі.

— Вельмі дрэнная лекцыя... — адказаў Аляксей і задумаўся.

— Смешны вы чалавек, — пацiснуў плячыма старшыня сельсавета. — Я ўжо дзесяць год працую тут, так што наслухаўся ўсякіх лектараў — і з раёна, і з вобласці. Сам, во, прачытаў з добры дзесятак... А сёння вам зайздросціў... Што ж, адукацыя... А нам вучыцца не давялося, у акопах правялі маладосць.

У кабінет раптам забегла расчырванелая, як тая макавая кветка, дзяўчына гадоў дваццаці.

— Вадзіца ў вас, старшыня, ёсць? — спытала яна і тут жа зачэрпнула з вядра цэлую шклянку.

У дзяўчыны былі прыгожыя валасы, сабраныя ў вялікі вузел на патыліцы. Бровы і вочы былі такія ж чорныя, як у Карэбы. Аляксей шчыра залюбаваўся. Калі яна выйшла, ён не стрымаўся, каб не спытаць:

— І адкуль такая прыгажуня ў вас?

— Ды мая сястра, Вера, — Міхаіл Сцяпанавіч сказаў гэта так, нібы хацеў апраўдацца, што ў яго прыгожая сястра.

Аляксей неяк адразу засумаваў. Уявіў свой пусты, халодны, здаецца, ужо дні два не палены пакойчык. Салдацкі ложак, маленькая падушка, пацёртая коўдра... Этажэрка з кнігамі. Маленькі на тоненькіх ножках столік, за якім ён праседжваў даўжэзныя вечары — чытаў.

Дзяўчына неяк напомніла яму, што ёсць на свеце яшчэ прыгажосць, каханне, шчасце. Аляксей, праўда, ва ўсім гэтым крыху расчараваўся тады, калі памыліўся ў той, якую кахаў, каму верыў, як сабе. Толькі гэта было даўно, калі ён яшчэ займаўся ва ўніверсітэце. З таго часу прайшло ўжо чатыры гады.

Аляксей вырашыў застацца на танцах.

— Ну што засумаваў? — усміхнуўся яму старшыня.

— Ды вось пра лекцыю ўсё думаю. — Аляксей пачырванеў, але хутка ўзяў сябе ў рукі. — Слухай, Міхаіл Сцяпанавіч, калі мая лекцыя такая ўжо выдатная, чаму ж яна нікога не зацікавіла? Чаму ніхто не задаў ніводнага пытання?

Карэба закурыў, пусціў воблачка дыму, разагнаў яго рукой.

— Тут трэба ўлічыць такую дэталь, што ў нас адвыклі задаваць пытанні... Вось так... А як вы нядаўна працуеце прапагандыстам, дык адкуль вам гэта ведаць...

І сапраўды, прапагандыстам райкома партыі Аляксей Пархоменка стаў працаваць нядаўна. Перад гэтым ён гады са тры быў літаратурным супрацоўнікам у раённай газеце. Але яму не спадабалася ў рэдакцыі. Хацелася рабіць нешта вялікае, карыснае для грамадства, канкрэтнае, як ён думаў, а ў рэдакцыі ён і сам не заўважыў, як стаў самым пасрэдным супрацоўнікам. Аляксей не стаў даходзіць, хто ў гэ-

тым вінаваты, сам ці можа рэдактар, які толькі і ведаў амаль кожны дзень пасылаць яго ў калгасы збіраць інфармацыі...

У райкоме, калі ён прасіўся старшынёй у які-небудзь калгас, яму прапанавалі папрацаваць пакуль прапагандыстам.

Аляксей згадзіўся з неахвотай.

Сакратар райкома Мікалай Васільевіч Ляшчук, выслухаўшы яго, усміхнуўся:

— Папрацуеце прапагандыстам і пераканаецеся, што ў нас вельмі канкрэтная справа. Вось хоць бы возьмем гэта... На Зарадзвінні дзейнічае секта хрысціян-баптыстаў, ці штундаў, як іх там называюць. У секце багата людзей. Яны вераць усялякаму глупству, пазбаўлены радасці нашага жыцця... І на мой погляд, той, хто імі кіруе, проста тарбахват. Грошы любіць... Вось і бярыцеся за секту. Змагайцеся за людзей... Ну, што думаеце? Можа не канкрэтна?..

Аляксей у той жа дзень вечарам сабраў усю інтэлігенцыю Зарадзвіння і даручыў кожнаму падрыхтаваць і правесці гутарку на антырэлігійную тэму. Гутаркі праводзіць вырашылі не толькі ў хаце-чытальні, але і ў брыгадах, і на фермах.

Першаму трэба было выступаць яму самому.

Ён старанна рыхтаваўся да лекцыі. Перавярнуў горы кніг. І вось... Можа лекцыя не ўдалася, як той першы блін, які заўсёды комам? Дык блін жа можна выкінуць, а лекцыю людзі чулі...

Раптам скрыпнулі дзверы, і ў кабінет вытыркнулася чыясьці ўскудлачаная галава.

— Старшыня, хутчэй...

Міхаіл Сцяпанавіч выскачыў, на хаду зашпільваючы паліто. За ім выйшаў і Аляксей.

Танцы былі ў разгары. Людзей — не прайсці.

Аляксей прыціснуўся да сцяны і стаў шукаць вачыма тую смуглявую дзяўчыну, што забягала ў кабінет. Нарэшце ён убачыў яе ў крузе.

— А вы ж чаго не танцуеце? Такая полька... Не стары ж, — Аляксей пачуў, як хтосьці ўзяў яго за локаць. Гэта быў сельсавецкі вартаўнік.

— Агледзецца трэба, дзед, — адказаў Аляксей.

— Эх, каб мне скінуць гадоў трыццаць... — забурчэў стары. — Я і хвіліны не аглядаўся б... Глядзі, як на падбор усе...

Аляксей не ўмеў танцаваць польку. Ён ледзь спраўляўся са сваімі дубовымі нагамі ў павольным танга. Здарылася так, што ў школе з-за вучобы свету не бачыў, а калі паступіў ва ўніверсітэт, то сорамна неяк было вучыцца танцаваць.

Нарэшце зайгралі танга. Аляксей запрасіў Веру. Першы круг прайшлі моўчкі. Аляксей саромеўся. Нарэшце, трошкі прызвычаіўшыся, ён употайкі стаў разглядаць дзяўчыну.

Ростам яна яму па плячо. Высокі лоб. Вочы з-пад доўгіх веек глядзяць неяк сарамліва і спалохана. Ёй, відаць, нязручна танцаваць з ім.

— У вас часта бываюць танцы? — пытаецца Аляксей, абы толькі пачаць гаворку.

— Часта.

— Добра!

— Нядрэнна. Але не заўсёды ёсць час хадзіць на іх, — дзяўчына першы раз за ўвесь танец глянула Аляксею ў вочы.

— А дзе ж вы працуеце?

— Даярка я.

Аляксей гэтага не чакаў. Ён цвёрда вырашыў, што яна піянерважатая з мясцовай школы — такая маладзенькая, такая тоненькая...



— Мо' з даяркай першы раз у жыцці танцуеце? — бліснула вачыма яна.

— Даяркі ў нас у пашане.

— Асабліва ў газетах.

Яны засмяяліся.

Аляксей у той вечар пайшоў праводзіць Веру. Па дарозе маўчалі. Веры хацелася сказаць прапагандысту нешта такое разумнае, але не знаходзіла што. Аляксей маўчаў, бо хацелася разважаць толькі пра сур'ёзнае. А што, калі дзяўчыне яно не патрэбна?.. А балбатаць ён не любіў, ды і не ўмеў. Так яны моўчкі і развіталіся.

Калі Аляксей ішоў дамоў, у небе ўжо высыпалі зоркі. У канцы вёскі, на ўсходзе, паружавела — збіраўся ўзысці месяц. У паветры пахла марозам.

Недзе пасярод вёскі Аляксею сустрэўся старшыня сельсавета. Моўчкі закурылі.

— Дамоў? — спытаў ён нарэшце Аляксея.

— Так. А вас куды гэта клікалі, калі не сакрэт?

— Ды не. Адна цікавая дэталь. «Браты ў Хрысце» пабіліся. Аўдоцця Лемяшыха, тут адна ёсць такая, мужыка свайго выжыла. Не баба, а чорт ведае што...

## III

Была нядзеля.

Каця калыхала дачку, седзячы на ложку, і ўсё паглядала ў акно, за якім трапятаўся над плотам жоўты клён; думала пра сваё жыццё. Сумавала па сваіх мінулых дзевятнаццаці гадах, што неяк так шэра прайшлі-праляцелі. Не бачыла яна ні сапраўднай ласкі, ні мацярынскіх клопатаў, якія саграваюць на ўсё жыццё. Быў бацька, але ён скупіўся на пяшчоты. Бывала, іншы раз і прыгалубліваў яе, ды і то гаварыў, уздыхаючы: «Цяжка табе будзе, дачка». Ад такой ласкі рабілася толькі шкада і сябе і бацьку.

Усё гэта яна зразумела толькі цяпер.

Сёння, у выхадны дзень, яна ляжала даўжэй, як звычайна: не хацелася вылазіць з-пад цёплай коўдры. А пакуль прыбрала крыху ў хаце, Аўдоцця са сваімі малымі ўжо села снедаць. Каця была ўзялася і сабе што зварыць, але Аўдоцця проста сілай пасадзіла яе за стол, маўляў, чаму ёй сёння разам з усімі не паснедаць.

За сталом Каця саромелася, нясмела брала бульбу і мачала ў патэльню, дзе было сала.

— Ты ж будзь смялейшай. Бяры і сальца. Вось гэта, з мясам, яно свежае. — Гаспадыня падсоўвала ёй падрумянены кавалачак мяса з костачкай.

— Дзякуй, не трэба, — чырванела Каця.

— Пад'ясі, тады і падзякуеш... Будзь, як дома. А то глядзі, як схуднела, аж высахла... У твае гады... — апошнія словы былі сказаны так шчыра і пранікнёна, што Каця ледзь не заплакала, успомніўшы зноў і сябе і сваё мінулае. Яна з цяжкасцю праглынула горкі камячок, прымусіла сябе ўсміхнуцца.

— Ды што вы, Аўдоцця Сямёнаўна, не такая я ўжо і страшная... Проста стамілася.

Кароткі восеньскі дзень прайшоў даволі хутка. Пакуль Каця пакупала Леначку, памыла падлогу, тое-сёе пашыла, — мінуў поўдзень.

Леначцы не падабалася ні мыла, ні вада, і яна так наплакалася за час купання, што цяпер ніяк не магла суцішыцца...

Нарэшце яна заснула.

Спала на канапе пасля абеду і гаспадыня. Чуваць было нават, як яна нешта мармыча сабе пад нос...

Што ж рабіць? Пачытаць што? Няма чаго, ды за апошні час праз усе гэтыя клопаты неяк адвыклася ад кнігі. Можа сабрацца ды схадзіць да Веры? У школе ж сябравалі, ды яшчэ як. А цяпер ні разу і не пагаварылі добра. Усё няма калі. У Веры, відаць, свайго клопату хоць адбаўляй. Недзе з той фермы і не вылазіць. А вечарам сёння можа яна і свабодная, дык не будзе ж сядзець дома, пабяжыць у хату-чытальню. На ўсіх жа слупах аб'явы расклеілі пра лекцыю і танцы. А можа ў Веры і спатканне з кім-небудзь — яна ж прыгожая.

І ўсё ж Каця дастала святочную сукенку, пераапранулася. Прымерала і новае паліто, што толькі ўчора купіла з палучкі: раскошнае, моднае. Завязала чырвоную хустачку, паглядзелася ў люстэрка. Усміхнулася ад радасці за сябе. Па-ранейшаму белыя кудзеркі прыгожа звісалі над ілбом. Вочы крышачку запалі і сталі нібы глыбейшыя. Твар пабялеў і, здаецца, выцягнуўся. Адным словам, з люстэрка на яе глядзела прывабная, маладая жанчына.

Каця падышла да акна і прынікла да халоднай шыбіны.

На захадзе стухала чырвань, ад таго кляновае лісце над плотам здавалася рудым, нават чорным. У суседзяў з коміна валіў жоўты дым, вокны блекла свяціліся ад лямпы.

Ціхенька ўвайшла Аўдоцця Сямёнаўна. Пазяхнула, паправіла раскудлачаныя валасы.

— А я думала, ты спіш... — яна заклала рукі за галаву, пацягнулася. — І калі толькі выспішся?.. А ты, Кацюша, сабралася куды?

— Проста апранулася і стаю...

— Сумуеш... Слухай, Каця, пойдзем са мной. Сходзім. А то адной неахвота...

— А куды?

Тая бы і не чула.

— А Любка паглядзіць тваю малую. Га? А то седнем сядзіш... На людзей хаця глянем.

— А куды, Аўдоцця Сямёнаўна?

— Да добрых людзей. Пагаворым, паспяваем...

— У малітоўны дом? — перапытала, здагадаўшыся, Каця. — Няўжо вы ходзіце?

Гаспадыня зрабіла выгляд, што пакрыўдзілася.

«Як жа адмовіцца? — думала Каця. — На дзіцё не спашлешся, а ісці няма куды. А проста адмовіцца не выпадае».

— Я вось да Веры хацела...

— Глядзі ты на яе... Так твая Вера недзе сядзіць і чакае цябе. Сёння ж нядзеля. Да яе можна і іншым разам наведацца, не забяжыць.

«А сапраўды, калі пайсці проста дзеля цікаўнасці, палыпаць вачыма, паглядзець, што гэта там за штунды і як яны моляцца?..»

— А наогул, як сабе хочаш, Кацечка. Толькі я сказала табе гэта ад душы, бо не думала, што ты станеш адгаворвацца.

І Каця з неахвотай пайшла разам з гаспадыняй.

Малітоўны дом быў у звычайнай хаце. У прыхожай жылі гаспадары, а другі, «чысты», пакой быў адведзены для збораў. У кутку стаяў стол, а астатняе месца займалі доўгія, нефарбаваныя ўслоны.

У пакоі ўжо сядзела некалькі бабулек, два дзяды — адзін з сівой барадой, другі з вялікай белай лысінай.



За сталом тырчэў прылізаны чалавек у цёмна-сіняй гімнасцёрцы. Гэта быў прасвітар. Ён нешта чытаў уголас. На яго носе, падобным на дзюбу драпежнай птушкі, віселі акуляры ў чорнай аправе.

Каця адразу пазнала гэтага чалавека. Калі яна ездзіла афармляцца на работу і доўга чакала ў калідоры начальніка дыстанцыі, дык разглядала Дошку гонару, што стаяла там. Быў на той Дошцы і партрэт гэтага чалавека. «Фёдар Чубок, — успомніла яна. — Працуе на чыгунцы стрэлачнікам. Няўжо гэта ён верхаводзіць тут?»

Каця з Аўдоццяй Сямёнаўнай села блізка ля стала, прыслухалася: Чубок чытае малітву. Паслухала якую хвіліну, але нічога не зразумела — упаміналася пра нейкіх пастыраў, авечак, рабоў божых.

Каця стала разглядаць сцены.

Перад ёй у вялізнай рамцы вісела карціна: пад разгалістымі дрэвамі цячэ сіняя-сіняя рэчка. Удалечыні на яе беразе — беленькі домік, ад якога вядзе жоўтая сцяжынка да драўлянай купальні. На блакітным небе чырвоны надпіс: «Мы прапаведуем Хрыста». Побач з карцінай вісіць плакат: «Бог — ёсць любоў». Нейкі мастак апавіў літары васількамі і рамонкамі. Да другой сцяны прыляпіўся вялізны кавалак бледна-сіняга палатна. На ім старанна вышыты словы: «Кроў Ісуса Хрыста ачышчае нас ад усялякага граха».

Раптам пасунуўся, загрукаў услон. Ля Каці сеў малады хлопец гадоў пад дваццаць. Высокі, у рудым паліто; на шыі ў яго белы шалік. Хлопец з цікаўнасцю паглядзеў на яе, сумеўся, пачырванеў, пасля быў адвярнуўся.

Найшло людзей — за сталом падняўся Фёдар Чубок.

— Браты і сёстры, устанем і ўчынім малітву нашаму богу...

Усе ўсталі. Устала і Каця. Яе сусед задумаўся, пасля падхапіўся і пачаў хуценька шаптаць малітву.

У хаце нібы хто ўспароў пчол, і яны загулі на ўсе лады. Праз хвіліну ўсё сціхла — людзі зноў паселі, заёрзалі на ўслонах. Наперадзе астаўся стаяць толькі дзядок з вялікай белай лысінай, пасля ён павярнуўся да людзей.

Кацю ўразілі яго пустыя, выцвілыя вочы, мясісты абвіслы нос і натапыраныя вушы. Гледзячы кудысьці ў столь, ён загаварыў зусім глухім голасам:

— Браты і сёстры... Паглядзіце вакол. Ці ўбачыце вы чалавека шчаслівага? Не ўбачыце. Усе людзі жывуць, што язычнікі. І чаму ўсе яны не любяць нас і памінаюць благім словам? Таму, што яны гінуць у п'янстве, разбэшчанасці, а мы ім не дагаджаем. Нічога, яны хутка будуць вымушаны даць адказ богу, які стане судзіць нас...

Каця азірнулася. Людзі, стаіўшыся, слухалі. Твары ва ўсіх былі такія сур'ёзныя і нерухомыя, што нагадвалі муміі. Цяжка было згадаць, ці людзей заваражыў напеўны голас прапаведніка, ці яны анямелі ад яго аднатоннага бубнення. Каці раптам стала смешна.

— І хутка ўсяму канец. У бога адзін дзень — тысяча гадоў. І тысяча гадоў — адзін дзень. І мы павінны жыць па Хрысту, і з гонарам прайсці наш зямны шлях. Любоў да бліжняга — у гэтым наша збавенне...

Усе раптам упалі на калені, і кожны стаў прасіць бога даравацъ яму грахі.

Людзі плакалі...

Каця зірнула на Аўдоццю Сямёнаўну. У яе па шчоках беглі слёзы. Можа ўсе гэтыя людзі адчуваюць нешта такое, чаго не здольна адчуць яна? Каця ўспомніла самае сумнае і крыўднае ў жыцці, але плакаць ёй не хацелася.

У хаце заспявалі. Мелодыя была нібы знаёмая, — ці не з якога кінафільма, як здалося Каці. Галасы гучалі зладжана і прыгожа. Каця такога зусім не чакала:

Где божая любовь царит,
Там нет вражды,
В опасностях господь хранит,
И нет ни в чем нужды.

Каця глянула на свайго суседа. Ён спяваў разам з усімі. Праўда, ціха і нясмела. Ёй здалося, што хлопец саромеецца яе.

«Няўжо і ён верыць?.. Ці можа яго таксама хто-небудзь прывёў? Не, па тым, як ён спявае, відаць, што ён тут не першы раз...»

Думкі Каці раптам перапыніў прасвітар.

— Бедны я чалавек. Хто пазбавіць мяне ад майго смяротнага цела? — спытаў ён так шчыра, што Каця паверыла яму. Голас яго цяпер ледзяніў, прыкоўваў да ўслона. — Я не ведаю, што раблю, таму што не тое раблю, што хачу, а што не павінен, тое раблю. Ёсць закон божы, закон Хрыста Ісуса нашага. І жывуць па ім толькі святыя. А я ў членах цела майго чую іншы закон, што выступае супраць закону божага і майго розуму. Ён і кідае мяне ў пропасць грэшную...

Каця ўспомніла ліпеньскі вечар. Тады ішоў дождж, жахала маланка. Студэнт, з якім яна пазнаёмілася месяц назад, пасля кіно запрасіў яе да сябе на кватэру. Яна не хацела ісці, але пайшла. Ён запрасіў разам павячэраць, яна не згаджалася, але села за стол. Не згаджаючыся, выпіла паўшклянкі партвейну ці чаго там; не згаджаючыся, яна засталася ў яго.... Яна не пярэчыла яму, бо студэнт абяцаў узяць замуж.

«А можа і праўда ёсць нейкі «грэшны» закон, што кіруе чалавекам?» Каця на нейкае імгненне паверыла ў гэта, зусім забыўшыся, што тады ёй вельмі ж падабаўся той чарнявы студэнт і яна, мусіць, пакахала яго.

— Браты і сёстры! Жыве ва мне грэх. Каюся. Жыве ён і ў кожным з вас. Ні ў каго не паварухнецца язык сказаць — я праведны. Усе мы розумам служым богу, а плоццю — закону грэшнаму. Дык давайце ж маліцца! — закончыў прасвітар.

Стала ціха, як у глыбокай яме.

Пасля, як з-пад зямлі, пачуліся слабыя галасы. Слоў нельга было разабраць. Мелодыя была жудасная, і сэрца заходзілася ад тугі. Штунды зачыналі гімн... Ён упарта прымушаў адмаўляцца ад усяго зямнога, ад жыцця, ад шчасця. Ён напамінаў аб вечных пакутах, невыказнай асірацеласці і адзіноце чалавека на гэтым свеце....

Каці стала да болю шкада сябе і гэтых бездапаможных людзей. І яна ўзрадавалася, калі малебен, нарэшце, закончыўся.

На вуліцы ад месяца было светла. Зямлю прысыпаў іней, першы марозік пабяліў дарогу, сцежкі, платы і стрэхі. Каця хапіла на ўсе грудзі свежага паветра, і ў яе аж закружылася галава, — так яна стамілася за гэты нязвыклы вечар.

Яна чакала Аўдоццю, тая доўга не выходзіла з хаты.

— Каго пільнуеце? — да яе падышоў хлопец, той нядаўні сусед.

— Сваю гаспадыню, — адказала Каця. — І чаго яна там забавілася?

— А, Аўдоццю Лямех... Яна можа і надоўга застацца. Яна ж у савеце секты, можа што абмяркоўваюць...

Каця павярнулася і пайшла дадому. Побач з ёю паклыпаў і юнак, доўга ўсё маўчаў, не асмельваючыся, мусіць, пачаць гаворку.

— Скажыце, вы часам не Каця? — нарэшце спытаў ён. — Я так і думаў... Памятаю, як вы яшчэ ў школу бегалі. Калісьці і я вучыўся.



— Не памятаю.

— Мяне завуць Андрэем.

— А вы даўно ходзіце ў малітоўны дом? — пацікавілася Каця.

— З дзяцінства... Мяне бацька заўсёды вадзіў. Мой бацька прасвітар.

Памаўчалі.

— А вы верыце ў бога? — Каця глянула на Андрэя.

— Ну, як сказаць...

— Па-вучонаму ж бог — хлусня...

— Я больш веру ў вучэнне, — сказаў Андрэй. — Любіце адзін аднаго, паважайце бацькоў, не займайцеся плёткамі, не крыўдзіце бліжняга свайго, не будзьце разбэшчанымі, не забівайце. Як мой бацька кажа, калі б гэтыя ісціны дайшлі да сэрцаў усіх людзей, дык і войнаў не было б. Яно, калі падумаеш, дык і так...

— У гісторыі многія цары і імператары верылі ў аднаго і таго ж бога, а ваявалі між сабой.

Каця думала, што Андрэй не знойдзе, што адказаць.

— А ці верылі? Мы ж не ведаем. Можа якраз і не верылі, а толькі прыкідваліся.

Ля двара яны спыніліся. Гаварылі ўсё пра тое ж. Андрэй разважаў і разважаў — ён не хацеў, каб так хутка пайшла Каця, і стараўся яе зацікавіць. Яго шчырасць спадабалася Каці.

Міма іх хуценька прабегла Аўдоцця Сямёнаўна.

— А вы ўжо справіліся пазнаёміцца? То добра. Хоць Каця пабудзе на свежым паветры. Не адпускай яе, Андрэй, а то зусім змарнела дзеўка... То ў будцы, то ў хаце... — і яна стукнула весніцамі.

— Не, Андрэй, і я пайду. Дзякуй, што правялі. — Каця адступілася да весніц.

Андрэй узяў яе за рукі.

— Вы прабачце, Каця, можа што не так... Але я буду вельмі рады, калі вы прыйдзеце ў наступную нядзелю... Добра?

Адказаць Каця не паспела. У хаце зазвінелі шыбы, і на зямлю ля іх ног бразнулася патэльня. Праз разбітае акно вырваўся прарэзлівы жаночы крык:

— Людзечкі, ратуйце!

## IV

Часам Іван Іванавіч адчуваў, што жыве не сваім жыццём, што асабістае жыццё абмінула яго, як тая каханая, што выходзіць замуж за кагосьці і кудысьці, пакідаючы табе назаўжды няўтольную тугу.

І тады яго апаноўваў сум. Сыходзіліся густыя бровы, моршчыўся лоб, вочы хмурнелі, рабіліся цёмныя і загадкавыя. Такі ён ніколі не размаўляў, не хацеў нават чуць чалавечай гамонкі, але мог затое махаць сякерай або шмуляць пілой-аднаручкай з раніцы да вечара.

Цесляром Івана зрабіла само жыццё.

Калі ён вярнуўся ў сорак пятым з-пад Берліна ў сваю вёску Зарадзвінне, то ўбачыў толькі сівы палын, што густа парос на папялішчы бацькавай хаты. Маці і бацьку расстралялі фашысты. Дзвюх сясцёр звезлі ў Германію — яны адтуль так і не вярнуліся.

Першы год пасля вайны ў вёсцы было мала мужчын, і Івана часта прасілі то зямлянку накрыць, то дзверы якія прыладзіць, то лаўку ці стол змудраваць на скорую руку. Так патроху ён і навучыўся цясля-

рыць. Праўда, у яго была яшчэ мара вучыцца — закончыць дзесяцігодку, а там паступіць у інстытут. Але збыцца мары так і не давялося.

Хлопец пакахаў Дуню. Дзяўчына была нейкая не такая, як усе. На вечарынкі не хадзіла, не вадзілася з сяброўкамі. Невядома, ці яе загадкавая замкнёнасць ці стройная высокая постаць кранулі сэрца Івана. Толькі ён усё часцей па вечарах заходзіў да Дуні, заседжваўся там усё даўжэй і даўжэй. Сябры насміхаліся, што ён заляцаецца да штундаўкі, але Іван адмоўчваўся і толькі думаў: «Няхай і штундаўка, але затое яна самая прыгожая». А праз год, калі Іван пабудаваў сваю хату, Дуня стала яго жонкай.

Першыя дні сышлі за шчасце. Івану, які некалі звыкся з адзінотай, прыемна цяпер было прыйсці дамоў пасля работы. Яго сустракаў клапатлівы і ласкавы чалавек — жонка.

Дуня падавала мужу вячэру і садзілася побач, любуючыся, як ён, прагаладаўшыся за дзень, есць хутка, па-мужчынску. І ўсё то падкладвала лішні кавалак мяса, то падсоўвала гладышок з малаком. Глядзеў Іван на жонку і, хто ведае, можа вунь як радаваўся, што яму так пашанцавала ў жыцці.

Неяк вечарам Дуня сядзела на печы, звесіўшы белыя ногі, і шыла сабе буркі з суконных іванавых галіфэ. А Іван грэў на чаране пяты — лячыўся ад кашлю.

— Паглядзі, Ванечка, якая наша хата пустая... Мора! — Яна на хвіліну адарвалася ад работы. — Купіць бы што з абстаноўкі.

— Прыйдзе час, купім. Вось станем добра на ногі... А цяпер былі б хлеб ды сала...

— Калі тое... А нам і цяпер не пашкодзіла б. Дзіця хутка будзе...

Звычайная жаночая гутарка вечарам пасля работы.

— Пацерпім...

— Людзі ж неяк купляюць і цяпер...

Іван насцярожыўся. Ён не чакаў, што жонка будзе настойваць, каб ён падаўся на адыходны рубель, які, як яна думала, і даўжэйшы і кожныя два тыдні яго табе пададуць.

— Ты чаго маўчыш? — спытала яна нарэшце.

— А што мне казаць?

— Сёння прыходзіў Мішка. Казаў, што толькі за два месяцы зарабіў дзесяць тысяч і два вазы жыта прывёз. Цяпер жа ўсе будуюцца. Ён і яшчэ збіраецца ісці...

— Ты хочаш, каб і я пайшоў з гэтым прайдзісветам?

— Будзеш працаваць і будзеш браць сваю долю. А што ён гэтакі, дык што табе да таго. Чалавек, як умее...

Іван здаўся перад жонкай.

Яму не было да спадобы бадзянне па вёсках, па чужых кутках, але цешыла тое, што ён усё ж зарабляў. Але калі ў чалавека многа грошай, ён сам сабе ўжо не гаспадар: ідзе за рублём. Выткні толькі...

Калі вечарам усе разыходзіліся і Іван аставаўся адзін, ён сумаваў, блукаў у чужой хаце з кутка ў куток, чытаў школьныя падручнікі, што траплялісе пад рукі, і думаў пра жонку...

Апоўначы вярталіся дадому хлопцы, рагаталі, пераказвалі прыгоды, будзілі Івана.

— Жыццё праспіш...

— Што? Вернасць сваёй жонцы беражэш?

— За вернасць і старога лапця не купіш...

Іван вярнуўся ў сваю вёску месяцаў праз шэсць. Была субота. Ён схадзіў у лазню, перад вячэрай выпіў, а назаўтра прачнуўся недзе каля дзесяці гадзін. Праз акно ў хату свяціла сонца. У маленькай



калысцы спала яго дачка Любка. Яе тварык, лобік — жончын, а вось нос, здаецца, яго.

Праз адчыненыя дзверы Іван бачыў, як перад люстэркам круціцца ў новай сукенцы яго жонка, гаворыць цераз плячо:

— Ванечка, ты не спіш? Уставай снедаць. Суп за засланкай, на патэльні яечня...

— А ты гэта куды?

— Ды тут збіраемся. Схаджу...

Пасля абеду жонка зноў пабегла маліцца. Іван намерыўся быў не пусціць яе, але не захацеў спрачацца. Сумна стала яму сядзець аднаму ў хаце, і ён неўзабаве выйшаў на вуліцу.

Вечарэла. З комінаў, што тырчэлі нібыта з зямлі (многа людзей тады яшчэ жыло ў зямлянках), валіў дым. Пахла смажаным здорам і цыбуляй. Там-сям на папялішчах чарнелі абгарэлыя шулякі і дрэвы — напамінкі аб вайне.

Супраць кожнага двара на вуліцы стаялі ўжо новыя зрубы. Ад іх пахла смалой і свежым дрэвам.

У канцы вёскі стаяла невялічкая кузня. Яна цудам не згарэла. Старшыня сельпо абсталяваў яе пад магазін.

Туды і падаўся Іван.

За прылаўкам стаяў незнаёмы чалавек. Ён адмерваў шклянкай гарэлку, што была ў вядры, і разліваў яе ў гліняныя кубкі. Некалькі мужчын сядзела на мяшках з соллю, чакала.

— Што, Іван, на чарку пацягнула? — спытаў у яго Жэнька Пуляй, калгасны конюх, высокі, з доўгім тварам і пукатымі вачыма.

— Ён з гора, — адказаў нехта з кампаніі, і ўсе зарагаталі.

— А гэта праўда, што твая Любка — выліты Фёдар Чубок?

— Правільна! Фёдар вайны не нюхаў, сілы не траціў, так што лепш за цябе, Іван, дагодзіць тваёй Аўдоцці.

— Ды што вы, хлопцы? — спрабаваў быў пажартаваць Іван, але яго не хацелі слухаць.

Дадому ён вяртаўся з Жэнькам Пуляём. Сцежка пад нагамі нібы правальвалася, кідалася ў бакі. Іван вышэй падымаў ногі, мацней іх ставіў на зямлю, а яны ўсё зноў кудысьці правальваліся.

А ў галаве стаяла адно:

«А гэта праўда, што твая Любка — выліты Фёдар Чубок?»

— Што гэта за Чубок? — выціскаў з сябе па адным слове Іван.

— Я яго і сам добра не ведаю, — мармытаў Пуляй. П'яны, ён не мог варочаць языком. — На чыгунцы недзе працуе. З'явіўся ў нашай вёсцы неўзабаве, як ты пайшоў шабашнічаць. Пранюхаў ён, што ў нас тут штунды водзяцца. Стаў іх збіраць на малебны. Ну і твая туды бегае з першага дня...

— А стары ён, гэты Чубок?

— Больш за сорак яму, а можа і менш...

— А наконт таго, што ў магазіне... Га? — Іван спыніўся і ўзяў за плячо Пуляя.

— Хто яго ведае. Усякае кажуць... — сказаў нарэшце той і змоўк.

... Іван ляжаў дома на канапе, заклаўшы рукі за галаву. Ад гарэлкі цяжка стукала ў скронях. Не спалася. Дуня дадому яшчэ не прыйшла, хоць гадзіннік паказваў палову дванаццатай... Няўжо так доўга моляцца?

Жонка прыйшла вясёлая, расхрыстаная, узбуджаная.

— Ты не спіш?

— Цябе чакаю... — Іван хацеў сказаць гэта цвёрда, груба, але не змог. Атрымалася ласкава, крыху з дакорам.

— А я так спяшалася... — Яна села ля яго, прыхінулася. Яе валасы пахлі марозам.
— Слухай, Дуня. Не хадзі ты туды. Смешна неяк. Пакінь ты гэта... Ён упрошваў.
— Не, Ваня, не магу. Калі мой бацька паміраў, сказаў мне: «Не забывай бога, не забывай нашай веры, маліся за мяне і за сябе». Гэта былі яго апошнія словы.
— Ну, маліся ўжо дома, калі так. Не хадзі ты толькі туды. Га?
— А чаму? Там дрэннаму не вучаць, — усміхнулася Аўдоцця пяшчотна і ласкава: ёй хацелася хутчэй закончыць гэтую размову.
— Мне ж хоць на вуліцу не выходзь — такое пра цябе гавораць... — Іван пачаў здалёку.
Дуня нібы і не пачула ягоных слоў, паднялася, пакруцілася перад люстэркам, глянула на мужа цераз плячо:
— Я ведаю. І не здзіўляюся. І гэта не навіна. Людзі заўсёды больш схільны да зла, чым да дабра. І не трэба ім верыць....
У Іванаву душу закралася падазронасць — ён не верыў жонцы. Ва ўсіх яе паводзінах бачыў няшчырасць, нейкую штучнасць, чаго раней не было.
Аўдоцця па-ранейшаму хадзіла ў малітоўны дом.
Шчаслівае жыццё ў сям'і скончылася. Сваркі, што ўспыхвалі з-за ўсялякіх дробязей, атручвалі яго, рабілі невыносным.
Аднойчы згубіўся ключ ад склепа. Іван замкнуў яго на ноч, кудысьці сунуў і забыўся. Вечарам захацелася жонцы расолу. Перарылі ўсё ў хаце, Іван з ліхтаром абтупаў увесь двор, — ключа нідзе не было.
— Ну што, не знайшоў?
— Не. І куды я яго толькі паклаў?
— А калі што помніла кантужаная твая галава?
— Здаецца ж, у кішэню клаў...
— Ды хто ў кішэню ключ кладзе? Мала цвікоў у сцяне, ці што? — аж лемантавала Дуня. — І калі ўжо бог пазбавіць мяне ад такога?
Для Івана гэта было ўжо занадта.
У той жа вечар ён сабраў у свой вайсковы мяшок інструмент, сунуў туды кавалак сала і, не развітаўшыся, выйшаў з дому.
... Некалькі год Іван швэндаў па вёсках. Бывала, наведваўся і дадому — сумаваў па дзецях. Часта думаў і пра Дуню, пра тое, як ён вернецца да сям'і і зноў яны стануць жыць добра, як спачатку.
Апошнія два гады Іван працаваў на будоўлі, на Волзе. Сабраў грошай і вырашыў назаўсёды вярнуцца дамоў — ён яшчэ верыў, што ў іх з Дуняй усё наладзіцца.
... Іван пастукаў у дзверы, калі ўжо сцямнела. Ніхто яму не адказаў. Ён асцярожна падняў клямку. Паставіў у парозе цяжкі чамадан і прайшоў у пярэдні пакой. Ужо з парога ён убачыў, што Любка нахілілася над калыскай, а яго сын Віцька качаецца на канапе.
— Любка, дачушка... — прашаптаў Іван.
— Тата! — забыўшыся на дзяцей, крыкнула дзяўчынка і кінулася бацьку на шыю.
У калысцы зачмокала малое.
— А гэта чыё?
— Цёця Каця ў нас на кватэры...
Любка ў новай сукенцы, радасная, сядзела на каленях у бацькі. Віцька ёрзаўся ў яго па спіне, смактаў цукерку.
— Ну, як вучышся? — пытаў Іван у дачкі.
— Добра.
— Пакажы свае кнігі.



Іван здзівіўся, убачыўшы «Біблію».
— Мамка б'е, калі не чытаю, — адказала на яго злоснае запытанне Любка.
Іван больш не стаў забаўляць дзяцей, прылёг адпачыць з дарогі. Жонка і застала яго аднаго на канапе.
— А-а, прыблуда! — толькі і буркнула яна.
— Я думаў, чакаеш...
— Глядзі ты... Чакаю... Як кот сабаку.
— Дуня! — Іван падышоў да жонкі.
— Ну, чаго вылупіўся? Думаеш, мне патрэбен? Што? Акамянеў, ці можа дзвярэй не бачыш?
— Гоніш? Мяне? З маёй хаты? Ад маіх дзяцей?
— А ты думаў, на шыю кінуся...— здзекліва засмяялася Дуня.
Іван не мог стрымаць сябе. Ён кінуўся на жонку, учапіўся ёй у валасы... Яна неяк вырвалася, схапіла патэльню, што трапіла ёй пад рукі... Іван паспеў нагнуцца, і патэльня праз акно вылецела на вуліцу.
— Людзечкі, ратуйце! — не сваім голасам закрычала Аўдоцця.
Першая ў хату ўбегла Каця, за ёю Андрэй. Калі ён убачыў, што Дуня і Іван валтузяцца на падлозе, то са страху кінуўся па бацьку. Хутка з'явіўся Фёдар Чубок з прапаведнікамі — сівабародым і тым, што з белай лысінай. Яны звязалі Івана, і пакуль пісаўся акт пад дыктоўку Чубка, прыйшлі ўчастковы і старшыня сельсавета.
У той вечар, кладучыся спаць, Каця знайшла пад падушкай запіску: «Пачула, што жывеш у Аўдоцці. Сёння ў хаце-чытальні лекцыя і танцы, хацела схадзіць з табой. Але цябе не было дома. Вера».

## V

Аляксей засядзеўся далёка за поўнач, чытаючы брашуру аб рабоце прапагандыстаў, але так і не знайшоў адказу на свае пытанні.
Спалася дрэнна. Аляксей кідаўся з боку на бок, трэба было адпачыць, забыцца на ўсё...
Але сон не ішоў.
Што трэба зрабіць, што сказаць людзям, каб яны пакінулі гэтую секту, глянулі на свет іншымі вачыма? Што сказаць той дзяўчыне?
Аляксей быў чалавек парывісты, гарачы. А калі загараўся, тады не шкадаваў ні сябе, ні часу, як кажуць, не піў і не еў, а імкнуўся дабіцца свайго...
І дабіваўся.
Пасля арміі Аляксей не мог прадаўжаць вучобу, бо бацькі яго былі даволі пажылыя, не працавалі і памагчы яму не маглі — іх саміх трэба было падтрымліваць. Ён стаў працаваць сакратаром ў тэхнікуме. Адначасова заканчваў дзесяты клас. Пасля паступіў ва ўніверсітэт, вучыўся, а вечарамі працаваў. Цяжка было, але свайго дабіўся...
Затым праца ў раённай газеце... Яе не хочацца ўспамінаць... Больш за ўсё Аляксей спрачаўся з рэдактарам... Той хацеў зрабіць з хлопца паслухмянага супрацоўніка, які б выконваў яго волю. А хлопец гнуў сваё. Быў самастойны, не мірыўся з недахопамі — і ў яго атрымліваліся часта вострыя крытычныя артыкулы. Рэдактар жа, бывае, кіраваўся і сяброўскімі інтарэсамі, выкрэсліваючы з артыкулаў маладога журналіста ўсё крытычнае — з адным не хацеў мо' псаваць добрых адносін, другому стараўся дагадзіць. І чытаючы свае матэрыялы

ў газеце, Аляксей не пазнаваў іх... Гэта былі шэрыя допісы пасрэднага рэпарцёра.

І тады Аляксей пайшоў у райком...

Так... Пісаць было лёгка. Пісаў і аб прапагандыстах, добрых і дрэнных. А вось, як даручылі табе справу...

Што ж рабіць, з чаго пачынаць?

Сон не браў. Аляксей падняўся, намацаў нагамі ля ложка чаравікі, накінуў на плечы паліто, выйшаў на двор.

З будкі насустрач яму вылез сабака, пазяхнуў, страсянуўся і палез назад — дасыпаць. Недзе ў хляве ўстрапянулася курыца, закудахтала,— і ўсё зноў сціхла...

Цішыня стаяла свежая, марозная. Яе пільнаваў месяц, што застыў, зачапіўшыся рогам за вершаліну бярозы. Такі ўсюды спакой, што нават зоркі і тыя, здаецца, перасталі мігаць. Стаміліся недзе яшчэ з вечара.

Аляксей пахадзіў па двары, потым, вярнуўшыся ў хату, залез у цёплую пасцель і хутка заснуў. На гэты раз моцна, непрабудна, аж да самага світання.

А раніцай стукнула яму ў галаву адна думка. Яна ўразіла яго сваёй прастатой.

Аляксей хуценька паснедаў у сталовай і, не заходзячы ў райком, пазваніў загадчыку аддзела прапаганды, што пойдзе на Зарадзвінне.

«Трэба пачынаць з галавы. Дык вось, калі самога Чубка звярнуць з ягонай дарогі — гэта і будзе, бадай што, канец секты. З гэтага трэба і пачынаць».

Фёдар Чубок жыў на новай вуліцы, што называлася Жабалаўкай. Жабалаўка адбудавалася пасля вайны. Яна выцягнулася паралельна вясковай вуліцы, па-над самой рэчкай. Ад рэчкі захавалася бадай што толькі назва. На самой справе гэта было доўгае балота, усё парослае асакой і жоўтымі гарлачыкамі. Калі што ў тым балотцы і вадзілася, дык гэта жабы. Яны кожную вясну наладжвалі такія канцэрты, што заснуць нельга было. Можа і вуліцу ад таго назвалі Жабалаўкай.

На гэтай вуліцы ўсе хаты былі новыя. І сярод іх выдзялялася хата Чубка. Шыферны дах, на вокнах зялёныя аканіцы з узорамі. Сад ля хаты быў абнесен частаколам з шалёвак так густа, што нельга было і ўглядзець, што ж там на двары.

Аляксей зайшоў да Чубка з агародаў.

Фёдар быў у садзе, габляваў нейкія дошчачкі. Ля хлява стаялі рэйкі для аконных рам.

Чубок ад стараннасці ўспацеў, скінуў з плеч фуфайку. На спіне ў яго выступалі цёмныя, мокрыя плямы.

— Добры дзень, Фёдар Кірылавіч! — прывітаўся Аляксей.

Прасвітар ад нечаканасці аж здрыгануўся, хутка азірнуўся, агледзеў няпрошанага госця з ног да галавы і спакойна сказаў:

— Калі ласка, міл чалавек! Чым магу служыць вам? — ён рыхтаваў наступную дошчачку і нібы хацеў падкрэсліць, што ў яго асабліва няма часу на размовы.

— Я да вас прыйшоў вось... Хацеў бы пагутарыць, шчыра пагутарыць.— Аляксей сеў на дошкі.

— У мяне няма часу, — Чубок прыняўся габляваць.

— Ды адпачніце, Фёдар Кірылавіч. Нельга ж так няўважліва ставіцца да чалавека. Я буду шчыры. Ведаеце, я да вас прыйшоў, ну, можа, як да спецыяліста. Вось я не веру ў бога, а вы, я чуў, верыце.



Я не ўяўляю, як гэта можна ў наш час?.. І што гэта такое, ну, вера ў бога?..

— Гаворыце вы, сынок, пустое, — Фёдар пранікліва глянуў на Аляксея.— Смяяцца лягчэй за ўсё, калі нічога не ведаеш і ні ў што не верыш... А бог — гэта святое, і не нам смяротным яго знеслаўляць... Мы часовыя госці на гэтай зямлі, а святое вечнае і ўсемагутнае. І наш слабы розум не можа гэтага разабраць...

— А адкуль вы ўзялі, што не можа? — перапыніў Аляксей прасвітара.— Гэта ж недасягальна для нашага розуму, як вы самі гаворыце. Як жа бяссільны розум даведаўся, што бог вечны і бессмяротны?

Прасвітар хітра ўсміхнуўся.

— Практыка — крыніца ведаў. Мільёны гадоў існуе зямля, неба, усё. Людзі нараджаюцца і паміраюць, а ўсявышні наш жыве. І аб гэтым ён сказаў людзям, паслаўшы на зямлю Ісуса Хрыста, сына свайго...

Аляксей раззлаваўся на такое нахабства.

— Хлусня ўсё гэта. Практыка вучыць людзей зусім іншаму. Рэлігія сцвярджала, што ў цэнтры зямля, а неба — купал крыштальны, а навука даказала іншае. Рэлігія сцвярджала, што жывое толькі на зямлі, а, аказваецца, расліны ёсць і на Марсе. Рэлігія хлусіла, што цар пасаджаны богам. А практыка што паказала? Зразумеў чалавек, што яго ашукваюць, разагнуў плечы і скінуў цара, нягледзячы на тое, што ваш былы кіраўнік Проханаў у семнаццатым годзе ледзь лоб не разбіў, усё прасіў бога падавіць рэвалюцыю. Як вам падабаецца такая практыка, Фёдар Кірылавіч?

Аляксей спадзяваўся, што ён знішчыў прасвітара і той не знойдзе, што адказаць. Але той усміхаўся так, як усміхаецца дарослы чалавек, калі яго спрабуе ашукаць наіўнае дзіця.

— Нічога супраць не скажу,— прасвітар прысеў побач з Аляксеем і пачаў яму гаварыць так, нібыта блізкаму сябру адкрываў душу.— А ведаеш, усё ж гэта было прадугледжана богам. І войны, і тое, што ўладу ў цара возьмуць, і тое, што з'яўяцца прарокі, якія будуць гаварыць супраць бога. Але наш настаўнік завяшчаў нам не верыць ім.

Аляксей капаўся ў сваёй памяці, шукаючы такое, чым можна было б прыціснуць гэтага святога да сцяны, але ўсё здавалася нязначным, нікчэмным. А прасвітар усё разважаў. Нудна і спакойна, як чалавек, што не дапускае сумненняў у тым, пра што гаворыць.

— А вы, малады чалавек, калі-небудзь чыталі «Паходжанне відаў» Дарвіна? Ага, чыталі. Ну і што скажаце?

— Што ўсё жывое развіваецца па аб'ектыўных законах, згодна з умовамі.

— Бачу, што ваша нявер'е ў бога і не дало вам зразумець кнігу. А кніга сведчыць аб усемагутнасці бога, аб тым, што ён усё прадугледзеў.

— Слухайце, Фёдар Кірылавіч, можа бог прадугледзеў і самалёты, і спадарожнікі, і лічыльныя машыны?

— Вядома, усё гэта стварыў чалавек. Але толькі таму, што чалавекам кіруе бог.

— Дзе ж ён, гэты бог? Вы яго бачылі? — аж раззлаваўся Аляксей.

— І не трэба. Ён у нашых сэрцах. Гэта любоў да бліжняга. Але не ўсякі смяротны можа адчуць гэта. Толькі той, хто сваёй пакорлівасцю і малітвамі заслужыць гэта...

— А вы самі адчуваеце бога? А тыя, што ходзяць маліцца?
— Навошта нам попусту траціць час. Прыйдзіце калі ў малітоўны дом, пасядзіце, паслухайце... Мы не цягнем да сябе людзей. Самі ідуць.— Прасвітар падняўся, узяў рубанак і пачаў габляваць дошчачку.— І наогул, малады чалавек, дарэмна вы ўзяліся агітаваць мяне. Гэта вам не па сіле.

Аляксею было брыдка, быццам ён наступіў босай нагой на халодную, слізкую жабу. Было сорамна ад таго, што так і не здолеў пагаварыць з прасвітарам, як думаў, што не змог даказаць сваё. Чубок, аказваецца, такі, што...
Памятаецца, яшчэ на першым курсе ўніверсітэта на вечары, які быў прысвечаны пачатку навучальнага года, яму прыглянулася адна дзяўчына. Ён хадзіў, хадзіў і не ведаў, як падысці да яе і загаварыць. Нарэшце ён рашыўся запрасіць яе танцаваць. Дзяўчына ступіла з ім тры крокі, ды і пакінула сярод круга, сказаўшы ўголас: «Не ўмееш, дык не выстаўляйся»... Ледзь не згарэў ён тады ад сораму... Тады таксама было брыдка на душы, як і цяпер.
«Ну, добра, Фёдар Кірылавіч, я яшчэ прыйду да цябе... На ўсё жыццё запамятаеш той дзень».
У сельсавеце было шмат людзей. Усе таўкліся ў калідоры.
— У Міхаіла Сцяпанавіча чалавек з вобласці... Не прыймае цяпер,— пачуў Аляксей, праходзячы да дзвярэй кабінета.
Карэба сядзеў за сталом, заваленым газетамі і тоўстымі папкамі-справамі. Насупраць яго стаяў невысокі лысы чалавек. У руках ён трымаў цёмна-сіні фетравы капялюш.
— Вось і прапагандыст наш. Ён таксама са штундамі ваюе.— Міхаіл Сцяпанавіч пазнаёміў Аляксея з тым невысокім чалавекам. Гэта быў супрацоўнік абласной газеты.
— Быў у Чубка,— паведаміў Аляксей.— Гаварыў. Вельмі хітры чалавек... Але ў мяне ёсць прэтэнзія да вас, Міхаіл Сцяпанавіч, як да старшыні сельсавета. Ведаеце, што гэты штунда робіць рамы? Іх многа там. Відаць, прадае. Чаму аб гэтым не ведае райфо?
— Так, мы гэта праглядзелі, не ўлічылі,— усміхнуўсяаднымі вуснамі старшыня.
— Тут іншае. Дзе ён бярэ матэрыял, ведаеце? — спытаў Аляксей.— Крадзе?
— А гэта факт. Тут трэба пакапацца,— карэспандэнт пачаў хуценька запісваць у блакнот усё, што пачуў цяпер пра Чубка.

## VI

Вера заспала. Яна падхапілася, калі ўжо была шостая гадзіна, хуценька апранулася, дастала з паліцы кавалак хлеба з салам і, накінуўшы кажушок, выбегла з хаты.
На вуліцы здалося цёмна, хоць выкалі вочы. Але гэта толькі спачатку. Калі Вера прывыкла да цемнаты, то ўбачыла і частакол, і хлеў, і дрэвы, і пасівелую ад інею зямлю.
Яна падалася на агеньчык, што слепа мігцеў удалечыні. Спатыкалася на вострых мерзлых грудах...
Дзьмуў сустрэчны вецер. Халодны, калючы. Пахла снегам. Вера падняла каўнер кажушка, захутала твар і дыхала ў цёплую, казытлівую аўчыну.



У вачах стаяў учарашні вечар і гэты з райкома, Аляксей. Ён не спадабаўся ёй. Вельмі ўжо сур'ёзны і маўклівы. Відаць, апроч таго, што прачытаць з паперкі, на большае і не здатны. Начытаўся кніжак і думае, што разумны. Інакш не маўчаў бы. Ужо свае вясковыя хлопцы хаця часта і няголеныя ходзяць, і лаюцца, і ля дзяўчат волю рукам даюць, а ўсё ж весялейшыя. А ўжо калі пажартуюць, дык хоць насмяешся. Жывыя людзі. А ён занадта ўжо разважлівы.
І ўсё ж ад таго, што яе праводзіў Аляксей, было прыемна на душы. Не хто-небудзь! А як зыркалі на яго ўчора дзяўчаты...
Але, бадай, дарэмна яна ўчора пайшла з ім. Цяпер уся вёска будзе гаварыць пра гэта....
Ну і няхай...
З дзвярэй кароўніка дыхнула цёплым, густым паветрам. Жоўтымі плямамі блішчэлі ліхтары, звонка дзынкала ў вёдры малако.
— Доўга цябе пратрымаў той учора... — пачуўся з цемры нейчы звонкі голас.
Дзяўчаты засмяяліся.
Вера шмыгнула да сваіх кароў. Не хацелася ёй адказваць на кпіны, каб не ўцягнуцца ў пустую балбатню.
Калі яна даіла кароў, седзячы на маленькім услончыку, да яе падышла даярка — суседка: яны жылі побач — і сказала:
— Ведаеш, Верачка, тая дзяўчынка, што ўсё бегала да цябе з Прудоўкі, калі ты яшчэ вучылася, учора была ў штундаў.
— Не можа быць! — прыўзнялася Вера.
— Не, можа... Гэтыя штунды такія праціўныя... Аўдоцця яе і зацягнула да сябе на кватэру, каб прымусіць маліцца.
Вера змоўкла: ні пра што не хацелася гаварыць. Яна ўсё думала пра Кацю... У тым, што здарылася, яна лічыла вінаватай толькі сябе. Так, відаць, і ўсе падумаюць аб ёй.
Як жа яна, Вера, дапусціла такое? Шэсць гадоў хадзілі ў адну школу, шэсць гадоў сядзелі за адной партай, і ўрокі разам рабілі. Кожны дзень Каця прыбягала да Веры на Зарадзвінне, начавала нават заставалася. Не соладка ёй было ў мачахі. А колькі першых дзявочых мар, сакрэтаў даверылі адна другой! Колькі яны перагаварылі пра дружбу, пра тое, што праз усё жыццё пранясуць гэтае пачуццё...
Але, аказваецца, то былі толькі словы. Усё сталася зусім інакш, дарогі ў сяброўак разышліся.
Вера лічыла сябе вінаватай. Каці было цяжка, у яе малое, а Вера і не наведала яе ні разу. Вось толькі ўчора забегла, і то дома не заспела.
Гадзін у адзінаццаць даяркі сабраліся ў чырвоным кутку. Тут стаяла новая яшчэ канапа, кніжная шафа. На сталах былі раскіданы газеты, часопісы. Газет цэлая кіпа: іх не падшывалі. Цяжка іншы раз было знайсці свежы нумар.
Дзяўчаты пераапраналіся, прычэсваліся. Пілі чай, жартавалі. Не сціхаў смех.
Вера ўткнулася ў газету, млява жавала хлеб, была сёння, як ніколі, сцішанай, сумнай.
— Не журыся, Вера. Глядзі, здаецца, твой дыбае!..— крыкнулі ёй з двара.
Праз дзверы Вера ўбачыла, як шырокімі крокамі мераў дарогу высокі чалавек у рыжым паліто. Ішоў, задуменна апусціўшы галаву, нібы што шукаў пад нагамі.
Жывёлагадоўчая ферма размяшчалася ў лесе, што цягнуўся



ад Зарадзвіння нямаведама куды. Вакол кароўнікаў шумелі зялёныя хвоі круглы год. На двары ніколі не было гразка — пад нагамі пясок; жывёле ў час прагулак зацішна: лес прыймаў вятры на сябе.

Аляксей не раз бываў на ферме, калі яшчэ працаваў у газеце. Але раней ён наязджаў сюды толькі зрэдку, цікавіўся надоямі, рацыёнамі, толькі не жыццём даярак... Цяпер жа хацелася бліжэй прыглядзецца да іх жыцця, да іх інтарэсаў, пацікавіцца, пра што яны гавораць, думаюць, што робяць у вольную часіну.

Адна справа прыехаць, спытаць, колькі даярка надаіла малака, а зусім іншая — пагаварыць з людзьмі, каб яны адкрылі перад табою душу, сэрца.

Аляксей зайшоў у чырвоны куток, прывітаўся. Пры гэтым ён не мог не заўважыць, як даяркі кідалі цікаўныя позіркі на Веру. А тая сядзела і не паднімала вачэй ад газет. Аляксею яна здалася сёння яшчэ больш прыгожай. Старая хустка і паношаны кажушок надзвычай пасавалі да яе смуглага твару і маладзілі яго.

Аляксея запрасілі сесці. Ён сеў на канапу і спытаў:

— Ну, як жывём?

— Нічога... Толькі так напрацаваліся, што і падняцца не здужаем... Падняў бы...— падала голас мажная жанчына, што сядзела на табурэтцы.

Усе засмяяліся.

Гаварылі доўга. Пра работу, пра палітыку, пра падзеі ў Конга, пра спадарожнікі. Жанчыны чулі пра ўсё па радыё, з газет, толькі не ўсё, бывае, разумелі. З палітыкі перакінуліся на рэлігію, на штундаў. І тут ён пачуў, што Верына сяброўка ходзіць у малітоўны дом.

— Як гэта? Яна ж камсамолка, дзесяць класаў скончыла, — здзівіўся ён.

— І ўявіць сабе не магу,— паціснула плячыма Вера.

— Можа гэта толькі нагаворы? — усё не мог паверыць Аляксей.

— Можа і нагаворы,— падхапіла Вера.— Але ж учора ўвечары я заходзіла да яе... Не застала дома.

— Трэба даведацца... Як гэта так? — Аляксей падняўся з канапы.

— Абавязкова,— адказала Вера.

Даяркам пара было ісці ў кароўнік, і Аляксей пайшоў разам з імі, каб пагутарыць яшчэ з Верай.

— Дык я заўтра, Вера, прыйду да вас,— сказаў ён на развітанне. — А вы даведайцеся, што там такое з Кацяй...





— Добра. Толькі вы не прыходзьце да нас. Я заўтра буду ў бібліятэцы і адтуль пазваню вам у райком...

— Абавязкова. Я і сам бы зайшоў да Каці, але вам лепш, зручней.

## VII

Каця першы раз адчула, што жыць — гэта радасць, вялікае шчасце... Яе не гнялі цяжкія думкі, нішто не хвалявала. Усё ясна, як і гэты ціхі вечар маладой зімы.

З работы дадому яна не спяшалася. Ленка недзе дагледжана. Ды і прыемна было вось так ісці і марыць.

Хаты сустрэлі яе ласкавымі агеньчыкамі. Свяціліся вокны і ў хаце Аўдоцці Сямёнаўны.

Яшчэ ў сенцах Каця пачула прыемны пах антонавак.

Ля парога ў хаце стаяла аж шэсць скрынак з яблыкамі. Гаспадыня пакавала апошнюю. На падлозе валяліся стружкі, дошчачкі, лучына. Аўдоцця ўкладвала яблыкі роўнымі радкамі, перасцілала іх стружкамі. Старалася. Некалі ёй было нават падабраць валасы, што лезлі ў вочы. Віцька сядзеў ля маці на падлозе і цікаваў за кожным яблыкам.

— Вось і добра, што прыйшла,— сустрэла Кацю Аўдоцця Сямёнаўна, спяшаючыся забіць скрынку цвікамі.— Вось упакуюся і раскажу, што да чаго. Збіраюся паехаць у Ленінград, дык табе прыйдзецца некалькі дзён у мяне пагаспадарыць.

— Мама, дай адзін яблык,— прасіла Люба здалёку, аж з другога пакоя.

— Жывот балець будзе. Вунь урокі вучы.

Каця паглядзела на хударлявую дзяўчынку, на яе тонкія рукі, што былі аж сінія, і ёй стала шкада яе. Захацелася ўзяць з рук у Аўдоцці яблык і падаць яго дзяўчынцы.

Каця толькі ўздыхнула і прайшла ў свой пакойчык.

Ленка ляжала ў калысцы і лавіла беленькімі пухленькімі ручкамі жоўты шар, што матляўся на нітцы над ёю. Каця ўзяла Ленку на рукі, пакарміла.

З галавы ў яе не выходзіла Люба.

Успомнілася, як сёння ўранні прыйшоў Іван, муж Аўдоцці. Ён правёў ноч у аддзяленні міліцыі. Быў злосны, маўклівы. Аўдоцця

не захацела з ім нават перакінуцца словам, схапіла даёнку і выскачыла з хаты. А той дастаў чамадан, сабраў свае рэчы, укінуў у мяшок інструмент, пацалаваў дзяцей.

— Ну, бывайце...

Люба якраз снедала, спяшалася ў школу. Нагнулася ніжэй над сталом, усхліпнула.

— Не трэба, дачушка,— голас яго ўздрыгнуў.— Я яшчэ прыйду. Хутка. Старайся вучыцца...

«Загадкавае жыццё ў гэтай Аўдоцці. Што ў яе з мужам? І чаму яна так не любіць Любу?..»

— Да цябе можна? — у пакойчык уляцела Вера.— Як добра, што ты дома, Кацечка.

Сяброўкі абняліся, пацалаваліся.

— Ну, як ты? — спытала ўсхваляваная Каця.

— Ды нічога. А ты?

— Ды таксама добра.

Некаторы час сядзелі моўчкі, глядзелі адна на другую.

— Доўга мы не бачыліся. А ты пасталела,— заўважыла Вера.

— А ты яшчэ папрыгажэла. Загарэла. Ну, як там на ферме? Я пра цябе ў газеце чытала...

— Як на ферме? — Вера ўсміхнулася.— Калі сказаць праўду, дык цяжка. Пасля школы, калі мы вырашылі пайсці на ферму, дык уяўлялі, што там адны гераічныя ўчынкі будзем рабіць. А на самой справе... Як нацягаешся за дзень, ажно рукі баляць. Ідзеш іншы раз дадому, глядзіш на тых, што гуляюць сабе, весяляцца, ні аб чым не думаюць, дык, здаецца, кінуў бы ўсё. Што, нам больш за іншых трэба? А падумаеш, дык не, не так. Я вось магу працаваць, пераносіць цяжкасці. А яны не. І, кажу табе шчыра, ад гэтага неяк радасна. А потым жа, хто тады для нас той заўтрашні дзень набліжаць будзе, як не мы? Адным словам, я зрабіла вывад, што ў жыцці нялёгка. І ўся радасць жыцця, усё шчасце ў тым, калі ўсе цяжкасці перамагаць. А як ты думаеш?

— Ты разважаеш як трэба...— Каця задумалася.

— Я вось учора была на лекцыі,— зноў пачала Вера.— Расказвалі аб рэлігіі. Проста дзіву даешся, што ў нас ёсць людзі, якія вераць у бога, моляцца.

Каця насцярожылася. Відаць, Вера не дарэмна пачала такую гаворку. Мо' ўжо ведае, што яна хадзіла ў малітоўны дом?

— Слухай, Вера... Скажы шчыра. Ты прыйшла проста так ці спецыяльна, каб я не хадзіла да штундаў?

Вера спачатку сумелася, а потым, гледзячы ў вочы сяброўцы, сказала:

— Я ўчора прыходзіла да цябе. Прыходзіла проста так... А сёння... Сёння прыйшла спецыяльна. Я не дала веры ўсяму, думала, што плёткі. Аж не. Слухай, няўжо ў бога паверыла? Ты ж камсамолка.

— Калі ты шчыра, дык і я шчыра. Не ведаю нічога пра бога, але штунды — гэта сапраўдныя людзі... Не крыўдзяць адзін другога, дружныя. Якія дружныя яны, Верачка... І дрэннаму яны не вучаць. Не п'юць, не лаюцца, сумленныя. Сярод іх сябе адчуваеш неяк лепш. А іншы раз задумаешся: бог не бог, а нешта ж кіруе ўсімі людзьмі. Лёс, гавораць...

— А я лічу,— сказала Вера і запнулася. Яна ніколі не думала пра лёс. Для яе ўсё было ясна ў жыцці. Скончыла дзесяцігодку. Парашылі камсамольцы-выпускнікі пайсці на ферму — пайшла і яна. І працуе. — А я лічу... Чалавек сам сабе гаспадар, а ніякі там не лёс.



Вось захачу паступіць у акадэмію і паступлю. Пабачыш, стану заатэхнікам...

У Веры загарэліся чорныя вочы. У яе было столькі рашучасці, што Каця аж залюбавалася сяброўкай. Пасля з сумам сказала:

— Ты ўсё можаш, Верачка.

Доўга гутарылі яны.

Калі Вера пайшла, да Каці ў пакойчык ускочыла гаспадыня.

— Я калі зачыняла за гэтай, дык бачыла, ён там чакае цябе. Ідзі.

— Хто?

— Ну, ідзі. Я пакалышу. Шкадаваць не будзеш. Ну, чаго глядзіш? Андрэй там...

І пакуль дзяўчына апраналася, Аўдоцця гаварыла:

— А чаго Карэбішка прыбягала?.. Ведаю я іх... Калі табе было цяжка, дык не бегалі. А цяпер... Я табе, як дачцы, скажу, не вадзіся ты з ёю. Не паспееш агледзецца, як зноў у грэх увядзе. Яна ж зблыталася з нейкім з раёна. Вушы вянуць, як паслухаеш, што пра іх гавораць.

## VIII

Андрэй Чубок рана прыйшоў з работы. Вясёлы, узнёслы, ён не адчуваў ніякай стомленасці, хоць і намахаўся молатам. Андрэй працаваў у калгаснай кузні. У целе адна лёгкасць, а на сэрцы нейкая дзіўная нязведаная яшчэ радасць.

Дома ён туляўся па двары, па агародзе і не ведаў, за што б такое ўзяцца, каб знайсці нейкі душэўны спакой. Ён і дровы калоў, і ў садзе абкідваў гноем маладыя яблынькі, і спяваў...

Уголас бадай што Андрэй нідзе не спяваў, акрамя малітоўнага дома. Ды раней і не адчувалася патрэбы ў гэтым. Цяпер жа...

Ён вярнуўся ў хату. За сталом на покуце гусцеў змрок. За вокнамі сінеў вечар.

Ля печы поркалася маці.

Андрэй дастаў з шафы аблезлую балалайку, прымасціўся на прыпечку і стаў іграць тое, што было на душы. Музыка была вясёлая, радасная. Балалайка сваімі скупымі гукамі расказвала аб чалавечым шчасці, светлым, непаўторным.

Маці перастала мыць гаршкі, паднялася, здзіўлена паглядзела на сына. Але той нічога не заўважыў...

«Эх, каб усё гэта змагла пачуць Каця. Яна многа б зразумела...»

Андрэй любіў музыку і марыў вучыцца іграць на баяне. Не раз прасіў бацьку купіць інструмент.

— Не час, — адказваў той. — Трэба мець галаву і ведаць, чаму не час цяпер музыкай займацца...

Бацька нешта утойваў, але нельга было не слухацца яго.

За акном на двары раптам мільгнуў цень, пасля загрукала ў сенцах.

— Ой, сынок, бацька мусіць не ў настроі,— уздыхнула маці.

Не паспеў Андрэй схаваць сваю балалайку, як увайшоў Фёдар. Ён моўчкі распрануўся, памыў рукі, доўга выціраў іх, пра нешта цяжка думаючы. Сеў за стол, буркнуў: «Есці». У такія хвіліны лепш было нічога ў яго не пытаць. Супакоіцца, сам раскажа.

— З газеты да нас ніхто не заходзіў? — спытаўся ён у Андрэя.

— А што? Можа на рабоце што якое здарылася? — занепакоілася жонка.

— Не твая справа. Лепш бы смачней варыла.— Ён раз, другі сербануў і пайшоў у пярэдні пакой.

Сцямнелася. Андрэй не ведаў, куды дзецца. Сядзець дома ці сталярыць, як звычайна ён рабіў вечарамі, не хацелася. Кудысьці цягнула,— і так моцна, што заставацца дома проста было немагчыма.

«А калі ўзяць ды пайсці да яе. Калі ўжо не пагаварыць, дык хаця праз акно паглядзець».

Андрэй доўга не вагаўся. Ад прыроды ён быў хлопцам сарамлівым, рахманым, але цяпер яго як падмянілі. Калі б яшчэ ўчора сказалі яму, што ён здольны на такое, сам не паверыў бы.

На вуліцы ён баяўся з кім-небудзь сустрэцца. Здавалася, што ўсякі, хто толькі ўбачыць яго, здагадаецца пра ўсё...

Неяк здарылася так, што Андрэй да дваццаці гадоў не сябраваў ні з адной дзяўчынай, ды наогул жыў бабылём, цураўся таварышаў. Яшчэ ў шостым ці ў пятым класе вучні даведаліся, што ён з бацькам ходзіць у малітоўны дом, і пачалі насміхацца. Ён паскардзіўся бацьку, але той сказаў не звяртаць увагі ні на кога, бо малітоўны дом яму не пашкодзіць. Але дзе там было «не звяртаць увагі», калі на яго заўсёды паказвалі пальцамі аднакласнікі, потым пачаў выклікаць дырэктар. Настаўнікі нават дамоў прыходзілі да бацькі. Аб чым яны гутарылі, Андрэй не ведаў, але ўсё роўна нічога не змянілася: ён паранейшаму кожную нядзелю спяваў гімны...

Андрэй ледзь скончыў сем класаў. У пасведчанні толькі па дысцыпліне пяцёрка, а так адны тройкі. Пачаў быў хадзіць у восьмы клас, але вучыцца яму не хацелася, ніяк не мог ён вышкрабацца з двоек, і мусіў кінуць школу. Пайшоў у калгас, дзе хутка ўладкаваўся ў кузню, стаў вучыцца на каваля. Тут яго ўжо ніхто не дапякаў. Праўда, было сумна. Прыходзіла ў галаву і такая думка, каб пакінуць гэты малітоўны дом ды сысці куды. Але Андрэй баяўся бацькі і слухаў яго.

Хлопец стаў задумлівы, да ўсяго раўнадушны, і толькі іншы раз пачутая па радыё мелодыя варушыла нешта жывое ў ягонай душы.

І раптам Каця... Яна з'явілася нібы з другога свету, невядомага і прыгожага. Як цягне матылька на святло, так пацягнула хлопца да дзяўчыны. Каця для Андрэя была ўсім, чаго ён не меў у жыцці — і радасцю, і шчасцем, і марай, і прыгажосцю. Нічога такога ён ніколі не бачыў сярод тых людзей, што акружалі яго.

У хаце ў Аўдоцці свяціліся ўсе вокны. Адно з іх — Кацінa. Ад яго ў гародчык на куст бэзу і на штакет падае пучок святла. На акне фіранка... Затое відаць цень... Вось галава. Каціна, здаецца... Нахілілася. А вось побач другая... Аўдоцця? Не. Нехта другі... Чужы.

Андрэй адышоў ад святла ў цемень і стаў чакаць. А можа яна выйдзе? Хоць па ваду... І сапраўды, у сенцах нешта бразнула, застукала. Выбегла незнаёмая дзяўчына, з веснічак вытыркнулася галава Аўдоцці...

— Вам і не страшна будзе, во, кавалер чакае...

— Гэта не мой, — засмяялася дзяўчына і пабегла.

— Я да вас, Аўдоцця Сямёнаўна... — бліжэй да яе падышоў Андрэй.

— А... І не падумала. Што здарылася?

— Няхай Каця выйдзе, га?

Аўдоцця памаўчала.

— А бацька твой пра гэта ведае?

— Не. І вы, прашу, не гаварыце яму пакуль...

— Не бойся яго. Ты добрую справу робіш.





Каця здзівілася, убачыўшы Андрэя.

— У хату б зайшоў. А то холадна, — яна тулілася ў паліто.

— Прыйшоў да вас. Хацеў не ісці, але не змог... — шчыра прызнаўся Андрэй. — Давайце трохі пойдзем паходзім. Цяпер так ціха і няма нікога нідзе. Га?

— Не, Андрэй, я пайду дамоў. — Каця нават і не падазравала, што творыцца ў хлопца на сэрцы. А яго такая адкрытая шчырасць толькі выклікала падазрэнне. — Гавары, чаго прыйшоў, а то пайду...

— Ды... — Андрэй замяўся. — Проста так вось прыйшоў да вас. Ну, давайце хоць тут на лавачцы пасядзім.

Селі.

— Ну вось... — Андрэй хацеў нешта сказаць, але раптам змоўк.

Маўчалі доўга. Андрэю стала так хораша, што ён мог бы сядзець тут усю ноч. Сядзець, не варушыцца, каб нават локцем не дакрануцца да яе.

Каці было сумна і холадна. Сядзець і маўчаць — якая цікавасць! Аж смешна, — паклікаў, пасадзіў, а сам, як тое цяля. Такі стаў рахманы. Ад чаго гэта язык у яго адняло?

— Ну, што ў вас новенькае? — нарэшце спытаўся ён.

Каця хацела засмяяцца, але пабаялася яго пакрыўдзіць.

— Ды нічога... Мая гаспадыня вось у Ленінград едзе... За ўсім домам мне самой глядзець прыйдзецца. Не ведаю, як і спраўлюся. Тут і сваё малое...

— А мяне гэта не датычыць... — нейкім дрыжачым голасам загаварыў Андрэй. — Ведаю, што ў вас і малое. Але ўсё роўна. Мяне гэта не датычыць. Галоўнае — вы. Разумееце? Вось... — хлопец зусім зблытаўся і стаў ужо гаварыць пра другое: — А калі што па гаспадарцы, дык я прыходзіць буду памагаць. Га? Можна будзе? Я ўсё ўмею...

— Прыходзь, — абыякава адказала Каця, — калі рабіць няма чаго.

— Дзякую...

Зноў змоўклі.

Зашамацеў недзе на таполі апошні ліст. Пад вароты шмыгнуў кот. Недзе на другім баку вуліцы ля калодзежа забразгалі вёдры. Ля частакола на веласіпедзе праехаў калгасны брыгадзір — у некага мо заседзеўся.

Ранняя асенняя ноч...

— Андрэй, ты даўно ходзіш у малітоўны дом?

— Даўно.

— І табе падабаецца?

— Я пра гэта не думаў.

— У вас усе такія добрыя...

— Усякія ёсць. І добрыя, і дрэнныя. Але ўсе хочуць быць добрымі. Моляцца.

— А ты верыш у бога?

— Веру ў тое, чаму вучаць. А ты?

— У вас, відаць, дрэннаму не вучаць... Ну, Андрэй, я пайду...

— Не, Каця, пасядзім яшчэ крышачку... Га?

Яна застаецца. У цемнаце бачыць толькі вочы, што глядзяць на яе. Яны зноў доўга маўчаць. За спіну лезе холад, стынуць ногі...

— Ну, даволі гібець. Я пайшла,— яна паднялася. Падняўся і Андрэй.— Бывай.

Ён затрымаў яе руку, халодную і тонкую, у сваёй цёплай, вялікай руцэ.

— Каця, давай сябраваць. Га? Я сур'ёзна.



Яна засмяялася. Ёй калісьці яшчэ ў шостым класе такое гаварыў аднакласнік. Няўжо і Андрэй яшчэ такі наіўны? Не, ён, відаць, проста шчыры.

— Будзем, будзем...— зноў засмяялася яна і знікла на двары.

Стукнулі весніцы.

— Я заўтра прыйду,— крычыць ёй услед Андрэй.

Ён яшчэ доўга не ідзе дадому. Стаіць ля гародчыка, глядзіць у акно. Нарэшце ў хаце тухне святло.

Шчаслівы, Андрэй ідзе па вуліцы. Ён не ведае добра ні адной песні, ведае толькі штундаўскія гімны. Але спявае, спявае сваё:

«Родненькая, мая дарагая,
Да-ра-гая...»

За вёскай, недзе над самым гарадком, заружавела неба. Неўзабаве там узышоў круглы чырвоны месяц, і як бы хто падрумяніў ноч... Заблішчэлі шыферныя дахі, правады ад радыё, здавалася, засвяцілася само паветра.

Як прыгожа, як шкада, што няма побач Каці. Але ён усё ёй заўтра раскажа.

## IX

Аляксей заўсёды, кладучыся спаць, ведаў, чым пачне свой заўтрашні дзень.

Але сёння было інакш. І толькі таму, што не было ясна, што ж рабіць з Кацяй... Калі ўсё пачутае праўда, то гэта ліха ведае што... Не, усё ж дарэмна ён даручыў праверыць чуткі Веры. Мог бы пайсці і сам пра ўсё распытаць.

Аляксей сядзеў за маленькім столікам у сваім халасцяцкім пакойчыку, запусціўшы пяцярню ў кудлатую чупрыну. Акно было закрыта газетай. Ля сцяны стаяў нефарбаваны салдацкі ложак. На ім ляжала вялізная падушка. Яе прывезла маці. Этажэрка ўся была напакавана кнігамі.

Ён, выходзіць, не дарос яшчэ да сапраўднага партыйнага работніка... Адразу не змог ацаніць усяго, што здарылася. За цэлы вечар штунды могуць нарабіць такога, а ён... У свеце ідзе барацьба. Мінулае не хоча знікаць само. З ім трэба змагацца...

Відаць, яшчэ шмат трэба вучыцца, каб па-партыйнаму ставіцца да жыцця. Сабраць бы ўсіх работнікаў райкома ды наладзіць дыскусію на такую тэму. А то іншых вучым, указваем ім, а самі аб сваім майстэрстве не дбаем. А працаваць з людзьмі гэта ж майстэрства. Ды яшчэ і якое...

На другі дзень Аляксей падняўся рана. За вокнамі аднатонна шумеў дождж. Ветрам хвастала па шыбах; скрыпелі вароты. Недзе натужна гула машына.

«Восень вярнулася...»

Праз вецер і дождж яшчэ, здаецца, выразней чулася за сцяною музыка — там уключан рэпрадуктар. Перадаваўся бадзёры марш перад зарадкай.

Аляксей прыйшоў у райком, калі яшчэ нікога не было. Ён запаліў настольную лямпу і разгарнуў газету.

— Што, не спіцца? — зайшоўшы ў пакой, спытаў сакратар райкома Ляшчук. Ён быў, як і заўсёды, чыста паголены, у свежа адпрасаваным касцюме.

— А, добры дзень, Мікалай Васільевіч! — падняўся Аляксей.— Вось ідэі ўсякія лезуць у галаву, дык і не спіцца.
— Так,— усміхнуўся сакратар.— Бывае, бывае... Ну, як там твае штунды? Зрухі ёсць?
— Моляцца, чэрці...— адказаў Аляксей і замоўк. Не расказваць жа сакратару пра няўдалую размову з прасвітарам.— Страшныя фанатыкі.
— Газеты, радыё, тэлебачанне... Гаворым, ускрываем... — нібы ўслых, думаў Ляшчук. — І ўсё ж вынікі не вельмі... На лекцыі штунды не ходзяць... Відаць, толькі індывідуальная работа можа прынесці поспех. Улічыце. Мы аб гэтым часта і доўга гаворым, але справа далей разважанняў не ідзе. Ну, добра. Я вось чаго... У цябе няма пакуль нічога тэрміновага?
— Ды як сказаць...
— Трэба ў «Прамень» з'ездзіць праверыць вучобу камуністаў і наогул вывучыць, як партыйная арганізацыя працуе. На бюро будзем іх слухаць. Сёння трэба табе выехаць. На цэлы тыдзень.
— Мікалай Васільевіч, а калі я дні праз два паеду? Тут такая справа з гэтымі штундамі, што сёння трэба...
— Добра. Паедзеш у чацвер.
На вуліцы засігналіла машына.
— Заўтра зойдзеш, пагаворым перад камандзіроўкай. — Сакратар развітаўся.
Аляксей засядзеўся ў райкоме аж да паўдня. За гэты час ён амаль нічога не зрабіў, нават не прачытаў таго, што хацеў. Туляўся з кабінета ў кабінет, стаяў, пазіраў у акно і ўсё думаў, думаў. А Веры не было.
Аляксей выйшаў на ганак. Сыпаў халодны, нудны дождж. На тэлеграфных правадах віселі буйныя кроплі. Ля райкома стаялі два тоўстыя дзядзькі ў плашчах — старшыні суседніх калгасаў — і спрачаліся.
З раённага Дома культуры выскачыў цыбаты юнак і стаў клеіць на вітрыну аб'яву. Вялікія літары відаць здалёк: «Ці гатовы вы жыць пры камунізме?». Дыспут. Ля вітрыны спыніліся дзве дзяўчынкі ў дажджавіках.
«Відаць, Вера ўжо не прыйдзе. Не захоча коўзацца па гэтай гразі, ды яшчэ ў дождж. Трэба ісці самому».
Ён паглядзеў на неба. На захадзе, адкуль плылі сівыя разбухлыя хмары, святлела.
Падняўшы каўнер паліто, Аляксей рушыў у дарогу. Не паспеў ён выйсці з гарадка, як дождж перастаў, на небе з'явіліся блакітныя правалы.
Неўзабаве сустрэлася і Вера. Спачатку ён яе не пазнаў. Дзяўчына была ў чырвоным шырокім паліто. На плячы вісеў празрысты блакітны дажджавік, у руцэ яна трымала сумку, напакаваную кнігамі.
Прывіталіся.
— А я да абеду прыйшла б, ды карова задумала цяліцца. Ой, ды чаго мы тут стаім?
— Дазвольце, — Аляксей узяў у яе сумку з кнігамі.
Вера падрабязна расказала пра сваю гаворку з Кацяй і закончыла так:
— Асноўная бяда ў тым, што гэтыя штунды... Пальца ў рот ім не кладзі. Паверыла Каця ў бога ці не? Бадай што не. А вось штундам паверыла. А як жа? Усе да яе з мёдам на языку, з дапамогай. Як тут не аслепнуць?.. А тут яшчэ сынок прасвітара, Андрэй, ля яе завіхаецца... Відаць, спецыяльна падаслалі... Адным словам, яны таго-сяго дабіліся... А мы... Ведаеш, Каця пыталася ў мяне, хто ж усё-такі кіруе і зямлёй, і небам, і людзьмі. Проста смех, дый годзе.



«Што ж рабіць?— думаў Аляксей.— Трэба прыняць самыя рашучыя меры. Можа ісці ў райком камсамола, падняць усіх на ногі. Не, трэба, мусіць, пакуль што зрабіць усё магчымае самому...».
Вера памаўчала, а потым:
— Калі гаварыць шчыра — нялёгка Каці. Цяжка ёй з малым. І, як гэта ні крыўдна, першымі памаглі ёй не мы, а штунды.
— А мы цяпер будзем хадзіць і ратаваць яе ад іх. А ці паверыць яна нам? — спытаў Аляксей і тут жа сам сабе адказаў: — Павінна. Абавязкова павінна.
— Трэба перш за ўсё знайсці ў добрых людзей жыллё для Каці, — прапанавала Вера.— Я хацела да сябе яе запрасіць, дык у нас цесна... Брат з жонкай... У іх дзеці...
— Гэта ўсё будзе падобна на нашу няўдалую агітацыю,— запярэчыў Аляксей.— Трэба дабіцца, каб ёй далі кватэру...
Аляксей разам з Верай схадзіў у бібліятэку, дапамог падабраць кнігі і разам з ёю пайшоў на Зарадзвінне. Яны вырашылі вечарам наведаць Кацю.
— Толькі, Вера, ніякай гаворкі аб рэлігіі. Будзем паводзіць сябе, як людзі, што зайшлі ў госці. Каця павінна паверыць нам, што мы яе сапраўдныя сябры.

## X

Каця прыбегла з работы надвячоркам.
Люба, седзячы на печы, чытала брацiку казкі. Ленка спала.
У хаце ўсё было перавернута. На падлозе валяліся кніжкі, рассыпаная бульба і кавалкі хлеба. Падушка чамусьці ляжала пад ложкам, а кошык стаяў у пярэдняй хаце ў самым куце. Дзеці, пачуўшы волю, відаць, хадзілі на галовах.
А на двары нецярпліва мычала карова, скуголілі свінні...
За што брацца?
Два вечары Каці памагаў Андрэй. Да яе прыходу ён паспяваў пакарміць і напаіць карову, нанасіць дроў.
Каця схапіла вёдры, пабегла перш-наперш па ваду. На вуліцы глянула ў адзін канец, у другі. Андрэя не было відаць.
Дзе ж ён?
Каця сёння цэлы дзень лавіла сябе на тым, што стала часта думаць пра Андрэя. Яна ўспамінала, як ён усё глядзеў на яе, сачыў за кожным рухам, калі першы раз прыйшоў памагчы. Ёй хацелася тады рабіць усё лепш, прыгажэй.
Яна хуценька зачэрпнула вады. Падымаць вядро са студні было цяжка — у яе аж спацеў лоб.
Каця спяшалася з вёдрамі, ішла, схіліўшы галаву, і ля самага ўжо двара зусім нечакана сутыкнулася з Верай і Аляксеем.
— Ой, як з-пад ног выраслі! — яна паставіла вёдры і стала рукавамі ватоўкі выціраць лоб.
— А ты як метэор,— засмяялася Вера.
— Уся ж гаспадарка цяпер на маіх плячах. Толькі з работы прыйшла. Ну, заходзьце ў хату...
— Аляксей Іванавіч, будзьце ж кавалерам, бярыце вёдры,— прапанавала Вера Аляксею, што моўчкі стаяў збоку.— Ну, бярыце ж.

А ты, Каця, не саромейся. Яму, як чалавеку разумовай працы, гэта карысна.
Пачуўшы ў хаце голас чужых людзей, Ленка прачнулася і заплакала. Каця, пакінуўшы гасцей сярод хаты, пабегла ў свой пакойчык, а праз хвіліну выйшла з малою на руках.
— Вось яна якая... Не дае мне гаспадарыць, і ўсё...
Кацю цяжка было назваць маці. Яшчэ зусім маладая, са шчаслівай усмешкай, з раскіданымі валасамі, яна вельмі была падобна на дзяўчынку.
— Вы ж сядайце, сядайце,— сумелася Каця.— А то я была ўжо і забылася на вас...
— Ну, давай я пагляджу тваю дачушку,— сказала Вера,— а ты пакуль што пагаспадар тут. Табе і Аляксей Іванавіч паможа, а то адна да поўначы будзеш...
Праз якой паўгадзіны ўсе трое сабраліся за сталом і пілі чай, гамонячы безупынку. Больш за ўсіх гаварылі Аляксей і Вера. Каця маўчала. Яна наогул не ведала, як сябе трымаць.
Яе кранула тое, што да яе зайшлі Вера і Аляксей Іванавіч. Яны такія вясёлыя, з імі так добра, лёгка. Але Каця ведала, што яны прыйшлі не проста ў госці, як звычайныя сябры, а «агітаваць». І яна не магла радавацца і смяяцца. Але чаму ж яны гавораць зусім пра іншае? Ці можа толькі робяць выгляд, што іх не цікавяць сёння ніякія штунды?
— А ведаеш, Кацечка, што: я ўчора дзяжурыла на ферме. Ну, і запалілі грубку. А потым чую, што ў грубцы гарыць не так, як заўсёды. Гудзе, а праз паддувала цячэ нейкі дзёгаць... Аказваецца, загадчык фермы масла там схаваў украдзенае.
— Злодзея выкрыла? — зацікавіўся Аляксей.
— Але ж рэчавыя доказы згарэлі,— залівалася смехам Вера.
«А ці здараўся ў маім жыцці смешны выпадак?» — Каця нічога не ўспомніла такога, што можна было б расказаць.
— У мяне таксама тое-сёе здаралася.— Аляксей Іванавіч адсунуў ад сябе шклянку, адкінуўся на спінку крэсла.— Калі я вучыўся ва ўніверсітэце, то часта ездзіў па вёсках, лекцыі чытаў. Больш на антырэлігійныя тэмы. Памятаю, аднойчы расказваў, расказваў адкуль пайшлі вялікдзень і каляды. А ў канцы лекцыі адна старэнькая бабулька падыходзіць да мяне і кажа: «Дзякуй табе, сынок. Цёмная была. Усё жыццё малілася, а не ведала каму, а цяпер ведаць буду».
«Ну вось, пачынаецца...» — падумалася Каці.
Ёй не хацелася сёння і гаварыць і слухаць пра гэта. Але Аляксей пачаў ужо пра іншае.
— А калі працаваў у раённай газеце, то адзін час пачаў спазняцца на работу. Чытаў позна, раніцай спаць хацелася, і так кожны дзень. Ну, дык рэдактар і гаворыць аднойчы: «Я пачынаю заўважаць, што вы спазняецеся». А я адказваю, што таксама пачынаю заўважаць гэта. Тут усе і паехалі са смеху...
Доўга яшчэ размаўлялі за сталом.
Позна вечарам Каця правяла гасцей на вуліцу. Сяброўкі на развітанне нават пацалаваліся.
Усё спала. Было ціха. Толькі зрэдку дыхаў вецер, нібы асцярожна студзіў зямлю. На захадзе ў рэдкіх ірваных хмарах туліўся маладзік.
— А ўсё ж на зіму горнецца... — загаварыў Аляксей.
— Ага. На зіму. А вы ведаеце, я Каці сказала, што Андрэй да яе падасланы бацькам... Можа і не трэба было?— насцярожылася Вера.
— А калі гэта ўсё няпраўда?..



...Каця доўга не клалася спаць. Многае яе хвалявала: думалася пра Веру, пра Аляксея, а больш пра Андрэя.
«Невыпадкова ж ён тады, выходзіць, у малітоўным доме сеў побач? А потым пабег праводзіць...»
Як бы хацелася хутчэй даведацца, ці праўда гэта. Можа і не. Так было ўжо добра. Спакойна, ціха.
Не паспела Каця заснуць, як у двары грукнулі вясніцы. Яна хуценька падхапілася, запаліла лямпу, выйшла.
Гэта быў Андрэй. Ён увайшоў, грукаючы ботамі. Язык у яго заплятаўся.
— Ты п'яны? — здзівілася Каця.
— Крышачку! Ездзілі ў лес, замерзлі, ну і пагрэліся... Ведаеш, бацька рашыў будаваць мне хату... Так што буду гаспадаром.
Хлопец засмяяўся.
— І табе бацька дазволіў напіцца?
— Ого! Ты яшчэ не ведаеш майго бацьку...
Андрэй распрануўся, сеў на ложак, узяў Кацю за руку, пасадзіў побач.
— А чаму ты не ў настроі? — Ён паспрабаваў абняць яе.
— Няма чаго мне радавацца...— Каця адштурхнула яго ад сябе і адышлася да акна. З галавы не выходзіла тое, што сказала ёй Вера...
Андрэй зразумеў: ён зрабіў, мусіць, нешта агіднае і хацеў загладзіць сваю віну.
— Кнігу Ездры яшчэ не чытала? — загаварыў ён.— Там цудоўна пра вашага брата сказана. Людзі кідаюць усё і імкнуцца да жанчыны, разяўляючы рот, глядзяць на яе, і цяга ў мужчын да яе ўсё большая і мацнейшая, чым да золата ці да срэбра, ці да іншай каштоўнай рэчы. Чалавек пакідае бацьку, што выхаваў яго, краіну сваю і бяжыць да жонкі сваёй, а з ёю забывае ўсё — і людзей, і бацьку, і краіну. Забывае... Я вось таксама пакінуў і бацьку, і маці, і розум свой і прыйшоў да цябе, Каця... Ну...— ён падышоў да яе, паклаў рукі на плечы. Яна адштурхнула яго.
— Што такое, Каця?
— Ты лепш скажы. Толькі шчыра... Цябе бацька падаслаў да мяне? Спецыяльна? Каб ты мяне рыхтаваў да прыняцца хрышчэння? Га?
Андрэй адказаў не адразу.
— Вось што, Каця... Мой бацька здольны на ўсё, толькі не на такое... Гэта хлусня, даю слова... Слухай, Каця... Няўжо ты нічога не разумееш? Я пакахаў... Шчыра...
— Калі шчыра кахаюць, дык нічога не гавораць,— адказала Каця, а сама падумала: «А можа ён і кахае. Хто ведае?..»
— Тады без лішняй гаворкі. Давай пажэнімся...
Каця аж адступілася ад Андрэя. Пасля доўга глядзела на яго. Ён не жартаваў. Гэта было відаць па яго разгубленым твары, па тым, як ён з затоеным страхам чакаў, што ж скажа яна.
— Ленку я не пакрыўджу. Будзе як дачка,— упрошваў Андрэй.
«Хто ж казаў праўду?.. Вера ці Андрэй? І чаму ён так дрэнна думае пра свайго бацьку?»
А за вокнамі мільгалі далёкія зоркі.
І маўчалі...

Позна ў гэты вечар ішоў дадому з Зарадзвіння Аляксей. Яго радавала і халодная ноч, і вецер, што ў полі быў пранозлівы, і далёкія агеньчыкі, што міргалі недзе ў гарадскім пасёлку.

Ён дайшоў ужо да пераезда, калі яго дагнала сакратарова легкавічка. Бразнулі дзверцы, пачуўся спакойны басок Лешчука:

— Гэй, начнік, ідзі падвязём.

І калі Аляксей залез у машыну, з якой дыхнула цёплым пахам тытуню і бензіну, сакратар пажартаваў:

— Доўга ў дзяўчат затрымліваешся...

Аляксей падрабязна расказаў пра Кацю.

— А кватэру ёй неяк трэба выкраіць,— уголас падумаў Ляшчук.

— Мікалай Васільевіч, тады і я пайду ў штунды,— засмяяўся шафёр.

— Калі б усё было, дык што б мы рабілі? Так, Аляксей Іванавіч?— Ляшчук аглянуўся.

І ўжо ля самага дому, вылазячы з машыны, ён сказаў Аляксею:

— Як прыйдзеш заўтра на работу, адразу да мяне.

Аляксей пастукаў у дзверы. Не цярпелася. Не дачакаўшыся дазволу, увайшоў.

Кабінет сакратара быў вузкі і доўгі. У самым канцы за шырокім сталом корпаўся ў паперах Ляшчук. Ён і галавы не падняў, не глянуў на Аляксея, не пачуў яго прывітання. Аляксей не ведаў, што далей рабіць.

— Ідзі сюды. Чаго стаў? — падняўся раптам Мікалай Васільевіч.

Праз хвіліну ў кабінет зайшоў і сакратар райкома камсамола. Ён важна падаў руку Лешчуку, папрасіў дазволу сесці. Быў ён у ваенным кіцелі, у галіфэ, у наглянцаваных да люстранога бляску хромавых ботах.

— Вы, здаецца, прасілі зайсці? — спытаў ён, сеўшы.

— Прасіў, прасіў, таварыш Новік,— паморшчыўся Мікалай Васільевіч. Яму, мусіць, не вельмі падабаўся гэты чалавек. — Раскажыце, калі ласка, аб камсамольскай арганізацыі Зарадзвіння. Аб яе рабоце.

Новік дастаў з кішэні фрэнча маленькую запісную кніжачку:

— Ага, вось яно, Зарадзвінне... У арганізацыі сорак тры камсамольцы. Праведзены два сходы. Прачытана тры лекцыі. Адзін суботнік. Дрэвы саджалі. З гурткоў ёсць харавы, танцавальны. Будзе драматычны. Узносы поўнасцю не заплацілі толькі тры чалавекі. У жывёлагадоўлі працуе пятнаццаць чалавек. У брыгадах вывешаны на відных месцах сацыялістычныя абавязацельствы...

— Вы там даўно былі? — нецярпліва спытаў Ляшчук.

— Даўно. Не выязджаў. Заняты быў. Але мы рыхтавалі пытанне на бюро. Пасылалі туды работніка райфінаддзела...

— Рыхтавалі пытанне...— нечакана злосна сказаў Ляшчук. Аляксей ніколі не бачыў яго такім усхваляваным. Сакратар падняўся, прайшоўся ля стала, сеў. — Вось што... Вы седзіцё тут, разглядаеце пытанні, а там камсамольцы ў штунды ідуць. Не ведаеце? Адкуль жа вы будзеце ведаць, калі ваша ўся работа ў гэтай кніжачцы... Вы ведаеце, што ў Зарадзвінні камсамолка пайшла ў малітоўны дом? У наш час! Вы ведаеце, што гэта?

Новік далей толькі слухаў Лешчука, не падымаючы галавы. Калі ён выйшаў, Ляшчук узрушана сказаў:

— Папрацаваў сакратаром нейкія два месяцы, а ўжо... Мусіць, мы ў ім памыліліся...— Ляшчук падсеў да Аляксея.— Вось што... Займіцеся Зарадзвіннем сур'ёзна, памажыце там камсамолу. А цяпер, відаць, трэба схадзіць на станцыю, пагаварыць з парторгам, з начальнікам, няхай зробяць усё, каб Кацю перавесці на работу ў больш люднае месца... Ёй можаш сказаць, што кватэра будзе не пазней, як праз месяц... Ну, бывай!— сакратар моцна паціснуў Аляксею руку.



## XI

У гэты дзень Каця спазнілася на работу. Яна чакала, што ёй прыйдзецца выслухаць ад напарніцы, якая дзяжурыла ў начной змене, непрыемную споведзь.

Праз рэдкую цемень прабівалася дрыготкае святло ліхтара, што вісеў на шлагбауме. На дарозе было пуста — ніводнай машыны.

Каця адчыніла будку — старая сядзела на крэсле, выцягнуўшы ногі ў валёнках. Драмала.

— А, ты ўжо, дачушка...— Яна цяжка паднялася.

— Вы прабачце, што я спазнілася,— пачала апраўдвацца Каця, але жанчына перапыніла яе:

— Ды годзе ўжо... Я ж ведаю, усё ведаю... Я аж і не паверыла, калі пачула. Цяпер жа вунь усялякія навукі ёсць. Ну, няхай я, непісьменная баба, а ты ж... І як цябе купіла тая прайдзісветка?

— Ніхто мяне не купіў...— праз слёзы прашаптала Каця. Яна пакрыўдзілася на старую: гаворыць з ёй, як з нейкай дурніцай.

— Жыві, дачушка, сваім розумам,— жанчына ўбачыла, што Каця ледзь не плача, і стала лагаднейшая. — Ты не крыўдуй. У цябе ж маці няма. Хто ж табе скажа праўду? Так што глядзі, не лезь у балота. Я з табой пагаварыла б, ды ўнукаў трэба ісці ў школу выпраўляць.

Жанчына моўчкі прасунулася ў дзверы.

Каця цяжка апусцілася на крэсла.

«Не разумею... Нічога не разумею... Што ім трэба? Ну што, калі я пасялілася ў Аўдоцці? Кватэра добрая, ды і сама гаспадыня... жыць можна. А штунды? Ну, калі падумаць, дык, на самой справе, што яны робяць благое? Не, відаць, і штунды не такія чыстыя... Чаму ж так узрушылася старая?.. Толькі цяпер убачылі ўсе, а калі мне было хоць пад цягнік кідайся, тады ніхто не глянуў. Ну і няхай гавораць, няхай прыстаюць... А мне нядрэнна і ў Аўдоцці. Ды і куды дзенешся!».

Задумаўшыся, Каця доўга сядзела ў будцы.

Прагрукацеў цягнік. Цераз пераезд праскочыў райкомаўскі газік. Сакратар, відаць, на раён паехаў. Во яшчэ каму не спіцца...

За акном радзеў змрок. Стала відаць поле, прыпудранае лёгкім інеем, дарога, на якой засталіся дзве чорныя ніткі — сляды ад машыны.

У будцы было холадна. Грубка — як лёд. Старая паленавалася прапаліць. Каця схапіла вядро і пабегла ў складзік па вугаль. Калі яна вярнулася, то ў будцы застала Аляксея.

— Не чакала? — ён падаў ей руку.— Я вось іду, замёрз, думаю, дай забягу пагрэюся... А ў цябе холадна.

— Зараз запалім. — Яна абрадавалася гэтаму чалавеку. Ён быў вясёлы, разумны.

— Ну, а як Ленка твая?

— Расце.

— Цудоўна!— ён змоўк і сачыў, як яна сыпала вугаль у грубку.— Слухай, Каця, а я бадай што не змог бы тут працаваць...

— Чаму?
— Ну як чаму? Цэлы дзень сядзі адзін.
— Ды я ўжо прывыкла.
— Няўжо не цягне да людзей? — здзівіўся Аляксей.—Да размоў, да спрэчак, адным словам, да жыцця ў поўным сэнсе гэтага слова. Я калі, напрыклад, адзін доўга, дык не магу... І здзіўляюся, як ты магла тут прывыкнуць.
— А дзе дзенешся?
— Я сёння раніцай быў па сваіх справах у начальніка станцыі і там чуў гаворку, што ў багажным аддзяленні чалавек патрэбен. Ну і думалі, каго. Хтосьці назваў тваё прозвішча. Ну, і я слова закінуў, кажу, ведаю такую, добрая дзяўчына... Але ты не чакай, пакуль табе прапануюць. А сама схадзі... Гэта варта зрабіць. І грошай больш палучаць будзеш, і работа там весялейшая — кругом людзі.
Яны доўга гутарылі, прыслухоўваючыся зрэдку, як гудзе ў грубцы агонь.
— Заседзеўся я, а мне ж трэба на раён ехаць...— Аляксей падняўся. Каця выйшла яго праводзіць.
— Ага, ледзь не забыўся... Ты ж у штундаў жывеш, дык вось тут пра іх напісана. Пачытай. — Аляксей падаў ёй газету.
Каці адразу кінуўся ў вочы загаловак: «Словы і справы «братоў у Хрысце» з сяла Зарадзвіння». У яе закалацілася сэрца. А раптам пра яе што тут? Прабегла вачыма па радках. Сябе не знайшла. Супакоілася і пачала чытаць усё спачатку.
«Секту евангельскіх хрысціян-баптыстаў у Зарадзвінні ўзначальвае Фёдар Чубок. Гэта непрыкметны чалавек, але ж на першы погляд такі здаецца рэлігійны — да фанатызму. Калі штунды збіраюцца ў маліто̃ўны дом, Чубок далікатна зацягвае: «Браты і сёстры, запомніце запаведзі, будзьце сумленнымі і справядлівымі».
Але што за чалавек ён на самой справе? У дні Айчыннай вайны, калі наша Радзіма была ў небяспецы, Чубок здабыў сабе фіктыўныя дакументы (стаў старэй на дзесяць год) і ўхіліўся ад прызыву ў армію».
«Ясна, — думала Каця, — чаму ён заўсёды просіць памагчы яму замаліць грахі. Вунь што яму не дае спакою. А чаму ж яго партрэт вісеў тады на Дошцы гонару? Хаця, працаваць ён стараецца — грошы ж зарабляць трэба».
«...Цяпер ён дома зневажае і б'е сваю жонку Хрысціну,— чытала далей Каця,— а з сына Андрэя, здаровага і здольнага хлопца, выхоўвае раба божага. Адарваў яго ад вучобы, ад жыцця...
...Кожную нядзелю выступае з евангеллем у руках і прапаведнік Стэфан Сяліцкі. А сам да 1937 года быў кіраўніком сектанцкай абшчыны ў Добрушскім раёне. Наладжваючы ў сваім доме нелегальныя зборышчы пад выглядам малення, ён праводзіў антысавецкую агітацыю, паклёпнічаў на савецкі лад...»
«Сяліцкі... Гэта той з вялікай белай лысінай. Дык вось які ён святы...»
«...Разам з Сяліцкім,— чытала Каця,— судзілі за антысавецкую дзейнасць і прапаведніка абшчыны Ціта Грыцкага. Адбыўшы сваё, ён уладкаваўся цяпер на работу ў райкамунгас, дзе крадзе для сябе і для прасвітара Чубка лесаматэрыялы...»
«Ды гэта ж пра таго дзядка з сівой бародкай. Ён жа кожны вечар ходзіць міма пераезда і заўсёды цягне ці кавалак шалёўкі ці клёпку якую...» — успомніла Каця.



«...Браты не спыняюцца ні перад чым, абы толькі больш людзей уцягнуць у секту. Гэта ж яны падбухторылі Аўдоццю Лямех разысціся з мужам толькі таму, што ён не захацеў з ёй хадзіць на малебен.
...Хочацца, каб тыя, каго ўцягнулі ў секту, хутчэй разгледзелі сапраўдны твар «людзей божых»...
«Няўжо гэта праўда? — думала Каця. — Праўда. У газетах жа не пішуць няпраўды. Але каб у секце ўсе былі жулікі і прайдзісветы?.. Не, гэтага таксама не можа быць. Як усё заблытана, галава кругам ідзе... Хіба Андрэй не добрасумленны? Ён жа добры хлопец. Не можа ж быць, што ён хацеў ажаніцца са мною толькі з-за таго, каб мяне ў секту уцягнуць...»
Думаючы пра ўсё, Каця не заўважыла, як прайшоў дзень.
Аўдоцця Сямёнаўна ўжо прыехала з Ленінграда. Яна сядзела на канапе і пералічвала грошы. Тут жа спаў Віцька, абняўшы новенькія гумавыя боцікі.
— Што з табой, Кацечка? — сустрэла Кацю здзіўленая гаспадыня.
— Вось тут пра вас, Аўдоцця Сямёнаўна, напісана, — Каця падала ёй газету.
Тая толькі глянула і засмяялася.
— Вось глупства... Такое пішуць амаль кожны дзень. За гэта ж ім плацяць. А нам ад гэтай пісаніны ні горача, ні холадна... Давай лепш павячэраем разам, у мяне бутэлечка віна ёсць...
— Дзякую, я не хачу.— Каця пайшла ў свой пакойчык.

## XII

Фёдар Чубок жыў не горш за другіх. Спраўляўся ён і на рабоце, і ў секце ў яго быў аўтарытэт. Што ні гавары, а жыць ён умеў.
Але раптам знік у яго спакой. Ужо некалькі дзён цяжкія думкі гнялі яго, праганялі сон. І чым больш ён думаў, тым цяжэй рабілася на душы.
І ўсё праз сына. Ён зблытаў усе планы Чубка.
Фёдар хацеў, каб Андрэй выбіўся ў людзі, стаў чалавекам, жыў багата. Андрэй, калі яшчэ вучыўся, да шостага класа быў амаль выдатнікам, а потым раптам пачаў атрымліваць дрэнныя адзнакі, а тады і зусім адбіўся ад школы. Можа гэта таму, што бацька вадзіў яго ў малітоўны дом? Папярэджвалі ж настаўнікі. Але ж інакш нельга было.
Пасля школы Чубок уладкаваў сына, каб той вучыўся на каваля. Але сын задумаў чорт ведае што.
Сядзелі, вячэралі. Кожны еў са сваёй міскі і маўчаў. Хрысця, Фёдарава жонка, сёрбала юшку драўлянай лыжкай, гушчу яна ўжо не ела — не мела зубоў. Фёдар, калі чэрпаў, то ўсім тулавам падаваўся ўперад і кідаў у рот некалькі лыжак запар. На ілбе ў яго ці то ад старання ці ад таго, што выпіў, ажно выступіў пот. Андрэй нехаця боўтаў у місцы, ляніва кусаў хлеб. Што з сынам робіцца нешта няладнае — першая заўважыла маці.
— Ты што, сынок? Мо' перасаліла? — спытала яна.
— Захоча, будзе есці! — гыркнуў бацька і, бразнуўшы лыжкай у пустой місцы, стаў паднімацца з-за стала.
— Тата, я буду жаніцца...— амаль прашаптаў Андрэй.
— Што? — Чубок, як падкошаны, сеў на сваё месца.

— Ну во...— маці паклала лыжку і ўткнулася тварам у хустку.
— З кім? — нецярпліва спытаў бацька.
— З Кацяй. Што ў Аўдоцці жыве...
— Гэтаму не быць! — стукнуў па стале кулаком Чубок. Потым ускочыў, прабег па хаце.— Дурны ты! Не, я лічыў, што ты ўсё ж разумны хлопец, а ты... Ну, і знайшоў. Дык яна ж... Ці ты можа столькі зарабляеш, што ірвешся чужое дзіця карміць?.. Ну што ў ёй добрае?.. Я табе забараняю з ёй бадзяцца. Чуеш?
— Яна ж сястра наша,— прашаптаў Андрэй.
— Сястра! Сястра! Абух ты...— Чубок выпіў вады, накінуў на плечы шынель і ўжо на парозе сказаў сыну: — Выйдзеш, пагутарым.
У хляве было цёмна. За перагародкай сапла карова, жавала сена. Адтуль несла цёплым пахам мурагу.
У куце мігаў агеньчык. У жалезнай трубцы, што была змайстравана з бочкі, тлела вуголле.
Фёдар падкінуў у агонь некалькі лучынак. Яны закурыліся чорным дымам і ўспыхнулі полымем. У бочцы забурліла вада. У трубцы, што тырчэла з карыта, захрыпела. У графіне забулькалі кроплі. Фёдар памачыў у графіне вузкую паперку і паднёс яе да агню. Па ёй пабегла сіняватае полымя. Пасля ён паставіў на месца графіна шклянку, а першачок выліў у каністру. Зноў пераставіў пасудак, наліў сабе шклянку, перакуліў у рот. Прычмокнуў, дастаў з кішэні цыбуліну, закусіў.
Прыйшоў Андрэй. Прыхінуўся да шула, маўчаў.
— Ідзі сюды, садзіся,— прабубніў Чубок. І калі той падышоў, падаў шклянку.— Пакаштуй.
— Не хачу.
— Слухай, — пачаў Фёдар. — Усім нам быць там, на тым свеце... А на гэтым чалавек жыве адзін раз. І трэба добра пражыць тут, так, каб і для душы ўцеха была. Трэба хоць свету пабачыць. Ну навошта завязваць сабе вочы ў такія маладыя гады. Навошта табе чужых карміць, зарабі хлеба хаця сваім дзецям. Падумай, сын. Пагуляй яшчэ... Вось пабудуем табе хату, знойдзем нявесту. І жыві так, каб і бацьку было спакойна паміраць...
Андрэй глядзеў у кут, дзе на сценах дрыжэлі трывожныя чырвоныя водбліскі. Невядома было: слухае ён ці не.
— Ну, што скажаш мне, сынок?
Андрэй маўчаў. Моўчкі ён пайшоў і дадому.
А Чубок, неўзабаве заліўшы агонь, сунуў у кішэню паўлітэрку, выйшаў на агарод і накіраваўся ў вёску...

## XIII

Каця не магла заснуць у гэтую ноч.
У сінім акне дзесьці далёка мігала блакітная зорка. Можа гэта яна не дае заснуць? Мусіць, не. Бо ўжо во колькі Каця адварочваецца ад акна, а сон не ідзе. Яна недзе чула, што з бяссонніцай прыходзіць сталасць.
Няўжо і да яе прыйшла гэтая сталасць?
«Чыя ж праўда?»
У галаву лезуць думкі пра Веру, пра Андрэя. Перад вачыма вырастае пераезд, яе напарніца, старая жанчына, Аляксей, што зайшоў пагрэцца...



Нарэшце, лёгкі дрыготкі сон звёў павекі, але нехта пастукаў у дзверы. Сон зноў прапаў.
У суседнім пакоі зашлёпала босымі нагамі Аўдоцця, камусьці адчыніла. Той грукаў ботамі, гаварыў шэптам, нельга было зразумець ні слова.
Праз шчыліну ў дзвярах выцягнуўся тоненькі праменьчык святла — гаспадыня запаліла лямпу...
— Закусіць чаго паглядзі...— Мужчына, асвоіўшыся, пачаў гаварыць смялей.
Дзе яна чула гэты голас?
— Ты зноў-такі гнаў... Ох, і пападзешся калі-небудзь.
Аўдоцця бразгала талеркамі, стукала нажом.
— Але ж без яе цяпер і кроку не ступіш. Без яе з леснікамі і не гавары. Мне ж лесу так ніхто і не выпіша.
— А чаго ты спяшаешся з гэтай хатай? Гарыць, ці што?
— Гарыць не гарыць. А пакуль грошы ёсць...
— А то, во, чаўпуць усякае. У газеце чытаў? Мне Каця паказвала. Я, праўда, і віду не падала. А калі прачытала...
— Чытаў, чытаў. Таму і выпіць хочацца...
Каця пазнала голас старога Чубка.
— І Каця чытала...
— О, божа, узваліла ты на мяне яшчэ гэтую Кацю... Гэта ты вінавата, Аўдоцця.
Каця прыўзнялася на ложку.
— Яна добрая маладзічка, — абараняла яе гаспадыня.
— Можа. Але, ведаеш, яна майму сыну закружыла галаву, што цяпер толькі і крычыць жаніцца...
— Ну? Гэта ж добра для секты. Яна тады зусім наша будзе.
— Хочаш, каб я сынам ахвяраваў?
Дзынкнулі шклянкі, захрумсцелі агуркі.
«Значыць, Вера няпраўду казала пра Андрэя... Ён не падасланы»...— Каця адчула, што радасць захлынае яе.
— Ведаеш, Аўдоцця, усяго чакаў ад жыцця... Але не гэтага. Родны сын — і так абыходзіцца з бацькам... Падумаеш — жыць не хочацца.
Зноў дзынкнулі шклянкі.
— Я яшчэ з ім пагавару, — працягваў Чубок. — А ты з Кацяй. Толькі ж асцярожна. Будзе можа ў цябе парады прасіць, ці як... Парай не спяшацца... А груба з ёй не трэба абыходзіцца. Яна нам яшчэ спатрэбіцца. Я чуў, яе ў багажную пераводзяць. Ты ведаеш, што гэта такое для нас...
Каця не верыла сваім вушам. Яна прынікла да шчыліны ў дзвярах: Фёдар абнімаў Аўдоццю.

## XIV

Каця нічога не сказала Аўдоцці.
Яна вырашыла яшчэ трохі ў яе пажыць, пакуль не знойдзецца другая кватэра. Ды галоўнай прычынай усё ж была не кватэра. Хацелася канчаткова высветліць адносіны з Андрэем. Ва ўсёй гэтай секце бадай што толькі ён адзін і быў шчыры з ёй.
Каця ўвесь час хацела сустрэцца з Андрэем, каб шчыра з ім пагаварыць. Але да суботы яго так і не ўдалося ўбачыць. Тады напісала яму дзве паштоўкі, прасіла прыйсці.

Андрэй жа як прапаў.

Што з ім?

І таму Каця ў суботу вечарам пайшла ў малітоўны дом сама. У апошні раз.

У малітоўным доме было шмат людзей. Столькі Каця яшчэ ніколі тут не бачыла. Можа сёння яны прыйшлі сюды, каб пацікавіцца, як будзе выкручвацца пасля артыкула ў газеце прасвітар?

Фёдар Чубок разумеў гэта. Трымаўся ён горда, холадна пазіраў праз акуляры на «братоў».

Андрэй сядзеў наперадзе. Каця бачыла яго шырокія плечы ў новым цёмна-сінім пінжаку. З-пад каўняра ў яго была відаць белая кашуля. Каця паклікала хлопца. Ён не азірнуўся. Яна паклікала яшчэ. Але Андрэй быў, што каменны.

Пачаўся малебен. Першую пропаведзь гаварыў сам Фёдар Чубок. Голас яго гучэў, як і заўсёды.

— Бог усюды. Усё праз яго пачало быць, і без яго нічога не пачало быць. Але бога ніхто не бачыў. Калі ж мы любім адзін другога, то бог і ёсць у нас саміх. Шчаслівыя і чыстыя, толькі яны пабачаць бога. Гэтых чыстых мала, ды і іх ганьбяць усялякія нягоднікі. Нездарма ж у евангеллі ад Лукі сказана: «Гора вам, калі людзі пра вас будуць гаварыць добра». Нягледзячы ні на што, мы павінны ісці да свайго збавіцеля ўпарта і настойліва.

Каця зразумела, што Чубок сёння будзе не толькі апраўдвацца...

Яна азірнулася. Усе даверліва лыпалі вачыма. Каці раптам падумалася, якія крывадушныя і Фёдар Чубок, і гэтыя: з белай лысінай, і сівабароды, і сама Аўдоцця Сямёнаўна.

Вось толькі Андрэй...

Але ж ён не хоча на яе нават глянуць, а гаварыў жа, кляўся, што кахае. І яна, дурная, яшчэ прыйшла сюды.

Андрэй адчуваў позірк Каці, чуў, як яна клікала яго. Хацелася падняцца ёй насустрач, але штосьці трымала яго, згінала долу. Ці не ледзяны позірк бацькі? А можа віна яго перад дзяўчынай? Што ж сказаць ёй цяпер? Бацька не дазволіў яму жаніцца з ёю і ніколі не дазволіць... Цяжка было, але ўсё ж ён паслухаўся бацькі.

І раптам Фёдар Чубок застыў з разяўленым ротам. Пабялеў, як палатно. Усе трывожна зашумелі.

Каця агледзілася: у дзвярах стаялі Аляксей, Вера і старшыня сельсавета.

## XV

Аляксей па заданню сакратара прабыў у калгасе больш трох дзён і ў суботу раніцай вырашыў вярнуцца дадому.

Яму карцела ўбачыць Кацю і абавязкова яшчэ раз пагутарыць з ёю. Момант для гэтага быў самы зручны: газетны артыкул недзе ўсю вёску ўзрушыў. Не магла застацца спакойнаю і Каця.

У суботу ні адна машына з калгаса ў райцэнтр не пайшла, і Аляксею давялося ісці пехатою ўсе дваццаць кіламетраў. Да вечара ён якраз дабраўся да Зарадзвіння.

Аляксей любіў вёску ранняй зімой. Белыя ад снегу дахі, беленькія шапачкі на штакецінах... Вёска, што тая маладая на вяселлі...

Асабліва яна прыгожая надвячоркам. Спачатку паветра робіцца блакітнае, потым паступова сінее. Вёска нібы апускаецца на дно халоднага і глыбокага возера.



А ў вокнах зіхацяць, свецяцца агні. Успыхваюць лямпачкі на слупах на вуліцы. У іх святле віхурацца сняжынкі.

Успомніўся Аляксею той далёкі вечар у Мінску. Гулялі яны ўдваіх у парку ля опернага тэатра. Гаварылі, марылі. А снег сыпаў, сыпаў...

Яна засталася ў аспірантуры, Аляксей не стаў ёй перашкаджаць. Сціснуў зубы і паехаў куды клікала яго сумленне. З часам усё перабалела, прайшло. А калі што і засталося, дык гэта самотны ўспамін...

Аляксей збочыў да хаты-чытальні. На ганку стаялі і курылі хлопцы. Яны былі ў святочных гарнітурах, без шапак — выйшлі падыхаць свежым паветрам.

У хаце-чытальні душна; моладзі набілася столькі, што пальца не ўваткнеш. Аляксей няскора знайшоў Веру.

— Дзе Каця? — замест прывітання спытаў ён адразу ў яе.

— У малітоўным доме.

— Што?

— Там, кажу. Забегла я вечарам клікнуць яе на танцы, дык мне сказалі, што пайшла з Аўдоццяй...

— Пойдзем. Дзе твой брат? — ён узяў Веру за плячо.

Праз паўгадзіны Аляксей і Міхаіл Сцяпанавіч ішлі ў малітоўны дом. Аляксей яшчэ не ведаў, што ён будзе там гаварыць, але ведаў, што з кім-кім, а з прасвітарам счэпіцца.

— Сама ідэя дыскусіі вельмі цікавая, — гаварыў па дарозе Міхаіл Сцяпанавіч. — Але вось трэба знайсці такую дэталь, каб гэтага Чубка, як тую муху. А можа ім лекцыю прачытаць, га? Адным словам, гавары, што хочаш, толькі каб усё культурна...

Вера ледзь паспявала за мужчынамі.

Яны спыніліся ля дзвярэй у пярэдні пакой, дзе ішоў малебен. Слухалі.

Першы іх заўважыў прасвітар і адразу ж нібы аслупянеў. Па хаце тады прайшоў шум. Іх заўважылі ўсе. Ніхто нічога не разумеў, толькі дзівіліся, чаму так спалохаўся прасвітар.

Адна Каця адчула, што зараз адбудзецца нешта незвычайнае. Яна кіўком галавы павіталася з Верай...

Аляксей выйшаў уперад, агледзеў усіх, усміхнуўся.

— Добры вечар, грамадзяне. Праўда, у вас у малітоўным доме не прынята вітацца, але будзем ветлівымі. Я прыйшоў да вас не выпадкова. Мяне неяк запрашаў сам прасвітар...

Каця смела глядзела ў вочы Аляксею. Той заўважыў гэта.

— Ну, дык вось, грамадзяне, прабачце, што вам перашкодзіў, можа. Але бог існуе вечна, таму спяшацца вам няма куды і ваша малітва паспее да яго дайсці.

— Прашу не здзекавацца над светлымі пачуццямі хрысціян, — прашыпеў Чубок з такой нянавісцю, што каб можна было, то ён учапіўся б у прапагандыста зубамі, як шалёны звяруга. Усе зашумелі. Падняўся гул. Асабліва стараўся прапаведнік з белай лысінай. Ён аж ускочыў з месца і ўсё крычаў: «Вам дзяржава забараняе ўмешвацца ў нашы справы! Хто вам даў права парушаць Канстытуцыю?»

Перачакаўшы шум, Аляксей спытаў:

— Вы што, мяне баіцёся? Не? Дык чаму злуецеся? Ну дык вось, я ў вашы справы не ўмешваюся... Паслухайце. Што ж вы не даяце гаварыць...

Аляксей змоўк. Паступова і ўсе заціхлі.

— Я вам прызнаюся шчыра, — пачаў Аляксей. — Я ў бога не веру. Я прыйшоў задаць вам толькі некалькі пытанняў...



Чубок дапытліва глядзеў на прапагандыста. Ён спачатку збаяўся і, відаць, дарэмна. Гэты малады чалавек пачне задаваць такія ж пытанні, як і тады, калі прыходзіў да яго дамоў. Такое не страшна.

Аляксей звярнуўся да прасвітара:

— Вы хочаце, каб я не здзекаваўся над светлымі пачуццямі хрысціян? Правільна. А вось калі ім чытае пропаведзі чалавек, які сам не верыць у бога, а толькі нажываецца за кошт даверлівых людзей? Як вы будзеце называць такога чалавека? Га? Здзекуецца ён над светлымі пачуццямі ці не?

— Я не разумею вашага пытання... — закратаўся прасвітар.

— Вось вы як такога чалавека назавеце? — спытаў Аляксей у старэнькай бабулі, што сядзела бліжэй.

— Жулік, — буркнула тая кораценька ў адказ.

— Дык вось ваш прасвітар і ёсць...

— Бог у мяне ў сэрцы! — аж закрычаў Чубок.

— Таму вы і распараджаецеся ім так, як вам выгадна.

— Правільна! — крыкнула Каця.

— Вы заклікаеце ўсіх быць сумленнымі, працягваў Аляксей,— а самі падрабляеце дакументы, змяншаеце сабе дзесяць год, ашукваеце дзяржаву. Сумленныя людзі кроў пралівалі, а вы ў тыле нажываліся на давер'і цёмных людзей. Вось скажы, бабулька, гэта па божаму ці не? У вас жа на фронце сын загінуў, а вы верыце гэтаму дэзерціру. Ён жа нажываецца на вашыя грошы... А за што вы, Фёдар Кірылавіч, хату другую будуеце? Адказаць вам, за што?

Фёдар Чубок збялеў, але трымаўся спакойна. Толькі рука яго, што ляжала на бібліі, ледзь прыкметна трымцела. Калі Аляксей успомніў пра хату, ён не даў яму гаварыць.

— Усё пустое меле гэты чалавек.! Усе мы грэшныя на гэтай зямлі. І мы молімся, просім госпада бога, каб дараваў нам грахі нашы. І я грэшны. Каюся... І ўсе мы павінны маліцца, каб змаглі любіць адзін другога, як гэта вучыць нас наш настаўнік Хрыстос. І тады на зямлі не будзе вайны.— Ён павярнуўся да прапагандыста і, нібы між іншым, сказаў:—У гэтым нашы мэты сыходзяцца з вашымі. І каб мір перамог, нам трэба дзейнічаць разам. Ад гэтага ўсяму чалавецтву будзе добра...

— Вы жартаўнік, Фёдар Кірылавіч, — засмяяўся Аляксей. — За мір вы моліцеся — добра. Але мір не выпрошваюць, яго заваёўваюць. Ваш брат па веры амерыканскі Ракфелер разам са сваімі аднадумцамі да вайны рыхтуецца, а вы тут моліцеся, просіце міру. Каго ж паслухае бог? Вас ці Ракфелера? Як па-вашаму?

— Вось яна якая дэталь, — падаў голас і старшыня сельсавета.

— Ну, дарагія, трэба, як кажуць, і меру знаць... — прасвітар надзеў акуляры і раскрыў біблію.

— Прашу прабачэння, грамадзяне, — сказаў Аляксей. — Яшчэ толькі адно пытанне... Вы, Фёдар Кірылавіч, гаварылі, што да вас ідзе моладзь. Бачу Андрэя, Кацю. Вось няхай Каця паднімецца і скажа, што верыць богу і вам, тады...

Каця паднялася, абвяла ўсіх вачыма і моўчкі падалася да парога. У дзвярах яна азірнулася. За ёй сачыў Андрэй... У яго вачах было гэтулькі жадання пайсці з Кацяй, з гэтымі смелымі людзьмі, але боязь бацькі, яго цяжкі ўладарны позірк, які ён адчуваў усёй істотай, прыкоўвалі яго да лавы.

Вера і Міхаіл Сцяпанавіч прапанавалі Каці, пакуль дадуць ёй кватэру, пажыць у іх. Перабрацца вырашылі ў гэты ж вечар.

Пераносіць пажыткі дзяўчыны пажадалі ўсе. Каця ўзяла на рукі дачку, Аляксей — чамадан, Міхаіл Сцяпанавіч — клунак з пасцеллю, а Веры дасталося несці толькі балейку. Калі яны ўжо выйшлі з хаты, на іх наляцела Аўдоцця Сямёнаўна:

— А-а... Сабралася ўжо, шкура прадажная? Не, так ад мяне не пойдзеш. Ведаеш, колькі дзён у мяне пражыла? Што, думаеш, дарма? Плаці, а то з двара не выпушчу...

— Цяпер у мяне, Аўдоцця Сямёнаўна, няма. Заўтра ў нас зарплата.

— Так я табе і паверыла!

— Вазьмі, ды не крычы! — Міхаіл Сцяпанавіч падаў ёй пяцьдзесят рублёў. — Можа ж хопіць?

Маладая зіма была ва ўсёй сваёй прыгажосці. Снег скрыпеў пад нагамі, снегам пахла паветра, снегам было ахутана ўсё на зямлі.

Аляксей ішоў адзін дадому.

На душы было радасна і сумна.

Радасна, што такі зімовы вечар, што нарэшце зроблена нешта добрае, значнае.

Сумна таму, што ён быў адзін. Вера засталася дома з Kацяй.

Ён ішоў і думаў пра Веру.

А пад нагамі скрыпеў снег.



*Васілю Вітку*

*пяцьдзесят год*



# ШУКАЛЬНІК ЗАПАВЕТНАГА СЛОВА

*Упершыню я сустрэўся з Васілём Віткам, калі яму было год шаснаццаць-семнаццаць.*

*Здаецца, гэта было так нядаўна, ну ўчора ці пазаўчора. У рэдакцыю газеты з'явіўся новы селькор і неяк адразу зацікавіў і работнікаў рэдакцыі і сваіх шматлікіх сяброў-селькораў, рабкораў, юнкораў. Асабліва тых, хто разам са сціплымі допісамі аб непаладках у працы сельсавета або камітэта ўзаемадапамогі ці кулацкіх вылазках дасылалі і свае першыя практыкаванні ў жывым мастацкім слове. Пераважна гэта былі вершы. Аб чым толькі не пісалася ў іх: аб вясновай ручаіне, аб жаўранку, аб першым пачуцці кахання, аб родных палях і пералесках... А больш за ўсё аб буйных вятрах рэвалюцыі, якія вымятаюць з жыцця ўсё старое, абымшэлае, заплеснявелае, што перашкаджала быламу нявольніку стаць сапраўдным чалавекам, сапраўдным гаспадаром жыцця.*

*І допісам і вершам — асабліва апошнім — аддаваў Васіль Вітка ўсе парыванні свайго юначага сэрца.*

*Потым мы ведалі Вітку, як сталага супрацоўніка рэдакцыі газеты: сціплага, сур'ёзнага, удумлівага. Ён ужо дапамагаў маладзейшым — па гадах альбо па вопыту — афармляць на газетнай старонцы іх думкі і іх пажаданні.*

*Усё гэта было так нядаўна. Але гэтае нядаўна ўжо так далёка...*

*Колішняму селькору і юнаму шукальніку запаветнага паэтычнага слова мінула пяцьдзесят год. Перад намі сталы літаратар, добра вядомы нашай грамадскасці, як таленавіты паэт, вясёлы казачнік для дзяцей,*

*крытык, публіцыст. Яму ўласціва добрае пачуццё гумару. Ведае ён цану сатыры. Спрабаваў ён свае сілы ў мастацтве для тэатра. І асабліва ўзрадаваў нас добрымі поспехамі ў зусім новым для яго жанры — у мастацкай прозе. Яго апавяданні, навелы ачаравалі нас музыкай жывой народнай мовы, глыбокім веданнем жыцця роднай вёскі. Хочацца пажадаць яму: не спыняць творчых пошукаў і ў гэтым жанры, яны могуць быць такімі ж плёнымі, як і паэтычныя яго здабыткі.*

*Шмат чаго адбылося, шмат чаго змянілася ў жыцці юбіляра. Але некаторыя рысы засталіся нязменнымі. Мы маем на ўвазе выключную сціпласць і высокую патрабавальнасць паэта да сваёй творчасці. Прагледзьце пасляваенныя зборнікі яго твораў. У іх вы рэдка-рэдка сустрэнеце творы перадваеннага часу і тым больш творы дваццатых ці пачатку трыццатых год — паэт палічыў іх, відаць, нявартымі публікацыі. Мы не сумняваемся, што паэт залішне жорстка абышоўся з некаторымі раннімі творамі, начыста выкрэсліўшы іх з сваіх кніг. Але хто асудзіць яго за гэтую высокую патрабавальнасць да сябе, якой так бракуе многім і многім з нас.*

*Пажадаем Васілю Вітку — слаўнаму паэту-грамадзяніну — гэтак жа дбала, з тым жа юнацкім запалам, як і раней, ствараць і множыць новыя здабыткі свайго таленту на славу і радасць народа, на славу і веліч партыі і Радзімы.*

***Міхась ЛЫНЬКОЎ.***

**Васіль ВІТКА**

# ЭПІТАФІЯ ВІРУСАМ

## ПРЫЗНАННЕ

О, рыфмы, рыфмы... Я падчас,
Як здраднікаў, баюся вас.

Вам толькі вымавіш: люблю,
А вы ўжо мыліце пятлю.

Паслухаешся вас, даверышся,
Вы шэпчаце: пішы аб верасе,

Пішы аб восені, аб просіні,
Пішы аб тым, аб чым папросім
мы.



Бывае, аж завыеш: годзе!
Не раз пісаў я аб прыродзе,

Пісаў пра росы, верасы, —
Хачу праславіць вірусы.

## ГРЫП

Дальбог, ён мне не сват, не брат,
Не сябра на капейку.

Адны гавораць — азіят,
Другія — еўрапейскі.

Як ліст ад веніка, прыліп
І з ног зваліў, пракляты грып.

П'ю аспірын, пацею
І маю ўсё ж надзею:

Пацеюць акадэміі —
Дрыжыце, эпідэміі!

## ПРАМОВА НА ХАЎТУРАХ

Бясспрэчны наш поспех —
Знішчана воспа,
Знойдзены меры
Супраць халеры,
Вакцына прывіта
Ад поліяміэліта.
А дзе чума?
Даўно няма.
Раструшчым,
Расплюшчым
І раку клюшні!..
Кадзілам шуруе
Поп на клірасе:
«Алілуйя, алі-лу-йя
Усопшаму Ві-ру-су...»

## АСЦЯРОЖНА!

Памёр Вірус,
Закапалі ў магілу,
А ён вылез,
Збудаваў вілу

На сто тысяч з гакам,
З гаражом, агарожай.
«У двары злы сабака.
Асцярожна!»

Відно адразу —
Салідны мужчына:
Загадвае базай,
Кіруе машынай,

Сябруе з музамі,
Знаёмствам рад,
Развівае сувязі,
Мацуе блат.

Паглядзець люба,
Новых звычаяў знаўца,
Ён вянец шлюбны
Бярэ ў прафпалацы.

Зіхацяць пярсцёнкі
У самога, у жонкі,
А шапне славечка —
Запаляць і свечкі.

Сямейнай зарукі
Вянчаюцца ніці,
Злучаюцца рукі,
Яднаюцца кіпці.

Вітаюць нябожчыка,
Віншуюць з пасагам,
З адказнаю цёшчаю,
З новай пасадай.

## ПАЖАДАННЕ

Навошта заглядваць у мікраскоп.
Я добра бачу твой нізкі лоб,
Хіжай нажывы
Хітры мікроб.

Канчаю, Вірус, твой жыццяпіс.
Нямала ты сэрца маё папагрыз,
А ўсё ж спадзяюся—можа патраплю
Яшчэ і табе напісаць эпітафію.

# У нас у гасцях „Дніпро"

*У другім нумары „Маладосці" мы знаёмілі нашых чытачоў з планамі часопіса ўкраінскай моладзі на гэты год.*

*Цяпер мы прапануем вашай увазе дасланыя нам „Дніпром" новыя творы ўкраінскіх пісьменнікаў.*



Кіеў. Плошча імя М. І. Калініна. Фота В. Беразоўскага.

**Андрэй МАЛЫШКА**

* * *

Здалося малому ці снілася гэта, не знаю,
Ці, можа, даўно ўжо легендаю стала у краі,

Як Ленін хадзіў між людзей і спыняўся ў хацінах,
А маці яму падавалі вадзіцы гасцінна,

І бульбы, і хлеба ды солі — частуйся, наш родны.
Было на зямлі гэта ў годзе дваццатым, галодным.

Не знаю, здалося ці снілася, можа, малому,
Як Ленін праз поле ішоў па іржышчу сухому,

А жаўрук спявае, а чартапалох засыхае,
А жыта, як рута, не тужыць, а вусам зялёным
хістае.

Прадвесне ў нас з Леніным, плешча прадвесне
нізамі,
І трактарам першым барозны вядуць камнезамы,*

Дзяды пасівелыя выйшлі, пазлазілі з печы,
І сцяг угары над сельбудам трапеча, трапеча.

А ў кузні былыя паўстанцы заняты работай.
А ў небе зара абувае чырвоныя боты.

Не знаю, здалося ці снілася гэта малому,
Пайшлі мае сцежкі-дарожкі ад роднага дому;

Што парасткам новым, што рунню было
маладою,
На корані добрым стаіць, не сагнута бядою,

Агнём апалілася, гром захавала у кронах,
У садзе Украіны схіліўшыся чырванню гронак.

І дзе б я ні быў — у разлуцы або на рабоце,
І дзе б ні хадзіў — на крутым ці цяжкім
павароце,

Бывае ў задуме з трывогаю новаю ранкам,
Бывала ў акопе, у снежных халодных зямлянках,

А ўсюды са мною, як шчасце, як водбліскі долі,
І ленінская тая ўсмешка на ўзораным полі.

Прадвесне ў нас з Леніным, плешча прадвесне
нізамі,
Цяпер баразну чалавецтву вядзем ужо мы —
камнезамы.

А жыта наліта, а гронкі у соках да краю,
І з векам, і з сонцам... Не сон, а было гэта, знаю!

Пераклаў з украінскай мовы
**М. Аўрамчык.**

---

* Камнезамы — камітэты незаможных, так па-ўкраінску называюцца камітэты беднаты.





**Юхім ТАСЕНКА**

# БАЙРАН СА СТЭПАВЫХ ПРАСТОРАЎ

**Апавяданне**

Мал. В. Сумарава.

Была раніца. Звычайная надвосеньская раніца з лёгкай смугой туману і празрыстымі расінкамі.

Такая раніца мажнай Кавалісе не вельмі падабалася, бо праз туманову заслону не відаць было, бярэ ўжо хто ваду з калодзежа ці не. Апынуцца ж адной ля калодзежа няма ніякага інтарэсу — і пра навіну некаму будзе сказаць.

Туман не разыходзіўся. Давялося-такі Кавалісе браць вёдры і ісці.

Як на тое, пашанцавала маладзіцы: ля калодзежа ўжо стаялі Марына і Ганна.

Каваліха, не зважаючы на сваю мажнасць, ледзь не подбегам дамчалася да калодзежа, каб, барані божа, маладзіцы не разышліся, як заўсёды, прывіталася і адразу ж запытала:

— Ці чулі, суседачкі, што вось тая маладзенькая настаўніца, якая ў школе па-англійску гудбае, за чабана Сцяпана замуж выходзіць? Хі-хі! Настаўніца за чабана! Такія цяпер настаўніцы пайшлі.

— Ды ўжо даўно чулі,— адказала Марына, даючы зразумець Кавалісе, што верх застаецца за ёй. А потым шматзначна дадала: — Павінна цяпер хоць за дзеда конюха Хоміча ісці, калі гуляла з Аляксеем Іванавічам.

— Вось і няпраўда, — аўтарытэтна заявіла Ганна. — Аляксей Іванавіч сам па ёй сохне, а яна больш да Сцяпана хіліцца, бо тыя ж Іванюкі спяваюць ды і чарнабровыя, хай на іх чорт...

Спрэчка ля калодзежа магла б цягнуцца і паўдня, бо была нядзеля, а да трох жанчын далучылася яшчэ столькі, але, як на ліха, з'явіўся брыгадзір Пятро Куліш, які любіў панасміхацца.

— Гэй, маладзіцы, точыце тут лясы, а там, у крамцы, чарга за паркалем. Ха-а-ро-шы паркаль прывезлі!

Жанчыны схапілі вёдры і мігам разбегліся па дварах.

## I

За год да гэтага Надзею Пятроўну, а тады проста Надзю, выклікалі ў райана і сказалі:

— Годзе табе працаваць піянерважатай. Заўтра выязджай у Міхайлаўку выкладаць англійскую мову ў пятых — сёмых класах. Там вызвалілася месца. Так табе будзе лягчэй і на сваім завочным факультэце вучыцца.

Надзя, ці, як яе цяпер звалі, Надзея Пятроўна, адразу пагадзілася і хацела была па-англійску прыгожа падзякаваць загадчыку за давер, але чамусьці з галавы вылецелі ўсе англійскія словы, засвоеныя ў дзесяцігодцы ды на двух курсах завочнага навучання. Круцілася ў памяці толькі адно «гуд бай», якое дзяўчына і сказала ўсё-такі, выходзячы з райана.

А назаўтра на паштовай фурманцы Надзея Пятроўна ехала ў Міхайлаўку, распытваючы ў загадчыцы пошты пра іхняе сяло.

Дарога была цудоўная. Пасля дажджу дрэвы зелянелі, бы вясной. Дзесьці гулі трактары. Асветленыя лагоднымі сонечнымі промнямі, уздоўж дарогі нібы крочылі за абрыў высокія слупы высакавольтнай лініі. Сустрэчны вецер часам даносіў чабаровы водар. І так прыемна было дзяўчыне любавацца сонцам, дарогаю, полем і, слухаючы гаманкую загадчыцу пошты, уяўляць сабе школу, класы, настаўнікаў, дырэктара школы, сваіх новых сябровак, новых людзей, з якімі давядзецца ёй працаваць, сустракацца.

На палавіне дарогі ад райцэнтра да Міхайлаўкі пачаўся сапраўдны стэп. Калі фурманка выехала на ўзгорак, Надзея Пятроўна ўбачыла на пазелянелым пасля дажджу стэпе белыя, кучаравыя рухомыя плямачкі. «Авечкі» — здагадалася адразу. А на ўзгорку ў брылі, з плашчомнакідкаю цераз плячо, абапёршыся на доўгі кій, стаяў чабан.

Калі фурманка была ўжо недалёка ад атары, чабан заспяваў:

> Ей, степи та поля,
> Наш чабаньский світ.
> Вам і пісня, й хвала,
> І весняний привіт.

Такой песні Надзя ніколі не чула. Невядомыя словы, невядомы матыў. А голас! Малады, задушэўны, прыемны, нібы з цудадзейнай крынічкі, ліўся-разліваўся наўкола.

— Спыніце коней — паслухаем, — шэптам папрасіла дзяўчына.

Коні спыніліся.

— Ты глядзі, як спявае стары... Гэта ж чабан! — зноў сказала Надзея Пятроўна, калі песня раптам абарвалася.

— Гэта ж наш Байран! — адказала ёй паштарка.

— Байран?.. — здзівілася дзяўчына.



— Сцяпанам яго зваць... Ой, яму ж ліст з Харкава, ён даўно яго чакае, — прыгадала жанчына і гукнула: — Сцяпане! Танцуй!

Чабан павярнуўся, і Надзея ўбачыла, што гэта не дзед, як было здалося ёй. Калі ж Байран-Іванюк падышоў да воза, дык Надзя — а яна адчувала сябе цяпер толькі Надзяй, а не Надзеяй Пятроўнай — убачыла перад сабой высокага шыракаплечага хлопца з тонкімі рысамі твару, чарнабровага, кучаравага. Ён хутчэй падобен быў на кінаартыста Бандарчука, чым на Байрана.

Праз хвіліну паштарка аддала хлопцу газеты і ліст.

— О, з інстытута! — узрадаваўся юнак і, забыўшыся развітацца, пайшоў да атары.

Коні зноў рушылі. Надзеі хацелася падрабязна распытацца пра сімпатычнага чабана, але толькі таму, што ён быў сімпатычны, ёй здалося, што гэта будзе нетактоўна і недарэчна для саліднай настаўніцы, і таму не запытала нават, чаму яго завуць Байранам.

З узгорка відаць была Міхайлаўка — зялёная, белахатая, з двухпавярховай школай у садзе.

«Якое ж будзе тут маё жыццё?» — уздыхнула дзяўчына.

## II

Паўнаводным звонкім струменем паплыло яе жыццё ў Міхайлаўцы. І школа, і вучні, і настаўнікі, і сяло, і людзі сяла — усё падабалася Надзеі Пятроўне... Асабліва падабаўся завуч школы Аляксей Іванавіч. Яшчэ малады, з высокай русявай прычоскай, з універсітэцкім значком на новым дарагім гарнітуры, ён з падкрэсленай увагай ставіўся да маладой настаўніцы, даваў парады, тактоўна папраўляў яе. На першым жа тыдні Аляксей Іванавіч, прыветліва ўсміхаючыся, спытаў быў у настаўніцкай:

— Дазвольце, Надзея Пятроўна, наведаць ваш урок?

— Калі ласка, — адказала яна і адчула, як трывожна ў грудзях закалацілася сэрца і полымем загарэліся шчокі, але праз якую хвіліну ўжо ненатуральна пабялелі.

Гэта заўважыў выкладчык рускай літаратуры і жартаўліва прадэкламаваў Пушкіна:

> — Мария вздрогнула. Лицо
> Покрыла бледность роковая...

Усе дружна засмяяліся. Дзяўчыне стала лягчэй, хоць сэрца не пераставала калаціцца ў грудзях...

Надзея адчувала, што ўрок ёй не ўдаўся, прынамсі ён быў горшы за ўсе папярэднія. А пад канец яшчэ і казус здарыўся: хвалюючыся, не маючы практыкі, маладая настаўніца замест «гуд бай», што азначае «да пабачэння», сказала, выходзячы з класа, «гуд монінг». На шчасце, пяцікласнікі падумалі, што так і трэба, а Аляксей Іванавіч зрабіў выгляд, што не заўважыў.

Аналізуючы ўрок, завуч у заключэнне сказаў:

— Увогуле добра, Надзея Пятроўна. Сам Ушынскі вас пахваліў бы або і пазайздросціў, — і паціснуў руку дзяўчыне, доўга трымаючы яе тоненькія пальцы ў сваёй шырокай далоні.

Так мінула паўтара месяца. Сяло і школа рыхтаваліся да Кастрычніцкіх свят. Па прапанове Аляксея Іванавіча настаўнікі вырашылі выступіць у сельскім клубе з харавымі песнямі. Пачалі рыхтавацца, і на рэпетыцыях усе звярнулі ўвагу на цудоўны голас новай настаўніцы. А дырэктар, Васіль Навумавіч, запытаў у яе:

— Вы, Надзея Пятроўна, з сольнымі нумарамі не выступалі?
— Выступала.
— Ноты добра ведаеце?
— Ведаю. Нават на піяніна іграю.
— Рыхтуйце сольны нумар. Нам трэба паказаць, што настаўніцкі калектыў — таленавіты.

Між тым давялося рыхтаваць не сольны нумар, а дуэт. У кампаньёны напрасіўся Аляксей Іванавіч. Выконваючы цудоўны дуэт Аксаны і Андрэя з оперы «Запарожац за Дунаем», Аляксей Іванавіч трохі фальшывіў, але, як казаў настаўнік рускай літаратуры, «для начальства вполне терпимо», і дуэт рэпетыравалі штодзень. А Марыя Міхайлаўна, настаўніца малодшых класаў, якая дужа любіла вяселлі, уголас сказала:
— Цяпер мы ўжо Аляксея Іванавіча ажэнім.

Надзея пачырванела і апусціла вочы, а Аляксей Іванавіч самаўпэўнена, як належыць завучу, заўважыў:
— Гэта мы здолеем зрабіць і без вашай дапамогі, Марыя Міхайлаўна.

Дзе ўжо тут не забыцца, што нейкі міхайлаўскі чабан носіць імя геніяльнага паэта!

Тое імя геніяльнага паэта неўзабаве зноў давялося пачуць Надзеі Пятроўне.

## III

Было гэта ў Кастрычніцкае свята. Пасля ўрачыстага сходу ў клубе пачалася мастацкая самадзейнасць. Настаўнікі выступілі і паселі ў першых радах. Побач сядзелі Аляксей Іванавіч і Надзея Пятроўна. Пачыналася самадзейнасць калгаса імя Леніна. І вось трэцім нумарам канферансье аб'явіў:
— Песня «Чабанова туга». Словы і музыка Сцяпана Іванюка. Выконвае аўтар.

На сцэну выйшаў стройны хлопец і, страсянуўшы чорным чубам, мяккім барытонам, без акампанементу пачаў песню...

Надзея Пятроўна адразу па голасе пазнала Байрана і, як тады, у полі, заслухалася песняй. Песня апавядала пра тое, як малады чабан, зачытаўшыся, пагубляў авечкі, а цяпер ходзіць і шукае іх:

А на заході тим часом
Вже гримить гроза,
Й на зіркі чабанські очі
Набігла сльоза.
Що скажу я на правлінні,
Й матері своій,
Де шукать мені вас, вівці,
В пісьмі грозовій.

Уся зала замерла. Моцны голас, што ліўся з глыбіні душы, зачараваў слухачоў. Надзея ўявіла стэп, навальніцу, струмені халоднага дажджу сякуць прыгожы твар юнака, з намоклых ужо некучаравых валасоў вада цячэ за каўнер, насоўваецца цемра, а хлопец бегае па калючым бур'яне, шукае сваю атару...

І вось песня закончылася. Зала здрыганулася ад воплескаў. Толькі цяпер Надзея заўважыла, што яе рука ляжала ў далоні Аляксея Іванавіча. Добра, што хоць ніхто не бачыў: сядзелі ж у першым радзе з краю.

Пасля канцэрта, калі пачыналіся танцы, Надзея Пятроўна сама падышла да Іванюка і ад усяго сэрца падзякавала яму за цудоўную



песню. Але хлопец нават не паспеў нічога адказаць, як ля іх з'явіўся Аляксей Іванавіч і запрасіў Надзею на танец.
— З вамі я заўсёды паспею, — адказала дзяўчына, — а вось мне хацелася б патанцаваць са спеваком. Што ж, Сцяпане, патанцуем?

Сцяпан пачырванеў, крута павярнуўся і знік сярод моладзі.
— Што з ім? — збянтэжана запытала Надзея.

Аляксей Іванавіч паясніў:
— Вы абразілі яго, Надзея, ён не можа танцаваць, бо кульгавы.

## IV

Так, ён не мог танцаваць, бо быў кульгавы. Як і ў славутага паэта, у Сцяпана адна нага ад нараджэння была карацейшая. І вось, праз гэта, а таксама за прыгожы знешні выгляд ды ўменне складаць вершы, Сцяпану і далі мянушку Байран. А было гэта так. У Міхайлаўку, калі Сцяпан быў у дзевятым класе, прыязджалі інспектары райана — дзве маладыя жанчыны. Яны наведалі і дзевяты клас. Настаўніца ўкраінскай літаратуры вяла апытанне. Сцяпану давялося чытаць напамяць верш Лесі Украінкі «Досвіткавыя агні». Кучаравы, з вялікімі вачыма, з белым каўнерыкам, выпушчаным паверх чорнага пінжака, Сцяпан выглядаў, як сказалі б дзяўчаты, эфектна. Верш ён прачытаў з натхненнем і, калі вяртаўся на месца, налягаючы на левую нагу, адна інспектарка шапнула другой:
— Бач, які лорд Байран!

Гэта было сказана ціха, але непадалёку сядзела Ліда Мельнік. Вось яна і пачула гэтыя словы і, не ведаючы, хто такі Байран, расказала пра гэта ўсяму класу. З таго дня Сцяпан і стаў «лордам Байранам».

Спачатку Сцяпан злаваўся за гэту мянушку. Як жа так, яго, камсамольца, называюць лордам! А потым ён дастаў літаратуру пра жыццё паэта, убачыў яго партрэты і супакоіўся. Байран дык Байран, ён жа стаяў за народ.

Але Сцяпан, як і Байран, балюча перажываў сваю фізічную загану. Ён сам сабе здаваўся няпоўнацэнным, таму часта стараніўся таварышаў, а на фізкультуры намагаўся ні ў чым не ўступіць ніводнаму хлопцу. Ён цудоўна гуляў у футбол, валейбол і, штодзень трэніруючыся дома на турніку, стаў дужы, стройны хлопец. У дзесятым класе ён пачаў насіць абутак на левай назе з павялічаным заднікам, так што не кожны і заўважаў яго кульгавасць. Але прызыўная камісія ў ваенкамаце гэта заўважыла, і ў армію хлопца не прынялі. Гэта так падзейнічала на Сцяпана, што ён пачаў шукаць адзіноты. Тым больш, што трэба было памагаць маці, бо бацька вярнуўся з вайны хворы і памёр, пакінуўшы немалую сям'ю, дзе Сцяпан быў самы старэйшы.

За тры гады Сцяпан асвоіўся на рабоце, упадабаў яе, стаў завочнікам заатэхнічнага інстытута, улетку, пасвячы авечкі, шмат чытаў, і ўжо ўвесь калгас любіў і паважаў свайго чабана. Мужнеў Сцяпан, і ў яго паступова развейвалася пачуццё непаўнацэннасці.

Ды і любілі Сцяпана Іванюка не толькі за добрую работу. Любілі яго яшчэ і за песні, за прыгожы голас, чым славіліся ўсе Іванюкі. Гаварылі, што ў Сцяпанавага дзеда была вялікая сям'я, і як выйдуць, бывала, жаць жыта на свой вузенькі загон ды заспяваюць «Што і на нашых палях ураджаю няма», дык усе жнеі пакладуць сярпы і пра работу забудуць. Вось і атрымаў у спадчыну Сцяпан такі голас і развіў яго ў шырокім калгасным стэпе ля атары.

Такі быў, такі і цяпер наш Сцяпан Іванюк, калгасны чабан.

## V

Сцяпан узімку актыўна наведваў клуб, бо быў членам яго праўлення і старастай гуртка мастацкай самадзейнасці. Але вось работа гэтага гуртка пачала кульгаць куды больш, чым стараста, бо загадчык клуба, ён жа і ўмелы кіраўнік самадзейнасці, паехаў на тры месяцы на курсы. Настаўніцкі калектыў даручыў гэтую работу Надзеі Пятроўне. Так двойчы на тыдзень і сустракаліся ў клубе настаўніца і чабан, і песня чым далей, тым больш яднала Сцяпана і Надзею. Але яны былі сябрамі і толькі, бо Сцяпан і не мог думаць пра большае, для яго Надзея здавалася вячэрняю зоркай — прыгожай, але недасягальнай. Куды яму, чабану, да настаўніцы, урачовай дачкі!

Што ж да Надзеі, дык у яе было столькі работы ў школе, у брыгадзе, дзе працавала агітатарам, дома, што думаць пра каханне неяк не было і часу. А тое невялікае месца ў яе сэрцы, што заставалася вольным ад усякай работы, намагаўся заняць Аляксей Іванавіч. Ён праводзіў дзяўчыну дамоў з клуба, грэў яе рукі, расказваў усялякія смешныя гісторыі з часоў свайго ўніверсітэцкага навучання. Усё гэта падабалася Надзеі, і яна ахвотна слухала свайго завуча, не ведаючы, што пільныя вучні ўжо называюць іх «жаніх і нявеста». Не падабалася Надзеі толькі адно. Аляксей Іванавіч не любіў Міхайлаўкі, быў абыякавы да жыцця людзей сяла і гаварыў, што рана ці позна вернецца ў абласны цэнтр, дзе ў бацькі цудоўная кватэра. А работа там знойдзецца, вось толькі б вырвацца з сяла.

Калі Аляксея Іванавіча не было, Надзея ішла дамоў адна. Яна вырасла ў раённым цэнтры, які мала чым адрозніваецца ад Міхайлаўкі, і таму не баялася ўночы хадзіць па сяле. Але неяк, пачуўшы недалёка ад клуба нейчыя п'яныя галасы, Надзея Пятроўна папрасіла Сцяпана правесці яе дамоў.

— Ахвотна, — сказаў хлопец, і сам здзівіўся сваёй смеласці.

Мяккі сакавіцкі снег скрыпеў пад іх роўнымі крокамі. Сцяпан больш маўчаў, а Надзея расказвала юнаку пра Кіеў, дзе яна нядаўна была на сесіі завочнікаў.

— А я ў Харкаве вучуся, — засмучона сказаў Сцяпан. — Усё ў мяне добра выходзіць, а вось англійскую мову ніяк не ўгрызу самастойна. Вывучыў толькі адно «гуд бай» ды і то забываю, ці гэта «дзень добры», ці «бывайце». Добра, што мае авечкі нічога не разумеюць. У іх на ўсё адзін адказ: «бэ».

Надзея ўсміхнулася сама сабе, прыгадаўшы і свой казус, а Сцяпану сказала:

— Вы прыходзьце да мяне кожную сераду, у гэты дзень я рыхтую заўсёды англійскую мову, паўтараю. Памагу і вам.

З таго часу раз на тыдзень, а то і часцей, Сцяпан бываў на кватэры ў Надзеі Пятроўны. Яго разумныя, глыбокія вочы ззялі шчасцем, яго вуха ўлоўлівала нюансы складаных англійскіх гукаў. А на развітанне ён браў гітару і пад яе акампанемент спяваў Надзеі народныя песні.

— Чаму ты вучышся не ў музычнай школе?—спытала неяк Надзея. (Яна называла ўжо свайго вучня на «ты».)

— Так выйшла. Ніхто раней не параіў, а цяпер і гэтую справу палюбіў. Мне здаецца, што сапраўдны чабан павінен мець вышэйшую адукацыю.

— Натуральна, — згадзілася Надзея. — Усё ідзе да таго, што ўсім трэба будзе мець вышэйшую асвету.

— А вось сына свайго буду вучыць на музыку.



— Хіба ў цябе ёсць сын?

— Няма. Але будзе.

— Збіраешся жаніцца? Хто ж твая дзяўчына?

— У тым і справа, што яе яшчэ няма, — задуменна сказаў юнак і пачаў збірацца дамоў.

Дачка кватэрнай гаспадыні хадзіла ў шосты клас. З гэтых заняткаў маладых людзей яна зрабіла свой вывад і раструбіла яго ў школе.

— Наша англічанка выйдзе замуж не за Аляксея Іванавіча, а за Байрана. Усё на гітары граюць ды спяваюць і нешта нават пра дзяцей гаварылі.

Гэта сенсацыя абляцела ўсё сяло. Пачуў гэта і Аляксей Іванавіч. Праводзячы неяк Надзею, спытаў:

— Кажуць, вы кагосьці ў сябе прыймаеце па вечарах.

— Не кагосьці, а самога Байрана.

— Што гэта за смех з вялікага паэта. Нейкага чабана называюць Байранам... Не, гэта можа быць толькі ў такім сяле, як наша цёмная Міхайлаўка.

— Мне здаецца, што Байран быў іншай думкі аб простых людзях. А потым гэта ж — талент. Вялікі паэт не пакрыўдзіўся б.

— Вы, бачу, захапіліся чабаном.

Надзея нічога не адказала. Ды і што сказаць? Нябось, песня Сцяпана, яго чуб, вочы, натура падабаліся дзяўчыне. Але гэта яшчэ не было каханне. Часам падабаўся ёй і Аляксей Іванавіч — ён такі адукаваны, марыць пра аспірантуру, прыгожа апрануты, уважлівы, памагае ёй. Але і яго яна яшчэ не кахала.

А ў сэрцы Аляксея Іванавіча заварушыўся клубочак зайздрасці. Заварушыўся ды і знік: хіба ж яму, завучу, чалавеку з універсітэцкім значком, можа быць сапернікам нейкі чабан? Ды ад яго, мабыць, заўсёды авечкамі нясе. І Аляксей Іванавіч узяў Надзеіну руку ў сваю, пацiснуў яе, потым дакрануўся да яе губамі і сказаў жартаўлівым тонам:

— Ваш рыцар не раўнівы і верны. Ён носіць у сэрцы надзею, што Надзея, урэшце, ацэніць гэты яго рыцарскі характар.

## VI

Гэты рыцарскі характар Аляксею Іванавічу давялося неўзабаве выявіць поўнасцю. У суботу, калі паказвалі кінакарціну для школы, у клубе дзяжурыла Надзея Пятроўна. Перад самым канцом кінафільма ў залу ўварваліся два п'яныя хлопцы з суседняга сяла і ўзнялі шум. Кінамеханік перапыніў круціць фільм. У зале запалілася святло. Надзея Пятроўна з чырвонай павязкай на рукаве падышла да п'яных.

— Прашу пакінуць залу.

— Хе! Каб я куды пайшоў, калі тут дзяжураць такія красуні, — адказаў здаравяка з нахабнымі чырвонымі вачыма.

— Кінамеханік, не выключай святло! Хочам лепш дзяжурную разгледзець,— крыкнуў другі, трохі меншы, але таксама дужы хлопец.

Во сюды і падбег Аляксей Іванавіч.

— Хлопцы, прашу вас пакінуць залу па-харошаму.

— Падумаеш, герой знайшоўся...

— Мы не твае вучні.

А вучні пазрываліся ўжо з месц і з шумам і гоманам ціснуліся да дзвярэй. Ім цікава было глянуць: можа, бойка будзе. Аляксей Іванавіч паклікаў дзесяцікласнікаў.

— Хлопцы, трэба вывесці з залы гэтых хуліганаў.

Дзесяцікласнікі толькі і чакалі дазволу. Яны сцяной навaліліся на п'яніц, выштурхалі іх з клуба. Пятро Дарашчук, які меў моцныя кулакі, ціхенька, але добра штурхнуў аднаго і другога буяна пад бакі. Убачыўшы такую вялікую сілу перад сабой, хуліганы прыціхлі, а потым пайшлі кудысьці ад клуба. Кінакарціна прадаўжалася, і ў цемры залы Аляксей Іванавіч узяў Надзеіну руку ў сваю далонь. Надзя не супраціўлялася.

Пасля дзіцячага сеанса ў клуб сабралася моладзь. Як заўсёды ў суботу, пачаліся танцы. Пазней за ўсіх з'явіўся Сцяпан. Ён пабываў ужо ў полі, і яго прыгожы твар, абвеяны веснавымі вятрамі, памужнеў. Чабан сядзеў ціха ў кутку і толькі глядзеў, як танцавала моладзь. Задумёны, ён не заўважаў, што на яго кідаюць свае позіркі найпрыгажэйшыя дзяўчаты сяла. Сам жа юнак спадцішка любаваўся Надзеяй, якая таксама не танцавала і стаяла побач з Аляксеем Іванавічам.

Але вось на танцы зноў прыйшлі тыя два хуліганы, яны ўжо трохі працвярэзелі. Убачыўшы камсамольцаў з чырвонымі павязкамі, яны прыціхлі і нават намагаліся спакойна патанцаваць. Сцяпан убачыў, як здаравяка падышоў да Надзеі і сказаў:

— У знак прымірэння запрашаю на танец.

Надзея нічога не адказала і разам з Аляксеем Іванавічам выйшла з клуба. Тады здаравяка адвёў свайго таварыша ў куток і зашаптаў:

— Вось таго інтэлігента трэба зараз жа правучыць. Лепшага выпадку не будзе.

Гэтыя словы пачуў Сцяпан. Ён ужо ведаў пра сутычку і таму здагадаўся, аб чым яны дамаўляюцца. Адразу падняўся і пайшоў следам за п'янымі.

Аляксей Іванавіч праводзіў Надзею дамоў. Узяўшы яе пад руку, гаварыў:

— Вось мы будуем камунізм, а хуліганства не меншае. Усё гэта проста пераварочвае мяне. Колькі ж яшчэ год давядзецца займацца ўгаворамі!

— Вы так кажаце, Аляксей Іванавіч, быццам не верыце ў пабудову камунізма.

— Што вы, Надзея! Яшчэ апартуністам мяне назавеце...

У гэты момант іх і спынілі хуліганы ў цёмных прысадах невялічкага парку.

— Ну, інтэлігенцікі, хочам аддаць вам доўг.

— Ды яшчэ і з працэнтамі.

— Дама можа адкупіцца адным пацалункам.

Здаравякова рука ўжо ляжала на плячы Аляксея Іванавіча. Другі хуліган стаяў трохі ззаду, нібы пільнуючы. Аляксей Іванавіч зразумеў небяспеку, што меў сілы штурхнуў здаравяка ў грудзі, крыкнуў: «Надзейка, уцякайце», і сам на ўвесь дух пабег прысадамі ў сяло.

Надзея не паспела сцяміць, куды ёй бегчы і што рабіць, як хуліганы ўжо заступілі ёй дарогу. Здаравяка смяяўся:

— Хе-хе! Кавалер уцёк. Давядзецца вам расплачвацца і за яго і за дзесяцікласнікаў. Бярэм дзешава: па адным пацалунку — і ўсё.

Надзея была не з палахлівых. Нібы жартам, сказала:

— Вы дужа слаўныя хлопцы, і я з задавальненнем выканала б вашу просьбу, ды, на жаль, сёння цыбулю ела.

— Хо-хо, — засмяяўся меншы, — а мы пілі гарэлку, вось і будзе ўсё да ладу.

— Брава, Пеця, — зноў азваўся здаравяка. — Давядзецца пацалаваць сёння, бо паслязаўтра канчаецца наш водпуск. Ды не бойцеся, прыгажуня, я такі, што калі раз пацалуеце — захочацца паўтарыць. Ну, цалуйце...





Гэта ўжо чуў Сцяпан. Абурэнне, гнеў і рэўнасць закіпелі ў яго сэрцы. Ён моцна сціснуў у руцэ кішанёвы ліхтарык, у адно імгненне апынуўся каля здаравякі і з усяго размаху ўдарыў яго ў твар. Той асунуўся на халодную дарожку прысад. Другому Сцяпан даў падножку, а тады, засланіўшы Надзею, рашуча сказаў:

— Хто падыдзе — заб'ю на месцы.

Хуліганы пападымаліся. Здавалася, што яны кінуцца на маладога чабана.

Але той ужо заклаў два пальцы ў рот і свіснуў... Так свістаў хіба толькі Салавей-Разбойнік. Гэтага свісту пужаліся авечкі, а Сцяпанаў памочнік сабака Кардынал чуў яго за пяць кіламетраў. Хуліганы ўраз крутнуліся і на ўвесь дух пабеглі прэч.

— Вось так мае авечкі ўцякаюць ад свісту са шкоды, — засмяяўся Сцяпан, а Надзея Пятроўна ўзяла хлопца пад руку. Цяпер дзяўчыне і сапраўды было смешна з усіх падзей сённяшняга вачара, і яна жартаўліва сказала:

— Што ж, цяпер я павінна б пацалаваць свайго збавіцеля.

Сцяпан, утрапёны, маўчаў.

— Маўчанне — знак згоды, — усміхнулася Надзея і, узняўшыся на пальчыкі, пацалавала хлопца проста ў губы.

Не ведаючы, што рабіць і гаварыць, ён адно толькі і прамовіў:

— А авечкі сёння ўжо добра напасвіліся.

Адчуўшы, што сказаў глупства, ён маўчаў праз усю дарогу, толькі слухаў Надзеін голас, які яму здаваўся гоманам срэбнага струменю. А калі развітаўся ля Надзеінай кватэры, хлопец адчуў у сэрцы такую радасць, што на поўны голас заспяваў:

Ей, степи та поля,
Наш чабаньский світ,
Вам і пісня, й хвала,
І весняний привіт.

Надзея слухала песню, аж пакуль яна не заціхла на другім канцы сяла, а тады, шчаслівa ўздыхнуўшы, сама сабе сказала:

— Харошы мой чабанчык...

У панядзелак, сустрэўшы Аляксея Іванавіча ў школе, Надзея Пятроўна, усміхаючыся, не без іроніі сказала:

— Славутаму рыцару — прывітанне!

— Зразумейце, Надзея Пятроўна, што інакш я не мог. Я ведаў, што вас яны не зачэпяць, а які б я меў выгляд сёння з сінякамі.

— Можа б і кранулі, калі б не Байран. Вот смелы хлопец!

З таго дня рэўнасць не давала спакою Аляксею Іванавічу. Ён то крытыкаваў, то хваліў Надзею за работу, бегаў за другімі дзяўчатамі, каб выклікаць рэўнасць, гаварыў усялякае глупства пра Сцяпана, пра тое, што настаўніцы сустракаюцца абы з кім, толькі б выйсці замуж. Але гэтым ён ніяк не прываблівaў да сябе Надзею. Наадварот, яна старалася не трапляцца на вочы завучу і размаўляла з ім толькі афіцыйна.

Сцяпана ж пасля таго вечара яна не бачыла аж два тыдні. Хлопец быў заняты ў полі ды і наўмысна не хацеў сустракацца. Толькі Першага мая, у час канцэрта, яны зноў сустрэліся. Надзея кіравала хорам, а Сцяпан выступаў з новай песняй. Гэта песня заваражыла ўсіх і развесяліла. У ёй спявалася пра тое, як нейкі малады чабан закахаўся ды баяўся прызнацца аб гэтым дзяўчыне і толькі свайму вернаму сябру Рабчыку расказаў пра ўсё, а той «па-сяброўску» адказаў: Гаў! Гаў!»

Сцяпан выйшаў з клуба. Стаяў пад ясакарам, што шапацеў сваім маладым лісцем. Надзеі захацелася падзякаваць хлопцу, і яна выйшла следам за ім.

— Ці не пра сябе ты спяваў гэту цудоўную песню? Выходзіць, што ты яшчэ і паэт добры.

— Я ж — Байран...— А потым задуменна:

— Нет, я не Байрон, я иной,
Еще неведомый избранник.

Надзеі хацелася ўзяць у рукі яго кучаравую галаву і прытуліць да свайго сэрца. Хто ведае, можа б яна і зрабіла гэта, але раптам пачуўся голас Аляксея Іванавіча:

— А я гэта іду ды і думаю: чаго тут так авечкамі запахла.

Надзея Пятроўна загарэлася:

— Гэта ж нахабства, таварыш Склярскі...

А Сцяпан зусім спакойна заўважыў:

— Гэта ж вы, Аляксей Іванавіч, падобны да майго Кардынала: ён мяне нюхам скрозь знаходзіць.

Сказаў і пайшоў на сцэну, дужы, шыракаплечы. Надзея пайшла за ім. Пад ясакарам застаўся адзін завуч.



* * *

Улетку Сцяпан ездзіў у Харкаў на сесію завочнікаў, а Надзея — у Кіеў. Пра гэта ў сяле гаварылі, што яны ездзілі некуды разам. Калі ж пачаўся новы навучальны год і Аляксей Іванавіч стаў яшчэ больш крытыкаваць урокі Надзеі Пятроўны, а чабан ужо не толькі кожную сераду хадзіў да настаўніцы з падручнікам англійскай мовы — дык у сяле і парашылі:

— Чабан жэніцца з настаўніцай.

Яно, мабыць, так і будзе, але для гэтага нашым чытачам давядзецца яшчэ пачакаць з год, а можа і менш. Гэта залежыць ад таго, калі калгасныя цесляры закончаць будаваць новы дом знатнаму чабану Сцяпану Іванюку, які не збіраецца кідаць сваю работу і тады, калі здасць дзяржаўныя экзамены ў заатэхнічным інстытуце.

Пераклаў з украінскай мовы **У. ЮРЭВІЧ**.



Барыс **АЛЕЙНІК**

# СТО ТРЫНАЦЦАТЫ ПОЛК

**Балада**

Дванаццаць начэй і дванаццаць дзён
Свет у агні невідзён.
Наказ быў, нібы гартаваны метал,
Наказ аддаваў генерал:
— Адыходзім на ўсход... — на хвіліну замоўк, —
Прыкрые нас... сто трынаццаты полк.
Трымацца, пакуль я не дам сігнал! —
Строга сказаў генерал...
Дванаццаць дзён і дванаццаць начэй
Ніхто не паслабіў плячэй.
На штык нанізаўся трынаццаты дзень,—
Ад куль і снарадаў не дзецца нідзе.
Уперадзе — вораг, а ззаду — рака.
Паранены ў грудзі ляжыць кампалка.
Зямля ад гарматнага гулу дрыжыць.
І раптам — ракета у небе гарыць.
— Нам час адыходзіць, — палкоўнік сказаў.
Ад гора набегла іскрынка-сляза.
— Пятроў, — закружылася неба ўгары, —
Наш сцяг... у мяне забяры.
На ўсход да сваіх прабівайся ты скрозь,
А мы кулямётам прыкрыем вас...
«Ёсць!»
... Бяжыць да ракі, расхінае чарот,
А ззаду раптоўна замоўк кулямёт.
Фашысты шалеюць: «Здавайся ў палон!»
А ў дыску застаўся апошні патрон.
Рака, выручай, данясі да сваіх!
А кулі варожыя, нібы раі.
Наперадзе бераг: трывогам канец,



Ды ў плечы асою — гарачы свінец.
Не слухаюць ногі, нямее рука,
Наўкола чырвонаю стала рака.
Ён бераг адчуў і ступіў яшчэ крок
І тварам упаў на халодны пясок...
... Над ім нахіліўся стары ў сівізне:
«Сыночку мой, сынку! Жывы ты ці не?»
— Наш сцяг... — прахрыпеў перад смерцю Пятроў,
Рвануў гімнасцёрку — кроў...

... Нямала сцякло з таго часу вады.
Байцы маладыя раўняюць рады.
Прысягу на вернасць Айчыне сваёй
Даюць яны сэрцам, юначай душой.
А марш урачысты калыша прасцяг.
Выносяць на плошчу раскрылены сцяг.
Раўненне трымай на паранены шоўк,
Жывы сто трынаццаты полк!

Пераклаў з украінскай мовы
**У. Паўлаў.**



**Яўген ГУЦАЛА**

# ГАРДЗЕЙ

**Апавяданне**

Мал. І. Краўчанкі.

Тады я працаваў загадчыкам аднаго з аддзелаў рэдакцыі ў невялікім раённым мястэчку на поўдні Данбаса. У нас заўсёды не хапала людзей, і работы было шмат. Кожны дзень праходзіў у раз'ездах, вечары заставалі ў полі, у трактарнай брыгадзе або дзе-небудзь на кашары.

Транспарт быў які? Бяжыш раніцаю да выканаўчага камітэта (тут жа размяшчалася і сельгасінспекцыя) і ловіш бухгалтара, які прыехаў сюды па справах, або агранома, якога выклікалі, каб намыліць шыю. Першы і другі ездзілі пераважна на «бобіках». На «масквічах» важна пакалыхваліся толькі старшыні калгасаў, але брацьа прадстаўніка газеты да сябе яны згаджаліся не часта: то, бачыце, трэба заскочыць у Святагораўку да млына, то ў Мярцалава заглянуць на элеватар. Відавочна, тут мела не малое значэнне іхняя непрыязь да карэспандэнцкага племені.

Быў у нас новенькі матацыкл «К-750», але ён як бы знаходзіўся ў персанальным уладанні рэдактара. А ён як не штодзень сядзеў у саўгасе, куды быў прызначаны ўпаўнаважаным. Праўда, са сваіх паездак ён не прывозіў ні аднаго радка, разважаючы, мусіць, што супрацоўнікі справуляюцца і самі нядрэнна...

А нам было вельмі цяжка.

Аднаго разу мяне ўсё ж такі ў калгас падкінуў сам старшыня. Ён запытаўся, хто я, куды еду — адчыніў перада мною дзверцы, а потым і зачыніў іх.

Гэта быў вельмі непрыгожы чалавек. Галава вялікая з кудлатай прычоскай. Скулы выпіралі ўперад, нібы хацелі праткнуць жоўтую, васпаватую скуру. Бровы апускаліся двума карнізамі, а пад імі хаваліся маленькія светлыя вочы. Відаць, прырода сумысля аднаму дае багата прыгажосці, а ў другога — без жалю адбірае.

Звалі яго Гардзеем Сцяпанавічам, і ў яго калгасе тады я быў упершыню. Бегаў па гаспадарцы, заглянуў у адну брыгаду, у другую, гаварыў з даяркамі, разам з камбайнерам плыў па шырокім пшанічным моры... Увечары я прыйшоў у праўленне, каб пашукаць, на чым дабрацца да раёна. Сядзеў у канторы, слухаў, як ляскае костачкамі на лічыльніках маладая жанчына. У яе не было нагі (у сорак шостым наступіла на нямецкую міну), і цяпер ёй нічога не заставалася, як сядзець у канторы.

Гардзей Сцяпанавіч даваў нарады. Да кожнага яго слова прыслухоўваліся, і я бачыў, што старшыню паважаюць.

— Мусіць, пераначуеце ў мяне, — сказаў старшыня. — А ранічкаю паедзеце ў раён. Якраз павінна машына ісці.

Я згадзіўся. Недзе гадзін у дванаццаць мы выйшлі з канторы і пайшлі цёмнай вуліцай. Гардзей Сцяпанавіч усё маўчаў, толькі адзін раз папярэдзіў мяне:

— Тут веснавая вада раўчук прамыла, дык вы асцярожна...

Ён жыў ля сажалкі. Хата яго стаяла сярод ціхіх хмурых таполяў. З берага далятала крумканне жаб. Млечны Шлях зорамі ўпаў на дно, і здавалася, што па ім можна праехаць з грабаркаю.

Мы пераступілі парог хаты. Я акінуў вокам простую абстаноўку. Прасторны пакой, а ў ім: стол, два ложкі, этажэрка з кнігамі, крэслы, камод. На сценах партрэты рэвалюцыйных дзеячоў, Шаўчэнкі, Леантовіча.

І зноўку я выразна ўбачыў непрыгожыя рысы старшынёвага твару і падумаў: халасцякуе. А ўжо яму год пад пяцьдзесят. Чамусьці закралася думка, што мала ён бачыў шчасця, а болей гора.

Гардзей Сцяпанавіч дастаў з шафы колца каўбасы, нарэзаў тупым нажом свежага чорнага хлеба, моўчкі пачалі есці.

Аднекуль выйшла вялікая паласатая кошка, замурлыкала, тручыся ля маіх ног.

Гардзей Сцяпанавіч кінуў ёй каўбасы, сказаў:

— Сёння нікога не было дома, дык прагаладалася.

Я наважыўся запытацца:

— Вы не адзін?

— Ды не, сына маю. — Нейкі час елі моўчкі. Потым ён сказаў: — Давайце лепей па сто грамаў вып'ем, каб у роце не дзёрла.

Дастаў пляшку слівянкі, і мы выпілі.

— Сын у мяне ёсць, — пасля паўзы сказаў старшыня. — Трактарыстам у нашым калгасе працуе.

— А жонка не працуе.

Ён нехаця адказаў:

— Забіў я сваю жонку.

Я здзіўлена глянуў на яго, але прамаўчаў.

Гардзей Сцяпанавіч усміхнуўся:

— Думаеце, забойца перад вамі. На вяроўку яго, і як мага хутчэй...
Ён запаліў цыгарку. Попел асцярожна збіў аб ножку крэсла, і на яе лакавай паверхні зацямнела чорная малая плямка.
— Раскажу, можа спатрэбіцца мая гісторыя ў вашай газетнай рабоце. Толькі давайце на двор выйдзем. Там паветра свяжэйшае.
Мы выйшлі пад зоры начнога неба.
— Чуеце, за нашай сажалкай, што Белым возерам завецца, трактар гудзе? Гэта мой сын, Іван, працуе. Неўзабаве васемнаццаць гадоў яму. Камсамолец. Тры гады ў вячэрняй школе вучыўся, а цяпер у сельскагаспадарчую акадэмію дакументы паслаў. Мусіць, прыймуць, бо варты ён, што тут казаць...
А жонкі ў мяне няма. Была калісьці.
У нашай вёсцы — у Палогіх Варгунах — да вайны ведалі добра дзяўчыну Галіну Пяршачку. Бацьку яе нашы дзядзькі ў дваццатым годзе забілі. За зямлю, звычайна. Меў ён яе да ліха і зубамі чапляўся за дабро. Галіна маці нідзе не працавала, а дзяўчына — то на цукровым заводзе ўзімку, то ў полі. Падабалася Галіна мне, але я да яе і не заглядваў. І наогул, ні да кога ніколі не заляцаўся. Займаўся сваімі грамадскімі справамі, сельсаветам кіраваў.
Тут вайна. Мне ў райкоме партыі кажуць: у Слабажанскім лесе арганізаваўся партызанскі атрад. Кіруй.
І кіраваў. Немцы ад нас спачынку не мелі. Здраднікі, паліцаі ўсялякія — таксама.
Атрад у нас быў невялікі, але ў кожнай навакольнай вёсцы дзядзька ці цётка, маладая дзяўчына — таксама былі нашы найлепшыя памочнікі.
Неяк прыводзяць да мяне ў зямлянку дзяўчынку. Кажуць, у лесе спаткалі. Я падымаю галаву ад карты, бачу: Галіна стаіць перада мною.
— Як ты сюды трапіла? — пытаюся.
А яна адказвае:
— Хачу партызанкай быць.
Спачатку спалохалася была яна, а калі ўгледзела, што вакол знаёмыя людзі і я — камандзір, усміхацца стала.
— Ты ведаеш,— кажу, — што жанчын мы не бярэм.
— А вы вазьміце мяне, нібы я хлопец.
Бачу, хлопцы ўжо ўсміхаюцца, і сэрца маё памякчэла.
— Як жа мы цябе зваць будзем, калі ты Галя?
— Хоць Сідарам завіце.
Узялі яе ў атрад. Выкапалі для яе зямлянку, і я сваім сказаў: «Каб ніякіх вольнасцей не было. На пасля вайны адкладзіце, калі ворага выганім».
Спачатку наш Сідар мыў партызанам бялізну, есці гатаваў. А потым неяк звяртаецца да мяне:
— Пасылайце ў разведку. Я таксама магу па вёсках хадзіць і розныя звесткі прыносіць.
Паслаў раз, другі, — як бы спраўляецца і з заданнямі. Яшчэ раз даверылі.
І на той час пачалося між намі каханне. Была мне Галіна за жонку, а я ёй за мужа быў. Стаў я яе менш на заданні пасылаць: яшчэ заваліцца. Ды і сапраўды, пачаліся тады ў нас правалы. То, глядзім, аднаго добрага, вернага чалавека забралі ў Слабажанах, то ў нашых Палогіх Варгунах павесілі дзвюх камсамолак.
Памятаю, адбылася між намі такая размова:
— Гардзей,— кажа яна,— чаго ты мяне ў зямлянцы трымаеш, нікуды на заданні не пасылаеш?
— Рызыкаваць не хачу табою.





— Беражэш?
— Берагу.
— А што людзі скажуць, ты падумаў?
— Людзі ўсё зразумеюць.
— Ой, глядзі, Гардзей, людзі скажуць, што ты іх пад кулю вядзеш, а сваю Галіну за іхнія спіны схаваў. Я не хачу, каб так было.
І зноў пачала яна хадзіць, куды трэба.
Зіму мы перазімавалі, а вясною баявыя справы пайшлі яшчэ гучнейшыя. Палілі склады са збожжам, падрывалі чыгуначнае палатно, цягнікі ляцелі пад адхон...
Тады і нарадзіла мне жонка Івана, сына. Вайна навокал, смерць, а ў мяне сын. Я гляджу на яго і вачам сваім не веру: мой!
Не дазваляў я ёй адлучацца з атрада — вельмі баяўся. Цяпер у нас была сям'я, трэба было і за Івана турбавацца. А тут яшчэ атрад з кожным днём меншае. То адзін пайшоў — і не вярнуўся, нібы ў ваду кануў. Другі пайшоў — натрапіў на засаду, а трэці, выпадкова ці не выпадкова, на кулю напароўся.
Неяк, калі пайшла Галіна ў Слабажаны, прыбягае ў атрад наша падпольшчыца Вера Якавец. Яна ў нямецкай камендатуры працавала, і тое, што расказала мне настаўніца, — а яна да вайны настаўніцаю была, — мяне зусім збіла з панталыку.
Калі вярнулася пад вечар Галіна, я ўзяў аўтамат і сказаў ёй:
— Хадзем у лес.
Я наперадзе іду, яна — за мною.
Лета якраз было. Лес ціхі, спакойны. Сонца чырвонае хілілася на захад. Спыніліся мы на паляне. Маўчу я. А яна пытае:
— Ты нешта мне хацеў сказаць?
У мяне рот не раскрываецца.
А ў вачах яе, паглядзеў, трывога. І пытае мяне са спачуваннем:
— Што здарылася?
— Так, здарылася, — сказаў я. — Расказвай мне, па чыйму заданню ты прыйшла ў атрад, як выдавала падпольшчыкаў, як арганізоўвала на партызан засады і нашы людзі гінулі?



Бачу, як пабялеў яе прыгожы твар, як у вачах заблісхалі агеньчыкі страху. Зразумела яна, што ўсё пра яе ведаю, што надышоў час расплаты. Кажа:
— Данеслі табе?
— Адказвай, — кажу.
Голас у яе сарваўся:
— Мала яшчэ я зрабіла, мала яшчэ вас павыдавала...
І такою нянавісцю гарыць яе твар, нібы спаліць яна хоча і мяне, і лес навокал, і свет увесь.
Упала на зямлю, закалацілася.

— Усіх такіх, як ты, — крычыць, — хацела б я задушыць. Гэта ж вы майго бацьку са свету звялі, забралі ў нашай сям'і зямлю і волю. Галота! Жабракі! Усё сваё жыццё я ненавідзела вас, а цябе найболей.

— Кулацкі вырадак ты, — кажу. — Да цябе людзі з дабром, а ты фашыстам прадалася. Зараз смерць твая будзе.

І падымаю аўтамат.

А яна нібы і не спалохалася. Заціхла. Ляжыць на траве і пільна, пільна сочыць за мною.

— Стой, — кажа, — я табе сказаць штось хачу.

— Кажы!

— Іван не твой сын. — І ўсміхаецца. І твар у яе гарыць, прыгожы, як і заўсёды. — Гэта я яго з паліцаямі прыгуляла.

— Брэшаш!

Яна стала на калені, зямлю пацалавала.

— Вось бачыш, не брашу. Я табе кажу, каб цябе заўсёды гэтыя словы мучылі і грызлі.

— Ты няпраўду сказала!

— Не, праўду, праўду!

Стрэліў я. Яшчэ раз націснуў курок, яшчэ...

Таварышы прыбеглі.

— Што ты зрабіў? — пытаюцца.

— Забіў яе, яна фашыстам служыла.

Пайшоў у зямлянку, дастаў з калыскі Івана, гляджу на яго. Малы такі, ручаняты працягвае, нібы і не падобны на мяне і на яе... Таксама хацеў забіць. Ды падумаў: у чым яго віна? Што ён зрабіў такое? Хай жыве, а пра матку сваю, пра бацьку свайго ніколі не ведае...

Гардзей Сцяпанавіч разоў колькі прыпальваў ад сярнічкі цыгарку, якая тухла, і цяпер у начной цемрадзі перада мною маленькаю залатою кропкаю бліснчэў ясны агеньчык.

Я маўчу, маўчыць і мой субяседнік.

У небе Вялікая Мядзведзіца апусціла чарпак на самае Белае возера, нібы хоча зачэрпнуць з яго вады. З поля далятае рокат трактара. Ён то сціхае на момант, то зноў парушае цішыню сваім настырным гурчаннем.

Гардзей Сцяпанавіч кажа:

— Сын мой арэ...

Пераклаў з украінскай мовы **Б. САЧАНКА.**



Любоў **ЗАБАШТА**

# ЖЫВЫМ ДЖЫАКОНДАМ

Я страчала не раз Монну Лізу, —
Неўміручую гэту красу, —
За сялом і у стэпе, ля лесу
Яе ногі збівалі расу.

Яе рукі спачынку не мелі,
Падымалі яны цаліну,
І даілі кароў у арцелі,
І трымалі вінтоўку ў вайну.

У Парыжы хтось каменем
мяціў
Ў Джыаконду, святыню красы,
І газеты крычалі ўвесь месяц,
Гаманілі на ўсе галасы!

Кажуць, сочаць у Луўры, каб
болей
У яе на прыгожых шчаках
Не было ні маршчын, ні
расколін
На яе непаўторных руках.

Я пабачыла раз Монну Лізу,
Што рыдала ад горкіх абраз,
І таго грубіяна-бамбізу,
Што, на жаль, яшчэ ходзіць між нас.

І падумала — нават слязіна
Ёй пакіне на твары сляды,
Так найлепшая гэта карціна
Ад людское псуецца бяды.

Калі ты абражаеш жанчыну,
Хто б ні быў ты, — каваль ці
паэт, —
Знай, ты кідаеш камень
ў адзіны
Джыяконды жывое партрэт.

Калі сам ты сядзіш у канторы,
А дзяўчаты згружаюць мяшкі,
Монна Ліза у раме гаворыць:
— Памажы несці груз ім
цяжкі!

Не прыехаў да маці ты
ў госці, —
Джыяконда сумуе адна,
І няма ўжо ў касе прыгажосці,
Прабіваецца ў ёй сівізна.

Калі маці старая здалёку
Носіць вёдры з вадой ад ракі,
А сыны толькі дзівяцца збоку
І гуляюць сабе ў гарадкі, —

Гэта, ведайце, камень у душу
Джыяконды кідаеце вы,
Як шкада, што пісаці я мушу
Пра твае, Джыяконда, правы.

Мабыць, лепш за мяне 'шчэ
мужчыны
Знаюць самі жыццёвы сакрэт,
Што рабіць, каб збярогся
адзіны
Джыяконды жывое партрэт!

Пераклаў з украінскай мовы
**М. Аўрамчык.**



**Майя ФІДЧУНОВА**

# УНУКІ

**Апавяданне**

Мал. А. Бараноўскага.

Парк Шаўчэнкі...

На крутым беразе — алеі бэзу, газоны махровых руж, фантаны, эстрада.

Але найбольшая прыгажосць парку — не ў ім, а за ім. Вы глядзелі калі-небудзь з яго самага высокага ўзгорка ўніз? Э, паглядзіце. Вось гэта хараство!

...Дзесьці ўнізе, проста пад вамі, пляскоча Дняпро, горнецца да стромкага камяністага берага, гамоніць пра нешта сваё з чаўнамі на прычале: хлюп-хлюп....

У нашым горадзе ён славіцца астравамі. Шэўскі, Зялёны, астравы Дзявочай мары і Першага кахання, — якіх толькі ласкавых назваў не прыдумалі гаражане! Але самая зайздросная слава Камсамольскага вострава.

Не ведаю, за што і я люблю найбольш яго. Хіба за халадок у засені ніцых верб? Ці за ажурны мост, што лёгкаю вясёлкаю павіс над

Дняпром, злучаючы востраў з паркам? А можа за тое, што пад саменькім бокам гаманлівага свету можна загараць на пяску пад пякучым паўдзённым сонцам?

Мусіць, за ўсё патроху. А найбольш за тое, што...

Не, ні аднаго разу не было такога, каб, заглянуўшы на Камсамольскі, я не адведала яго.

Ды паглядзіце і вы — ён відаць і адсюль, з парку. Бачыце, якая ў яго моцная пастава, якія крутыя плечы, які разумны лоб? Бачыце, як лашчацца да яго ног ім жа апетыя дняпроўскія хвалі?

Я заўсёды ахвотна іду ў гэты зацішны куточак вострава і, яшчэ здалёку ўбачыўшы яго, шапчу:

— Дзень добры, Кабзар!

Азіраюся навокал і радуюся за яго, бо адсюль яму відаць усё: і Дняпро, і кручы, і аж па той бок шырокі стэп...

І хаця глядзіць ён кудысьці ў далячынь суровым задумлівым позіркам, я добра ведаю: ён усё роўна бачыць і мяне, ён заўжды спадзяецца на мяне.

З даччынай адданасцю гляджу на яго, бо мы даўно, вельмі даўно, сябры, бо колькі я памятаю сябе — гэтулькі ведаю і яго, бо ў нас з ім ёсць свая харошая, светлая таямніца.

Я ганаруся ім, няўрымслівым праўдалюбам, глыбокім філосафам, нястомным барацьбітом за долю бяздольных. Жанчына, я цешуся нашай таямніцай, як дзіця.

Гэтак бывае заўсёды: ён стаіць у задуме над астравамі — Тытан, Розум, Дабро і Боль, а я сяджу на сходках п'едэсталу, і мы ўдваіх глядзім у даліну, і нам абаім гэтак добра.

Кожны з нас бачыць штосьці сваё, але думаем мы ў гэтую хвіліну пра адно: пра нашу таямніцу.

— Ну, паўтарай за мною, унучка: «Отча наш, іжа ясі на небясі, ды свяціцца імя тваё...».

Мы з бабуляю на гародзе абіраем паслён, яго сёлета ўрадзіла — чорна. Я, шасцігадовая дзяўчынка, люблю паслён і люблю сваю бабулю, бо яна заўсёды расказвае цікавыя гісторыі і заўсёды частуе мяне чымнебудзь смачненькім: ці маленькі драбок цукру дасць, ці ўвальё ў спадачак густога кавуновага бекмезу, а ўвосень і ўзімку частуе сушаным паслёнам. Што гэта за ласункі — сушаны паслён! Бабуля таксама яго заўсёды не нахваліць, толькі аднаго разу, праўда, прагаварылася, што ёсць на свеце кішміш ды разынкі, і яны, кажуць, смачнейшыя.

А я, папраўдзе, не веру ў кішміш і разынкі, ці ёсць яны і ці сапраўды яны смачнейшыя. Бо вось жа бабуля верыць у бога, а маці мая і дзядуля смяюцца: ды нямашака ніякага бога. Гэта ўсё байкі і выдумкі, кажуць. Тады бабуля пачынае нязлосна лаяцца: дзядулю называе «анціхрыстам» і ерэтыкам, маму дакарае, што адзінае дзіця (гэта значыць мяне) ахрысцілі не ў царкве, а — во сорам! — са сваім Валодзькам наладзілі нейкія камсамольскія хрэсьбіны.

Я ў думках абіраю на галінках паслён і бачу, што бабуля чакае мяне.

— Ну. «Отча наш, іжа ясі на небясі...»

Усё ж бабуля ўжо навучыла мяне адной малітве — вячэрняю назвала яе, і такая мне яна любая і мілая, а гэтай я ніяк не запомню, і таму мне трошкі сорамна.



— «Отча наш... іжа ясі...» — паўтараю я, і малітва гэтая такая ж незразумелая мне, як і пачутае надоечы на вуліцы:

> Аднака па двака,
> Па трэці рытэці,
> Па пяці чакаці,
> Чаканец — рубанец,
> Струбцы — нажыцы...

Я прыгадваю гэтую бязглуздую вулічную лічылку, забываю бабуліна «іжа ясі» і задуменна пытаю:

— А што такое «па трэці рытэці»?

Бабуля, хоць яна ўжо і старая-старая, не можа растлумачыць такой мудрасці, бо яна ж зусім непісьменная. Добра, што хоць гэты лікбез адкрылі і яна на старасці год прозвішча сваё навучылася выводзіць. А раней, атрымліваючы грошы за падзёншчыну, супраць свайго прозвішча ставіла крыжык.

Бабуля пакідае бога ў спакоі і пачынае пра зразумелае мне: пра сябе ды дзядулю Епіфана.

... І навошта ёй тая запозненая навука: і яна, і дзед, старыя таптуны, не працуюць. Яна так-сяк яшчэ ля дому завіхаецца, а старога ўсё ў порт цягне: трыццаць тры гады працаваў ён грузчыкам, мяхі яму спіну сагнулі, ногі пакрывілі. А змаладу дужы быў мужчына, лёгка і бягом насіў шасціпудовыя мяхі на баржу. А калі аднаго разу ногі адмовіліся службу служыць, зразумеў Епіфан: прыйшла старасць. І заплакаў, падняў вочы ў неба: «Божа... памажы!» Не памог бог, а можа, забыўся на раба свайго Епіфана, хто ведае. А толькі не даравалў богу гэтага дзядуля. Забыўся дарогу ў царкву, ды ўсё ў порт збочвае: там усе свае, а дзе сябры — там і чарка.

— Мне крыўдна, — уздыхае бабуля. — Як гэта няма бога? З ім ўсё жыццё!.. З богам нараджаліся, з богам і паміралі...

І бабуля жадала аднаго: навучыць мяне малітвам і выхаваць з мяне супольніка супраць «анціхрыста» і «галадранцаў-камсамольцаў»...

Наша вядро поўна паслёну, так што з кубачкаў і высыпаць ужо няма куды. Мы ідзём на падворак і, абмінаючы зялёныя кружалкі калючых ваўчкоў на сцяжынцы, я натапырваю вуха, прыслухоўваючыся да бабулі.

— Без малітвы беднаму ніяк нельга, унучка, — бярэ яна вядро ў другую руку. — Ці хто занядужае ў сям'і, ці куцаня прысніцца табе ўночы, — памянеш бога, перакажаш малітву, і падужэе нядужы, і знікне куцаня.

Я ведаю: «куцаня» — гэта нячысцік. У бабулі з ім асаблівыя рахункі. Каб не ўгнявіць яго ці не прынадзіць да свайго селішча, яна ніколі не называе яго імя: гэта надта злуе нячысціка і тады ўночы ён можа выкінуць бог ведае што — вылезе адкуль з запечка ці ў цёмных сенцах перацягне па спіне вілачнікам. Таму бабуля заўсёды яго называе «куцак», «куцаня», «ляўша», «нячысцік». Я ведаю, што бабуля баіцца болей за ўсё ў жыцці дзвюх рэчаў: «куцаняці» і беднасці. Супраць першай у яе заклінанне: «Ва імя айца і сына і святога духу — амінь! Цьфу! Цьфу! Нячысцік, згінь!» Супраць беднасці — моцныя, з раздутымі венамі рукі і маленькая хітрасць: падаючы на стол, заўсёды падлічыць лыжкі і міскі. Іншы раз, прабегшы вачыма па стале, бабуля ўсплясне рукамі і зашэпча: «О, божа — лішняя. Яшчэ прынясе ліха каго чужога за стол...» І прымхліва глянуўшы на дзверы, нібы там і сапраўды ўжо стаіць нечаканы госць, хуценька хавае лішнюю лыжку ў кішэню сваёй шырокай, у сем полак, спадніцы.

І яшчэ адна хітрасць была ў бабулі: возьме дый спячэ глёўкі, перакіслы хлеб, і тады дзядуля злуецца: «Ну і паганы хлеб ты спякла, Ганна! Гэта ж — гляўкаш глеўкашом». «Што ты вярзеш бязбожнік? Хіба можна святы хлеб паганым называць? — жахаецца бабуля і адразу на дзеда: — Колькі вучу: не кажы «паганы», кажы — «няўдалы». Ды вас жа добрым не накорміш ніколі — з'ясце адразу ўвесь, і зноў думай... А глёўкага аж да святой суботы хопіць».

Увечары мы сядзім з бабуляю на прызбе пад хатаю, адпачываем. Перад намі на двары цямнеюць кусты парэчак, а там, каля летняй печы, падобнай на параход з высокай трубою, угадваюцца тонкія стрэлкі «сабачай ружы». І хоць ужо цемра, — мы не баімося «нячысціка», бо вызарыўся месяц — і можна нават макавыя зерні на гародзе збіраць.

Мы яшчэ ні пра што не паспелі з бабуляю пагаварыць. Нам добра і так, моўчкі глядзець у зорнае неба, сачыць, як нырае з хмаркі ў хмарку месяц, слухаць, як у суседзяў брэшуць сабакі.

Нарэшце я заўважаю, што бабулі карціць пачаць гаворку. Яна заклапочана разгладжвае на сваіх каленях складкі спадніцы, пазяхае, хрысціць набожна рот і, гледзячы на месяц, пачынае:

— О, божа, святы божа! І там, бач, не абышлося без граху...

— Дзе, бабулечка? — пытаю я і хінуся яшчэ бліжэй да яе. Хочацца мне, каб рука яе лягла мне на галаву. Я вельмі люблю, калі бабуля, расказваючы, перабірае пальцамі мае валасы. Нібы якая сіла тады калыша мяне на цёплых хвалях, і дрымотна мне ад хваль тых, і млосна. Бабулін голас далятае як бы здалёку, лагодны, як подых лёгенькага ветрыку, як ранішні салодкі сон.

Бабуля здагадлівая. Яна і сапраўды кладзе мне на галаву сваю руку, і вось я паплыла-закалыхалася ўжо на нябачных хвалях.

— Ды на месяцы ж, унучка, прыгледзься добранька, бачыш — цені, нібы чалавек над галавою падняў штось. Кажуць, гэта брат накалоў на вілы роднага брата. Адзін, значыць, сена варочаў, а другі пад тою капою спаў. Гэты не бачыў, што ён спіць. — І глянуўшы на вароты, бабуля ўголас мяркуе: — І дзе гэта Епіфана на старасць па начах носіць? А камсамолія, мусіць, у клубе на сходзе. Або яшчэ горай — на рэпетыцыі: спектаклі, чуеш, якіясьці выдумляюць, у цароў пераапранаюцца ды ў нячысцікаў. Цьфу, даруй, божа!.. І той стары дурань туды ж: замест царквы — цягнецца ў клуб. Там, кажа, весела,— варушацца бабуліны пальцы па маёй галаве.

— Ты яшчэ не спіш, Марыся? — раптам успамінае яна пра мяне і, пачуўшы мой голас, зноў ціха пачынае пра месяц: — Хто ведае, так людзі кажуць, што не бачыў, значыць, брат брата. А можа там іншае. Мо' зямлю не падзялілі. У нас жа яно ўсюды калгасы, зямля агульная. А ў іх, мусіць, аднаасобна жывуць. О, божа, грахі нашы. А можа, быў анціхрыстам, як гэта дзед твой ды матка з бацькам, дык і трапіў пад вілы. Кажу ж, — хто верыць, таго заўсёды бог перасцеражэ і выратуе ад напасці. Ну, паўтарай за мною, дзіцятка: «Отча наш...»

Сон скоўвае мне язык, склейвае павекі і нашэптвае на вуха, галубячы добрымі пальцамі маю галаву: «Далібог «па трэці рытэці» лепей, чым «іжа ясі». Там хоць сёе-тое разумееш, а тут чортведама што. Прытваруся, што сплю». А любоў і пашана да такой ласкавай і добрай бабулі вымагае: «Паўтары! Раззлуецца!..»

Сонна паўтараю:





— Ага. «Отча наш, іжа ясі на небясі...»

Нечакана абуджаюся зусім, бо з двара чуваць насмешлівы і трошкі п'янаваты голас дзядулі (і калі толькі ён падышоў?):

— Так і ведаў: зноў старая карга ўнучку вучыць! Глядзі, Ганна, Ірына цябе церпіць, бо дачка, а Валодзька некалі як аблае — дзесятаму закажаш! Па-шахцёрскаму аблае!

— Адчапіся, кажу, калі ласка! Гуляе да світання, а потым яшчэ і сварыцца! — нязлосна адмахваецца ад дзеда бабуля і калыша сваімі складкамі спадніцы, ідучы да хаты — падаваць «гуляку» вячэру.

Тут я вырашаю, што час і мне ўступіцца, падаць свой голас.

— А бабуля мяне яшчэ і іншай малітве навучыла, — хвалюся я, ідучы ў хату.— Толькі гэта — да слоўца ўсё па-нашаму. Яе я зразумела і ведаю ўсю.

Я трошачкі губляюся ад дзядулінай увагі і ад таго, што я ўжо

сапраўды не такая і бесталковая дзяўчынка, каб ні адной малітвы не запомніць.

Дзядуля вячэрае, а я набожна, як бабуля, і голасна, каб чуваць было за сталом, малюся на сон. Малюся старанна завучанай малітвай, павярнуўшыся ў куток да прасвятой маці божай, царыцы нябеснай:

Як умру, то поховайте
Мене на могилі,
Серед степу широкого,
На Вкраїні милій...

Маці божая склала на грудзях рукі і здзіўлена ўтаропілася ў мяне сваімі круглымі, бяздумнымі вачыма, а дзядуля, чуваць, палажыў лыжку на стол і перастаў жаваць. Я ўсё гэта заўважаю і радуюся: вось як добра вывучыла. Кажу далей:

Щоб лани широкополі,
І Дніпро, і кручі...

— «Було видно, було чути, як реве ревучий»? — гучна паўтарыў за маёй спіной дзядуля. Ашчаперыў мяне моцнымі рукамі, падкінуў высока пад столь і сказаў, здзіўлена зазірнуўшы мне ў твар: — Дурніца маленькая! Хіба ж гэта малітва? Ды гэта ж Шаўчэнка! Тарас. Вось табе і Ганна! Малайчына!

Ніколі да гэтага не ведала я, што песні і малітвы складаюць людзі. Такія, як я, мая маці, мой тата, мае бабуля і дзядуля. Звычайныя людзі, якія штодзень, можа, думаюць пра звычайныя рэчы: дзе купіць чаравікі патрэбнага размеру, ды што лепей на верашчаку—алей ці скваркі; людзі, якія любяць — хто бульбу не абіраную, а хто капусту з фасоляй, якім і папраўдзе можа болей падабаецца кішміш, а не сушаны паслён.

Выходзіла тое, што «Як умру» — гэта і сапраўды не малітва, а называецца верш, і напісаў яго Тарас Шаўчэнка. Той Шаўчэнка быў хлебароб і мастак, пісьменнік і салдат. Яго білі і высылалі, але ён ніколі нікога не баяўся, ішоў супраць цара, за праўду і за бедных.

І ўсё ж мяне найболей уразіла іншае, тое, што палова нашай Вербаўкі — Шаўчэнкі, і дзявочае прозвішча маёй бабулі — таксама Шаўчэнка.

Пакуль мне тлумачылі, што такое «дзявочае прозвішча», я пра сёетое здагадалася і спалохана запыталася ў бабулі:

— Дык ты... сваячка яму? Таму... Шаўчэнку?

Бабуля прыбірала ўжо са стала і на маё запытанне адказала не адразу, толькі хітра ўсміхнулася. А я неспадзявана зразумела, што яна, якая так багата расказвала мне пра ўсё, да гэтага не адкрыла мне нейкай сваёй дужа важнай таямніцы.

— Ну, скажы, сваячка?

— Так-кхе,— кашлянуў дзядуля і ахвотна адказаў за бабулю.— Адно толькі прозвішча. Шаўчэнка жыў некалі ведаеш дзе? За трыдзевяць зямель...

Я не зводжу вачэй з бабулі. А яна паставіла талерку на паліцу, правяла сухой анучкай па вымытых да жаўцізны дошках самаробнага стала, выпрасталася, разагнула спіну і здалася мне прыгожаю і маладою, як ніколі. У бок «анціхрыста» нават не паглядзела.

— Сваячка, дзіцятка,— кіўнула галавою без усмешкі, з вераю ў голасе.— За іншых Шаўчэнкаў не скажу. Я ж — далёкая ўнучка. А ён...— паказала на дзядулю,— што ён калі ведаў?



Я не зусім верыла бабулі пра бога і кішміш, а тут не магла не паверыць.

Дзядуля таксама не стаў пакепліваць са «старой каргі». Ён толькі ахнуў здзіўлена, але тут жа хітравата падміргнуў мне:

— У клубе неўзабаве будуць ставіць спектакль. На рэпетыцыі наглядзеўся, вершыкі слухаў дый сам тое-сёе запомніў.

— Такія ж і ставіць будуць, як ты, анціхрысты,— нехаця, амаль мірна азвалася бабуля, сцелючы дзеду на ляжанцы.

Гэта, пэўна, было тое, чаго дамагаўся ад бабулі «анціхрыст». Бо запытаўся так здзекліва і ўрачыста:

— А ці ведаеш, старая, што Тарас Шаўчэнка таксама бязбожнік, бо амаль ва ўсіх вершах праклінаў бога? — І, не даючы бабулі апамятацца, урачыста загаварыў у столь, маленькі, згорблены, з шэрым ад шчацiння тварам:

— ... А може й сам на небесі
Сміэшся, батечку, над нами...
Ні, ні, нічого
Нема святого на землі...
Мені здаэться, що й самого
Тебе вже люди прокляли.

Я ляжала на цвёрдым бабуліным ложку і спалохана сачыла за тым, што дзеелася ў хаце. Я ведала: такой насмешкі ніколі бабуля не пацерпіць і кінецца лаяць і свайго Епіфана, і «камсамолію», і заадно з імі Тараса Шаўчэнку. Але я памылілася. Дасталося толькі дзядулю:

— «Бязбожнік»! — са злосцю перадражніла бабуля дзеда і паставіла рукі ў бокі.— Да каго ж ты раўняешся, выбіты мех? Няхай бязбожнік, толькі ж не табе раўня, п'яніца няшчасны!

У мяне вочы зрабіліся тады, мусіць, такія ж круглыя, як і ў царыцы нябеснай: выходзіць, бабуля даўно ведала пра Шаўчэнку, і пра тое, што ён не верыць у бога, але даравала яму гэта ці проста шанавала яго?..

Вербы і ясакары на востраве абтрасаюць пажоўклае лісце ў дняпроўскія хвалі. У галінках дрэў матляецца доўгае павуцінне. Дзесьці над галавою чутна курлыканне. Восень.

На востраве ўжо ніхто не загарае, але да помніка Тарасу заўсёды ідзе люд.

Сёння я працую ў начной змене і вось — прыйшла і рада пасядзець на сходках. Каму ж тады сюды і хадзіць, як не мне. У мяне ж з ім — свая таямніца. Пра яе ведаем толькі я і ён. Праз нябожчыцу бабулю.

Падыходзяць да Тараса ўсё новыя і новыя людзі, чытаюць уголас бронзавыя словы, маю дзіцячую малітву:

І мене в сім'ї великій,
В сім'ї вольній, новій,
Не забудьте пом'янути
Незлим тихим словом.

«Хто яны, гэтыя людзі? — мяркую я і прыкідваю: тая дзяўчына з белым каўнерыкам на чорнай сукенцы — пэўна, прадавец з «Гастранома», прадае галандскі сыр, кішміш і ўсміхаецца прыветна пакупнікам. А побач з ёй, мусіць, студэнт, а можа, рабочы ці інжынер... Хіба цяпер адразу пазнаеш. У руках трымае часопіс «Огонёк». Я ведаю: у тым нумары вялікі артыкул пра касмічныя палёты. А гэта група хлопцаў — няйнакш вучні з рамеснага.

Ідуць ды ідуць. І як бы хто ні спяшаўся да воднай станцыі ці да качэляў, усё роўна спярша да Тараса паверне. Чаго б гэта?

Я, здаецца, пачынаю здагадвацца. І як раней не падумала гэтага: пэўна, не толькі бабуля, а і ўсе Вярбоўскія Шаўчэнкі і не толькі Шаўчэнкі... Усе вёскі, цёмныя, непісьменныя вёскі дваццатых гадоў, ведалі і любілі Тараса.

Дык, можа, і ў тых, што цяпер ідуць,— свая з Кабзаром таямніца?

Пераклаў з украінскай мовы **Б. САЧАНКА.**



Анатоль **КАСМАТЭНКА**

# «ГЕБА»

Ён з кругасветнага турнэ
Дадому да сябе дабраўся...
Не пазнае нас праз пенснэ...
(Ён па ньюйорках-лонданах сланяўся,
Культуры страх набраўся —
Цяпер яму ўсё наша, выбачайце, тхне.)
— Ну, як? — пытае друг. — Што там за людзі?
Што робяць? Як жывуць? Ты ж пабываў усюды.
— Што людзі! Вось грабеньчык, глянь! Вось партманэ!
Такіх і не было ў нас і не будзе!
Або рэйтузы, глянь... Мачалка! А кашнэ!
Або лязо, каб пагаліцца — рэч, што трэба!
Глянь на ўпакоўку! Там усё такое спрэс...
Што значыць заграніца! Культура і прагрэс!
Лязо завецца па латыні — «Геба».
Чытай, калі 'шчэ варыць галава! —
Друг прачытаў і кажа: «Ну й дзівак!
Ці мо' ў цябе, брат, з галавой што-небудзь?..
Табе, здаецца, палячыцца трэба:
Бо гэта ж нашае лязо! Чытай — «Нева»!

Пераклаў з украінскай мовы
**М. Скрыпка**

Паўло **КЛЮЧЫНА**

## ВАНДРОЎНЫ ШПАК

Вярнуўся Шпак з далёкіх берагоў.
— Што бачыў там? — пытае птахаў
многа.
— От надзівіўся! Колькі там жукоў!
Чарвей, казявак, павукоў...
— Яшчэ што бачыў ты?
— Ды больш нічога.
Мне хопіць і таго.
Ого!
— Эх ты! — смяюцца птушкі
ўсе кругом, —
Дык ты на ўсё глядзеў там...
жыватом!

Пераклаў з украінскай мовы
**М. Скрыпка.**



Сцяпан **КУХАРАЎ**

# ВЕСНАВЫЯ НАСТРОІ

### З сельскага дзённіка

Мал. І. Раманоўскага.



1

Дзень ужо канчаўся. Краўся вечар. Стоячы на бліскучай шасейцы пры ўездзе ў раённы гарадок Кіраўск, мы заўважылі шыльдачку-ўказальнік: «У Рассвет» — 6 км.» Яна паказвала ў бок на шырокую, прамую дарогу. Дарога цягнулася прысадамі, полем. З абодвух бакоў нас віталі маладыя цыбатыя ліпкі, а далей — у мяккіх промнях заходзячага сонца ружавеліся

ляшчэ голыя гладкastволыя яблыні... Злева было роўнае, густа застаўленае буртамі ўгнаенняў поле, а направа, як ахапіць вокам, цягнуліся сады. Між яблынь — таксама кучкі ўгнаення. Дрэўцы маладыя, дужыя, з кучаравымі шапкамі голля. Яны нас праводзілі аж да самай Папоўшчыны, адкуль праз невялічкую прагалу вырысоўваліся Мышкавічы — цэнтр калгаснага пасёлка.

Нас уразіла безліч садоў, якія, здавалася, аж напіралі на вуліцу. І сады ўсцяж маладыя, стройныя. Дагледжаныя кроны дрэў радавалі позірк... Можна сабе ўявіць, якое хараство над хатамі рассветаўцаў сёння, калі зацвіло ўсё гэта багацце!..

Вуліца шырокая, просторная. І ў Папоўшчыне, і ў Мышкавічах хаты дабротныя: прыгожыя, высокія, пад гонтамі і шыферам, на мураваных падмурках. Вокны вялікія, з пафарбаванымі аканіцамі. На дварах няма нічога лішняга, няма згорбленых хлеўчукоў і прыбудовак. Дастаткова глянуць на вуліцу, на хаты, і адразу скажаш: «Тут жывуць па-новаму».

На ўскраіне вёскі, перад мастком праз канаву, якая разразала колішняе балота, узвышаецца блакітны двухпавярховы будынак. Гэта — школа. Вакол яе зноў жа — малады, вясёлы садок.

Мышкавічы,— дзе мы спыніліся ля белага з светлымі вокнамі мураванага доміка калгаснага праўлення,— гэта новы пасёлак, збудаваны ў пасляваенны час. У цэнтры яго: клуб, сельмаг, гасцініца, музей, дыспетчарская, або, як тут яе называюць, калгасны вакзал, а далей — гаражы, майстэрні, сепаратарны пункт, інтэрнат, сталоўка...

Электрычныя правады ўсцяж вуліцы, радые- і тэлевізійныя антэны над дамамі, водаразборныя калонкі — гэта не звычайная вёска, а сельскі гарадок.

На фасадзе клуба чырванее палотнішча, і здалёк, нават у перадвячэрняе сутонне, ярка свецяцца словы: «Рассветаўцы, будзем працаваць і жыць па-камуністычнаму!»

На ганку калгаснага праўлення мы і сустрэліся са старшынёй праслаўленай сельскагаспадарчай арцелі Героем Савецкага Саюза і Героем Сацыялістычнай Працы Кірылам Пракопавічам Арлоўскім. Ён быў у простым сінім гарнітуры з дэпутацкім значком на лацкане і ў чорнай касавротцы. Кірыла Пракопавіч цёпла ўсміхаўся і з асаблівым, хітрым прыжмурам у пранікліввых вачах адразу ж запытаў:

— Ну, з чым, сталічныя госці, прыехалі?— І калі мы коратка паведамілі пра свой намер, ён падагульніў: — Ага, вас, значыцца, цікавіць настрой людзей, настрой рассветаўскай моладзі?

Кірыла Пракопавіч запрасіў нас у прасторны будынак канторы, у свой кабінет. Адразу, з ходу, ён даў нам, як сам назваў, інтэрв'ю.

— Гаспадарка наша немалая, —сказаў ён.— Тэрыторыя калгаса складае 90 квадратных кіламетраў, у «Рассвеце» 1 200 сем'яў, якія жывуць і працуюць у трынаццаці паляводчых брыгадах. Людзі нашы — і пажылыя, і моладзь — стараюцца, аддаюць свае сілы і здольнасці грамадскай гаспадарцы, і таму мы маем нядрэнныя поспехі. Мы ўжо ў 1960 годзе дамагліся такой ураджайнасці, такіх паказчыкаў у развіцці жывёлагадоўлі, якія пацвердзілі нашы папярэднія разлікі: выканаць сямігодку за чатыры гады, гэта значыць, у 1962 годзе.

Старшыня падхапіўся з-за стала, хутка прайшоўся па пакоі, потым нечакана сеў у крэсла і выпрабавальным позіркам глянуў па чарзе на кожнага з нас, як бы вывучаючы, якое ўражанне зрабілі на нас ягоныя словы. І зноў спакойна, з мудрай дасціпнасцю загаварыў:

— Жывуць нашы людзі добра. Ужо другі год, як кароў калгаснікі прадалі. Ім няма сэнсу іх трымаць, бо малака выдаем па два літры на працадзень. У кожнай вёсцы — ларок, куды з ранку завозіцца свежае малако. Калі мала табе на працадні, бяры за грошы... Ну, а грошай рассветаўцы атрымліваюць не мала — па 2 рублі на працадзень у новых цэнах. І хлеб заўсёды завозім свежы, адразу ж з пякарні. Так што нашым жанчынам цяпер палёгка — не трэба з дзежкамі ваявацъ. А вы ж ведаеце, якая гэта работа — хлеб пячы. Цяжкая, дакучлівая для жанчын работа... Потым — у нас сёлета будзе свая сталоўка, дзе можна атрымаць заўсёды свежую і смачную страву. Хто хоча, можа сталавацца.

У «Рассвеце» не было дагэтуль ясляў. Так, не было. Гэта ганьба нам. Сёлета яслі будуць адкрыты ў кожнай вёсцы. Вы, напэўна, заўважылі, якая ў нас дарога з Кіраўска. Дык вось, яе будаваў раённы дарожны аддзел, паклаў на 6 кіламетраў 2 мільёны рублёў, а дарогі, як бачыце, няма. Цяпер мы самі бярэмся, злучым асфальтаваным кальцом усе вёскі. Як адсеемся, работа пойдзе поўным ходам. Вось такі ў нас, у рассветаўцаў, настрой!..

Кірыла Пракопавіч зноў падхапіўся, задумаўся... У яго сіняватых, незвычайна жвавых вачах столькі бляску і задору, што проста не верыцца, як можна, прайшоўшы праз такія выпрабаванні (як вядома К. П. Арлоўскі праславіўся як самаадданы змагар-патрыёт у грамадзянскую вайну, у час станаўлення Савецкай улады, у гады Айчыннай вайны, дзе ён страціў абедзве рукі), захаваць бадзёрасць духу, жыццерадаснасць!

Гэта не жарт — Кірылу Пракопавічу пайшоў шэсцьдзесят сёмы год, і ён неяк сказаў: «Старога, як ні хвалі, але з двара гані».

Можа, ён пра сябе так і падумаў, але гэтаму ніхто не паверыць. Калі мы пажылі ў калгасе, пагутарылі з людзьмі, паглядзелі гаспадарку,— у гэтым цвёрда пераканаліся. Кірыла Пракопавіч асабістым прыкладам, неўтаймоўнай энергіяй і моцнай воляй натхняе людзей на сапраўдныя подзвігі, на працу, якая робіць цуды.

І вось ён стаіць, бадзёры, натхнёны, з маладым бляскам у сініх прыжмураных вачах, і гаворыць-дэкламуе:

«Колхозник, вперёд иди! Огни коммунизма горят впереди!..»

Гэты лозунг-заклік мы потым прачыталі на сцяне ў калгаснай дыспетчарскай, дзе збіраюцца трактарысты, шафёры, механікі...

Калі слухаеш гэтага моцна складзенага чалавека, неяк запальваешся яго энергіяй, пранікаешся яго ўпэўненасцю. Напэўна, так і тыя людзі, з якімі ён вось ужо семнаццаты год ідзе адною дарогай, нясе адну з імі ношку.

— Дык што ж, таварыш сакратар парткома!— звярнуўся старшыня, выйшаўшы са свайго кабінета, да Аляксея Апанасавіча Нікіценкі. Дарэчы, мы даведаліся, што ў сваім кабінеце ён толькі прымае гасцей, а ўсе справы рашае на людзях.—Пакажам таварышам нашу «малельню»,—і ён адчыніў дзверы залы, дзе стаялі крэслы чалавек на семдзесят перад сцэнай са сталом і трыбункай.—Вось тут мы збіраемся. Наша праўленне, нашы актывісты, упаўнаважаныя ад калгаснікаў. Тут мы раімся, тут мы і лаемся, калі трэба, адным словам, тут рашаюцца ўсе дробязі нашага жыцця...

— Аляксей Апанасавіч,— ужо заканчваючы першую з намі размову, Кірыла Пракопавіч гаварыў сакратару парткома,— пазнаёмце таварышаў з нашым камсоргам Валодзем Бяляўскім... У нас жа выдатныя хлопцы і дзяўчаты. Ну, хоць бы Ніна Цэд, заўзятая трактарыстка... Даяркі нашы Надзя і Галя Бяляўскія, свінарка-гераіня Хрысціна Міхнёва, маладыя нашы брыгадзіры, а таксама Іван Ільіч Цюркін, намеснік старшыні, таксама ж малады... У нас усюды моладзь. Мы ганарымся племенем арлінім!..

Ужо ў калідоры старшыня, развітваючыся, дадаў:

— Гасцініца ў нас ёсць. Жывіце, глядзіце, што вам трэба. Можна праехаць, калі куды захочаце. Калі будзеце пісаць, то не забудзьце сказаць, што ў «Рассвеце» жывуць добра, працуюць добра, а вось з адпачынкам — не зусім. Няма ў нас добрага загадчыка клуба. Няма арганізатара вольнага часу людзей.

— Нічога, хутка будзе,— устаўляе сакратар парткома.— Вось свайго хлопца-камсамольца паслалі ў Бабруйск на курсы баяністаў, хутка вернецца, і самадзейнасць ажыве.

— Значыць, пісаць думаеце,— дакорліва ўсміхаецца Арлоўскі.— Што ж, можна. У нашым калгасе можна знайсці сёе-тое. Як адзін казаў, можна ў гэтым возеры злавіць рыбку... Але ж усё будзе залежаць ад таго, які трапіцца рыбак...

І ўжо сур'ёзна, з нейкай заклапочанасцю ў голасе:

— Яшчэ. Аляксей Апанасавіч, дай ім нашу кнігу-памінальніцу, дзе мы

адзначаем усе лятучкі. Няхай прачытаюць. Спатрэбіцца. Гэта я яшчэ як прывёз гэты метад з Караваева, з саўгаса, шаснаццаць год таму назад, дык мы ім і карыстаемся: кожную раніцу ў «малельню» збіраемся, зімою ў шэсць гадзін, а летам — у пяць. Але ўсё — гэты метад ужо сваё аджыў, устарэў, адмёр. Прыйшоў час змяніць яго. Няма ўжо ў ім такой патрэбы. На справаздачна-выбарчым сходзе зацвердзім новы. Вось вам яшчэ настрой!..

2

Назаўтра а шостай гадзіне раніцою разбудзіў нас назола-рэпрадуктар, умацаваны цераз вуліцу на слупе каля клуба. Яго басавіты голас грыміць не толькі ў цэнтры, але чуцён аж у самым канцы пасёлка.

Мой таварыш-мастак узяў у рукі вялікі пульхны сшытак, тую памінальніцу, якую даў нам для знаёмства старшыня, і ўголас чытаў: «Слухалі... трактарыст Шчэрбіч у нецвярозым выглядзе з'явіўся на працу... Пастанавілі: за парушэнне працоўнай дысцыпліны аб'явіць вымову...» «Слухалі: аб рабоце загадчыка клуба...»

— Сапраўды, у гэтай кнізе — усё шматграннае жыццё, усе яго радасці і трывогі,— сказаў мой таварыш і адхінуў фіранку.— Глядзі, вунь ужо ў канторы святло гарыць. І людзі з'язджаюцца на веласіпедах... Штаб запрацаваў...

Мы пабывалі на адной з тых славутых рассветаўскіх нарад-лятучак, якія праводзяцца тут ва ўсякае надвор'е, у любую пару года — кожны дзень; мы былі і на справаздачна-выбарчым сходзе, дзе калгаснікі па прапанове старшыні парашылі цяпер праводзіць такія нарады толькі адзін раз у тыдзень. Наведалі мы і рассветаўскі клуб, бібліятэку, прысутнічалі на занятках калгаснага ўніверсітэта камуністычнага выхавання. Гутарылі з настаўнікамі і вучнямі мясцовай школы... Адным словам, нам пашанцавала ў гэтай паездцы.

Але перш за ўсё — аб сустрэчах, незабыўных і хвалюючых, з рассветаўцамі на вытворчасці. Першае слова пра тых, хто сваімі залатымі рукамі, у згуртаваным калектыве абнаўляе зямлю, стварае сёння шчасце і дастатак у калгаснай сям'і.

Мы пабывалі на фермах. Жывёлагадоўля ў калгасе «Рассвет» набыла сапраўды гіганцкі размах. Нельга не прывесці тут некаторыя лічбы пра веліч той работы, што ўжо зроблена жывёлаводамі. У 1960 годзе на кожныя 100 гектараў угоддзяў калгас меў ужо 26 кароў, а праз два гады будзе мець 32 каровы. Як вядома, у калгасах рэспублікі прадугледжваецца на канец сямігодкі мець па 17—18 кароў. Летась на кожную карову было надоена больш як па 3 тысячы кілаграмаў малака. На 100 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў атрымана 753 цэнтнеры малака і 99 цэнтнераў мяса. Цудоўныя, важкія лічбы. Калгас «Рассвет» у мінулым годзе меў грашовы прыбытак 18 мільёнаў рублёў (у старых цэнах) і палова гэтага прыбытку ад жывёлагадоўлі.

...Адразу ж з цэнтра асфальтаваная дарога вядзе ў жывёлагадоўчы гарадок. Побач стаяць вялікія прамавугольнікі тыпавых кароўнікаў. Тут сёння размешчан адзін з некалькіх дойных статкаў калгаса — 470 кароў.

Загадчык фермы Іван Цітавіч Шамедзька гаворыць пра людзей, якія тут гаспадараць. Ён называе прозвішчы то адной, то другой даярак, знаёміць нас з імі, зазначаючы, што ўсе варты таго, каб пра іх пісаць,— усе працуюць ад душы, аддаюць усе сілы любімай справе.

— Ну што ж,— задумліва працягнуў Іван Цітавіч.— Калі вы хочаце пазнаёміцца з нашымі маладзейшымі даяркамі, то калі ласка. У нас тут працуюць чатыры Надзі, а бадай самая маладзейшая з іх — Надзя Бляўская, дачка Міхала-цесляра; бо ёсць яшчэ і Надзя Якаўлеўна, гэта даўно ўжо працуе, можа гадоў з дзесяць, хоць яшчэ таксама не старая, жанчына ў самай красе... Ёсць у нас і Галя Бляўская, камсамолка. Ёй цяпер даручылі доследную групу кароў. Галя паабяцала надаіць па 5 000 кілаграмаў ад кожнай. Гэта ў той час, калі асноўнае наша абавязацельства атрымаць па 3 500 кілаграмаў малака на карову.



Іван Цітавіч подбегам кінуўся ў другі кароўнік. Мы ледзь паспявалі за ім. Ён растлумачыў: — Ведаеце, прывычка. Не магу стаяць на адным месцы: чатыры кароўнікі, і ўсюды хочацца пабыць, паглядзець, што робіцца.

— Вось наша самая маладзейшая Надзя, — сказаў Шамедзька, спыніўшыся і паказваючы на дзяўчыну, якая завіхалася ля кароў. — Да цябе госці, Надзя, пагавары з таварышамі...

— Што ж я буду гаварыць, — ускінула тонкія бровы дзяўчына і зачырванелася. — Бачыце, я ж занятая... Толькі што пачалі даенне... Можа тады ўжо, калі скончу, ці як... А можа вы да нас у дом заглянеце, мы тут жывём блізка... Праз гадзіну я закончу даенне...

— Праз гадзіну, — здзівіліся мы. — Колькі ж у цябе, Надзя, кароў доіцца?..

— Цяпер ужо дзевяць, — адказала дзяўчына. — Хутка яшчэ адна ацеліцца. Дзесяць кароў я спраўляюся падаіць меней чым за паўтары гадзіны. Прывыкла. А спачатку цяжка было. Не ўпраўлялася, нават плакала. Вось цётка Шура памагала, паказвала, а іншы раз і маці прыходзіла, памагала... Спачатку вельмі цяжка было, аж хацела кінуць...

— А цяпер вунь па надоях ідзе ў ліку першых, — з вясёлай усмешкай на строгім, абветраным твары заўважыў Іван Цітавіч. — За 1960 год, першы год самастойнай працы, Надзя атрымала па 3 800 кілаграмаў на карову — гэта не мала. Гэта добра!..



**Вялікі абавязак узяла сёлета Галя Бляўская — надаіць па 5 000 кілаграмаў малака ад кожнай каровы замацаванага за ёю доследнага статку.**

Пераходзячы ў наступны кароўнік, Шамедзька скупымі словамі працягваў свой расказ:

— Дзяўчына яна вельмі шчырая. Любіць жывёлу. Ласкай, мяккім словам яна даб'ецца большага, чым іншыя крыкам, лаянкай. Праўда, маці яе вельмі ўжо бедавала, не хацела, каб дачка пасля дзесяцігодкі ішла ў даяркі. Усё вохкала, усё рупілася старая, каб як-небудзь прыладзіць дачку на вучобу, але Надзя сама не захацела, сказала цвёрда: «Пайду, папрацую гады два, як і ўсе, а потым будзе відаць, потым падамся і ў інстытут». Так Надзя і засталася дома. Ды яна такая не адна. У нашым калгасе моладзь ахвотна застаецца пры бацьках. І з арміі хлопцы дадому вяртаюцца, ідуць на самыя патрэбныя работы. Таму і нам, пажылым, лягчэй.

...Каровы Галі Бляўскай стаяць асобна, за перагародкай. У яе адзінаццаць кароў — адной пароды, добрай малочнасці.

— Гэта група ў мяне на доследзе,— растлумачыў нам Іван Цітавіч і ўдакладніў: — Будзем назіраць, якія кармы жывёла паядае лепш і як павялічваецца тлустасць малака ў залежнасці ад рэжыму кармлення...

Такая доследная група даручана Галі. І, напэўна, не выпадкова. Яна — камсамолка, ударніца камуністычнай працы. Напрадвесні на пленуме ЦК ЛКСМБ Галя заявіла, што ад сваіх кароў атрымае па 5 000 кілаграмаў малака.

Не трэба ні ў кога пытаць, як працуе Галя. Варта паглядзець, як га-

ворыцца, на яе рабочае месца і адразу бачна, што Галя — гаспадыня. Каровы чысценькія, як лялькі. Галя прыбяжыць на кароўнік раней, чым хто іншы, і дахаты ідзе апошняй. А ў доме трэба і памыць, і зварыць, і парадак навесці... Галя не стамляецца: і на вечары ў клуб з мужам паспявае, і кінакарціны стараецца ніводнай не прапусціць. З вучобай, праўда, у Галі цяжэй. Жыла яна ў вёсцы Дваранінавічы. Скончыла там сем класаў, далей вучыцца не выпадала — трэба было памагаць бацькам гадаваць меншых, і яна пайшла на свінарнік. Цяпер шмат забылася, але настойлівасці ў Галі хапае. І жаданне ёсць. А гэта ўжо гарантыя, што свайго даб'ецца!

Пра жывёлаводаў калгаса «Рассвет» можна напісаць цэлую кнігу. У іх калектыве — зладжанасць і ўзаемадапамога. Яны першымі выступілі ў калгасе з прапановай: «Працаваць і жыць па-камуністычнаму».

І гэта не проста прыгожыя словы. У працоўных буднях, у калектыве гартуюцца людзі, выхоўваюцца іх лепшыя якасці. Лекцыі, гутаркі, калектыўныя абмеркаванні прачытаных кніг і прагледжаных фільмаў — гэта яшчэ не ўсё, што тут робіцца. Жывёлаводы адмовіліся ад фуражыраў, — кармы бяруць па норме самі возчыкі. На фермах няма ні вартаўнікоў, ні ўчотчыкаў — даяркі самі вядуць улік надоенага малака.

Так ужо сёння, на нашых вачах, нараджаюцца і дужэюць усходы новага, якое становіцца нормай нашага жыцця.

Пра Хрысціну Міхнёву, свінарку, Героя Сацыялістычнай Працы, мы пачулі не толькі ад старшыні і сакратара парткома. Яе імя называлі агітатары, яе прозвішча паўтараецца ў «баявых лістках», якія развешаны ў жывёлагадоўчым гарадку. Гэта было якраз перад выбарамі ў мясцовыя Саветы. Хрысціна Міхнёва выбрана дэпутатам Кіраўскага пасялковага Савета дэпутатаў працоўных.

Па просьбе мастака Хрысціна згадзілася, каб напісалі з яе партрэтны малюнак. Неяк хутка асвойтаўшыся, Хрысціна разгаварылася, і яе першая скаванасць мінулася, а просты твар набыў нейкую асаблівую жывасць, нават узнёсласць.

— Вы ведаеце, — ціхім ад хвалявання голасам гаварыла дзяўчына, — як нам давялося ў маленстве. Мы ж, было, зусім асірацелі. Спачатку памерла маці, а нас засталося пяцёра, самай меншай сястры Ніне было каля году. Неўзабаве памёр і бацька. Нас не пакінулі ў бядзе. Калгас даў усё, каб мы жылі, не ведаючы гора і нястачы. Мы ўсе выгадаваліся і знайшлі сваё шчасце.



Герой Сацыялістычнай Працы Хрысціна Міхнёва — простая, сціплая дзяўчына, якая ўсёй душой палюбіла сваю нялёгкую працу свінаркі.

Пасля вучобы я спачатку даяркай была, а потым цялят даглядала. Аднойчы мне старшыня і кажа: «Хрысціна, можа згадзілася б пайсці на свінаферму?» Я нахмурылася, задумалася. Баялася, што не выйдзе на новым месцы нічога. Але вось ужо адзінаццаты год, як даглядаю свіней, гадую парасят... Спраўляюся дагледзець, як бачыце, 26 свінаматак.

Міхнёва выгадавала не адну тысячу парасят. У 1958 годзе сярод лепшых працаўнікоў сельскай гаспадаркі Хрысціне Цімохаўне было прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. У той год яна атрымала па 20 парасят на кожную свінаматку. У наступныя гады крывая паказчыкаў нязменна пайшла ўгору: 1959 год — 24 парасяці на свінаматку, 1960 — па 28 парасят.

Хрысціна змоўкла. Неяк крадком зірнула на свае чырвоныя з набухлымі венамі рукі, а потым ціха, сама сабе, усміхнулася.

— Вось вы пытаецеся, за што мне далі званне Героя, — спакойна прадаўжае Хрысціна. — Працавала я, можа, і не лепш, чым іншыя. Старалася, праўду скажу. Але не лёгкае яно, гэтае наша геройства. Як успомню, як было, дык аж сама цяпер дзіўлюся. Гэта ж усё рабілі саматугам, падвясных дарог не было: трэба і вады нанасіць, і бульбу перамыць, а як пачнеш вёдрамі корм разносіць, дык рук, праўду скажу, не чуеш... А цяпер што! — весела заблішчэлі ў дзяўчыны вочы. — Цяпер можна працаваць. Кармы, вада — усё на месцы. Праца наша, праўду скажу, аблегчана. Цяпер і Героя зарабіць не дзіва...



Шафёр Уладзімір Бляўскі — камсамольскі важак.

— На сёлетні год паабяцала атрымаць па 29 парасят, — з цвёрдай упэўненасцю сказала Хрысціна, потым разважліва дадала: — Канешне ўсё гэта не лёгка. Каб вы ведалі, колькі клопату з тымі парасятамі. Як народзіцца, пільнуй, каб не зацёрлася, потым прывучай да яды, і вапну даем, і ячмень смажым... Хапае работы. Гэта ж на руках — два месяцы. Меней як пудовікаў у адкорм не бяруць, ды і самой неяк няёмка. Праўду скажу, сорамна...

У гэтых словах — уся Хрысціна, простая, сціплая дзяўчына, якая ўсёй душой палюбіла сваю нялёгкую працу. У Хрысціны ёсць сяброўка Валянціна Вінакур. І яна стараецца не адстаць, і яна розумам і сэрцам вывучае простую мудрасць — гадаваць жывёлу.

Побач з імі, поплеч ідуць маладзейшыя жывёлаводкі — Валя Юшкевіч і Галя Русанава, якія толькі што сталі на сваю самастойную работу. Ім лягчэй, бо наперадзе, нібы тыя маякі, крочаць майстры і разам, дружнай сям'ёю, твораць сямігодку калгаса.

Пазнаёміўшыся з такімі людзьмі, як Хрысціна Міхнёва і яе сяброўкі, паназіраўшы, як яны працуюць, верыш, што тая гіганцкая лічба — мець 3 800 свіней, за якую рассветаўцы змагаюцца ў 1961 годзе, будзе дасягнута. Яна ім па сіле!

## 3

Валодзю Бляўскага, сакратара калгаснай камсамольскай арганізацыі, мы сустрэлі ў гаражы. Перапэцканы ў мазут, ён вылез з-пад аўтамашыны, збянтэжана прывітаўся і вінавата сказаў:

— Вось крыху затрымаўся з рамонтам. Вясна падганяе. Трэба спяшацца!

На двары гарэзілася шчодрае і ласкавае веснавое сонца. У высокім чыстым блакіце, нібы вялізныя казачныя караблі, плылі беласнежныя воблакі — разведчыкі ранняй вясны. Валодзя, разагрэўшыся, скінуў ватоўку, падставіўшы грудзі свежаму ветру. Мастак хуценька адгарнуў альбом.

— Навошта? Не трэба! — запратэставаў камсорг. — Я яшчэ зусім мала пабыў за сакратара, усяго некалькі месяцаў. Нічога такога, каб мяне маляваць, не зрабіў. Вы вось, калі ўжо хочаце, дык нашых механізатараў, скажам, механіка Васіля Скуднага, — калі ласка. Яны заслугоўваюць.

Валодзя — камсамольскі важак сапраўды малады. І члены камітэта

ў яго маладыя, але яны ўзялі правільны кірунак — усімі сіламі, разам з калгаснымі камуністамі, змагацца за сямігодку ў чатары гады, памнажаць славу роднага калгаса.

У зімовы час, калі рыхтавалася сустрэча гэтай вясне, камсамольцы ішлі ў першых радах. Кожны на сваім участку, няхай на самым малым, стараўся зрабіць як мага больш і лепш. Трактарысты дзень пры дні тралявалі ўгнаенне пад яравыя. Не ведалі спачынку і шафёры. З імі ж заўсёды былі і грузчыкі. І ўсе яны — людзі пераважна камсамольскага ўзросту.

— Цяпер цяжка прыгадаць, хто з іх асабліва вызначыўся, хто лепшы, — задумаўся Валодзя Бяляўскі. — Мы можам пахваліцца сваёй дысцыплінай. У нас усе працуюць свядома, на поўную сілу. А гэта сведчанне таго, што мы хутчэй прыйдзем у камунізм.

«Мы прыйдзем да перамогі камуністычнай працы!» — гэтыя крылатыя словы У. І. Леніна палымнеюць на сцяне пры ўваходзе ў калгасную кантору. Пераконваешся, што гэтыя словы і ў сэрцах людзей, асабліва моладзі, у каго вастрэйшы зрок, гарачэйшыя сэрцы...

Калі ў камсамольца Сяргея Каранкевіча пры выпуску са школы механізацыі ў Бабруйску спыталі, куды жадае паехаць на працу, ён адказаў:

— Толькі ў свой калгас!

Прайшло два гады. Вырас, падужэў Сяргей. З ім ужо, як з роўным, вітаецца старэйшы механізатар Хвядос Аляксеевіч Скудны, бо бачыць, што яго малады зменшчык пазнаў усе сакрэты і шануе машыну, як і ён.

Сяргея занепакоіла думка: як гэта, каб у перадавым калгасе кукуруза сеялася старым, радковым спосабам. Камсамолец не мог з гэтым мірыцца. Ён доўга думаў, шмат перачытаў літаратуры, як кажуць, падкаваўся «на ўсе чатыры нагі», і пайшоў у партком.

— Аляксей Апанасавіч, — звярнуўся хлопец да сакратара парткома. — Што гэта і сёлета ў нас будзе па-старому? Як будзем сеяць кукурузу?

— Вядома як: сеялкамі, у цёплую і добра падрыхтаваную глебу, — хітра ўсміхнуўся сакратар.

— Не, я не пра тое, — пераступіў з нагі на нагу Сяргей. — Трэба квадраты рабіць, больш ж эфект будзе. Я з Хвядосам Аляксеевічам бяруся свой участак сеяць па-новаму, квадратамі!

Аляксей Аапанасавіч Нікіценка, навуковы супрацоўнік, які прыехаў у калгас з Масквы, каб жыць тут, бліжэй да зямлі, спагадліва ставіўся да ўсяго новага. І на гэты раз сакратар моцна, па-сяброўску паціснуў камсамольцу руку:

— Ініцыятыву падтрымаем!

Яшчэ толькі пачыналася вясна, а ў Сяргея Каранкевіча, як і ў яго іншых сяброў-механізатараў, усё было падрыхтавана да сяўбы. Трактарысты прайшлі спецыяльную падрыхтоўку і цвёрда вырашылі, што ўсе 600 гектараў кукурузы пасеюць квадратна-гнездавым спосабам.

...Ёсць у Мышкавічах адна дзяўчына, пра якую варта абавязкова расказаць. Пра яе ўсе гавораць, што яна з характарам, настойлівая. І гэта сапраўды так. З маленства палюбіла Ніна Цэд машыны. Бацькі пярэчылі, рабілі ўсё, каб скіраваць дзяўчыну на якую-небудзь лягчэйшую работу, але яна настаяла, дамаглася свайго: «Буду трактарысткай».



**Камсамолец механізатар Сяргей Каранкевіч.**

Неяк адкрыліся ў клубе калгаса курсы трактарыстаў. І Ніна падала заяву. Яна была адзіная з дзяўчат, але не бянтэжылася. Вучылася з усіх сіл, старалася не прапусціць нічога, і вось яе запаветная мара збылася — дзяўчына атрымала пасведчанне на кіраванне трактарам.

Могуць сказаць: падумаеш, здзівіла свет, стала трактарысткай! Вывучыць матор, навучыцца кіраваць машынай, — сапраўды невялікая мудрасць. А вось палюбіць душою гэты самы трактар, у дождж і ў вецер, у спёку і ў халадэчу не расставацца з ім, берагчы яго, як самую любімую рэч, упадабаць пах дымка, якім дыхае машына, — на гэта здатны далёка не кожны. Не кожная дзяўчына, ды калі яшчэ пярэчаць бацькі, адважыцца на такое.

А ў Ніны Цэд знаходзіліся яшчэ і такія таварышкі, што тыцкалі пазавуголлю: «Глядзі, вунь мурзатая пайшла». Не скупіліся на кепікі і хлопцы: «Выскачка, надумалася праславіцца». Горка, крыўдна было, але...

— Нізавошта не адступлюся, толькі на трактары буду — і ўсё! — такое было ў Ніны цвёрдае рашэнне.

Ніну паставілі зменшчыцай да сваяка — швагра Васіля Бяляўскага. Брыгадзір думаў, што для дзяўчыны зрабіў лягчэй: усё ж, як ні кажы, а швагер не дасць у крыўду. І Васіль гэтак зразумеў сваю ролю: ён не дазваляў Ніне дакрануцца да машыны, нават змазку рабіць не даваў. Былі выпадкі, што Ніна возьмецца за руль, пачне змену, а Васіль сядзіць на разоры, не ідзе дадому — баіцца, каб што не здарылася. Пры кожным зручным выпадку клапатлівы швагрусь гаварыў брыгадзіру: «Далібог, з яе нічога не выйдзе, дарэмная дакука».



**З маленства палюбіла Ніна Цэд машыны і стала трактарысткай.**

Але брыгадзір, чалавек з трапным вокам і чулай душою, заўважыў, што Ніна знайшла тое, да чаго гарнулася яе няўрымслівае сэрца. Ён паглядзеў, як стараецца Ніна, і задаволена сказаў:

— Малайчына, вось прыбудзе новы трактар — пойдзеш працаваць самастойна.

Цяпер Ніна — гаспадыня новенькага, бліскучага трактара ДТ-20. Яе напарнік Віктар Лінкевіч аказаўся чалавекам, які правільна зразумеў жаданне Ніны: усё ведаць самой, да ўсяго дакапацца сваімі рукамі. Калі яна чаго не разумела, памагаў, раіўся з ёй, як з роўнай, як з напарніцай. Неўзабаве Ніна даказала, чаго варты гэты трактар-«малышок», які звычайна недалюбліваюць механізатары.

Камсамолка Ніна Цэд адна ўправілася там, дзе раней працавала брыга-

да людзей. Расказваючы пра свае, як жартам яна назвала, «прыгоды», Ніна пералічвае, што зрабіла летась:

— Пасеяла цыбулі 25 гектараў, агуркоў 30 гектараў, буракоў — 130 гектараў, 70 гектараў кукурузы. Усё гэта апрацоўвала, рыхліла. Потым уборка, малацьба... Зерне вазіла на прычэпе, кукурузу да сячкарні. Апрача ўсяго, калі не было чаго рабіць на трактары, хадзіла выбіраць бульбу, падмяняла дзяўчат на свінарніку...

Вось якая гэта Ніна Цэд. З выгляду ціхая, непрыкметная, кволая дзяўчынка. Такой, здаецца, больш падыходзіла б сядзець дзе-небудзь у канторы.

На рахунку Ніны за мінулы год 570 працадзён. З іх у брыгадзе на розных работах — 270. Мы сказалі: Ніна — непрыкметная, ціхая, не першая на вечарынках. Не любіць яна, як іншыя вясковыя модніцы, памадзіцца, мяняць кожную нядзелю прычоску. Але шчасце не абмінула дзяўчыну. Напрадвесні яна згуляла вяселле з Анатолем Бляўскім, хлопцам, які працуе ў калгасным гаражы.

Здавалася б, што трэба дзяўчыне? Яна выйшла замуж, муж добра зарабляе. Шчыра кажучы, можна падумаць, што цяпер дзяўчына астыла, замкнулася ў сваім асабістым шчасці, і дзе там ёй ужо да трактара!

Размаўляючы з хлопцамі ў майстэрні, мы напаткалі Ніну. У кароткай жакетцы і спартыўных штанах, Ніна стаяла, абапершыся аб шулу, і цікаўнымі карымі вочкамі ўсміхалася. Гаворка ішла пра кукурузу. Нехта заўважыў;

— А вось жа і Ніна будзе сеяць кукурузу. Яна і летась добра справілася...

— Абавязкова буду, — пырснула цёплым агнём вачэй Ніна. — За тысячу цэнтнераў з кожнага гектара будзем змагацца!

— А можа, муж малады не дазволіць?

— Муж разумее мяне, — сур'ёзна адказала Ніна. — Я люблю тэхніку, мне вельмі хочацца на трактары працаваць, і ніхто мне не зможа перашкодзіць. Гэта была мая мара... Як жа я цяпер з ёю расстануся!..



**Ад трактара да трактара шнуруе палявымі дарогамі загадчык склада Васіль Скудны. І кожны сустракае яго ўзрадавана: «Эх, Вася, не падвёў — прывёз...»**

— Калі будзеце пісаць пра нашых механізатараў, — сказаў нам сакратар камсамольскай арганізацыі Валодзя Бляўскі, — то не забудзьцеся пра Васю Скуднага, нашага загадчыка склада. Пасада ў яго як бы непрыкметная, не баявая: «выдай аднаму ўтулку, а іншаму яшчэ што-небудзь і сядзі сабе спакойна». А Вася працуе не так. Ён укладвае ў сваю справу душу. Хлопец варты пахвалы!

Цяпер гарачая пара ў калгасе. Сяўба. Ад трактара да трактара, ад брыгады да брыгады носіцца зялёны матацыкл камсамольца Васіля Скуднага па палях. Страсянуўшы бялявым чубам, Вася ўвішна падбяжыць, моцна, з усяе сілы, паціснe сябру руку, а той узрадуецца:

— Эх, Вася, друг, не падвёў — прывёз новыя лемяхі!..

Вася ў механізатараў жаданы госць, аўтарытэтны дарадчык. Не дарма ж хлопец вучыўся: дзесяцігодку і аўтатэхнікум скончыў.

* * *

Многа якіх людзей мы не назвалі, нават не расказалі пра той чарговы справаздачна-выбарчы сход у калгасе, на якім рассветаўцы ў семнаццаты раз папрасілі свайго праслаўленага земляка згадзіцца быць за старшыню. На гэтым сходзе былі зацверджаны ўзважаныя кожным смелыя мерапрыемствы па ажыццяўленню рашэнняў студзеньскага Пленума ЦК КПСС. Тут удакладняліся і выяўляліся ўсе сродкі і рэзервы, з якімі рассветаўцы выпраўляюцца далей — наперад, па дарозе ў камунізм.

... Нашы ўражанні ад вясновай паездкі ў калгас-маяк хочацца закончыць словамі яго старшыні Кірылы Пракопавіча Арлоўскага, якія ён сказаў на развітанне: «Мы ўжо ў сваім развіцці дайшлі да таго, што нам не могуць перашкодзіць ніякія капрызы прыроды: нам не страшныя ні засуха, ні дажджы. Мы цвёрда трымаем курс на сямігодку, на камуну. І ўжо бачым зару камунізма над Мышкавічамі».

Ідучы наперад, да яснай мэты, рассветаўцы вядуць за сабой суседзяў — калгаснікаў сельскагаспадарчай арцелі імя Кірава, шчыра памагаюць ім выйсці на шырокую дарогу.

Сапраўды, каб хутчэй дасягнуць запаветных рубяжоў, выйсці на шырокі прастор камуністычнай будучыні, трэба рухацца адзіным строем, падтрымліваючы адзін аднаго. Знамянальная прыкмета нашых слаўных дзён!



**На пытанне «Куды пасля школы?..» кожны з гэтых выпускнікоў Мышкавіцкай сярэдняй школы адказвае: «У родным калгасе застаюся».**



## МАЯКІ НАШАГА ЧАСУ

**Не першы год працуе на Мінскім заводзе запасных частак шліфоўшчык з механічнага цэха Сяргей Сцепанец.**

**Ударнік камуністычнай працы, член цэхавага камсамольскага бюро, студэнт-завочнік Інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі, Сяргей Сцепанец апрацоўвае за змену да 500 канічных шасцерняў для трактара „ДТ-54“, хоць рубяжом магчымасцей яго станка яшчэ нядаўна лічылася 150 штук. Пад канец змены ля станка Сяргея вырастае „заслон“ з дэталей: 50—60 звышпланавых шасцерняў.**

**На Сяргея Сцепанца раўняецца ўся моладзь завода, якая ўзяла на сябе высокае патрыятычнае абавязацельства — стварыць камсамольскі фонд запасных частак, каб хутчэй вырашыць задачу комплекснай механізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці.**

Фота А. Дзітлава.



Барыс **СТРАЛЬЦОЎ**

# СУСЕДЗІ

**Нарыс**

Мал. К. Ціхановіча.

Бывае і так на вечарынцы: не паладзяць хлопцы з дзяўчатамі, надзьмуцца... Ганна не хоча глядзець на свайго Андрэйку, бо ёй здалося, што ён заляцаўся да Параскі. Бліскаючы затуманенымі, у слязах вачамі, яна сказала, каб той больш ніколі-ніколі і не падыходзіў да яе... Ну, а як жа хлопцы? І яны не хочуць заставацца ў даўгу. Пасля кароткай нарады, нават не гледзячы ў бок сваіх красунь, яны кідаюць:

— Гайда на Украіну!

А ў гэты час у суседнім сяле, звонячы маністамі і ўплятаючы яркія стужкі ў косы, чарнабровыя Гані і Аксаны ганьбуюць сваіх парубкаў. Прасілі наладзіць карагод пад гармонік, дык яны сваё: пойдзем на рыбалку. Паскакаць, кажуць, і заўтра паспеем, а тут карась пайшоў, клюе надта, проста за голы кручок хапаецца.

Пашаптаўшыся, уладальніцы звонкіх маністаў аднадушна рашаюць:

— Яшчэ пашкадуюць, папросяцца... Свет клінам не сышоўся. Пойдзем у Беларусь...

Так бывае. Але ж не часта. Звычайна хлопцы і дзяўчаты суседніх калгасаў жывуць у згодзе. І калі ўжо збіраецца моладзь з украінскага сяла Ільмоўка да беларусаў у Глыбоцкае, дык талакой. А часам і глыбачане завітаюць да ільмоўцаў. Звычайна, калі моладзь з розных вёсак збіраецца разам, то часцей за ўсё хлопцы і дзяўчаты спачатку трымаюцца насцярожана, прыглядаюцца адно да аднаго.

Хлопцы асцярожна наводзяць разведку, дзяўчаты скоса, з-пад рукава паглядаюць на кучаравыя чубы хлопцаў. А тут не тое. Разведкі рабіць не трэба. Ільмоўцы і глыбачане — суседзі, знаёмыя здаўна, сустракаюцца і на вечарынках, і ў полі, часта косамі звоняць на лузе разам, праганяюць смагу крынічнай сцюдзёнай вадой з аднаго збана. А як наладзяць сумесную вечарынку, дык тут роспытам і воклічам няма канца:

— Ты дзе прапаў, Сцяпане? Аж тыдзень не бачыліся.

— Галю, гэта ж у цябе сукенка новая! Ці ў вашай краме такі паркаль?..

— Дык што? Лявоніху ці гапака?

І пачынаецца. Спачатку лявоніху, потым гапака. Хораша танцуюць і беларусы, і ўкраінцы. А яшчэ любяць вальсы, каб гэтак павольна і паважна пакружыцца, перадыхнуць пасля віхурыстых скокаў.

На адной з такіх вечарынак і сустрэліся Мікалай з Лідай.

— Хто гэта, наезджы ці што? — шапнула Ліда на вуха сяброўцы Ганне Каўшаровай.

Ганна спачатку не зразумела:

— Які табе наезджы, усе свае.

І, пераняўшы Лідзін позірк, запыталася:

— Што спадабаўся?..

Мікалай стаяў у баку ад танцораў і прыпальваў папяросу за папяросай. Адчуваў ён сябе неяк няёмка. Усе смяюцца, танцуюць, песні спяваюць, а ён нібы чужы. Адвык, ці што... А дзяўчаты, нібы незнарок, парамі праходзяць ля яго і неяк загадкава ўсміхаюцца. Ну, хоць бы вунь тая круглатварая, што з суседкай Ганнай шэпчацца. Засаромелася, адвярнулася... Чаго б гэта? А ён жа добра бачыў, што яе вялікія вочы пільна сачылі за ім.

Калі ішлі дадому, Ганна праціснулася праз гурбу хлопцаў і дзяўчат ды кранула Мікалая за руку:

— Табою адна цікавілася. А ты... Ці ў салдатах ачарсцвеў? Падышоў бы хоць да яе...

— Гэта круглатварая? — перапытаў хлопец. — Нешта не прыгадаю, чыя яна.

— А ўсё ж угледзеў, што круглатварая, — засмяялася Ганна. — Ты яе і не прыпомніш. Колькі на вечарынках не быў? Гады са тры? Дык яна тады яшчэ пешкі пад стол хадзіла.

...І гэтая сустрэча, і размова з Ганнай хутка забыліся. Некалі было Мікалаю, не да пагулянак. З арміі вярнуўся хлопец, трэба ўладкоўвацца. А куды? Бацька раіў:

— Як усе аднагодкі, ідзі ездавым. Збожжа да свірна прывезці, сена на ферму падкінуць.

Маці ж толькі ўздыхае:

— Вывучыўся б на каго...

— Гэта вы кіньце, — сурова пярэчыў Мікалай. — А вы што, не людзі? Іншыя калгаснікі — не людзі? Людзі, ды яшчэ якія! Што мазалі на руках — нічога. Цяпер гэта ў пашане. У калгасе застаюся.

І хацеў ужо Мікалай прасіць у брыгадзіра каня ды фурманку, каб у поле ехаць. Якраз старшыня на той выпадак падвярнуўся.

— Як жывем-можам? Чуў, у калгасе застаешся? Добра, вельмі добра. Такім арлам работа знойдзецца. А можа ты ў арміі тэхніку вывучаў? Нам шафёр ой як патрэбен! Што ні год, то машын прыбывае!..

Мікалай уздыхнуў:

— Вывучаў тэхніку, ды не тую. А шафёрам хацелася б.

— Такой бядзе можна памагчы, — павесялеў старшыня. — Была б ахвота. Што ты наконт курсаў скажаш?

— Я б сказаў — добра, — усміхнуўся хлопец.

— Ну, то і згода.

...Вярнуўся Мікалай з курсаў такі падцягнуты і стрункі. Там некалі было гуляць. Машына табе — не фурманка, пакуль вывучыш, дык добра папацееш. Але справіўся. І вечарам зухавата пранёсся на ЗІСе па вуліцы, міма свае хаты, праўлення і аж да клуба праскочыў. А там натоўп — хлопцы, дзяўчаты, баяністаў аж два, ля іх Сашка-пастушок з бубнам круціцца. Ён хоць малы, але спрытны. Так урэжа калатушкай, што бубен аж звініць, а званочкі заліваюцца на ўсе галасы.

Ля клуба вісіць нейкая вялікая аб'ява. Мікалай вылез з кабіны, каб прачытаць, але яго апярэдзіў Сашка. Гледзячы на новенькую машыну і на новага шафёра зачараванымі вачамі, хлапчук адразу выпаліў:

— Украінцы з самадзейнасцю прыехалі...

Мікалаю адразу прыгадаўся той вечар перад курсамі: песні, танцы і круглатварая дзяўчына з вялікімі вачамі. Ці прыехала яна?.. Але ж некалі на той вечар ісці. Машыну трэба дагледзець.

У клуб Мікалай усё ж пайшоў. І не прагадаў. Канцэрт быў сапраўды цікавы. Што ні нумар, дык хваля воплескаў. А тут яшчэ на сцэну выйшла — ну хто б вы думалі? — ды яна ж, круглатварая. Такім салаўём залілася, што не наслухаешся. Мікалай шалёна біў у далоні, хацелася, каб спявачка заўважыла яго. Хлопцы, што сядзелі побач, са здзіўленнем пазіралі: ці не п'яны хлопец, заўсёды такі стрыманы, а тут...

І дзяўчына заўважыла яго. Калі праводзілі гасцей аж да сяла, Мікалай паспеў пазнаёміцца і нагаварыцца з ёю. Яе Лідай завуць, а прозвішча Малярэнка. Прыгожае прозвішча. Пад канец, калі ўжо развіталіся, Ліда выдала сябе:

— А вы гэта знарок так пляскалі ці сапраўды спадабалася?

Ого, яшчэ як спадабалася Мікалаю! І не толькі звонкая песня.

...Цяпер ужо Мікалай Каўшароў чакаў з нецярпеннем, калі хлопцы зноў пойдуць на Украіну. Самому заводзіць гаворку неяк нязручна. І вось сабраліся. Таксама з канцэртам. Мікалай, хоць і не быў ні спеваком, ні танцорам, падахвоціўся ехаць з гурткоўцамі. Але Ліды ў клубе не было. Дзе яна?

— Шукаеш? Ты б у мяне спытаў, — хітра ўсміхаючыся, запытала Ганна. — У Маскву, на выстаўку паехала Ліда. Яна табе не хто-небудзь, а лепшая даярка калгаса. Во!

Праз тыдзень Мікалай не вытрымаў і, дачакаўшыся, калі ўсе канторскія пайшлі на абед, пазваніў у Ільмоўку. Нечы хрыпаты бас прабубнеў у трубку:

— Прыехалі, яшчэ ўчора. А што, можа запрасіць іх хочаце?

— Ды не, мы самі, — недарэчы адказаў хлопец, збянтэжыўшыся, і паклаў трубку на рычаг.



А сэрца так і ёкнула: Ліда дома. Трэба з ёю сур'ёзна пагаварыць.

Толькі сур'ёзнай размовы не атрымалася ні назаўтра, ні праз тыдзень. Не вытрымліваў Мікалай позірку лідзіных вачэй. І вось адважыўся. На сваім грузавіку, распырскваючы дажджавыя лужы і палохаючы курэй, ён падкаціў да лідзінай хаты.

— Цур тобі! — засланілася рукой старая жанчына, што грэлася на прызбе.

А Ліда выглянула ў акенца і перапалохалася:

— Што здарылася?

Мікалай ухіліўся ад прамога адказу:

— Ёсць справа. Сядай у кабіну, раскажу...

Яны паехалі не ў Глыбоцкае, а на шырокую пойму, дзе сыходзяцца лугі ўкраінскага калгаса «Праўда» і беларускага імя Уладзіміра Ільіча. Аб чым яны там гаварылі, ведаюць адны чырвоныя смолкі ды блакітныя кветкі-званочкі. Толькі вярталіся назад расчырванелыя, узрушаныя, і зноў пранесліся міма Глыбоцкага і ўз'ехалі на вуліцу Ільмоўкі.

— Я тут пабуду, — прашаптала Ліда. — Сам пагавары з татам і матуляй.

...Усё абышлося, як трэба, па вясковаму звычаю, з камсамольскімі песнямі. Сваты вось толькі спрачаліся занадта.

— Няхай маладыя ў нас жывуць, — даводзілі ўкраінцы. — Вунь Мікалаеў брат Валодзя ажаніўся і жыве ў нашай вёсцы. Дык што яму адыходзіць? Асталяваўся, гаспадаром стаў...

— Што там Валодзя? — пярэчылі беларусы. — Нібыта горш у нас вашаму Змітру Аліменку. Трактарыстам стаў, жыве на славу. Трое дзетак з Параскай гадуюць... А Вара Барысенка. Таксама ў нас. Муж на вайне загінуў, яна ж у нашым калгасе засталася. І не пакінулі ў бядзе жанчыну.

— У нас ураджаі, пшаніца якая! — хваліліся адны.

— І ў нас пшанічка цяпер расце, — даказвалі другія. — Затое ў нас свая электрастанцыя. Клуб вунь які, двухпавярховы, каменны.

— Яна ж перадавая даярка, — не здаваліся ільмоўцы. — Сама не згодзіцца...

— І наша ферма вашай не ўступіць, нават лепшая, — стаялі на сваім глыбачане. — Кароўнік новы, цагляны, аўтапаілкі ёсць. Знойдзецца і Лідзе работа, калі захоча.

Невядома, колькі б спрачаліся сваты, хто ўзяў бы верх, калі б не ўмяшаўся бацька нявесты.

— Няхай маладыя самі рашаюць, — цярэбячы сівы вус, спыніў красамоўства сватоў стары Малярэнка.

— Праўда твая, Пятро Назаравіч, — падтрымаў яго Фядос Савельевіч Каўшароў. — Як скажуць, так і будзе.

А маладыя даўно парашылі жыць у Глыбоцкім. Ліда так і сказала: пастараюся, каб яшчэ раз паехаць на выстаўку, толькі ўжо ад беларускага калгаса.

У чыёй хаце будуць маладыя жыць? У свёкравай? Ці, можа, самім пачаць будавацца?

Тут параду дала Лідзіна маці Мотра Сямёнаўна:

— Жывіце лепш па сабе. А пабудавацца паможам. Не апошнія ў калгасе... Ці так, кума Марфа?

Марфа Клімаўна выцерла няпрошаную слязу ражком хусткі і кіўнула:

— Ды так жа, свае дзеці...

— Бацькі, кажаце, памогуць? А ад праўлення трэба толькі ўчастак? — грымеў у канцылярыі старшыня Кірыла Рыгоравіч Кушняроў. — А лес дадуць вам бацькі? Во-во! Думаеце, мы тут сядзім і нічога не разумеем. Ці калгасам хату не агораем?

І, павярнуўшыся да бухгалтара, аддаў загад:

— Выпісвай, Кандрат, лес на новую хату, як і дамовіліся на праўленні. І пра транспарт не забудзь.

— Ды сам вывезу, не турбуйцеся, — аж зачырванеўся Мікалай. — Шафёр я.

— Ты шафёр, а машына калгасная, — адрэзаў Кірыла Рыгоравіч. — Патрэбен парадак.

Неўзабаве побач з сядзібай старой Каўшарыхі вырасла новая хата. Так пажадалі Фядос Савельевіч і Марфа Клімаўна. Яно і вядома. Дзеці пойдуць, дык тут жа блізка, заўсёды можна прыглядзець.

Наконт работы ў Ліды быў цвёрды план. Толькі на ферму, даяркай. Далі ёй групу кароў, не на выбар, праўда. Старшыня папярэдзіў пры гэтым:

— Тут у нас Агрыпіна Кушнярова і Фядора Каўшарова кароў дояць. Дык ты носа не задзірай, слухай іх. Хутка дваццацігоддзе работы на ферме абедзве спраўляць будуць. А гэта не жартачкі, сама ведаеш!..

Ліда і не думала задзіраць нос. Слухалася старых, прыглядалася да работы маладых і свой розум мела. Усё, як у скарбонку, складала, узважвала і меркавала. І не дарма: у хуткім часе пераходны чырвоны вымпел аказаўся ў яе. Першай даяркай стала, па ўсяму Церахоўскаму раёну сярод лепшых слыве.

І, вядома, на выстаўку ў Маскву трапіла б, ды справы ж, самі ведаеце, сямейныя. Сын спачатку нарадзіўся, а потым неўзабаве і дачка. Ліда сама смяецца: во, камсамолка, а дзетак двое. Хутка маму дагоняць.

Смяецца, ды думкі ранейшыя не кідае. За дзецьмі свякруха прыглядае, а яна зноў на ферме. Добра, што кароўнік побач. Накорміць калгасных кароў, падоіць і малых праведае. Ладна ўсё атрымліваецца. Цяпер узяла групу цёлак, сама іх рашыла раздаіць. А на сходзе цвёрдае слова дала:

— Надаю ў трэцім годзе сямігодкі па тры тысячы кілаграмаў малака.

Вось толькі карагоды цяпер вадзіць некалі. Праўда, у Ільмоўцы часта бывае, цягне на сваю Чарнігаўшчыну, да бацькоў. Але ж муж шафёр, падвязе, тут недалёчка — тры кіламетры. Часам па дарозе падбяруць ільмоўскіх ці глыбоцкіх хлопцаў і дзяўчат. Ільмоўскія хваляцца:

— Зусім вас даганяем. Адной электрычнасці не хапала, дык цяпер працягнулі лінію з Васілевіцкай ДРЭС.

— Во, улічыце, — жартуе Мікалай, — гэта вам братняя дапамога.

А сваім паплечнікам, з якімі разам хадзіў на вечарынкі ў Ільмоўку, падміргвае:

— Адстаем. Ці там хлопцы вас заціскаюць? Не можа быць, каб такіх арлоў крыўдзілі.

А тыя ў адказ:

— Пачакай, такіх яшчэ даярак прывядзем, што тваю Ліду за пояс заткнуць.

— Можа вас туды прынадзяць?

— І гэта магчыма. Не разбярэш цяпер, чый калгас лепшы, наш ці іхні.

Ёсць жа і такія, што прапануюць:

— У нас не проста дружба, а, па праўдзе кажучы, адна сям'я. Можна б і аб'яднацца ў адзін беларуска-ўкраінскі калгас.

На гэта Кірыла Рыгоравіч Кушнароў адказвае:

— Нічога, што радня, сям'я. Мы яшчэ паспаборнічаем і выйдзем наперад.

Ліда прытрымліваецца той жа думкі. Яна ж таксама дала такое слова.

**Церахоўскі раён**
**Гомельскай вобласці.**



*Гары, камсамольскі аганёк!*

# БУДНІ АДНАГО РАЙКОМА

Раніца выдалася цёплая і сонечная. Такія раніцы бываюць толькі вясной. У шырокім прамавугольніку райкомаўскага акна, што выходзіць на цэнтральную плошчу Карэліч, як на экране, відзён пачатак працоўнага дня. Размахваючы партфелямі, прабегла да школы некалькі вучняў; спакойна так, і нават крыху важна, ідуць на працу служачыя мясцовых устаноў. З-за вугла на плошчу выскачыў залеплены гразёю «газік» і спыніўся на месцы стаянкі машын. З яго сышлі пажылы чалавек і шафёр. Яны крытычна агледзелі сваю машыну і моўчкі паківалі галовамі — вось дык дарожка была! Але ўсё ж даехалі...

Леанід Гацкі пазірае ў акно і раз-пораз настойліва паўтарае ў тэлефонную трубку: «Турэц... Турэц... Турэц...» Трубка маўчыць — відаць, занята лінія або там, у Турцы, яшчэ не прыйшоў на працу патрэбны чалавек. Леанід асцярожна кладзе трубку на рычажкі, праводзіць рукамі па твары — не выспаўся. Ноччу толькі вярнуўся з дальняга калгаса. Дарогі расквасіла зусім, дабіраўся дзе на падарожнай машыне, дзе пешшу — нічога, справа прывычная!

Леанід невысокага росту, апрануты ў карычневы касцюм, на грудзях камсамольскі значок. Мясцовы цырульнік, як відаць, перастараўся і падстрыг першага сакратара райкома камсамола залішне высока, таму што белыя Леанідавы валасы ніяк не хочуць ляжаць і крыху тырчаць у бакі. Хлопец час ад часу папраўляе іх рукамі...

Але, як кажуць, бліжэй да справы. Іх многа, гэтых спраў і ў камсамольскага важака раёна... Яны розныя па сваёй «тэматыцы», па сваёй важнасці, але ўсё роўна іх прыходзіцца вырашаць... І вырашаць па-камсамольску прынцыпова, хутка, не адкладваючы на пасля.

Яшчэ не было дзевяці, калі прыйшла Ірына Бака — другі сакратар. Заўтра склікаецца пленум райкома камсамола. Ірына выступае на ім з дакладам «Аб становішчы і мерах палепшання работы піянерскіх дружын». Селі з першым сакратаром, перачыталі падрыхтаваны Ірынай даклад, адны месцы павыкрэслівалі, у іншых дапісалі.

— Галоўнае,— гаворыць Леанід, — абагуліць у дакладзе вопыт, набыты камсамольскімі арганізацыямі раёна ў працоўным выхаванні школьнікаў...

Ён дастае з кішэні запісную кніжку.

— Вось новыя факты. Скарыстай у дакладзе...

Ірына ўважліва слухае, час ад часу робіць нейкія запісы.

Вядома, выхаванне піянераў і школьнікаў — справа надзвычай важная. Але калі Ірына выйшла, Леанід непрыкметна пераводзіць гутарку на самую злабадзённую тэму — як камсамольцы і моладзь раёна ажыццяўляюць рашэнні студзеньскага Пленума ЦК КПСС, як яны рыхтуюцца сустрэць чарговы XXII з'езд нашай партыі, як выконваюць абавязацельствы трэцяга года сямігодкі.

Вясна прыйшла жаданай госцяй не толькі на палеткі і фермы. Яе прыход адчуваецца і тут, у камсамольскім райкоме. І хоць наступіла яна рана — ёй не ўдалося захапіць карэліцкіх камсамольцаў знянацку. Яе чакалі, да яе прыходу рыхтаваліся...

— Першая і галоўная запаведзь, якой мы прытрымліваемся,— гаворыць Леанід Гацкі,— гэта навучыць моладзь весці гаспадарку па-навуковаму, з прымяненнем усіх правіл агратэхнікі. І мы ўжо дасягнулі некаторых поспехаў. Вось прыклад: у мінулым годзе ў нашым раёне арганізаваны і рэгулярна працуе ўніверсітэт перадавога вопыту. Выдатная справа! Кожны апошні чацвер чарговага месяца збіраюцца слухачы ўніверсітэта ў калгас «Новае жыццё» на заняткі. Да нас прыязджаюць вучоныя, яны чытаюць лекцыі. Тут жа на занятках выступаюць перадавікі сельскай гаспадаркі раёна, расказваюць аб вопыце сваёй працы. Часта дэманструем сельскагаспадарчыя кінафільмы. Кіруе ўніверсітэтам аграном калгаса «Новае жыццё» Анастасія Пліпаўна Горб. Добра кіруе...

— Вы пытаеце, якія практычныя вынікі мы маем з гэтага? Добрыя. Возьмем той жа калгас «Новае жыццё». У мінулым годзе тут атрымана па 14 цэнтнераў зерня з кожнага гектара, па 830 цэнтнераў зялёнай масы кукурузы з кожнага са 150 гектараў, надоена па 375 цэнтнераў малака на 100 гектараў сельгасугоддзяў... Але гэта яшчэ не ўсё. Прымяненне поўнай механізацыі дазволіла калгасу «Новае жыццё» знізіць сабекошт аднаго цэнтнера сіласу да 11 капеек, у той час як па раёну ён склаў 2 рублі 85 капеек... Хіба гэта не пераканаўча?

Усе калгасныя камсамольцы — слухачы ўніверсітэта перадавога вопыту. Яны рыхтуюцца да барацьбы за выкананне сваіх абавязацельстваў. А сёлета нам прыйдзецца добра папрацаваць... Будзем вырошчваць 5 000 гектараў кукурузы, з іх 1 500 гектараў на зерне. Абавязаліся з кожнага гектара сабраць не менш чым па 700 цэнтнераў зялёнай масы.

Як мы гэтага даб'ёмся? У нас у раёне кінут кліч: «Тэхніку — у рукі моладзі!» 179 маладых механізатараў старанна рыхтаваліся да веснавой сяўбы. Многія з іх авалодалі сумежнымі прафесіямі. Гэта ж вунь якая армія!

У словах сакратара райкома гучыць упэўненасць. Ён дастае план работы ўніверсітэта...

— Вось тэмы, па якіх праведзены заняткі ўжо ў гэтым годзе: «Передавыя метады вырошчвання цукровых буракоў», «Сабекошт і шляхі яго зніжэння пры вырошчванні тэхнічных культур», «Гаспадарчы разлік і нарміраванне працы ў жывёлагадоўлі і раслінаводстве».

Зазваніў тэлефон... Пошта, нарэшце, уключыла Турэц. Пакуль Леанід размаўляў па тэлефоне, я разгарнуў адзін з фотаальбомаў, што ляжалі на стале... Фотаздымкі і просценькія малюнкі самадзейных мастакоў пераканаўча расказваюць аб справах моладзі раёна, аб працоўнай эстафеце, прысвечанай 40-годдзю Ленінскага камсамола.

— Вось так і працуем, — зноў пачаў гутарку Леанід. — Дарогі распусціла, баюся, што не ўсе члены пленума заўтра дабяруцца...

Калі я сказаў Леаніду, што хачу напісаць аб працоўных буднях райкома, ён крыху сумеўся.

— Ведаеце, сёння дзень у нас будзе спакойны, нічога асаблівага не ўбачыце. Нікога не выклікалі на абмеркаванне, бюро па прыёму ў камсамол таксама не збіраем... Пасядзіце, паглядзіце, але ці будзе што цікавага...

Леанід гаварыў шчырую праўду. Усе райкомаўскія работнікі ўвесь гэты дзень рашылі прысвяціць аднаму — найлепш падрыхтавацца да пленума. Усе яны пабывалі за апошнія дні ў калгасах і школах раёна, гутарылі з камса-

мольскім актывам. Нікога, як гаварыў Гацкі, не выклікалі сёння ні на прыём, ні на іншыя, магчыма, не зусім прыемныя гутаркі.

Тым не менш... Не паспелі мы закончыць размову, як з'явіліся першыя наведвальнікі... І з'явіліся сапраўды не па выкліку. Яны прыйшлі ў камсамольскі райком, да яго работнікаў за парадай, за дапамогай. І гэта самы пераканаўчы доказ таго, што райком дзейнічае. Каб пацвердзіць гэта, дазволім сабе прывесці толькі некаторыя з тых гутарак, якія вяліся ў райкоме ў гэты нічым не асаблівы дзень.

...На шэрай форменнай тужурцы, у якую апрануты Пятро Хінейка, два рады белых бляшаных гузікаў з малаточкамі і ключамі. Але нават і без гэтага можна здагадацца, што хлопец мае самае непасрэднае дачыненне да тэхнікі. Усё на ім — і шапка, і тужурка — прапітана перагарам саляркі і машыннага масла. Слоем шэрага загару пакрыты ягоны твар.

— Так... У студзені гэтага года закончыў Навагрудскае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі... Трактарыст... Працую ў калгасе імя Кірава... На розных работах...

Пятру вельмі хочацца працаваць на трактары. А ў калгасе на ўсіх трактарыстаў не хапае машын... Юнак некаторы час пазірае ў вочы Леаніду Гацкаму, а потым гаворыць:

— Я чуў, што ў райкоме ёсць камсамольскія пуцёўкі ў Казахстан... Хачу паехаць туды працаваць...

— Не. Пакуль пуцёвак няма. У лютым было восем, дык на іх у два разы больш заяў паступіла... Выбралі самых лепшых камсамольцаў і паслалі... На бюро абмяркоўвалі кожную кандыдатуру...

— А ўлетку, калі будуць ураджай убіраць, вы мяне пашлеце на цаліну? — настойвае на сваім хлопец.

— Улетку? Можа і раней. А наогул, паглядзім. Будзеш добра працаваць тут, у калгасе, пашлём... У нас ужо ёсць трыццаць заяў... Будзем толькі лепшых механізатараў пасылаць... Згодзен?

— Згодзен...

Хлопец развітваецца, выходзіць, асцярожна зачыняючы дзверы. Леанід вымае з шуфляды стала акуратна складзеныя аркушы паперы.

— Вось, чытайце... Трыццаць заяў. Большасць ад дзесяцікласнікаў... Добрыя хлопцы. Працаваць умеюць. Маладыя, гарачыя... Пускай іх на камсамольскія новабудоўлі, і ўсё... Кажуць, хочам па свеце паездзіць, сваімі вачыма ўсё паглядзець, сваімі рукамі вялікія справы тварыць... А як ты іх пусціш усіх?

Яны кароткія, амаль аднолькавыя па зместу, гэтыя заявы.

«Прашу райком камсамола накіраваць мяне па камсамольскай пуцёўцы. Цяпер працую на жывёлагадоўчай ферме.

Павел Мацяюк.
в. Забалоцце».

«Прашу накіраваць мяне па камсамольскай пуцёўцы. Спецыяльнасць у мяне — трактарыст.

Мікалай Мядзведзь.
в. Дуброва».

Можна было б прывесці і ўсе астатнія дваццаць восем заяў. Іх пісалі юнакі і дзяўчаты з гарачымі сэрцамі, з рамантычнымі марамі, галоўная з якіх — працаваць на самых цяжкіх і на самых цікавых участках вялікага фронта сямігодкі.

Калі Леанід Гацкі пачынае гаварыць пра гэта, у голасе яго чутны ноткі гонару. З захапленнем расказвае ён і аб тых, хто працуе тут, у сваім родным раёне, на фермах, на палетках. Гэта браты Траско — механізатары з калгаса «Рассвет», якія ў мінулым годзе вырасцілі па 810 цэнтнераў кукурузнай масы з гектара на ўчастку ў 150 гектараў; гэта — звеннявая кукурузаводчага звяна Зіна Сіліпіцкая; гэта — механізатары з калгаса «Новае жыццё» Віктар Шэйбак, Мікола Смаль, Аляксандр Рахманка, якія давялі сабекошт кукурузнага сіласу да 11 капеек за цэнтнер...

— Добрая ў нашым раёне моладзь — працавітая, дапытлівая. Сёлета камсамольцы раёна рашылі вырасціць, акрамя кукурузы, яшчэ і 3 300 гектараў траў, узяць шэфства над міжкалгаснай птушкафабрыкай, што будуецца ў калгасе імя Жданава. З такой моладдзю добра і працаваць! Нашы камсамольцы — аматары ўсяго новага. Нядаўна, акрамя ўніверсітэта перадавога вопыту, стварылі мы яшчэ і школу перадавога вопыту па ільнаводству... Працаваць і вучыцца — вось галоўны дэвіз нашай моладзі...

Леанід называе прозвішчы лепшых камсамольцаў раёна, лічбы, факты... Іх многа, яны павучальныя... Гаворачы пра ўсё гэта, сакратар райкома не заглядвае ў запісную кніжку. Ён ведае ўсё напамяць. Ды і як не ведаць, калі за ўсім гэтым — вялікая, напружаная праца, людзі з іх радасцямі і клопатамі, калі ва ўсім гэтым ёсць частка і яго ўласнай працы...

Сонца тым часам залівае вясновым святлом увесь невялічкі пакой. Тут два сталы, этажэркі з кнігамі і альбомамі, кніжная шафа, карта свету і карта раёна, Чырвоны сцяг, уручаны карэліцкім камсамольцам на вечнае захаванне Цэнтральным Камітэтам камсамола Беларусі і Міністэрствам сельскай гаспадаркі рэспублікі за вырошчванне высокіх ураджаяў тэхнічных культур.

...Зайшоў наведвальнік — дырэктар Турэцкай сярэдняй школы рабочай моладзі Валянціна Баляславаўна Пратасевіч.

— Хочам заўтра з канцэртам мастацкай самадзейнасці тут, у Карэлічах, выступіць... А раённы Дом культуры свой канцэрт падрыхтаваў... Рассудзіце нас, калі ласка...

Неўзабаве зайшоў і дырэктар РДК таварыш Бурцаў, крыху сярдзіты, маўклівы. У яго довады таксама слушныя:

— У нас заяўкі ёсць, каб паўтарылі праграму канцэрта.

Леаніду Гацкаму трэба шукаць выхад. Хочацца, каб і з Турца самадзейныя артысты выступілі, і сваіх мясцовых не пакрыўдзіць... Тым больш... Сам Леанід спявае ў хоры РДК. Рашылі ўсё ж, што з канцэртам выступіць самадзейнасць Дома культуры, а ў наступную суботу сцэна будзе прадастаўлена самадзейным артыстам з Турца.

— Так вось іншы раз і не зробіш за дзень нічога, — усміхаецца Гацкі. Ён дастае паперку. Трэба да заўтрашняга пленума яшчэ некаторыя пытанні прадумаць.

Застаемся ў пакоі адны. Але ненадоўга. Зноў стук у дзверы, і зноў размова з чарговым наведвальнікам. Часам спакойная, часам на больш высокіх нотах.

...Георгі Бумай сядзіць перад сакратаром райкома ўсхваляваны і разгублены — у хлопца вялікая бяда. Мінулай восенню згарэў ільнотрапальны агрэгат, на якім ён быў машыністам. За недагляд і за страты, нанесеныя калгасу «Шлях да камунізма», хлопца «прабіралі» ўжо і ў райвыканкоме і ў калгасе. Сёння яго павінны судзіць. Георгі прыйшоў у райком за дапамогай. Ён згодзен заплаціць калгасу за страты, толькі б не адлучалі ад таварышаў...

Гацкі ведае гэтага хлопца. Старанны, працавіты. Здарылася няшчасце з чалавекам. Сакратар доўга не рашаецца, нарэшце падымае трубку. Калі размова з нейкім, відаць, адказным таварышам заканчваецца, паведамляе Георгію:

— Здаецца, уладзіцца твая справа, але за страты будзеш плаціць...

І яшчэ адна гутарка. На гэты раз больш доўгая і зусім іншая. Са старшынёю савета маладых спецыялістаў, які арганізаван пры райкоме камсамола і добра працуе. Старшыня гэтага савета заатэхнік Мікалай Трусевіч сёння прыйшоў да Гацкага, каб удакладніць план работы на бліжэйшы час...

...Кустовая нарада калгасных даярак... Вынікі ўжывання антыбіётыкаў на ферме калгаса імя Кірава... Паскораны адкорм маладняку ў калгасе «Новае жыццё»... Вопыт перадавой свінаркі-тысячніцы Неанілы Буй... Гутарка агранома з калгаса «Новае жыццё» Валерыя Шэсцеля...

Гацкі і Трусевіч схіліліся над планам, ціхенька спрачаюцца, вызначаюць дакладчыкаў, перастаўляюць тэмы. А час не чакае. Ужо высыпалі са школы і разыходзяцца гаманлівыя чародкі вучняў. Пабедалі і вяртаюцца на свае працоўныя месцы служачыя.

У райкоме ж новы наведвальнік... Васіль Тананка, старшыня камісіі па вуснай і пісьмовай пра-

пагандзе. І зноў тэмы, прозвішчы дакладчыкаў, тэрміны правядзення. Часам дасціпны жарт…

А ў суседнім пакоі другі сакратар райкома Ірына Бака гутарыць са старым, але яшчэ па-маладому бадзёрым чалавекам… Ён гаворыць рэзка і кожнае сваё слова падмацоўвае ўзмахам рукі… Знаёмімся…

Іван Змітравіч Калбаска. Сёлета будзе спраўляць сваё сямідзесяцігоддзе. Член савета пенсіянераў. Справа, якую ён прыйшоў вырашыць у камсамольскі райком, вельмі важная.

— Да якога часу дашкольнікі будуць швэндацца без патрэбы па вуліцах?.. Мы, пенсіянеры, хочам узяць над імі шэфства. Вось нашы прапановы. У нас часу хопіць, каб заняцца з дзецьмі…

Ён коратка і ясна выкладае свае думкі. Ірына Бака ўважліва слухае. Так. Справа вартая… Райком падтрымае… Тут жа дамаўляюцца, калі пачаць працу з дашкольнікамі.

Райком працуе, райком дзейнічае. На першы погляд такая праца можа здацца крыху канцылярскай. Але на самай справе гэта далёка не так.

Вечарам у невялічкім пакоі Гацкага сабраліся ўсе райкомаўскія работнікі. Іх шэсць чалавек. І, вядома, гэтаму невялічкаму калектыву райкомаўцаў не ўдалося б апаратыўна і канкрэтна кіраваць камсамольскімі арганізацыямі раёна, калі б ён не абапіраўся на пазаштатных сваіх інструктараў, камсамольскіх сакратароў, калі б не трымаў цеснай сувязі са сваім актывам, з моладдзю, што працуе, як прывыклі гаварыць, на месцах… А такая сувязь ёсць. Яна моцная, надзейная… Дастаткова сказаць, што кожны з тых, хто працуе тут, у райкоме камсамола, да гэтага прайшоў добрую працоўную школу.

Леанід Гацкі доўгі час працаваў на камсамольскай рабоце ў былым Мірскім раёне.

Сакратаром камсамольскай арганізацыі ў калгасе «Чырвоны партызан» быў інструктар Павел Перавоз.

Працавала ў калгасе «Чырвоны Кастрычнік» загадчык аддзела ўліку Ніна Вярбіцкая.

Карыстаючыся вольнай часінай, яны абмяркоўваюць патрэбы дня… Інструктар Змітро Чубрык, яшчэ ў нядаўнім мінулым ваенны марак, заводзіць гутарку аб двух колах, якіх няма дзе купіць для райкомаўскага матацыкла. А ён так патрэбен, таму што большую частку свайго часу райкомаўцы праводзяць на раёне — у калгасах, у школах, у клубах…

…Назаўтра з самай раніцы, калі з калгасаў і школ пачалі прыбываць удзельнікі і члены пленума, Леанід Гацкі не садзіўся за свой стол. Нібы клапатлівы гаспадар, што хоча як найлепш прыняць гасцей, ён то выходзіў на невысокі райкомаўскі ганак, то гутарыў з моладдзю ў невялічкім вестыбюлі. Тут жа Змітро Чубрык рэгістраваў прыбываючых… І ён, і Леанід хваляваліся — а што, калі не ўсе збяруцца? Час гарачы — вясна, у калгасах спраў шмат.

Але хваляванні былі дарэмныя. Вось ужо ў зале пасяджэнняў райкома партыі амаль не засталося вольных месц, і хтосьці, спазніўшыся на мінуту-другую, асцярожна прабіраецца ў першы рад, дзе яшчэ можна прысесці. Вось ужо за доўгім сталом займаюць месцы члены бюро райкома і члены прэзідыума… Вось ужо Леанід устаў з месца і дробна стукае алоўкам па традыцыйным на ўсіх пасяджэннях графіне з вадой:

«Таварышы!..»

У зале настала цішыня. На трыбуну ўзышла Ірына Бака. Ціха было ў зале і тады, калі на гэтую ж трыбуну адзін за адным пачалі падымацца члены пленума, выступаючы ў спрэчках… Час ад часу іх прамовы перапынялі кароткімі воплескамі або дружным смехам.

Ірына Бака ў сваім дакладзе называла лічбы. Без іх цяжка абысціся, яны бытуюць амаль ва ўсіх дакладах. З дакладаў яны трапляюць у запісныя кніжкі журналістаў, адтуль — у друк. Іх часам сумна чытаць, асабліва, калі яны ў кожным абзацы. І ўсё ж хочацца рызыкнуць… Назаву толькі тры лічбы: 1 500, 112 і 12.

1 500 — гэта колькасць юнакоў і дзяўчат з сярэдняй адукацыяй, якія працуюць у калгасах раёна… 112 — гэта лічба, якая гаворыць, колькі з іх вучыцца завочна ў інстытутах і тэхнікумах. І апошняя — 12. Дванаццаць брыгад і звенняў, якія змагаюцца за званне калектываў камуністычнай працы. Гэтыя лічбы — сведчанне таго, што ў раёне ёсць добрыя прыклады для выхавання піянераў і школьнікаў у камуністычным духу.

…Уладзімір Аляшкевіч спачатку хацеў чытаць сваё выступленне па лістках… Пачаў, збіўся, вінавата ўсміхнуўся і, махнуўшы рукою, сунуў лісткі ў кішэню…

— Значыць, працую я трактарыстам у калгасе «Суворава». Кажуць мне аднойчы: «Паедзь убяры на сілас кукурузу, што вырасцілі школьнікі». Прыехаў. Кукуруза, як лес, метры тры ў вышыню, густая. І школьнікі прыбеглі, крычаць, смяюцца: «Ваш камбайн не возьме нашай кукурузы!» А я кажу: «Возьме». Бяру, значыць, аднаго хлапчука да сябе на трактар, другога на камбайн падсадзіў. Паехалі. Глядзяць мае піянеры, як з камбайна ў машыну сілас сыплецца, і аж раты паразяўлялі. «Вось дык машына!» — кажуць. Значыць, убраў я іхнюю кукурузу. Пазнаёміліся, разгаварыліся… А пасля і пайшло. Я цяпер за піянерважатага ў іх лічуся. Машыны з імі вывучаю… Сяўба пачнецца — у поле буду браць… І вучыцца яны лепш пачалі… Я думаю, што падрыхтую сабе добрых памочнікаў.

І хто ведае, можа ў той час, калі з райкомаўскай трыбуны трактарыст-піянерважаты Уладзімір Аляшкевіч расказваў аб сваёй, поўнай рамантыкі працы, можа ў той час прыйшлі цікаўныя піянеры на палі калгаса «Новае жыццё» і разам са сваёй піянерважатай аграномам Ціханавай схіліліся над веснавой рунню. Можа іменна ў гэты час праводзіла цікавую гутарку са сваімі піянерамі на калгаснай ферме даярка Тамара Моніч… Можа іменна ў гэты час у Ярэмічах сабраў школьнікаў на чарговыя заняткі па вывучэнню аўтамашыны дапытлівы юнак Леанід Парфенка — шафёр і матацыкліст.

Іх шмат у раёне — працавітых юнакоў і дзяўчат, што сталі энтузіястамі выхавання падрастаючага пакалення… Аб іх гаварылі на пленуме райкома.

Калі зайшла гутарка пра атэістычнае выхаванне, слова ўзяў настаўнік Ярэміцкай сярэдняй школы Пятро Сачыўка.

— Мы выхоўваем ваяўнічымі атэістамі не толькі нашых вучняў. Мы вядзем атэістычную прапаганду і сярод дарослых. Зрабілі перасоўны агітпункт — заносім плакаты, кнігі, брашуры на дом веруючым і пакідаем дні на тры. Цікаўнасць бярэ верх — чытаюць.

Гаварылі ў прамовах яшчэ пра многае. Пра тое, як у адной са школ раёна сыны папа ўдзельнічалі ў антырэлігійнай п'есе «Браты ў Хрысце», як працуе ўніверсітэт культуры ў Мірскай сярэдняй школе, як працуюць вучнёўскія агітбрыгады Карэліцкай школы.

Слухалі работнікі райкома і крытыку ў свой адрас. Яна была рэзкая, як кажуць, проста ў вока… Так… Вінаваты… Прагледзелі… Ёсць яшчэ сярод моладзі раёна і п'яніцы, і хуліганы. Расклаўшы на трыбуне кіпу папер, падрабязна гаварыў аб гэтым намеснік пракурора таварыш Сяргееў… Не дацягнуліся, як кажуць, рукі райкома да тых камсамольцаў, якія ў мінулым годзе зрабілі 33 парушэнні грамадскага парадку. Можа, каб своечасова ўзялася камсамольская арганізацыя за Мікалая Стрэчаня з вёскі Клюнічы, дык не ўчыніў бы ён панажоўшчыны і не прадстаў бы перад судом. Суха і гнеўна гаворыць намеснік пракурора. Прыходзіцца слухаць, вінаваты…

Надвечар ужо, калі закончыўся спіс выступаючых, калі было прынята рашэнне, калі многім з удзельнікаў пленума былі ўручаны граматы ЦК ЛКСМБ і Гродзенскага абкома камсамола, а лепшым піянерскім дружынам — памятныя вымпелы, апусцеў райкомаўскі калідор. Толькі на плошчы каля падарожных машын яшчэ некаторы час звінелі маладыя галасы. Удзельнікі пленума спяшаліся дамоў…

А назаўтра ўслед за імі адправіліся і работнікі райкома. У гэтыя веснавыя дні, калі зямля пакрываецца першымі ўсходамі, калі ўсё

больш і больш настойлівае вуркатанне трактараў кожную раніцу абуджае калгасныя палі, не сядзіцца Леаніду Гацкаму ў сваім кабінеце... Трэба ўсюды пабыць, на ўсё паглядзець сваімі вачыма, дзе памагчы, дзе падправіць, а дзе і склікаць камсамольскі сход, каб тут жа ліквідаваць недахопы...

Работнікі райкома ў прыўзнятым настроі. Такі настрой бывае ў людзей тады, калі яны ведаюць, што і самі, і іх сябры добра падрыхтаваліся да чагосьці важнага, адказнага. А гэтым важным і адказным для камсамольцаў і моладзі раёна з'яўляецца веснавая пара напружанай працы на палях, на вопытных дзялянках, на жывёлагадоўчых фермах. Яна праверыць на практыцы тыя веды, якія атрымалі маладыя хлебаробы ў час напружанай зімовай вучобы, у час падрыхтоўкі да барацьбы за ўраджай трэцяга года сямігодкі...

Па-веснавому шумна ў гэтыя дні над ракой Уша, дзе камсамольцы калгаса імя Чарняхоўскага стварылі па ўласнай ініцыятыве дадатковую птушкаферму, у Заполлі, дзе механізатары з калгаса «Новае жыццё» вывелі свае агрэгаты ў поле.

Кіпіць веснавая праца на карэліцкіх палетках. Добрых вам поспехаў, маладыя гаспадары раёна!

**У. НЯДЗВЕДСКІ.**

# Навука і культура

## ЗОЙДЗЕМ У ПАЛАЦ МУЗЫКІ

Калі, упершыню прыехаўшы ў сталіцу Беларусі, вы запытаецеся ў каго-небудзь з мінчан, дзе знайсці адну з музычных навучальных устаноў горада, напэўна, пачуеце адказ:

— Ідзіце на плошчу Свабоды: там яны ўсе побач.

І сапраўды: так ужо здарылася, што на адной з самых даўніх плошчаў Мінска аказаліся ў добрым суседстве музычная школа-сямігодка, музычная сярэдняя школа, музычнае вучылішча, Беларуская дзяржаўная кансерваторыя і своеасаблівы штаб музычнай культуры рэспублікі — Саюз кампазітараў Беларусі. У вокны будынкаў гэтых устаноў заглядаюць галінкі серабрыстых таполяў з суседняга сквера. Нешырокая алея прыводзіць нас да вялікага, светла-шэрага будынка з масіўнымі, велічнымі калонамі ў цэнтры галоўнага фасада. Гэты цудоўны будынак — новы вучэбны корпус кансерваторыі.

Звычайна, калі ўваходзіш у якую-небудзь музычную ўстанову, цябе адразу абкружаюць гукі самых разнастайных інструментаў, пераклічка галасоў рознага тэмбру. Зайшоўшы ж у кансерваторыю, вы здзіўляецеся цішыні, што пануе ў шырокіх яе калідорах. Будаўнікі ўлічылі асаблівасці вучэбнага працэсу. Кожны клас, кожная аўдыторыя маюць добрую гукаізаляцыю. Радуюць вока ўтульныя, светлыя пакоі, шырокія лесвіцы, стройныя рады зручных крэслаў і невялікі арган на сцэне ў канцэртнай



**Народны артыст рэспублікі прафесар Мікалай Ільіч Аладаў — адзін з заснавальнікаў кансерваторыі. Ён заўсёды сярод студэнтаў.**

зале, крыху «параднае» фае з вылепленымі аздобамі на столі і сценах, прасторная бібліятэка. Глядзіш на ўсё гэта новае, свежае, і міжволі ўспамінаецца невялічкі дом па вуліцы Кірава з двума дзесяткамі класаў, дзе трыццаць шэсць гадоў назад асталяваўся Беларускі дзяржаўны музычны тэхнікум, а пазней разгарнула сваю работу і кансерваторыя — першая вышэйшая мастацкая навучальная ўстанова нашай рэспублікі.

Спынімся на хвілінку ў вестыбюлі. Вось каля стэнда з насценнай газетай весела рагоча невялікая група студэнтаў, разглядаючы карыкатуры. На адной з іх — расфуфыраная дзяўчына, на другой — даўганосы сумны юнак са скрыпічным ключом пад пахай.

— Правільна Юрку пад дзевятае рабро падчапілі, — чутны галасы. — Хай займаецца лепш, а то сапраўды скора забудзецца, як скрыпічны ключ пісаць.

На процілеглым баку вестыбюля — аб'явы, напісаныя так, каб бачыць здалёку. Вялікі плакат заклікае прыняць удзел у конкурсе дырыжорска-харавога факультэта на лепшае развучванне беларускіх народных песень.

Яшчэ адзін плакат абвяшчае, што на пасяджэнні навуковага студэнцкага таварыства выступіць старшыня праўлення Саюза кампазітараў Беларусі Я. Цікоцкі з дакладам аб творчых захадах кампазітарскай арганізацыі напярэдадні XXII з'езда КПСС. Потым адбудзецца праслухоўванне ў запісу новых музычных твораў.

Імклівы тэмп жыцця кансерваторскай моладзі бачны тут ва ўсім: і ў руплівай мітусні каля вучэбных пакояў, і ў заклапочаных тварах студэнтаў, і ў шэфскай канцэртнай дзейнасці, пра якую паведамляюць аб'явы, і ў гарачых спрэчках, што з раніцы да позняга вечара ідуць у пакоі камітэта камсамола.

## КРЫХУ ГІСТОРЫІ

Цяжка пераацаніць тую вялікую ролю, якую адыграла Беларуская дзяржаўная кансерваторыя за гады свайго існавання ў справе развіцця нацыянальнага музычнага мастацтва. Тут атрымалі адукацыю кампазітары А. Багатыроў (дырэктар і прафесар кансерваторыі), П. Падкавыраў, В. Яфімаў, У. Алоўнікаў, Д. Лукас, Г. Вагнер, Ю. Семяняка, І. Кузняцоў, Я. Глебаў, Э. Тырманд, У. Чараднічэнка і многія іншыя. Пры кансерваторыі працавала оперная студыя, якая пераўтворана была ў Беларускі дзяржаўны тэатр оперы і балету. Са сцен Беларускай кансерваторыі выйшлі такія майстры опернага мастацтва, як салістка Вялікага акадэмічнага тэатра Саюза ССР Н. Гусельнікава, салісты беларускай оперы М. Зюванаў, Р. Асіпенка, Т. Шымко, Л. Ганестава, С. Гулевіч, В. Глушакоў і дзесяткі іншых. Выпускнікоў кансерваторыі — інструменталістаў можна сустрэць у лепшых сімфанічных і народных аркестрах Савецкага Саюза. Сімфанічны аркестр Беларускай дзяржаўнай філармоніі амаль увесь складаецца з выпускнікоў кансерваторыі. Велізарная колькасць кіраўнікоў прафесіянальных і самадзейных музычных калектываў, салістаў-інструменталістаў і вакалістаў, педагогаў музычных школ і вучылішчаў, выканаўцаў на народных інструментах маюць дыпломы аб заканчэнні Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.

Гэты шматсоценны атрад працаўнікоў музычнага мастацтва рэспублікі зрабіў вялікі ўклад у справу развіцця сацыялістычнай культуры беларускага народа, але сённяшняя рэчаіснасць зноў і зноў патрабуе ад кожнага музычнага дзеяча павышаць сваю актыўнасць, заўсёды быць у гушчы жыцця, жыць сучаснасцю.

Бадзёрым подыхам сучаснасці напоўнены штодзённыя будні кансерваторыі. На ўсіх яе факультэтах цяпер вучыцца больш 260 чалавек. Розныя шляхі прывялі іх у сцены вышэйшай музычнай навучальнай установы: адны прыйшлі сюды з музычных школ і вучылішчаў, другія атрымалі пуцёўку ў «вялікае» мастацтва ў калектывах самадзейнасці, трэція працавалі выкладчыкамі спеваў ці кіраўнікамі аматарскіх гурткоў і захацелі павысіць сваю кваліфікацыю. Большасць студэнтаў — дзеці рабочых, калгаснікаў, інтэлігентаў з самых розных куткоў Беларусі. На першых курсах кансерваторыі можна сустрэць былога слесара і электрыка, трактарыста і калгаснага рахункавода, настаўніка і ткачыху, чыгуначніка і будаўніка. Яны выявілі вялікія здольнасці да абранай прафесіі, і іх рукі, што некалі ўпэўнена кіравалі складаным станком ці трымалі руль трактара, зараз з няменшай упэўненасцю бегаюць па клавіятуры фартэпіяна альбо па грыфу скрыпкі. Усіх іх прывяла сюды любоў да музыкі, спеваў, жаданне стаць выканаўцамі, даследчыкамі ці стваральнікамі музыкі.



**Юры Логінаў** (злева) **іграе на валторне ў аркестры Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балету побач са старэйшым музыкантам А. Серабранскім.**

## БЕЗ ПРАКТЫКІ НЕ СТАНЕШ МУЗЫКАНТАМ

Найбольшая колькасць студэнтаў займаецца на аркестровым факультэце кансерваторыі, які рыхтуе скрыпачоў, віяланчалістаў, альтыстаў, кантрабасістаў, выканаўцаў на самых разнастайных духавых інструментах. Другі надзвычай папулярны факультэт — фартэпіянны. Ён выпускае піяністаў-выканаўцаў высокай кваліфікацыі, канцэртмайстраў для канцэртных арганізацый і педагогаў для музычных навучальных устаноў.

У апошнія гады вышэйшая школа ў нашай краіне імкнецца трывала звязаць свае вучэбныя праграмы і планы з жыццём, наблізіць іх да патрабаванняў сучаснасці, зрабіць вытворчую практыку студэнтаў штодзённай, карыснай і плённай. Такая практыка, як паветра, патрэбна і будучым музыкантам, якія рыхтуюцца да выканаўчай і педагагічнай дзейнасці.

Ужо з першых курсаў кансерваторыі студэнты наведваюць клас камернага ансамбля, іграюць у сімфанічным і народным аркестрах, займаюцца ў хоры,



**Леанід Юшкевіч на ўроку ў заслужанага артыста рэспублікі прафесара М. А. Бергера.**



**Натхнёна гучыць скрыпка ў выпускніка Віталя Чарныша.**

выконваюць абавязкі канцэртмайстраў і г. д. Студэнтаў жа старшых курсаў можна ўбачыць у аркестры і хоры опернага тэатра, сярод артыстаў усіх без выключэння прафесіянальных музычных калектываў Беларусі і салістамі на канцэртнай эстрадзе. Студэнт IV курса Юры Логінаў ужо каторы год іграе на валторне ў аркестры опернага тэатра, выконваючы самыя складаныя партыі.

Сур'ёзныя творчыя заяўкі на права называцца салістамі атрыманы ў апошнія гады ад многіх студэнтаў, якія ўдзельнічалі ў шматлікіх рэспубліканскіх і ўсесаюзных конкурсах. На спаборніцтвах музыкантаў-выканаўцаў неаднаразова выступаў цяперашні выпускнік скрыпач Віталь Чарныш. Два гады таму назад на рэспубліканскім конкурсе ён заваяваў першую прэмію, падрыхтоўка да шостага сусветнага фестывалю моладзі прынесла яму таксама пачэсны дыплом, тое ж самае заслужыў ён і летась на міжрэспубліканскім конкурсе музыкантаў Прыбалтыкі і Беларусі.

Выпускнік кансерваторыі віяланчаліст Станіслаў Мадорскі, студэнты III курса піяністы Наталля Цёмкіна і Валеры Крыштопенка, а таксама студэнт IV курса Леанід Юшкевіч добра высту-



**Кабінет гуказапісу вельмі памагае ў вучобе. Выканае Яніс Кідаль раманс і адразу ж праверыць — дзе нахлусіў...**

пілі на ўсесаюзным конкурсе маладых выканаўцаў, які адбыўся ў лютым месяцы ў Маскве. Але конкурсы конкурсамі, канцэрты канцэртамі, а ўсе іх удзельнікі думаюць цяпер аб звычайным для студэнта клопаце — пераводных і дзяржаўных экзаменах.

## ЯНЫ ЗДАБЫВАЮЦЬ ТАЯМНІЦЫ ВАКАЛУ

Вялікую і складаную праграму абучэння спецыяльным прадметам праходзяць студэнты вакальнай кафедры кансерваторыі. Пераходзячы паступова ад першапачатковых, самых лёгкіх практыкаванняў для голасу да тэхнічна складаных твораў, будучыя спевакі выпрацоўваюць чыстату інтанацыі, правільную пастаноўку голасу і дыхання, удасканальваюць падараваны прыродай тэмбр. Асабліва многа працуюць студэнты над дыкцыяй — дакладным і выразным вымаўленнем. У вучэбную праграму вакалістаў уключана італьянская мова. Акрамя чыста тэхнічных навыкаў студэнты-вакалісты знаёмяцца з оперным рэпертуарам, развучваюць найбольш цікавыя і складаныя арыі з опер савецкіх кампазітараў і класічнай опернай спадчыны. Да іх паслуг — багатая фанатэка і кабінет гуказапісу, абсталяваны высокаякаснымі магнітафонамі.

Вакаліст, які скончыў кансерваторыю, павінен не толькі добра валодаць сваім голасам, але і ўмець увасобіць на сцэне той ці іншы вобраз опернага рэпертуару, гэта значыць, быць сапраўдным артыстам. Таму і створана ў кансерваторыі оперная студыя. У ёй пад кіраўніцтвам вопытных рэжысёраў і дырыжораў, студэнты авалодваюць майстэрствам паводзін на сцэне, майстэрствам грыму, вывучаюць таямніцы пранікнення ў мастацкі вобраз.

Оперная студыя ажыццяўляе пастаноўкі асобных сцэн, цэлых актаў і нават поўных спектакляў. У пачатку навучальнага года студыя ўжо здзейсніла пастаноўку камічнай оперы Моцарта «Вяселле Фігара». Гэта было цікавай і значнай падзеяй у жыцці студэнтаў усёй кансерваторыі. Многія студэнты ўпершыню выступалі на опернай сцэне ў касцюмах і грыме ў суправаджэнні сапраўднага сімфанічнага аркестра і перад сапраўднымі слухачамі. Няма чаго грашыць—было прыемна ўбачыць і сваё прозвішча, упершыню надрукаванае на сапраўднай тэатральнай афішы.

Гарачымі воплескамі сустрэлі слухачы оперы выступленне трэцекурсніцы А. Цялятнікавай у ролі Сусаны, студэнткі IV курса Т. Маскаленка ў ролі Разіны, выпускніка Л. Сахарава — у ролі графа Альмавівы і студэнта II курса Э. Акімава ў ролі Фігара. Не менш гарачыя воплескі выпалі і на долю выканаўцаў іншых партый. Гэтыя воплескі для многіх маладых артыстаў былі першымі ў жыцці.

Студэнты вырашылі паказаць спектакль трактаразаводцам, рабочым аўтамабільнага завода і гледачам Маладзечна.

Як звычайна, першы поспех акрыляе выканаўцаў, і оперная студыя рыхтуе цяпер дзве сцэны з оперы Рымскага-Корсакава «Царская нявеста» і ўсю оперу Чайкоўскага «Яўгені Анегін».

Оперная студыя — гэта тэатр у мініятуры, і, як усякі тэатр, яна патрабуе спецыяльнага клопату. Тут і касцюмы, і рэквізіт, і грымёры, і рабочыя сцэны. Аднак усяго гэтага няма і ў паміне. Студыя, як кажуць, трымаецца на энтузіязме яе ўдзельнікаў. Вось чаму нельга не падзяліць слушных прэтэнзій, якія выказвае намеснік дырэктара па вучэбнай і навуковай частцы М. Д. Браценікаў.

— Колькі часу хадайнічаем аб некалькіх адзінках і ніяк не можам дабіцца... Вы самі падумайце, якая вялікая нагрузка ляжыць на загадчыку вакальнай кафедры Сямёне Макаравічу Капары: акрамя сваіх непасрэдных абавязкаў па кафедры, ён з'яўляецца рэжысёрам опернай студыі і, калі можна так сказаць, яе ідэйным натхніцелем. Яму даводзіцца вырашаць безліч чыста адміністрацыйных і гаспадарчых пытанняў, замяняць машыніста сцэны, бутафора, рэквізітара і г. д. І работа пакуль што ідзе нармальна. А ведаеце чаму? Вельмі ўжо многа ў нас сапраўдных энтузіястаў сваёй справы.



## СТВАРАЛЬНІКІ, ДАСЛЕДЧЫКІ, ПРАПАГАНДЫСТЫ

Энтузіясты! Гэтае слова мімвольна прыходзіць на думку, калі знаёмішся з выхаванцамі яшчэ аднаго факультэта кансерваторыі — кампазітарскага і гісторыка-тэарэтычнага. Ён самы невялікі па колькасці — тут вучыцца ўсяго 5 будучых кампазітараў і 13 музыказнаўцаў. Але студэнты кансерваторыі, напалову жартам, напалову сур'ёзна, завуць гэты факультэт «магутнай кучкай». І сапраўды, калі не па творчых дасягненнях, дык па духу сяброўства, па гарачыні любві да выбранай прафесіі, жаданню да ведаў, нястрымнаму імкненню служыць справе развіцця беларускай музычнай культуры, гэты невялікі, дружны калектыў адпавядае такой назве. Выхаванне такіх якасцей не абышлося без шчырых намаганняў старэйшых педагогаў — аднаго з заснавальнікаў кансерваторыі прафесара М. І. Аладава, яе выхаванца, а цяпер дырэктара прафесара А. В. Багатырова і многіх іншых беларускіх кампазітараў і музыказнаўцаў, што працуюць тут.

Плённую дзейнасць вядзе навуковае студэнцкае таварыства, у якое ўваходзяць усе без выключэння студэнты кампазітарскага і гісторыка-тэарэтычнага факультэта. «Правадзейныя члены» гэтай своеасаблівай акадэміі не толькі чытаюць лекцыі на самыя разнастайныя тэмы музычнага мастацтва ў шматлікіх універсітэтах культуры і лекторыях рэспублікі, але і выступаюць з навуковымі дакладамі, прымаюць удзел у фальклорных экспедыцыях, публікуюць свае працы ў рэспубліканскім друку. Члены навуковага студэнцкага таварыства



**Прафесар А. В. Багатыроў задаволен. Ён толькі што прайграў урывак з кантаты свайго вучня Ігара Лучанка «Курган».**



**Юры Юркоў з факультэцкім хорам развучвае кантату свайго аднакурсніка Ігара Лучанка «Курган».**

кансерваторыі прыймалі самы актыўны ўдзел у фальклорных экспедыцыях Акадэміі навук БССР. Вынікам гэтых экспедыцый з'явілася выданне фальклорнага зборніка, які склалі студэнты кансерваторыі Б. Елісеева, Г. Камісарава, Р. Сінюк, А. Саламаха, З. Мажэйка, У. Калужскі, І. Лучанок, Д. Смольскі і Л. Наўроцкі. Калектыў аўтараў атрымаў першую прэмію Акадэміі навук за лепшы фальклорны зборнік.

Разнастайныя па тэматыцы і грунтоўныя па сваіх навуковых якасцях многія працы членаў студэнцкага таварыства. Аб шырыні закранутых у працах пытанняў могуць расказаць іх назвы: «Паэзія Максіма Багдановіча ў беларускай вакальнай музыцы» (Алена Саламаха), «Гісторыя збірання беларускай народнай песні дакастрычніцкага перыяду» (Раіса Сінюк), «Партызанская тэма ў беларускай вакальнай музыцы» (Зінаіда Мажэйка), «Паліфанія ў позніх санатах Бетховена» (Юры Кудрашоў), «Другая фартэпіянная саната Пракоф'ева» (Уладзімір Калужскі), «Рытмічныя асаблівасці беларускай народнай песні» (Галіна Суслава) і другія.



**Артыстка Беларускага дзяржаўнага народнага аркестра Святлана Аўрамчык — студэнтка вячэрняга аддзялення. Яе педагог — народны артыст рэспублікі дацэнт І. І. Жыновіч** (злева) **перад пачаткам канцэрта дае апошнія парады.**

Студэнцкае таварыства не абмяжоўвае сваю дзейнасць толькі лекцыйнай і навуковай работай. Час ад часу яно наладжвае канцэрты з твораў студэнтаў кампазітарскага аддзялення, праводзіць конкурсы. Адным з іх быў конкурс на лепшую песню аб Леніне. Пераможцам стаў студэнт V курса Ігар Лучанок. Песня была запісана на плёнку і цяпер часта гучыць у эфіры.

Ігар Лучанок, сціплы хударлявы юнак з чыстымі задуменнымі вачыма, цяпер рыхтуецца да дзяржаўных экзаменаў. Яго дыпломная работа — кантата для саліста, хору і сімфанічнага аркестра па паэме Янкі Купалы «Курган». Маладога кампазітара непакоіць, як яго першы буйны твор спадабаецца слухачам, выканаўцам і дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі. Упэўненасці яму надае тое, што рыхтуе кантату для выканання яго аднакурснік Юры Юркоў. Ён таксама заканчвае сёлета кансерваторыю па дырыжорска-харавому факультэту. Пастаноўка «Кургана» будзе і яго дыпломнай работай.

Сапраўды ўсенароднае імкненне ў нашай краіне да лепшых здабыткаў музычнай культуры і небывалы росквіт самадзейнага мастацтва патрабуе ўсё большай і большай колькасці кваліфікаваных кіраўнікоў самадзейных хораў, вакальных ансамбляў, аркестраў народных інструментаў. Дырыжорска-харавы факультэт і кафедра народных інструментаў кансерваторыі ўвесь час пашыраюцца.

Сярод аматараў музыкі і прафесіяналаў-музыкантаў з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй заўсёды было многа жадаючых атрымаць дыплом кансерваторыі, аднак тыя ці іншыя прычыны не давалі ім магчымасці вучыцца. Цяпер пры кансерваторыі працуе вячэрняе і завочнае аддзяленні, на якіх без адрыву ад вытворчасці набывае вышэйшую музычную адукацыю 160 чалавек. Больш паловы з іх займаецца на дырыжорска-харавым факультэце і кафедры народных інструментаў, астатнія набываюць спецыяльнасці аркестрантаў, піяністаў, спевакоў і кампазітараў.

### МАЛАДЫЯ ЭНТУЗІЯСТЫ

Як і ва ўсякай вышэйшай навучальнай установе, студэнты кансерваторыі — моладзь. А наша савецкая моладзь не можа жыць спакойна, яна заўсёды імкнецца быць наперадзе жыцця. Крынічыць, кіпіць творчая ініцыятыва кансерваторскай моладзі, і на яе асабістым рахунку ёсць ужо нямала добрых, карысных спраў. Трэці год пры кансерваторыі працуе гарадскі музычны лекторый. Рэгулярна адзін раз у месяц шэсцьсот яго слухачоў збіраюцца ў канцэртную залу кансерваторыі, каб пачуць лекцыю, атрымаць адказ на цікавячае музычнае пытанне, пазнаёміцца з новымі творамі сучаснай музыкі, паслухаць лепшыя ўзоры сусветнай музычнай спадчыны ці папрысутнічаць на творчай сустрэчы з беларускімі кампазітарамі. Паступова моладзь бярэ ў свае рукі ўсю працу гарадскога лекторыя, і калі раней лектарамі былі толькі педагогі кансерваторыі, то ў гэтым навучальным годзе з лекцыямі выступаюць ужо студэнты старэйшых курсаў.

Цікавым мерапрыемствам, якое абяцала багатыя вынікі, была арганізацыя гарадскога маладзёжнага хору. Па жаданню самадзейных харыстаў студэнты кансерваторыі не толькі рэпетыравалі з імі праграмы, але і праводзілі рэгулярныя заняткі па музыкальнай грамаце і першапачатковаму курсу ігры на фартэпіяна. Хор працуе, яго заняткі прыносяць пэўную карысць, але трэба сказаць, што працуе няроўна, бо ў калектыве вялікая цякучасць, і гэта дрэнна адбіваецца на рабоце. Вінаваты ў гэтым грамадскія арганізацыі, якія павінны былі б больш увагі аддаваць маладому калектыву, не ўзвальваць усю работу толькі на плечы кансерваторыі. Трэба спадзявацца, што хор будзе атрымліваць дзейсную дапамогу і ад гаркома камсамола, і ад гарадскога Дома народнай творчасці, і ад Беларускага харавога таварыства, і ад аддзела культуры гарвыканкома. Калі ўсё гэта здзейсніцца, то праца цікавага калектыву — гарадскога маладзёжнага хору стане больш актыўнай, мэтанакіраванай і прынясе цудоўны плён.

Шэфскую работу студэнтаў кансерваторыі і іх дзейнасць у галіне папулярызацыі музычнага мастацтва цяжка нават дакладна ўлічыць. Канцэртныя брыгады кансерваторыі наведалі ўсе абласныя цэнтры Беларусі, выступалі перад жыхарамі многіх гарадскіх пасёлкаў і вёсак у самых аддаленых кутках нашай рэспублікі, завязалі моцнае творчае сяброўства з будаўнікамі ўдарных камсамольскіх новабудоўляў Беларусі, часта бываюць жаданымі гасцямі ў рабочых заводаў і фабрык, у раённых Дамах культуры і калгасных клубах. Цяпер нават немагчыма падлічыць колькасць канцэртаў, якія былі наладжаны за апошні год: іх арганізоўвае кожны факультэт, кожная кафедра.

У моладзі кансерваторыі многа задум і планаў — цікавых, смелых. І можна з упэўненасцю сказаць, што яны будуць выкананы. Такі ўжо характар у савецкай моладзі.

**Дзмітры ЖУРАЎЛЁЎ.**
Фота А. ДЗІТЛАВА.

# ЗАГАДКІ ВЕНЕРЫ АДГАДВАЮЦЦА

«Аўтаматычная міжпланетная станцыя нясе вымпел з малюнкам Дзяржаўнага герба СССР» — сказана ў афіцыйным паведамленні пра запуск ракеты на планету Венера.

Тры гады прайшло з пачатку асваення чалавекам космаса, і тры вымпелы нашай краіны сімвалізуюць нябачаныя ў гісторыі перамогі савецкай навукі і тэхнікі.

Першы вымпел з сярпом і молатам панесла ў космас 2-га студзеня 1959 года штучная планета «Мара», створаная савецкімі людзьмі. Яна заняла сваё месца ў сонечнай сістэме паміж Зямлёй і Марсам і стала вечным помнікам першаму кроку чалавецтва ў сям'ю Сонца.

Другі вымпел у канцы таго ж года панесла ракета на вечны спадарожнік Зямлі — Месяц. Вымпел прылуніўся на стыку трох мораў: Яснасці, Спакою і мора Мары.

12-га лютага 1961 года трэці савецкі вымпел панесла на сабе міжпланетная ракета, што адправілася ў далёкі касмічны рэйс, аж на 67 мільёнаў кіламетраў, якія адзяляюць Зямлю ад Венеры.

Розум чалавека хоча атрымаць новую выдатную перамогу — разгадаць таямніцы гэтай планеты, якая выглядае самай прыгожай зоркай на небе. Якая ні таямнічая наша касмічная суседка, але ёй давялося ўжо адкрыць частку сваіх загадак навуцы. Аўтаматычная

станцыя павінна праверыць і дапоўніць накопленыя навукай дадзеныя аб стане планеты. Яна паслана, каб вырашыць спрэчку паміж прыхільнікамі даволі супрацьлеглых меркаванняў аб паверхні планеты, яе тэмпературы, атмасферы. Яна зробіць новы крок у вырашэнні самай хвалюючай для чалавека загадкі — ці ёсць жыццё на Венеры?

Што ж ведае навука аб планеце?

Венера ўваходзіць у склад унутранай групы планет сонечнай сістэмы. Яна такая блізкая па сваіх уласцівасцях да Зямлі, што Зямлю і Венеру часта называюць планетамі-блізнятамі. Аб'ём Венеры толькі на адну дзесятую долю менш за зямны, яе маса складае 0,8 масы Зямлі, сіла прыцягнення на паверхні планеты роўная 0,85 зямнога прыцягнення. Абедзве планеты блізкія паміж сабой па сваёй шчыльнасці. У адрозненне ад Зямлі, Венера не мае спадарожніка, што значна ўскладняе вытлумачэнне працэсу фармавання планеты.

Арбіта Венеры размешчана паміж Сонцам і Зямлёю. Венера ўвесь час мяняе сваю адлегласць ад Зямлі. У часе супрацьстаяння планеты збліжаюцца да адлегласці ў 42 мільёны кіламетраў, потым Венера аддаляецца ад нас на 257 мільёнаў кіламетраў. Два гады таму назад адлегласць да планеты была дакладна вымерана пры дапамозе радыёлакатара. Радыёпрамень кранууся паверхні Венеры і вярнууся на Зямлю.

Шмат таямніц больш далёкіх планет — Марса, Юпітэра, Сатурна — адкрыў астраномам тэлескоп, але сакрэты Венеры застаюцца недасяжныя. На бачнай у тэлескоп паверхні Венеры не відаць яе рэльефу, яна застаецца заўсёды белай, аднастайнай, з няпэўнымі па абрысах цьмянымі плямамі. Чаму Венера так упарта хавае свой твар ад наглядальнікаў з іншых планет? На гэта пытанне адказаў роўна дзвесце гадоў таму назад вялікі рускі вучоны М. В. Ламаносаў.

Праз няроўныя прамежкі часу Венера праходзіць насупраць дыску Сонца. Яна знаходзіцца тады паміж Зямлёй і Сонцам, і на фоне сонечнага дыску яна выглядае чорнай кропкай. Апошні раз Венера прайшла насупраць дыску Сонца ў 1882 годзе, наступны раз гэтая з'ява будзе наглядацца толькі ў 2004 годзе.

Невялікі бліскучы выступ на краі Сонца адначасова з Ламаносавым наглядалі вучоныя іншых краін. Але толькі Ламаносаў знайшоў правільнае тлумачэнне гэтай з'явы. Падводзячы вынікі сваіх навуковых назіранняў, ён пісаў: «Планета Венера абкружана значнай паветранай атмасферай». Разгадаўшы першым адну з запаветных таямніц Венеры, Ламаносаў выказаў меркаванне аб тым, што першымі заваёўнікамі касмічных прастораў будуць рускія людзі. У нашы дні гэтае прароцтва геніяльнага сына рускага народа збылося.

Перад навукай пастаўлена складаная задача — пранікнуць праз густую пеляну атмасферы да паверхні планеты. Для разгадкі таямніц Венеры створаны самыя магутныя сучасныя ўстаноўкі і прыборы, прыменены самыя разнастайныя метады даследаванняў сусвету. Блізкасць уласцівасцей Венеры з Зямлёй дазволіла намаляваць карціну стану планеты па аналогіі з вывучанымі зямнымі працэсамі. Паступова ў вучоных склалася ўяўленне аб атмасферы і паверхні планеты. Праверку яго і павінна пачаць новая касмічная лабараторыя.

Паветраны акіян Венеры ў многім адрозніваецца ад зямнога. Няспынныя і хуткія змяненні нашай атмасферы мяняюць твар Зямлі: то сонечныя праменні днём або святло Месяца ноччу шчодра асвятляюць Зямлю, то густая заслона хмар хавае ад нас Сонца і начное зорнае неба. На Венеры няма такіх перамен, яе паверхня ніколі не асвятляецца Сонцам. Яе неба заўсёды зацягнута густымі хмарамі, надвор'е на ёй заўсёды пахмурнае.

Але якая б ні была шчыльная воблачная коўдра Венеры, яе загадкі паступова адкрываюцца вучонымі. Ужо можна гаварыць аб складзе, ціску і тэмпературы атмасферы Венеры. Навука паступова ўдакладняе і ўяўленне аб паверхні планеты. Пры вывучэнні атмасферы Венеры шырока прымяняецца спектральны аналіз. У мінулым годзе аднаму з амерыканскіх вучоных удалося падняць тэлескоп на вышыню 24 кіламетры над Зямлёю і паглядзець на Венеру амаль без перашкод нашай атмасферы. Выявілася, што ў атмасферы планеты шмат вуглекіслаты. Гэтага газу на ёй у 500 разоў больш, чым на Зямлі. Бясспрэчна ўстаноўлена і наяўнасць вадзяной пары, якая можа даць у пяць разоў больш ападкаў у параўнанні з Зямлёй. Так, як і зямная атмасфера, Венера багатая азотам. Шчыльная атмасфера перадае на паверхню планеты ціск, які больш чым у дзесяць разоў перавышае ціск зямной атмасферы.

Праз воблачнае покрыва атмасферы Венеры дрэнна праходзяць бачныя сонечныя праменні, яны амаль не асвятляюць планету, і на «дне» атмасферы заўсёды пануе паўзмрок. Атмасфера планеты, нібы шкло цяпліц і аранжарэй, затрымлівае цёплыя інфрачырвоныя праменні Сонца і не дазваляе ім ісці назад у космас. У выніку, дзённыя тэмпературы на планеце вельмі высокія. Венера належыць да гарачых планет. За апошнія гады ўдалося вызначыць тэмпературу яе паверхні пры дапамозе магутных радыётэлескопаў. Тэмпература па дыску планеты мяняецца ад $+40°$ да $+350°$, начная ж тэмпература даходзіць да нуля.

Навуковыя дадзеныя аб стане атмасферы дазваляюць зрабіць пэўныя вывады аб паверхні гэтай планеты. Венера пакрыта суцэльным, па сутнасці бязмежным, неглыбокім акіянам. Вечныя хвалі, прылівы і адлівы ніколі не дасягаюць неіснуючых берагоў. Да такога вываду можна прыйсці, грунтуючыся на багацці вуглекіслаты і вадзяной пары ў атмасферы планеты. Пры наяўнасці свабоднай цвёрдай паверхні вуглякіслы газ атмасферы павінен уступіць у сувязь з мінераламі і амаль знікнуць са складу атмасферы. Грунтуючыся на гэтым меркаванні, вучоныя і стварылі гіпотэзу суцэльнага акіяна вады, якая закрывае цвёрдую паверхню планеты. У карысць гэтай гіпотэзы гаворыць і багацце ў атмасферы вадзяной пары, а таксама вельмі добрая адлюстравальная здольнасць планеты.

Але калі паверхня Венеры нагрэта да высокай тэмпературы і пакрыта водамі суцэльнага акіяна, дык чаму гэты акіян не выкіпае, не ператвараецца ў пару? Атрымлівае тлумачэнне і гэтае пытанне. Вада кіпіць пры 100° пад ціскам толькі ў адну атмасферу, пры ціску ў 10 атмасфер яна будзе кіпець пры 180°. Відаць, высокі атмасферны ціск над паверхняй акіяна Венеры ахоўвае яе ад выкіпання. Гіпотэза суцэльнага акіяна на Венеры мае шмат прыхільнікаў, але і не менш абвяргальнікаў.

Безумоўна, ствараючы навуковую карціну стану Венеры, вучоныя спрабуюць вырашыць і праблему, якая даўно хвалюе чалавека, — праблему жыцця на гэтай планеце. Як вядома, зямныя расліны, паглынаючы з паветра вуглякіслы газ, ператвараюць яго пры дапамозе сонечнага святла ў рэчывы, неабходныя для харчавання. Адначасова яны вылучаюць свабодны кісларод, без якога не могуць існаваць чалавек і жывёла. Некалі расліны за кошт вуглекіслаты ўзбагацілі нашу атмасферу кіслародам, стварыўшы на Зямлі ўмовы для развіцця больш складаных форм жыцця. Падобныя працэсы, відаць, на Венеры яшчэ не адбываюцца.

У вельмі многіх адносінах Венера яшчэ застаецца загадкавай планетай. Навука пакуль робіць толькі шэраг смелых меркаванняў аб планеце пад густым воблачным покрывам. Для іх праверкі патрэбны складаныя і разнастайныя назіранні за межамі нашай планеты. Пачатак гэтай праверкі ўжо зроблен легендарным палётам у космас савецкага чалавека Юрыя Гагарына, які пасля шчаслівага прызямлення заявіў: «Мне хочацца пабываць на Венеры, убачыць, што знаходзіцца пад яе воблакамі...»

**С. БОБАЎ.**

# ЦІ НАСЕЛЕНЫ СУСВЕТ?

### Ля вытокаў жыцця

Пытанне аб існаванні жыцця, і асабліва яго вышэйшых форм, на іншых планетах з даўніх часоў хвалявала чалавека.

Грунтуючыся на тым, што жыццё гэта вышэйшая форма развіцця матэрыі, форма, якая заканамерна ўзнікае пры адпаведных умовах з нежывой неарганічнай прыроды, матэрыялістычная навука заўсёды лічыла правамерным існаванне мноства населеных сусветаў. Але толькі ў апошні час, дзякуючы поспехам сучаснай навукі, з'явілася магчымасць перайсці ад гэтых агульных, філасофскіх разважанняў да некаторых канкрэтных вывадаў.

Цяпер можна лічыць канчаткова вырашаным, што жыццё на Зямлі ўзнікла ў вельмі аддаленыя часы натуральным шляхам з нежывых, неарганічных рэчываў. Савецкі вучоны акадэмік Апарын, аўтар найбольш папулярнай тэорыі ўзнікнення жыцця, выказаў меркаванне аб тым, што яно хутчэй за ўсё павінна было з'явіцца тады, калі паверхня нашай планеты была суцэльным акіянам, абкружаным атмасферай, якая складалася з сумесі аміяку, метану, вадароду і вадзяной пары. Як вядома, асновай жывога рэчыва з'яўляюцца бялкі, якія складаюцца з так званых амінакіслот, здольных злучацца ў розных камбінацыях. Але ці маглі ўтварацца амінакіслоты з неарганічных вяшчэстваў у тых умовах, пра якія гаварылася вышэй? Адказ на гэтае пытанне быў атрыманы некалькі гадоў таму назад прафесарам Калумбійскага ўніверсітэта Мілерам, якому ўдалося ў сваёй лабараторыі атрымаць амінакіслоты, уздзейнічаючы электрычнымі разрадамі на сумесь вадзяной пары, метану і аміяку. Падобныя даследаванні былі праведзены таксама савецкімі вучонымі Паўлоўскай і Пасынскім. У іх доследах амінакіслоты ўтвараліся з неарганічных рэчываў пад уздзеяннем ультрафіялетавых праменняў.

Усё гэта сведчыць аб тым, што неарганічныя рэчывы, неабходныя для ўтварэння жывога бялка, узнікаюць натуральным шляхам, у прыродных умовах. У свой час такія ўмовы скла́ліся ў нас на Зямлі. Яны маглі скласціся і на іншых планетах.

### Ці існуюць іншыя планетныя сістэмы?

Здаўна вядома, што наша Зямля ёсць планета, нябеснае цела, якое абарачаецца вакол Сонца. Вядома таксама, што Зямля не адзіная планета сонечнай сістэмы: разам з ёю вакол нашага дзённага свяціла рухаюцца яшчэ восем гіганцкіх шароў-планет і некалькі тысяч маленькіх планетак — астэроідаў.

Планеты не падобны адна на другую ні сваімі памерамі, ні фізічнымі ўмовамі, што існуюць на іх паверхні. Але ў той жа самы час усіх іх нешта аб'ядноўвае — усе яны халодныя нябесныя целы, якія самі не свецяцца. Вось на гэтую іх уласцівасць і варта звярнуць увагу. Толькі на такіх нябесных целах і можа ўтварацца і развівацца жыццё, толькі на такіх халодных спадарожніках зорак і могуць існаваць яго вышэйшыя формы.

У сувязі з гэтым велізарную важнасць набывае пытанне аб тым, ці не з'яўляецца наша сонечная сістэма адзінай у сусвеце планетнай сям'ёй. Атрымаць адказ на гэтае пытанне надзвычай цяжка. Бо нават, калі ў іншых зорак і існуюць халодныя, цёмныя спадарожнікі, дык як іх выявіць? Яны ж свецяцца вельмі слабым адлюстраваным святлом сваіх сонцаў і ўбачыць ці сфатаграфаваць іх з дапамогай тэлескопаў, нават самых моцных, немагчыма.

Яшчэ зусім нядаўна астраномы лічылі амаль неабвержнай тую думку, што планетныя сістэмы, падобныя да сонечнай, гэта надзвычайная з'ява ў сусвеце. Такое перакананне было шчыльна звязана з папулярнай у тыя гады гіпотэзай англійскага астранома Джынса, якая тлумачыла ўтварэнне сонечнай сістэмы выпадковым збліжэннем дзвюх зорак. Але выклікала сумненне, ці маглі зблізіцца зоркі, між якімі існуюць такія вялікія адлегласці. І таму рабілі вывад аб тым, што наша сонечная сістэма з'яўляецца выключным, своеасаблівым утварэннем. Гіпотэза Джынса, як вядома, была цалкам абвергнута, і ёй на змену прыйшла новая тэорыя, распрацаваная савецкімі вучонымі пад кіраўніцтвам Шмідта. З гэтай тэорыі вынікае, што нябачныя спадарожнікі зорак утвараюцца зусім натуральна і заканамерна з халоднага газу — пылавога асяроддзя на адпаведным этапе развіцця некаторых зорак. Але і гэта пакуль што толькі агульныя тэарэтычныя меркаванні.



Як жа высветліць, якія з зорак маюць планетную сістэму?

Ужо даўно было заўважана, што некаторыя зоркі робяць своеасаблівыя «ваганні», адхіляючыся то ў адзін, то ў другі бок ад свайго звычайнага становішча на небе. Разлікі, зробленыя астраномамі, паказалі, што гэта можна вытлумачыць толькі існаваннем сіл прыцягнення нябачных планетападобных спадарожнікаў, якія абарачаюцца вакол такіх зорак. Аднак зарэгістраваць такія ваганні надзвычай цяжка, і пакуль што іх давялося назіраць толькі ў некалькіх зорак. Праўда, значная частка гэтых назіранняў яшчэ патрабуе далейшай самай стараннай праверкі.

Усё ж існуе зорка, для якой такая задача вырашана — гэта 61-ая зорка з сузор'я Лебедзя. Першыя звесткі аб 61-ай Лебедзя былі атрыманы яшчэ ў сярэдзіне XVII стагоддзя, а ў 1725 годзе яна ўвайшла ўжо ў адзін з зоркавых каталогаў, як падвойная, г. зн. такая, якая складаецца з дзвюх зорак, што абарачаюцца вакол агульнага цэнтра цяжару. У 1893 годзе нямецкі астраном Вільзінг заўважыў, што адлегласць паміж абодвума зоркамі мяняецца. Гэта дало яму права выказаць меркаванне, што ў 61-ай Лебедзя ёсць нябачны спадарожнік. У наступныя гады на гэтую тэму быў апублікаваны шэраг работ, у якіх меліся вельмі супярэчлівыя меркаван-

ні. Між тым, у Пулкаўскай абсерваторыі сабран велізарны матэрыял амаль саракагадовых фатаграфічных назіранняў 61-ай Лебедзя. Старанны аналіз 129 пласцінак дазволіў астраному Дэйчу не толькі сцвердзіць існаванне цёмнага спадарожніка 61-ай Лебедзя, але і вылічыць яго масу. Яна аказалася роўнай двум сотым масы Сонца.

Але калі мы яшчэ не маем магчымасці ўстанавіць, ці кожная зорка мае планетную сістэму, дык можа ёсць магчымасць хоць прыкладна вызначыць агульную колькасць зорак, якія маюць планеты?

Такая магчымасць існуе. Сучасная астраномія высветліла, што ўсе зоркі, у тым ліку і наша Сонца, абарачаюцца вакол сваіх восей. Вярчэнне Сонца, напрыклад, лёгка заўважыць па руху так званых сонечных плямаў. Аднак назіранні паказалі, што розныя зоркі робяць вярчэнне з рознымі хуткасцямі. Найбольшай хуткасцю валодаюць гарачыя блакітныя зоркі. Са зніжэннем тэмпературы хуткасць вярчэння паступова змяншаецца.

Самае цікавае, бадай, у тым, што ў зорак з тэмпературай каля 6 500 градусаў хуткасць вярчэння рэзка падае. Калі экватарыяльныя вобласці, размешчаныя на паверхні гарачых блакітных зорак, рухаюцца з хуткасцю каля 300—400 кіламетраў у секунду, дык хуткасць вярчэння Сонца (паверхневая тэмпература якога складае каля 6 000 градусаў) на экватары дасягае толькі 2—3 кіламетры ў секунду. Якая ж прычына такога павольнага вярчэння Сонца?

Усякая сістэма целаў, якія абарачаюцца вакол нейкага цэнтра, валодае так званым запасам вярчэння, які тым ці іншым чынам размеркаваны паміж яе членамі. У сонечнай сістэме прыкладна 98 працэнтаў запасу вярчэння прыпадае на планеты і толькі каля 2 працэнтаў на самое Сонца. Але ва ўсякай замкнёнай механічнай сістэме цел, якой з'яўляецца і наша сонечная сістэма, дзейнічае закон захавання агульнага запасу вярчэння. Закон гэты гаворыць пра тое, што запас вярчэння можа па рознаму пераразмяркоўвацца паміж целамі сістэмы, яго ж агульная колькасць заўсёды павінна заставацца нязменнай. А гэта азначае, што калі б Сонца не мела планет, дык увесь запас вярчэння сонечнай сістэмы належаў бы яму самому і яно абарачалася б тады ў шмат разоў хутчэй. Відаць, маладое і «адзінокае» некалі Сонца абарачалася са значна большай хуткасцю, чым у наш час. Па меры ўтварэння планет яно перадало ім значную частку свайго запасу вярчэння. Зусім магчыма, што такім самым пераразмеркаваннем запасу вярчэння тлумачыцца павольнае вярчэнне і многіх другіх зорак.

Цікава адзначыць, што паміж зорак, размешчаных у той жа частцы Галактыкі, што і Сонца, значная частка, калі не большасць іх, якраз абарачаюцца вакол сваёй восі павольна. І таму няма нічога дзіўнага ў тым, што нас акружае мноства планетных сістэм. Усяго ж у Галактыцы са ста пяцідзесяці мільярдаў зорак, як відаць, некалькі мільярдаў маюць планеты.

Але ці існуюць на гэтых планетах умовы для жыцця?

### Мы не адзінокія ў сусвеце

Жыццё можа існаваць далёка не на кожнай планеце. Перш за ўсё такая планета павінна знаходзіцца ў «цеплавым поясе жыцця», г. зн. не надта блізка і не надта далёка ад сваёй зоркі-сонца. У нашай сонечнай сістэме ў такім поясе, апрача Зямлі, размешчаны толькі дзве планеты: Венера і Марс. На бліжэйшай да Сонца планеце — Меркурыі — тэмпература дасягае 370 градусаў цеплыні, а на наступнай за Марсам планеце — Юпіцеры — яна ніколі ўжо не падымаецца вышэй за 140—150 градусаў холаду. Але таму, што ў склад кожнай з планетных сістэм, як відаць, уваходзіць некалькі планет, дык можна чакаць, што хоць адна ці дзве з іх трапляюць у «цеплавы пояс жыцця».

Ёсць і яшчэ адна ўмова — планета не павінна быць ні надта вялікай, ні надта маленькай. Гіганцкія планеты маюць вадародную атмасферу, якая выключае магчымасць жыцця. Прыкладам такіх планет могуць быць Юпіцер і Сатурн. Наадварот, маленькія планеты, падобныя на Меркурый, не могуць утрымліваць вакол сябе атмасферную абалонку.

Але і гэтага яшчэ мала. Высокаарганізаванае жыццё можа існаваць толькі на тых планетах, якія абарачаюцца вакол дастаткова старых зорак. Працэс жа эвалюцыі — ад моманту зараджэння прасцейшых форм жыцця да развіцця вышэйшых яго форм — патрабуе значных прамежкаў часу.

Нарэшце, зорка-сонца павінна валодаць дастаткова спакойным «характарам» і не змяняць на працягу многіх мільярдаў год сваёй уласцівасці свяціцца.

Калі ўлічыць усе пералічаныя патрабаванні, дак атрымаецца, што ў Галактыцы ёсць прынамсі мільярд зорак, якія з'яўляюцца населенымі планетамі. Вядома, не ўсюды жыццё ўзнікла ў адзін і той жа час, таму можна лічыць, што дастаткова высокая цывілізацыя ў сучасную эпоху існуе толькі на некалькіх мільёнах планет. Калі ж весці размову пра сусвет вакол Сонца, дык можна спадзявацца, што ў сферы радыусам у 100 светавых год* ад Сонца існуюць адна-дзве такія населеныя планетныя сістэмы.

**В. КАМАРОЎ,**
**лектар Маскоўскага планетарыя**



* Адзін светавы год — адлегласць, якую прамень святла прабягае на працягу аднаго года пры скорасці 300 000 кіламетраў у секунду.



# ТАНЦУЕ МАЛАДОСЦЬ

Гэты мастацкі калектыў самы малады ў Беларусі. Яму ўсяго толькі паўтара года. Чаму ж слава пра Дзяржаўны ансамбль танца Беларускай ССР, якім кі-



Восьён, шлях Галіны Сабакінай. Спачатку ў танцавальным гуртку Мінскага палаца піянераў яна заўсёды выступала за хлопчыка...

руе заслужаны артыст рэспублікі А. Г. Апанасенка, пайшла далёка? Мусіць не выпадкова такі малады творчы калектыў дамогся вялікага гонару паказаць свае першыя поспехі на сцэне Крамлёўскага тэатра ў Маскве і атрымаць ухвалу вельмі патрабавальнай аўдыторыі маскоўскіх гледачоў.

Сакрэт першых поспехаў — у маладосці.

Малады не толькі калектыў, маладая і пераважная большасць яго ўдзельнікаў — выхаванцаў мастацкай самадзейнасці. За плячыма адной з самых таленавітых артыстак ансамбля Святланы Яскевіч — наведванне заняткаў танцавальнага гуртка ў мінскім Палацы піянераў, некалькі год працы ў Дзяржаўным беларускім народным хоры, дзе Святлана з радавой артысткі танцавальнай групы вырасла ў вядучую салістку, і, нарэшце, выкананне вядучых партый у праграмах ансамбля танца. Гэта ёю захапляюцца гледачы, калі ансамбль выконвае вясёлую «Мяцеліцу», шумлівую беларускую маладзёжную сюіту, рускі перапляс, бытавы харэаграфічны малюнак «На птушкаферме» і іншыя нумары шырокай праграмы.

Тамара Елісеева прыйшла ў калектыў з самадзейнасці Мінскага камвольнага камбіната, дзе працавала работніцай круцільнага цэха. Яшчэ вучаніцай дзесяцігодкі Тамара горача марыла прысвя-





Потым працавала ў ткацкім цэху камвольнага камбіната...

ціць сябе мастацтву танца. Цяпер, калі яе мара ўжо здзяйсняецца і яна пераступіла парог прафесіянальнага мастацтва, можна сказаць, што Тамара падае вялікія надзеі.

Галя Сабакіна — Тамарына сяброўка і па мінскай школе № 15, і па камвольнаму камбінату, дзе яна працавала ў ткацкім цэху. Доўга дзяўчына марыла, каб вучыцца на радыётэхніка. Але любоў да танца перамагла і памагла Галі выпрацаваць у сабе творчую дысцыпліну. Галя зразумела, што знешняя прывабнасць не вызваляе балерыну ад вялікай, напружанай і мэтанакіраванай працы.

Валі Дакука ўсяго 17 год. Выхаванка спачатку дзіцячага дома, а пазней харэаграфічнага вучылішча — яна адна з найбольш таленавітых артыстак калектыву. І кіраўнікі ансамбля і таварышы Валі па сцэне заўсёды адзначаюць яе тонкую музычнасць і гарачы тэмперамент танцаўшчыцы, сталае адчуванне прыгажосці харэаграфічнага малюнка.

З вялікай любоўю да танца, з жаданнем зрабіць танец сваёй новай прафесіяй, прысвяціць яму жыццё прыйшлі ў Дзяржаўны ансамбль танца і іншыя яго ўдзельнікі. Сярод іх Валя Чумакова з Бабруйскага хлебазавода, Бэла Грахоўская з Мінскага гадзіннікавага завода, Васіль Бараўкоў з Віцебскага домабудаўнічага камбіната, Барыс Пракудзін з друкарні імя Сталіна і многія іншыя, чыё маладое, жыццерадаснае і яркае мастацтва выклікае гарачыя воплескі гледача.

У Дзяржаўным ансамблі танца Беларускай ССР сімпатыі публікі выклікаюць не толькі маладыя прывабныя выканаўцы. Вабіць да сябе самыя разнастайныя аўдыторыі гледачоў і добра прадуманая праграма ансамбля: нашы «Лявоніха», «Лянок», «Бычкі», «Мяцеліца», украінскі «Гапак», «Чэшская полька», венгерскі «Чардаш», польскі народны танец, румынскі народны танец. Упрыгожваюць праграму ансамбля творы беларускіх кампазітараў у выкананні аркестра пад кіраўніцтвам дырыжора В. Лінкевіча. Шмат стараннасці, выдумкі прыкладае мастак М. Блішч, каб захаваць нацыянальны каларыт у касцюмах артыстаў ансамбля, у дэкарацыях.

Калектыў ансамбля вельмі малады, не ўсё ў ім ужо цалкам выкрышталізавалася. Іншы раз імкненне кіраўнікоў ка-



...І нарэшце — артыстка Дзяржаўнага ансамбля танца Беларускай ССР.



**Мастацкі кіраўнік ансамбля А. Г. Апанасенка шмат працуе як рэжысёр, дамагаючыся ад танцоўшчыц выразнай мімікі. Справа—Валя Дакука.**

лектыву да яркасці усёй праграмы ўваходзіць у пэўную супярэчнасць з народнай асновай танца, часам чысціня народнага малюнка падмяняецца эстраднай квяцістасцю. Але гэта «хваробы» росту.

Бясспрэчна адно, што калі здзейсняцца яго планы на будучае, калі з'явяцца ў яго рэпертуары «Бульба», «Казачок», «Паўлінка», «Беларуская партызанская» і іншыя новыя харэаграфічныя творы, якія раскрыюць характар духоўнага свету нашых людзей, таленавіты ансамбль танца Беларускай ССР атрымае яшчэ больш шырокае прызнанне грамадскасці і страціць права скідак на маладосць.

**В. БАРХАТАВА.**

# КНІЖНЫЯ ЗНАКІ

Нядаўна ў Мінску адбылася першая ў Беларусі выстаўка экслібрыса, на якой экспанавалася больш 600 малюнкаў, размешчаных у гістарычнай паслядоўнасці: ад простых ярлыкоў і геральдычных знакаў XIX стагоддзя да мастацкіх знакаў сённяшняга часу.

Што ж такое экслібрыс і якое яго паходжанне?

Лацінскае слова «ex libris» у перакладзе азначае — «з кніг». Да яго дадаецца прозвішча або імя ўладальніка знака. Упершыню ў Расіі экслібрысы з'явіліся ў пачатку XVIII стагоддзя і належалі паплечнікам Пятра I. Гэта былі друкаваныя ярлыкі, якія ўклейваліся пад вокладку кнігі. Яны і сталі першымі рускімі кніжнымі знакамі.

У другой палове XVIII і пачатку XIX стагоддзяў экслібрыс пачаў з'яўляцца часцей. Але ён амаль не меў аздабляльных элементаў, а толькі паказваў на прыналежнасць той ці іншай бібліятэцы ці асобе. Уладальнікамі іх былі князі, графы, бароны, дваранская знаць. Як вядома, гэтыя людзі стварылі бібліятэкі зусім не для пашырэння кругагляду, а толькі дзеля пахвальбы адзін перад другім сваім багаццем, кнігамі ў дарагіх багатых вокладках. Большасць кніг была на замежных мовах і вельмі малая частка іх — на роднай, рускай. Такія экслібрысы былі часцей за ўсё з родавымі гербамі іх уладальнікаў, нярэдка зусім без прозвішча. Часам сустракаліся вензялі і ініцыялы. Так узнік геральдычны экслібрыс.

Пазней да знака сталі дадаваць элементы арнаментальнага характару, розныя атрыбуты і рэгаліі, якія паказвалі на характар кніжнай калекцыі. Замест лацінскага слова «ex libris» пачалі сустракацца надпісы на роднай мове: «з кніг», «бібліятэка», «збор» і г. д.






**Старэйшы рускі экслібрыс графа Я. В. Бруса, стваральніка Навігацкай школы ў Маскве. Мастак невядомы.**

Так кніжны знак паступова пачаў набываць прызнанне. Знак-ярлык, як адзнака толькі прыналежнасці кнігі, пачаў прыймаць формы ўпрыгожвальнага характару і станавіцца самастойнай галіной графічнага мастацтва.

Буйнейшыя мастакі канца XIX і пачатку XX стагоддзяў унеслі значны ўклад ў графічнае мастацтва сваімі кніжнымі знакамі. Да іх ліку належаць: В. Матэ, А. Астраумава-Лебедзева, Е. Нарбут, І. Рэрберг, І. Паўлаў, А. Краўчанка і другія. Мастакі і графікі-аматары ўсё больш цікавяцца экслібрысам — гэтымі мастацкімі мініятурамі.

Распачаліся пошукі новых форм у кампазіцыі, стылю, адлюстраванні эпохі, асаблівасцей і характару бібліятэк, іх уладальнікаў. Ішлі пошукі і тэхнікі выканання, больш блізкай да прыроды самой кнігі. З'явіліся экслібрысы, выкананыя як літаграфія, афорт, гравюры па дрэву, лінолеуму.

Узнікла калекцыяніраванне экслібрысаў, але ахоплівала яно толькі невялікае кола непасрэдна зацікаўленых асоб.

Кніжнымі знакамі карысталіся такія пісьменнікі як Л. М. Талстой, І. С. Тургенеў, А. П. Чэхаў і другія. Кніжныя знакі мелі акадэмікі Бехцераў, Гумбальдт і многія другія вучоныя.

Пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі кніга ў нашай краіне, адначасова з другімі сродкамі культуры, пачала хутка станавіцца самай неабходнай часткай жыцця савецкага чалавека. Асабістыя бібліятэкі па самых розных галінах ведаў сталі ўзнікаць у народнай інтэлігенцыі, рабочых і калгаснікаў. Гэта вымагала ад выдавецтваў палепшыць афармленне кніг. Прыгожыя ілюстрацыі, вокладка яшчэ больш пашыралі любоў да кнігі, выхоўвалі беражлівыя адносіны да яе. Зусім натуральнае імкненне ўладальніка кніг нейкім чынам адзначыць прыналежнасць кнігі асабіста яму, адлюстраваць свае адносіны да кнігі. Друкарскі наборны ярлык, каўчукавы штамп, надпіс ад рукі ўжо не задавальнялі эстэтычныя густы кнігалюбаў. І вось прыгожа выкананы кніжны знак стаў дадаткам да знешняга афармлення кнігі.

Наклееныя на ўнутраным баку вокладкі ў верхняй частцы, супраць тытульнага аркуша, ён арганічна спалучаецца з будовай кнігі. Такі кніжны знак напамінае чытачу пра неабходнасць вярнуць яе ўладальніку.

Да мастакоў Масквы і Ленінграда, якія працавалі над стварэннем кніжных знакаў, прымкнула




**Аўтаэкслібрыс І. Рэрберга.**

вялікая група мастакоў з другіх гарадоў краіны, у тым ліку і Беларусі. Кніжныя знакі і тэматычна сталі багацейшыя, яны пачалі адлюстроўваць спадзяванні і думы ўладальнікаў кніг, іх адносіны да твораў, падзей, што адбываюцца ў свеце, напрамкі бібліятэк. Сталі адлюстроўвацца многія рэвалюцыйныя падзеі і ўсё тое прагрэсіўнае, перадавое, чым багата наша савецкая рэчаіснасць. Кніжны знак стаў агітатарам, правадніком чалавечых думак.

На многіх савецкіх экслібрысах адлюстраван вобраз найвялікшага генія чалавецтва — У. І. Леніна.

Часта на кніжных знаках запісваюцца розныя дэвізы, думкі, выказванні, напрыклад: «Мае кнігі — мае ўніверсітэты», «Кніга — мая дарагая прывычка» і іншыя. Гэтых запісаў многа. Яны сведчаць пра вялікае імкненне савецкіх людзей да ведаў.

Тэматыка савецкага экслібрыса невычэрпная. Яна багатая і разнастайная, як жыццё савецкага чалавека.

У нашай краіне, асабістыя бібліятэкі, якія налічваюць некалькі тысяч кніг, сталі звычайнай з'явай. Таму зусім зразумела, што з кожным годам усё большай становіцца і цікавасць грамадскасці да кніжнага знака. Пра гэта сведчаць таксама і выстаўкі, якія штогод наладжваюцца ў Ленінградзе і Маскве.

Шэраг дзяржаўных устаноў, такіх, як Музей выяўленчых мастацтваў імя А. С. Пушкіна, Ленінградскі дом вучоных, бібліятэка Дзяржвыдата РСФСР, Віцебскі дзяржаўны музей, мастацкі му-




Экслібрыс Б. Казлова. Мастак А. Почценны.

зей у Мінску. карыстаюцца экслібрысам. Кніжнымі знакамі карыстаюцца нашы пісьменнікі Я. Маўр, В. Вольскі, М. Лужанін, А. Астрэйка, А. Міронаў.

Вялікая колькасць (звыш дваццаці тысяч) створаных на працягу двух з паловай стагоддзяў кніжных знакаў выклікала іх калекцыяніраванне. Гэта станоўчая з'ява. Як і кожнае калекцыяніраванне, яно мае выхаваўчае і пазнавальнае значэнне. Вялікая



Экслібрыс А. Бараноўскага. Мастак А. Грубэ.



Экслібрыс В. Вольскага. Мастак А. Тычына.

разнастайнасць выяўленчых сродкаў, выкарыстаных пры стварэнні кніжных знакаў, прывівае любоў да мастацтва, дазваляе выхоўваць добры эстэтычны густ. Калекцыя экслібрыса — гэта своеасаблівая «карцінная галерэя» ў мініятуры.

Многіх, напэўна, зацікавіць, як жа зрабіць для сябе кніжны знак? Дзе яго набыць? Зрабіць гэта лёгка. Там, дзе няма магчымасці выканаць яго друкарскім спосабам, можна зрабіць самому.

Цяпер пры многіх дамах культуры, палацах піянераў існуюць гурткі выяўленчага мастацтва. Удзельнікі такіх гурткоў, а таксама мастакі-аматары змогуць тут выразаць для сябе і сваіх сяброў кніжныя знакі на лінолеуме або на дрэве, каб потым атрымаць патрэбную колькасць адбіткаў чорнай або каляровай друкарскай фарбай. Адбіткі можна рабіць таксама і алейнай фарбай, дадаючы да яе невялікую колькасць літаграфскай або друкарскай аліфы. Можна зрабіць самому пажаданы малюнак і размножыць яго шляхам



Экслібрыс Янкі Маўра (І. Фёдарава). Мастак А. Тычына.




Экслібрыс Віцебскага дзяржаўнага музея. Мастак Е. Мінін.

фатаграфавання (рэпрадукцыяй).

Кніжны знак можа стаць неадхільнай патрэбай кожнага кнігалюба, кожнай бібліятэкі. Напрыклад, у прыбалтыйскіх рэспубліках экслібрысам карыстаюцца не толькі ў прыватных бібліятэках, але і ў бібліятэках многіх грамадскіх устаноў і арганізацый. Гэта — добры прыклад для нас. Можа варта было б і нашым выдавецтвам падумаць пра выпуск масавымі тыражамі тыповых экслібрысаў, як робіцца гэта ў дэмакратычных краінах, а кнігарням у час «Тыдняў кнігі» наладжваць гандаль знакамі. Нядрэнна было б, каб на выстаўках кніг у бібліятэках адначасова паказваліся і кніжныя знакі, адпаведная літаратура пра іх, а такая літаратура ў апошні час стала выдавацца ўсё часцей і часцей.

**Анатоль ТЫЧЫНА.**



# ВЯЛІКІ ПІСЬМЕННІК ІНДЫІ

**Да стагоддзя з дня нараджэння Рабіндраната Тагора**

Паэту не лёгка пераступіць нацыянальныя граніцы. Яго перакладчык павінен здолець на сваёй роднай мове перадаць не толькі сэнс ягонай паэзіі, але і яе дух, яе мелодыю, рытміку і мілагучнасць. Такое шчасце выпадае на долю не кожнага песняра. Яно выпала на долю Рабіндраната Тагора — выдатнейшага індыйскага пісьменніка і паэта, патрыёта і гуманіста, мастака і філосафа, грамадскага дзеяча і асветніка. Ён пісаў па-бенгальску — на мове народа, які складае асноўную частку насельніцтва Бенгаліі, аднак яго цудоўныя творы перайшлі граніцу гэтай індыйскай правінцыі і цяпер чытаюцца ва ўсіх краінах свету. Поўная светлага ўспрымання жыцця, высокай лірычнасці і глыбокага філасофскага роздуму, творчасць Тагора займае пачэснае месца ў залатым фондзе сусветнай літаратуры.

Тагор жыў і тварыў у эпоху вялікіх сацыяльных зрухаў, у эпоху ўздыму нацыянальна-вызваленчай барацьбы народаў Усходу супраць каланіялізма. Натхняючым прыкладам для гэтай барацьбы была Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя ў Расіі, якая прарвала фронт імперыялізма і ўстанавіла на адной шостай частцы зямнога шара ўладу рабочых і сялян.

Усё гэта зрабіла глыбокі адбітак на светапогляд пісьменніка і ідэйную накіраванасць яго мастацкай творчасці.

Тагор не пазбегнуў гістарычнай абмежаванасці, ён да канца дзён сваіх заставаўся ідэалістам у пытаннях развіцця грамадства, недаацэньваў кіруючую ролю пралетарыята ў барацьбе за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне працоўных, прытрымліваўся ўтапічных поглядаў на сацыяльныя пераўтварэнні, лічачы, што шляхам рэформ можна дасягнуць усеагульнага шчасця і дабрабыту.

Аднак не гэтыя рысы з'яўляюцца вядучымі ў светапоглядзе пісьменніка і не яны вызначаюць яго грамадскае абліччa. Гуманіст і патрыёт, вораг каставых і рэлігійных забабонаў, змагар супраць феадальных перажыткаў і прыгнечання чалавека чалавекам, страсны і паслядоўны прыхільнік разняволення індыйскай жанчыны — вось які Рабіндранат Тагор.

Наведаўшы ў 1930 годзе нашу краіну, Тагор праўдзіва, з глыбокай сімпатыяй і захапленнем расказаў пра дасягненні савецкіх людзей у будаўніцтве новага ладу. У сваёй асветніцкай і грамадска-патрыятычнай дзейнасці Тагор выступаў палымяным абаронцам дружбы і братэрства паміж народамі, вешчуном міру.

У цеснай сувязі з эвалюцыяй светапогляду Тагора развіваўся і яго паэтычны дар. Шлях Тагора-мастака — гэта шлях ад індывідуалізма і служэння чыстаму мастацтву да асэнсавання прызначэння паэзіі як сілы грамадскага ўздзеяння, шлях да палітычнай лірыкі, да рэалізма.

Паэт праслаўляе зямную любоў і асуджае аскетызм, выказвае веру ў высокае прызванне чалавека, веру ў яго творчыя магчымасці і сілу. У апошнія гады свайго жыцця Тагор, не спыняючы сваёй культурна-асветніцкай дзейнасці, адклікаецца на ўсе надзённыя праблемы і падтрымоўвае прагрэсіўныя дзеянні ў сваёй краіне, выступае супраць фашызма і вайны. У 1936 годзе Тагор вітае стварэнне Асацыяцыі прагрэсіўных пісьменнікаў Індыі, адгукаецца на заклік Максіма Горкага і падпісвае зварот да Сусветнай канферэнцыі ў абарону міру. Застаючыся да апошніх дзён сваіх — Рабіндранат Тагор памёр 7 жніўня 1941 года — верным другам нашай краіны, у дні нашэсця гітлераўскай Германіі на Савецкі Саюз цяжка хворы пісьменнік штодзённа прасіў сваіх блізкіх чытаць яму зводку з савецка-германскага фронта і не траціў веры ў перамогу савецкага народа над фашызмам.

На беларускай мове творы Рабіндраната Тагора друкаваліся і выдаваліся неаднаразова. Яшчэ ў 20-х гадах народны паэт Беларусі Якуб Колас, які любіў творы Рабіндраната Тагора і высока паважаў самога паэта, першы праклаў сцежку беларускаму чытачу да творчасці вялікага індыйскага песняра, пераклаўшы два яго вершы. У той жа час паасобныя творы Тагора былі перакладзены і Змітраком Бядулем.

У 1926 годзе Рабіндранат Тагор, робячы паездку па краінах Заходняй Еўропы і ў сваіх публічных выступленнях рэзка асуджаючы фашызм, меў намер наведаць Савецкі Саюз і пабываць у сталіцы Беларусі — Мінску. Беларускія паэты шчыра віталі гэты намер пісьменніка, і Язэп Пушча ў сваім вершы «Рабіндранату Тагору», змешчаным у часопісе «Маладняк», звяртаўся да паэта з сардэчным запрашэннем на «беларускія разлогі»:

...Далёкі па вёрстах, а блізкі па песнях, —<br>
Я кветкамі ўсыплю дарогі...<br>
Прайдзіся па іх ты, прайдзіся, чаканы!<br>
Сляды застануцца святымі.<br>
Цябе абніму я, як бацьку...

У 1927 годзе беларускі паэт і перакладчык А. Мардвілка зрабіў пераклад вядомай кнігі Р. Тагора «Садоўнік», якая выйшла ў Мінску

ў тым жа годзе ў серыі «Кніжніца Маладняка». Нядаўна Дзяржаўнае выдавецтва БССР выдала масавым тыражом у перакладзе на беларускую мову вялікі раман Р. Тагора «Крушэнне», тыраж якога, дарэчы заўважым, разышоўся за вельмі кароткі тэрмін. Пра блізкасць вялікага пісьменніка дзеячам нашай культуры сведчыць і такі факт: скульптар, народны мастак БССР Заір Азгур стварыў выдатнейшы твор мастацтва — бела-чорны мармуровы бюст Рабіндраната Тагора, які з поспехам экспанаваўся на многіх выстаўках у нашай краіне і за яе межамі і набыў шырокую міжнародную вядомасць.

Савецкі народ шануе памяць Рабіндраната Тагора і высока цэніць яго творчасць.

Мы прапануем нашым чытачам некалькі вершаў пісьменніка, якія друкуюцца на беларускай мове ўпершыню і перакладзены непасрэдна з бенгальскай мовы.

**Рабіндранат ТАГОР**

## ЖЫЦЦЁ

Не паміраць, а жыць на гэтым шчасным свеце,
Сярод людзей я жыць хачу ўдвайне!
І, можа, тут, між дрэў, дзе ярка сонца свеціць,
Жывыя сэрцы знойдуць кут і мне...

Жыццё ў хадзе, ў рухомасці заўсёды:
За стрэчай — ростань, радасць — за тугой.
Што ж, мо' і я, пясняр майго народа,
Ступлю ў бяссмерце хоць адной нагой.

Калі ж не суджана ў вяках мне пасяліцца, —
Такой бяды! — да скону дзён сваіх
З людзьмі я буду песнямі дзяліцца,
Крывёю сэрца акрапіўшы іх.

Хай цешаць мой народ, як канны ўздоўж дарог,
А зблекнуць з часам, — кіньце за парог.

З першага зборніка вершаў
«Дыезы і бемолі», 1886 г.



## АДЗІНСТВА

**(Сусветная гармонія)**

Што я знаю аб ёй, велізарнейшай нашай планеце?
Колькі іх, старажытных культур і народаў
на свеце,
І вялікіх дзяржаў, і малых самастойных краін,
І пустыняў змярцвелых, і жытніц-раўнін,
І завоблачных кражаў, і джунгляў, і пушч, і бароў
З неабсяжнасцю царства пярнатых і дзікіх звяроў,
І дзівоснейшых дрэў, і раслін невядомых!
Ці ж ахопіш усё гэта розумам дома,
Век пражыўшы ў пакоі і цесным, і тлумным?..
Як мне горка, як сумна!

Праглынаючы крыўду, гартаю цудоўныя кнігі
Пра фрэгаты і брыгі,
Пра далёкія плаванні дзёрзкіх людзей-маракоў
Ля чужых берагоў,
Для таго, каб хоць крошка з чужога стала
Мне ілюзію ведаў дала.
Я — паэт,
я хачу, каб народ мой — пяе ён ці
плача —
Сваю радасць і гора ва ўсёй маёй творчасці
бачыў.
Ды не ўсё, што я мог бы прапець, — я прапеў,
Шмат чаго не паспеў...
Колькі раз, сэрцам ловячы цішу начную,
Я ўяўляў, што сусвету гармонію чую.
Іншы раз мне здавалася:
песню вяршынь снегавых
Я, нарэшце, пачуў не душой, а на слых
З-за вяршыняў падзорных, з-за хмары —
Ілюзорныя мары...
Тая зорка, што ззяе над полюсам Поўдня,
Па начах,
калі ў шыбах драбілася поўня,
Палахлівым святлом начавала
ў маіх задуменных, бяссонных
вачах.

І ў душы маёй з рокатам,
як па вясне раўчукі,
Клекаталі — аж бурбалкі поверху —
вершаў радкі.
Усе песняры align рознамоўных народаў
Злівалі свой голас з гармоніяй вечнай прыроды.
Я ж пеў, як умеў, —
не лепшы й не горшы між імі, —
І думаў, што голас мой будзе нароўні з усімі.

Мяне Сарасваці * натхніла, з яе запаветам
Імкнуся пазнаць я усю гарманічнасць сусвету.
А як жа з душой чалавека? Як ёй авалодаць? —
Яе не прамерыш прыблізнаю меркай на локаць,
Таму толькі ўдасца другога душу зразумець,
Хто здольны з ёй зліцца,
як волава й медзь!

* Сарасваці — у індыйскай міфалогіі багіня, апякунка навукі і мастацтва.

Шкада, што яна на замку,
і няма мне ў яе ўваходу, —
Я не гэтак жыву, каб з'яднацца душою
з народам.
Земляроб — ён вырошчвае рыс і табак,
Ткач карпее над бёрдам, рыбачыць рыбак.
Іхні скромны занятак здаецца будзённым
і грубым,
Але ж ён і з'яўляецца цэлага свету падрубай!
Я на іх пазіраю з аконца свайго,
Як глядач у тэатры — на сцэну,
і толькі таго.
Парабляць, як яны, я хацеў,
задыхаўся ад прагі, —
І не мог: не ставала ні сіл, ні адвагі!
Калі ты не зжывешся з народам адзіным
жыццём,
То і песню спяваеш аб ім з напускным пачуццём,
І складзі ты хоць тысячы гімнаў і од —
Будзе глух к ім народ,
Бо няшчыра прынесены дар —
Несапраўдны тавар!

Калі хто ганьбаваў мае песні,
лічыў за няўдачу, —
Я не ў крыўдзе, усім я прабачу,
Бо не ўсе іх, не ўсе — тут не трэба пярэчыць —
Разумелі, любілі, чыталі сябрам пры сустрэчы.
Той, хто дыша з народам дыханнем адным, —
Зразумелы народу, народам любім.

О, калі б мне пачуць тую песню паэта,
Што дыханнем зямлі яго роднай сагрэта,
Тую самую песню,
якую — на жаль — я не змог
напісаць —
О, якая была б для мяне благадаць!
Праўда, дзіўная праўда, —
табе мой паклон прывітальны!
Хай цябе не аслепіць ні чырвань падробкі,
ні полыск фармальны:
Не пад нораў гурманам душой сваёй творац
паэты, —
Неўміручую славу не купіш фальшывай манетай!

О, з'явіся, прыйдзі к нам, пясняр,
сваёй лірай і сэрцам адданы
Усім бяспраўным, бязмоўным,
але благародным сынам Індастана, —
Непадкупны выразнік надзей запаветных краіны,
Дзе спявае жальба ад калыскі і да дамавіны, —
І спявай, так спявай, каб пустыня,
глынуўшы сваё «не раджу»,
Праглынала асмяглым пяском тваю песню,
як кроплі дажджу!

У паэта ў душы ёсць гаючы калодзеж любві.
Ты яго адамкні і ўвесь хлуд узарві.
Хай гаючы бальзам, тая вільгаць жывая
Асалоду дае, і не толькі ўсім тым,
хто спявае,
А і тым, хто граша за душою не мае,
А прад вечнай красой моўчкі шапку здымае.

О, наступнік!
Я веру, што ў песнях тваіх,
а не ў псалмах прарока,



Мы пачуем пра блізкіх сваіх,
і пра тых, хто далёка.
Будзь нам братам па праву,
Дзеля славы народнай забудзься пра ўласную
славу.
І тады я вялікім цябе назаву
І схілю прад табой галаву!

Са зборніка «У дзень нараджэння».
1940 г.

## ЛЮДЗІ ПРАЦЫ

Толькі ў плынь ціхаходнага часу
Моўчкі ў роздуме ўгледзішся
строга,
Як раптоўна з пяскоў і пампасаў
Выйдуць здані тыранства былога.

Смерць гайсала тут сцежкаю
кожнаю,
Зубы шчэрачы конскімі мордамі,
Поруч з полчышчамі
пераможнымі,
З незлічонымі ханскімі ордамі.

З рыпам-скрыгатам, процьмамі
ярымі
Пёр афганец — аж енчылі колы,
Пад разгорнутымі штандарамі
Чорным валам валілі манголы.

Дзе ж той след заваёўнікаў
бітых,
Дзе іх слава і дзе перамогі?
Дзе той рып калясніц і кібітак?..
Ціш — не шэпне бур'ян ля дарогі.

Уцалеў і ўсё сочыцца, сочыцца
Купал неба, сінюткі бясконца,
На світанні зары сухазлоціцай,
Вінным сокам — на заходзе сонца.

Паабапал чыгунак аблавамі —
Карабін і бізун за плячамі —
Ненажэрнымі, хіжымі ўдавамі
Падступалі да нас англічане.

Што ж, мы знаем іх сілу і вывучку,
Але счысціць іх след, як хімеры,
Зручны момант, што прыйдзе
на выручку
Пад'ярэмным заморскіх імперый.

Думка ў поцемкі часу загляне,
І праявіцца ў далі світальнай
Мой народ — муляры і сяляне —
Не ў вайне, а у працы
стваральнай.

Аб нішчымніцы часам, знябыты,
Ён шчыруе і ў полі, і дома,
Слава людзям усім працавітым
І рукам іх, не знаючым стомы!

Людзі сеюць і жнуць, і любуюцца
Справай рук сваіх, — гэта іх
права,
Вось іх заўтра—яно мне
рысуецца,
Як здзяйсненне жаданняў, як ява:

Свет пазбыўся навек
трыумфатараў,
Галубіныя гнёзды па касках,
Міжнародных пабоішч аматараў
Стрэнеш толькі ў разбойніцкіх
казках.

Не ў пашане парады, баталіі,
Але скрозь—аж кашулі курацца—
У Бамбеі, Пенджабе, Бенгаліі
Людзі працы — за рупнаю
працай.

Бёз прынукі чужой і напасці
Ходзяць рукі з кіркой і сякерай...
Гэта будуць закладзіны шчасця
На руінах аджыўшых імперый!

Са зборніка «Чалавек ачуньвае», 1941 г.

Пераклаў Язэп **СЕМЯЖОН**.

*Размова аб майстэрстве*

**Уладзімір БОГАН**

# СПЕЦЫФІКА ЖАНРА

Выступаючы супраць тых, хто прыніжае грамадскую ролю сатыры, адводзіць ёй месца «беднай сваячкі ў літаратуры», Кандрат Крапіва ў артыкуле «Што мне рупіць» з усёй рашучасцю заяўляе: «Савецкім сатырыкам яшчэ рана складаць ручкі ў козлы... у адстаўку падавацца». Жыццё пацвердзіла справядлівасць прыведзенага выказвання народнага пісьменніка.

Сёння, калі ў нашай краіне шпаркімі тэмпамі ідзе будаўніцтва камуністычнага грамадства, савецкія сатырыкі павінны з усёй рашучасцю і адказнасцю выяўляць і знішчаць недахопы ў жыцці, расчышчаючы дарогу ўсяму новаму, перадавому, што нараджае савецкая рэчаіснасць.

Каб выканаць гэтую пастаўленую жыццём задачу, сатыра павінна быць вострай, надзённай, высокамастацкай. Дзейснасць сатыры перш за ўсё залежыць ад таго, наколькі трапны будзе той агонь, які вядзе пісьменнік-сатырык па тых ці іншых адмоўных з'явах жыцця. А трапнасць пападання ў цэль, як вядома, залежыць ад умення валодаць зброяй.

Як жа нашы сучасныя пісьменнікі-сатырыкі валодаюць зброяй сатыры? Чаго яны дасягнулі і чаго ім яшчэ трэба дабівацца, каб іх мастацтва стала больш дзейсным сродкам у барацьбе за пабудову камунізма ў нашай краіне?

* * *

Байка стала ўлюбёным жанрам многіх пісьменнікаў як сталых, так і пачынаючых. Ва ўсесаюзнай літаратуры можна налічыць каля сотні аўтараў, якія працуюць у гэтым жанры. Па колькасці напісаных баек некаторыя беларускія пісьменнікі ўжо даўно абагналі не толькі Крапіву, але і Крылова. Аднак наспела неабходнасць для нашых байкапісцаў па-сапраўднаму задумацца над удасканаленнем свайго паэтычнага майстэрства, яшчэ і яшчэ раз пераглядзець арсенал мастацка-выяўленчых сродкаў з тым, каб не капацца ў «дробязях жыцця», а тыпізаваць жыццёва-важныя, сацыяльна-значныя з'явы, знаходзіць дасканалае вырашэнне ўзнятай у байцы праблемы. Большая патрабавальнасць з боку байкапісцаў да сваёй мастацкай прадукцыі, відаць, намнога паменшыла б яе аб'ём і павялічыла б якасць.

Варта глыбока задумацца над словамі В. Бялінскага: «Байкі Крылова, — гаварыў крытык, — не проста байкі: гэта аповесць, камедыя, гума-

рыстычны нарыс, злая сатыра, словам, што хочаце, толькі не проста байка». Аповесць, камедыю падаць у форме байкі, каб яны з'явіліся злою сатыраю і набылі вялікі грамадскі рэзананс, — вось у чым майстэрства байкапісца, вось ад чаго залежыць сіла байкі. А ці могуць дробныя прыклады (часта надуманыя, нежыццёвыя), якія сустракаюцца ў многіх сучасных байках, быць развіты да камедыі, узняты да ўзроўню сапраўднай сатыры?

Не так даўно мне давялося чуць, як адзін байкапісец чытаў са сцэны свае новыя творы. Шчыра кажучы, я з найвялікшым напружаннем услухоўваўся ў кожнае яго слова, стараўся запомніць новыя байкі. Аднак у памяці затрымалася толькі тое, што аўтар, акінуўшы позіркам залу і прыняўшы артыстычную позу, чотка назваў сваю першую байку «Шпак»... І яшчэ запомнілася «адчаканеная» назва другой байкі — «Грак». Вось і ўсё... Цікава было панаглядаць, як жа аўдыторыя ўспрыймае гэтыя байкі. На жаль, і аўдыторыя засталася абыякавай да жывога слова пісьменніка. А гэта ўжо вельмі крыўдна.

Нязначныя, выхапленыя з жыцця факты, натуралістычная іх падача, надуманыя, нежыццёвыя супастаўленні і агульнавядомыя вывады, пададзеныя ў маралі твора, ніяк не адпавядаюць мастацкай прыродзе байкі. Калі ісці па такому шляху, то байку можна напісаць з любога выпадку, на любую тэму, бо апрача шпакоў, гракоў, ёсць яшчэ вароны, буслы і безліч іншых птушак.

Самым важным у майстэрстве байкапісца з'яўляецца ўменне пабудаваць сюжэт. Удалы, займальны сюжэт, у якім дзеянне разгортваецца жыццёва, праўдзіва, натуральна, сутыкненні, праз якія раскрываюцца характары персанажаў, мастацкі апраўданыя, — усё гэта забяспечвае поспех байкапісцу нават тады, калі яго твор напісаны на тэму, якая распрацоўвалася ўжо другімі аўтарамі.

Майстэрства байкапісца Бялінскі бачыў не толькі ў здольнасці прыдумаць новы сюжэт для байкі, але і ва ўменні расказаць ужо вядомыя сюжэты і прыстасаваць іх да новых абставін. Такое заключэнне вялікі крытык зрабіў не абстрактна, а на аснове вывучэння творчасці многіх пісьменнікаў розных народаў.

Кандрат Крапіва, з імем якога непарыўна звязаны росквіт беларускай байкі, умее не толькі «прыдумаць» цікавы баечны сюжэт, але і па-свойму «расказаць» вядомыя сюжэты. Імкнучыся да прастаты і народнасці, ён у сваёй творчай практыцы абапіраецца на звыклыя для народа ўяўленні, выкарыстоўвае тыповыя жыццёвыя сітуацыі і абставіны, якія знайшлі сваё мастацкае абагульненне ў народнай творчасці. Вось чаму ў адным і тым жа творы сатырыка можна наглядаць і разгортванне прыказкавага сюжэта (вельмі ўдзячнага матэрыялу для творчай фантазіі пісьменніка), і выкарыстанне казачнага вобраза, і бытавыя замалёўкі фальклорнага паходжання.

У народнай паэзіі бачыць Кандрат Крапіва невычэрпную крыніцу сюжэтаў, багацце выяўленчых сродкаў, патрэбных для стварэння хвалюючых мастацкіх вобразаў. «У каго ж трэба вучыцца, — гаворыць ён, — законам і хараству беларускай мовы, дзе шукаць тыя скарбы і тыя фарбы, якія патрэбны пісьменніку для стварэння паўнакроўных вобразаў? Услед за Якубам Коласам коратка адкажам — у народа».

Уся пісьменніцкая дзейнасць К. Крапівы з'яўляецца як бы своеасаблівым пацверджаннем прыведзенай думкі. Пісьменнік сапраўды багата чэрпае з крыніц народнай мудрасці «тыя скарбы і тыя фарбы», што адпавядаюць яго мастакоўскаму бачанню свету. У гэтым і заключаецца сакрэт таго, што фальклорныя сюжэты, вобразы і матывы арганічна ўваходзяць у тканіну твораў К. Крапівы, напаўняючы іх сілаю мудрасці, надаючы ім непаўторнае, нацыянальнае гучанне.

Падобна Я. Коласу, які гаварыў, што яго твор (маецца на ўвазе паэма «Сымон-Музыка») — гэта «скарб, пазычаны, адбіты».

Ад роднае зямлі, ад гоману бароў,
Ад казак вечароў,
Ад песень дудароў... —

К. Крапіва сам «падпісваецца» пад тым, што матэрыял для сваіх твораў у многіх выпадках ён чэрпаў з крыніц народнай мудрасці. Народныя прыказкі і прымаўкі часта служаць эпіграфамі або назвамі баек Крапівы. Але такая з'ява (якая, дарэчы сказаць, вельмі рэдка наглядаецца ў нашых сучасных байкапісцаў) яшчэ сама па сабе не азначае, што пісьменнік творча выкарыстоўвае фальклор, глядзіць на жыццё вачыма народа, прытрымліваецца справядлівай народнай ацэнкі рэчаў і абставін. Аб гэтым можна гаварыць толькі ў выніку аналізу ідэйна-мастацкіх вартасцей твораў таго ці іншага пісьменніка.

Выключна шырокія магчымасці выкарыстання твораў народнай паэзіі ў свой час адзначаў Ф. Энгельс: «Яны невычэрпныя, — гаварыў ён, — кожная эпоха можа, не змяняючы іх сутнасці, засвоіць іх сабе».

Класічны фальклор і сёння не перастае актыўна бытаваць у народзе. Асабліва гэта датычыць песень, казак, прыказак і прымавак. Апошнія якраз і з'яўляюцца надзвычай удзячным матэрыялам для творчага выкарыстання байкапісцамі.

Байка па свайму значэнню і па форме вельмі блізкая да прыказкі і да народнай казкі. Прыказка — гэта не фіксацыя якога-небудзь нязначнага жыццёвага выпадку, а паэтычны твор, якому ўласціва сіла мастацкага абагульнення і вельмі часта — іншасказальнасць і алегарычнасць. Метафарычнасць і афарыстычнасць прыказкі — вось тыя мастацкія асаблівасці, якія родняць яе з байкаю ў мастацкай літаратуры, з народнаю казкаю — у фальклоры. Думку аб блізкасці значэнняў байкі і прыказкі выказаў К. Крапіва ў працы «Беларускія прыказкі», спасылаючыся пры гэтым на словы А. Патабні.

Прыказка, у адным выпадку, абагульняе, з'яўляецца вывадам з назіранняў над жыццёвым здарэннем, падзеяй, у другім — здарэнне ці казка служаць разгорнутай ілюстрацыяй да прыказкі. Гэтая з'ява дае магчымасць байкапісцу на «сюжэце» прыказкі пабудаваць апавядальную частку свайго твора. Такім мастацкім прыёмам карысталіся лепшыя байкапісцы розных эпох і народаў, ён цвёрда ўвайшоў у творчую практыку І. А. Крылова, К. Крапівы і іншых байкапісцаў. Аднак нельга сказаць, што ім авалодалі нашы сучасныя беларускія байкапісцы, хоць яны і імкнуцца да гэтага.

Народная прыказка: «Людзей слухай, ды і свой розум май» пакладзена ў аснову байкі Ц. Карагі «Міколаў пінжак». Сэнс гэтай байкі такі. Міколу раілі то пакараціць, то павузіць пінжак, а ён усё слухаў, і ўрэшце атрымалася, што той пінжак «і самому цяжка скарыстаць, і іншым сорам паказаць».

Нельга не заўважыць, што мараль названай байкі і яе апавядальная частка сшыты белымі ніткамі. Пісьменніку не ўдалося знайсці цікавы, востры сюжэт, з якога арганічна выцякала б гэтая мараль. Можна прыдумаць вельмі многа падобных «халодных», грубых ілюстрацый да прыведзенай прыказкі, але не напісаць ніводнай добрай байкі. Відаць, таму у наш час так многа пішуць баек, якія не запамінаюцца, ды, шчыра кажучы, іх і не хочацца запамінаць.

Баечная мараль падагульняе тое, аб чым гаворыцца ў апавядальнай частцы твора, сцісла і вобразна фармулюе яго. Гэта ў сваю чаргу патрабуе, каб сюжэт байкі, яе апавядальная частка была такой жа дасціпнай, павучальнай, як і вывад. Значыць, байкапісцу трэба імкнуцца да пабудовы павучальнага, займальнага сюжэта. Толькі такі сюжэт будзе «жыць» у народзе, і самі чытачы зробяць з яго для сябе вывад, прыстасоўваючы у кожным канкрэтным выпадку да пэўных жыццёвых з'яў. Ды і самому байкапісцу ў такіх выпадках бадай што няма патрэбы заключаць свой твор афарызмам. Вось чаму ён толькі часам у маралі называе тых людзей і тыя з'явы, супраць якіх ён перш за ўсё выступае ў сваім творы. Для прыкладу можна спаслацца хоць бы на байкі К. Крапівы «Вол і Авадзень», «Давялося свінні на неба глядзець...» і іншыя.

Нельга не бачыць, што адсутнасць у многіх сучасных байках займальнага, глыбокага па думцы, павучальнага сюжэта, які здольны выклікаць у чытача пэўныя эмоцыі і перажыванні, прыводзіць да неглыбокіх

вывадаў у «маралі» твора. Пісьменніку ў такіх выпадках проста няма чаго сказаць, а таму і паяўляюцца банальныя вывады:

Калі за справу ўзяўся,
Сабе на носе зарубі —
Не толькі колькасна, але і якасна рабі!
(Э. Валасевіч, «Колькасць і якасць».)

Удачай першаю не захапляйся,
Дабіцца новых поспехаў старайся.
(Ц. Карага, «Архіп і грыб».)

Калі ж байкапісец, імкнучыся зрабіць вывад са свайго твора, часам і напамінае чытачу народную прыказку, то гэта не стварае ніякага эфекту, бо прыказкамі нельга проста «раскідацца», іх можна ўжываць для падмацавання свайго выказвання, сваіх думак, і ўжываць дарэчы.

У байцы Э. Валасевіча «Канакрад», як і ў байцы Ц. Карагі «Міколаў пінжак» наглядаецца імкненне пабудаваць сюжэт на аснове прыказкі. Фармальна Э. Валасевіч следуе традыцыям К. Крапівы, але зноў жа прыказка тут «павісае» ў паветры, а таму можа быць лёгка апушчана без усялякай шкоды для твора.

Прывядзём пачатак гэтай байкі, каб паказаць, як нязграбна, безгустоўна яна гучыць:

Так прыказка народная нам баіць:
«Гарбатага магіла справіць...»
. . . . . . . . . . .
Меў канакрад калісьці спрыт
І сілу,
Мог з ходу выкрасці жарэбчыка або кабылу,
Але пад старасць стаў пабойвацца капыт...

Як бачым, прыказка перастала ўжо несці глыбокую думку, а пачала толькі «баіць». Дык навошта ж яна спатрэбілася тут, калі не знайшла свайго развіцця ў сюжэце байкі, у якой, дарэчы сказаць, пададзена няхітрая гісторыя пра нейкага канакрада, які ў глыбокай старасці не адмовіўся ад сваіх «заняткаў».

Ну кінуў бы зладзейства, жыў як людзі,
Ды паспрабуй жа, давядзі паскудзе!
Над ім занесла Смерць ужо касу,
А ён усё сваё! На хітрыкі пусціўся:
Насыпаў торбу поўную аўсу,
І на начлег крадком з'явіўся...
Аблюбаваў там скакуна
І, нібы воўк, жарэ аж зіркачамі:
«Кось-кось! Чаго стрыжэш вушамі?
На, еш авёс, на, хрумстай, на!
Расперажыся (?) хоць...
А там разлічымся з табою!»
І сам з-за пазухі вымае пугу і аброць...

Конь смальнуў (і пугі не пабаяўся) «канакрада капытом у зубы».

А вось і «мараль» гэтай байкі:

Калі стаў дзядзька Сам спяваць зноў пра «дактрыну»,
Убівацца ў ласку, пра авёс малоць,
Ну як не прыгадаць нам канакрада, пугу і аброць!

Ні зачын, ні мараль, ні апавядальная частка ў гэтым творы арганічна не звязаны паміж сабою. Дзе ж тая дасціпная сатыра, той гумар, якія так неабходны для байкі?

Прыкладам таго, як «сюжэт» прыказкі можа быць разгорнуты да цікавага фабульнага апавядання, служаць байкі К. Крапівы. І нашым маладым байкапісцам карысна пранікнуць у сутнасць яго майстэрства і авалодаць гэтым майстэрствам.

Эпіграфам да байкі «Саманадзейны конь» з'яўляецца прыказка: «Вялікаму каню — вялікі хамут». Апавядальная частка твора інсцэніравана



перадае сюжэтную сітуацыю, якая намечана ў народным афарызме. Тут мы бачым і «мізэрнага Каня — з сабаку, можа, так, мо' з добрае шчаня», які, захварэўшы маніяй велічы, скардзіцца, што «хамут, нібы не да яго»; і ламавікоў, што «пудоў па сто вязуць мукі» і маюць вялікія хамуты. Далей падаецца тое, што здарылася з мізэрным Канём, калі яго запрэглі ў вялікі хамут і цяжкі воз:

Пралезлі праз хамут канёвы персі й ногі,
І затрымаўся ён аж ледзь на жываце.

Як бачым, сцэнка, што расказана ў байцы, можа быць сцісла выказана словамі памянёнай прыказкі. Але ў такім разе яна страціць сваю іншасказальнасць, афарыстычнасць і будзе проста канстатаваць факт, а таму і не можа быць вывадам з расказанага ў байцы. Вось чаму пісьменнік павінен як бы нанава, па-свойму зрабіць гэты абагульняючы вывад і тым самым адказаць на пытанне, узнятае жыццёвым выпадкам. Такім чынам, пабудаваўшы змест байкі на «сюжэце» прыказкі, пісьменнік «здымае» апошнюю, а таму павінен даць у замену ёй свой афарызм, які ўзнавіў бы ці, нават, павялічыў мастацкую сілу прыказкі. Заключны радок — «Да славы прагныя, ды вузкія ў плячах» — фактычна стаў прыказкай, якая дасціпна абагульняе думку ўсяго твора і ў далейшым можа трапна характарызаваць іншыя аналагічныя жыццёвыя з'явы. Так нараджаецца афарызм, які з'яўляецца кароткім і дасціпным выказваннем жыццёва важнай думкі, адпавядае поглядам народа на тую ці іншую з'яву. Афарызм — гэта тая ж прыказка як па глыбіні думкі, так і па дасканаласці формы.

Можна падумаць: калі афарызм пісьменніка часам вельмі блізкі па свайму сэнсу і значэнню да вядомай народнай прыказкі, то ў ім няма вялікай патрэбы. Але гэта не так. На адну і тую ж тэму можна прыгадаць многа прыказак, але кожная з іх, не трацячы сваёй каштоўнасці, ужываецца ў мове, па-свойму ўзбагачае яе. З поўным правам можна сказаць, што ніколі не будзе ў мове «замнога» прыказак, як і не будзе празмернай колькасці слоў-сінонімаў.

* * *

Нельга сказаць, што байкапісцам заўсёды ўдавалася творча выкарыстаць традыцыйны сюжэт. Не заўсёды ўдавалася гэта і Крылову. Агульнавядома, што сюжэт яго байкі «Страказа і Мурашка» ўзыходзіць да антычнага эзопаўскага сюжэта. Але ў названай байцы Крылова не адчуваецца подыху сучаснай яму эпохі. Апавядальная частка твора «працуе» толькі на мараль-павучанне.

Паглядзім, як той самы эзопаўскі і крылоўскі сюжэт загучаў па-новаму пад пяром Кандрата Крапівы ў байцы «Варона-мітынгоўшчыца» (1925 год). Байка грунтуецца на вядомым лозунгу нашай партыі: «Хто не працуе, той не есць», які служыць жыццёвым правілам для савецкага чалавека і ўвайшоў у моўны ўжытак як прыказка. Няма патрэбы даказваць, што развіць, растлумачыць жыццёвы прынцып сацыялістычнага грамадства, асабліва ў тыя гады, калі пісалася байка, было немалаважнай справай. Тым больш, што праніклівае вока сатырыка заўважыла адзін з характэрных (асабліва для той пары) недахопаў у нашым жыцці, узнікненне якога абумоўлена самім часам.

Справа ў тым, што ў першыя гады савецкай улады было нямала такіх людзей, якія злоўжывалі пасяджэннямі, мітынгамі, займаліся, паводле трапнага выразу Леніна, палітычнай траскатнёй. Прычым многія з іх былі шчырымі прыхільнікамі новага ладу, але дрэнна разумелі надзённыя задачы часу. Вось пра такіх людзей і апавядаецца ў байцы «Варона-мітынгоўшчыца».

Уціхла бура, кончана змаганне,
І вольных дзён настала ранне,
Увесь птушыны род там без разбору нацый
За творчай працай.
Хто гнёзды ўе, хто ловіць мошак...
. . . . . . . . . . .

Адной Вароне праца не пад густ.
І вось, усеўшыся на куст,
Ад рэшты грамадзян паводдаль,
— Ура! — крычыць яна, — ура!
Няхай жыве свабода!

Калі ж на сваё запытанне, ці зараз пададуць абед, яна пачула ад Ластаўкі адказ, што «ў нас няма паслугачоў», а таму «ніхто, сястрыца, не падасць табе», «бо кожны з нас абед у працы здабывае», то запярэчыла: «Ну, не брашы, а я ж вось мітынгую».

Як бачым, у байцы зусім выразна і пэўна адчуваецца подых часу. Алегарычныя вобразы птушак удала раскрываюць учынкі і дзеянні людзей. Такая байка не «стрэліць» міма. Палітычная завостранасць, надзённасць названага твора ўзмацняецца аўтарскай сентэнцыяй, якая з'яўляецца палымяным заклікам да чытача:

Дык вось, чытач, ты сам здароў
Павінен добра тое ведаць,
Што, каб прымусіць працаваць такіх «варон»,
Не трэба ім даваць абедаць.

Сучасныя беларускія байкапісцы таксама не грэбуюць традыцыйнымі сюжэтамі. Я. Казека ў сваёй кнізе «Беларуская байка» зусім слушна заначае: «Кожны, хто ўважліва сочыць за творамі сучасных байкапісцаў, не можа не заўважыць у іх шматлікіх паўтораў сюжэтаў, вобразаў, думак, мастацкіх дэталей». Як мы ўжо казалі, выкарыстанне традыцыйных сюжэтаў само сабой не азначае, што пісьменніка ў такім выпадку абавязкова чакае няўдача. Калі аўтар ідзе ад жыцця, ад асэнсавання пэўнай грамадскай з'явы і выкарыстоўвае (творча, вядома) агульную ідэю ўжо знаёмага чытачу сюжэта, то ён ні ў якім разе не паўторыць ні самога сябе, ні сваіх папярэднікаў. Калі ж ісці ад схемы, то заставацца арыгінальным, а тым больш глыбокім па думцы, ніяк нельга.

У Э. Валасевіча ёсць байка «Пчала і Страказа». Няцяжка здагадацца нават па назве, што яна напісана на той жа сюжэт, што і байка Крылова «Страказа і Мурашка». Крылоўскай Страказе летам «под каждым ей листком был готов и стол и дом», і валасевічаўская Страказа хваліцца: «Усюды летам мне і дом ёсць і харчы». Ластаўка з байкі К. Крапівы («Варона-мітынгоўшчыца») гаварыла Вароне, што «кожны з нас абед у працы здабывае», і Э. Валасевіч прымусіў Пчалу сказаць: «Збіраю я нектар і корміць мяне праца». І ўсё гэта спатрэбілася дзеля таго, каб вывесці наступную мараль:

Трапляюцца Стракозы і сярод людзей...
Ім прысвячаецца вось гэта байка.

Байка павінна дасціпна высмейваць або разумна павучаць, а цяпер яна вельмі часта толькі «прысвячаецца» ці «напамінае», што, маўляў, «ёсць яшчэ такія людзі». Але ад такіх баек «стракозам», як кажуць, ні холадна, ні горача.

Мастацкая своеасаблівасць прыказак патрабуе ад пісьменніка выключнага майстэрства, калі ён на аснове іх імкнецца пабудаваць сюжэт байкі. Гэтым майстэрствам валодае К. Крапіва.

Калі сатырык мае справу з выслоўем, якое можа быць, у адным выпадку, звычайным меркаваннем, у другім — набываць пераносны сэнс і станавіцца па гэтай прычыне прыказкай, то ў апавядальнай частцы байкі ён павінен падаць такія жыццёвыя з'явы, на аснове якіх праваменрна магла ўзнікнуць сама прыказка. Інакш кажучы, сатырык ідзе ад прыказкі да той жыццёвай асновы, на базе якой магло ўзнікнуць пэўнае ўстойлівае словазлучэнне. Гэта спрыяе таму, што твор гучыць натуральна, лёгка ўспрымаецца і запамінаецца шырокім колам чытачоў. Мэтанакіраванасць твора, яго абагульняючы сэнс выяўляецца пасля ў маралі. Дарэчы, стройнасць і праўдзівасць сюжэта, абумоўленага такім выкарыстаннем прыказкі, аблягчае аўтару задачу — аформіць свой вывад у дасціпны афарызм. Яскравым прыкладам для ілюстрацыі гэтай думкі могуць служыць байкі



К. Крапівы «Пра цыгана і кабылу» (1926), «Ганарысты Парсюк» (1927) і іншыя.

Зусім інакш выкарыстоўваюцца прыказкі, якія бываюць толькі алегарычнымі. Дакладнаму асэнсаванню яны не паддаюцца і простай канстатацыяй фактаў не з'яўляюцца. Але зноў жа для таго, каб сюжэт твора быў дасціпны, зразумелы, жыццёва праўдзівы і займальны, К. Крапіва дамагаецца найбольш поўнай інсцэніроўкі сэнсу прыказкі. У алегорыю, як гаварыў М. Горкі, можна ўкласці велізарны ідэйны сэнс. Таму на аснове адной і той жа алегарычнай прыказкі можна пабудаваць некалькі сюжэтаў, пранізаных адной і той жа думкай. Пры гэтым, думка прыказкі не «здымаецца» сюжэтам байкі. Гэтыя меркаванні лёгка прасачыць на байках К. Крапівы «Аршын» (1928), «Лётчык і Блыха» (1949) і «Еш, дурань, бо то з макам» (1925).

* * *

Сюжэтнасць байкі сама па сабе абумоўлівае неабходнасць дасканалай абмалёўкі ў ёй алегарычных вобразаў-характараў. Перад байкапісцам заўсёды паўстае пытанне не толькі пабудовы займальнага сюжэта, але і выбару персанажа для рэалізацыі сваёй творчай задумы, для раскрыцця тых ці іншых асаблівасцей псіхалогіі людзей, іх узаемаадносін, пэўнай грамадскай з'явы.

Сучасныя байкі часта будуюцца на супрацьпастаўленні персанажаў. Але ж вядома, што супрацьпастаўленне персанажаў у байцы павінна адпавядаць тым кантрастам, якія наглядаюцца ў жыцці.

Чалавеку, які нічога не робіць, а сядзіць, як пень, Э. Валасевіч задумаў супрацьпаставіць працавітага чалавека для таго, каб сказаць, што першы з іх толькі «копціць неба дзень у дзень». І вось з'яўляецца байка «Конь і Пень». Прачытаўшы такую назву, проста цяжка ўявіць сабе, якая залежнасць можа быць паміж канём і пнём, як можна разгарнуць дзеянне ў творы. Ну, паспрабуйце пры ўсім напружанні фантазіі паказаць Пень у байцы так, каб у вас атрымаўся характар. Гэта проста немагчыма, і перш за ўсё таму, што ў творы выступае другі персанаж — Конь. А вось гісторыю нейкага пня можна было б расказаць без супрацьпастаўлення з другім персанажам, як байку-маналог ці, напрыклад, апавяданне ад першай асобы.

Тых, што копцяць неба, трапна высмяяў К. Крапіва ў байцы «Угоднікі-маўчальнікі», дасціпна намаляваўшы прынцып і гісторыю жыцця «Угодніка», які «гадоў мо' сорак пяць» праспаў на адным месцы.

Вось такой лагічнай суадноснасці персанажаў якраз і нестае байцы Э. Валасевіча «Конь і Пень».

Нашы сучасныя байкапісцы шырока карыстаюцца традыцыйнымі алегарычнымі вобразамі. Але гэтыя вобразы ўжо неяк паблеклі, страцілі сваю свежасць. Пісьменнікі часта не ўмеюць «абнавіць» традыцыйнае, павярнуць яго да чытача новым нечаканым бокам. Вялікую ролю ў стварэнні алегарычнага вобраза адыгрывае эпітэт. Удалы падбор кантрасных сатырычных эпітэтаў глыбока раскрывае сутнасць баечных персанажаў. Успомнім толькі некаторыя назвы баек К. Крапівы і мы адразу адчуем тыя трапныя характарыстыкі, якія ён дае сваім «героям». Яго эпітэты выражаюць самую сутнасць персанажа. Такімі, напрыклад, з'яўляюцца «Далікатныя Парасяты», «Дыпламаваны баран», «Ліслівае цяля» і іншыя.

Даволі ўдалыя, трапныя назвы баек можна знайсці і ў сучасных байкапісцаў. Добра запамінаюцца, напрыклад, корбанаўскія «Пудовы агурск», «Жывы матылёк», «Лектар Мянташка» і іншыя. Аднак у большасці выпадкаў эпітэты і назвы баек нашых паэтаў-байкапісцаў нехарактэрныя, невыразныя, без жывой думкі. Калі чытаеш, напрыклад, назвы баек: «Музыкальны пацук», «Вечны янот», «Воўк на Асамблеі», «Бог і Казёл», «Свінтус», проста цяжка ўявіць сабе, што тоіцца за такімі характарыстыкамі.

Часам, грэбуючы традыцыйнымі алегарычнымі вобразамі (а можа і не ведаючы іх), нашы байкапісцы падаюць нежыццёвыя абставіны, у якіх дзейнічаюць надуманыя, умоўныя героі. Выкарыстоўваючы ў байках новыя персанажы, байкапісцы не імкнуцца выявіць характэрныя іх асаблівасці для сатырычнага паказу жыццёвых фактаў і з'яў. Недасканалая абмалёўка новых вобразаў, якімі карыстаюцца байкапісцы, робіць іх умоўнымі, схематычнымі. Такія вобразы не здольны выклікаць у чытача патрэбных асацыяцый, не дазваляюць зрабіць шырокія і глыбокія па думцы мастацкія абагульненні. Вось чаму так цяжка даецца аўтару вывад з байкі, які нярэдка з'яўляецца толькі тлумачэннем яе апавядальнай часткі і бывае занадта расцягнутым.

Што індывідуальнага, канкрэтнага, тыповага мы знойдзем, напрыклад, у вобразах Віцязя і Манаха з байкі Э. Валасевіча «Віцязь і Манах»? Тут па сутнасці няма вобразаў. На запытанне Манаха, куды накіроўваецца Віцязь, той адказаў:

— Мяне Радзіма кліча!
Я еду на вайну.

Манах жа ў сваю чаргу прамовіў:

— Ну-ну!
Спяшайся, ратуй ад супастата нашу старану,
Я стану за цябе маліцца...

Вось і ўсё, што сказана ў апавядальнай частцы байкі. У маралі ідзе дакор Манаху за тое, што ён любіць «схавацца за спіну». І тут з усёй відавочнасцю выяўляецца схематызм вобразаў, іх умоўнасць, нетыповасць. Сам байкапісец, відаць, адчуў гэта і імкнуўся «кампенсаваць» недахоп у маралі-вывадзе, які атрымаўся даволі-такі няўдалым:

Манахаў у нас няма даўным-даўно...
І нечага аб тым журыцца. (?)
Ды я скажу адно:
Калі ўзнімаем мы жыцця рашуча цаліну
Або ад ворага ратуем край свой родны,
Гатовы некаторыя схавацца за спіну,
Чым смела ў шлях ісці паходны.

Змест байкі павінен адпавядаць учынкам тых персанажаў, якія падаюцца ў творы. Калі, напрыклад, у байцы дзейнічае львіца, то яе ўчынкі, звычкі павінны пэўным чынам адпавядаць сапраўднаму стану рэчаў, абставіны таксама павінны быць тыповыя. Толькі ў такім выпадку ўсё гэта па законах алегорыі можа стасавацца да чалавека. Пры гэтым трэба, каб алегорыя была зразумелай. Яркім прыкладам для ілюстрацыі выказанай думкі можа служыць байка К. Крапівы «Мядзведзі».

У апошні час байкапісцы ўсё часцей адмаўляюцца ад алегарычнасці вобразаў. У іх творах дзейнічаюць не персанажы з жывёльнага свету, а іменна тыя, супраць каго выступае пісьменнік у байцы. Разам з тым, байкапісцы не перастаюць называць героям сваіх твораў Тыграмі, Зайцамі, Салаўямі і г. д. У гэтым няма ніякай патрэбы. Бо без цікавага алегарычнага зместу алегарычнасць персанажа — пусты гук.

Лепшыя савецкія байкапісцы часам пераступаюць граніцы алегорыі, героі іх сатырычных твораў, узятыя са звярынага і пярнатага свету, сваімі ўчынкамі нагадваюць дзеянні прататыпаў з чалавечага грамадства, але гэта робіцца з тактам, без разбурэння самой алегорыі, для ўзмацнення сатырычнай накіраванасці байкі. Гэтую з'яву можна наглядаць у творы С. Міхалкова «Заяц пад хмелем». Гэтая байка не патрабуе маралі. Шырокаму колу чытачоў запомніўся вобраз Зайца, і кожны выкарыстоўвае яго ў розных жыццёвых абставінах. Гэта і ёсць найвялікшая заслуга пісьменніка.

Надзвычай умела выбірае алегарычныя вобразы К. Крапіва. Выкарыстанне тых ці іншых традыцыйных фальклорных вобразаў у сатырыка заўсёды апраўдана мастацкай задумаю твора. Вобразы яго твораў як бы самі прыадкрываюць «заслону алегорыі».



Літаратурная практыка нашых пісьменнікаў-байкапісцаў паказвае, што добрыя ў мастацкіх адносінах байкі-сатыры могуць быць пабудаваны і не на аснове алегорыі. Такой, напрыклад, з'яўляецца байка У. Корбана «Пудовы агурок». Натуральна і ў той жа час іранічна гучыць ужо сама назва твора. Паэт дасціпна, праўдзіва падаючы самыя характэрныя дэталі, расказаў, як нейкі агранам «каб стаць вядомым у народзе», «зрабіў да славы крок». Ён так увіхаўся каля адной расліны, нават гной падкладваў «уласнаю рукою» і вырасціў пудовы агурок. Было б яшчэ мала бяды ад гэтага, але «пудовы агурок праславіў агранома» ў той час, калі «агуркі ў калгасе не ўрадзілі». Нельга не бачыць, што пісьменнік у гэтым творы падняў важную тэму і раскрыў яе самымі характэрнымі дэталямі. Таму ў чытача ўзнікаюць глыбокія і правільныя асацыяцыі. Ды і аўтару лёгка зрабіць вывад з твора. І гэты вывад гучыць трапна, афарыстычна:

Рэкорд — яно нішто, але ж пара
Усю на ногі ставіць гаспадарку.

Прачытаеш такую байку і задумаешся: ці не занядбаны ў нас апошнім часам жанр сатырычнага верша, які ўзнімаўся б да ўзроўню байкі па сваёй дасціпнасці і вастрыні... Ці заўсёды трэба імкнуцца «ўціснуць» сваю творчую задуму ў рамкі традыцыйнай байкі? Відаць, не. Сатырычныя вершы К. Крапівы «Калі ў краме ёсць нястача...», «Язычок», «Ну як не выпіць?!», «З барышом» надта блізкія па сваёй форме да баек і ўспрымаюцца чытачом як байкі. У іх і мова такая ж афарыстычная, такі ж займальны сюжэт, такая ж дакладная, жывая падача падзей. Калі чытаеш верш К. Крапівы «Валакіта» (1925), то проста немагчыма ўявіць, як гэты матэрыял гучаў бы ў байцы. І нават здаецца, што традыцыйны жанр байкі скаваў бы дынаміку дзеяння, якое так натуральна развіваецца ў вершы.

Гаворачы аб сённяшняй беларускай байцы, нельга не заўважыць, што вершаваныя радкі яе ў большасці выпадкаў празаічныя, нявобразныя. Афарыстычнасць мовы, трапны, характэрны дыялог — адно з асноўных патрабаванняў жанра байкі. Трапныя і да месца ўжытыя выразы і выслоўі мы знаходзім, напрыклад, у байках Уладзіміра Корбана: «Сабака бацькам не бывае» («Сабака»), «У поле іншы выбрацца б і рад, але паперы не пускаюць» («Прыпарка») і іншых. Але ў цэлым удалы афарыстычны выраз у сучаснай байцы — усё ж такі вялікая рэдкасць.

Думаецца, што няма тут патрэбы прыводзіць шматлікія выслоўі з баек К. Крапівы, якія сталі здабыткам усяго народа,ператварыліся ў прыказкі і прымаўкі. Гэтая акалічнасць гаворыць аб тым, што К. Крапіва пранік у законы роднай мовы, што ён глыбока разумее ўсе сэнсавыя адценні слова, узятага асобна і ў спалучэнні з іншымі лексічнымі адзінкамі.

Жанр байкі можа на першы погляд і здаецца простым, але ж ставіць перад пісьменнікам свае ўмовы і патрабаванні. І гэтыя ўмовы і патрабаванні не лёгкія. Выканаць іх можа толькі той, хто творча авалодае традыцыямі папярэднікаў і ўнясе сваё, новае ў развіццё гэтага баявога і дзейснага літаратурнага жанра.

# Агрэхі стылю

> «Чытаеш такую фразу, усё роўна як мякіну жуеш, — ніяк праглынуць не можаш».
>
> К. КРАПІВА.

«Калі мы выйшлі на ганак, густы клубок пылу па дарозе праглынуў машыну са старшынёй».

«На трэцяй паласе Рая выстраліла фельетонам».

«Ліда паклала гэлаву на стол і накрыла яе хусткай».

«Ён распараджаўся не толькі яе грашыма, але і яе нагамі: яна хадзіла за ім па пятах».

«Малацьба зусім не пафас голы,
Хай лепш скептык памаўчыць».

«Адзінокі ліхтар дапамагаў мне сачыць за Лідай. Але, абыходзячы вялікую лужу, я згубіў любімы сілуэт. І калі адшукаў, ледзь не крыкнуў: іх было двое — Лідзін і мужчынскі.
У рэдакцыі Ліда трымала мяне на афіцыйнай адлегласці».

«Хлопец не дагаварыў: нечакана дзынкнула шкло, пасыпалася. І не справілася ярка пафарбаваная «лімонка» зялёнай жабай плюхнуцца на зямлю, як Алесь шпурнуў на яе падушкі, світы, коўдры.
— Бяжы! — скамандаваў ён і так штурхнуў Кастуся ў плечы, што той мігам апынуўся за дзвярыма. А сам, схапіўшы сумку з радыёстанцыяй «Сувязь», плюхнуўся на невялікую цагляную грубку.
Адразу грымнуў выбух.
З зямлянак выпхнулі ўзрушаныя людзі. Яны падбеглі да Кастуся, які яшчэ не апомніўся і толькі ледзь справіўся збялець».

«Ніна Пятроўна чакала спачування. Вельмі цяжка насіць гора аднаму, калі ніхто не падтрымлівае яго над тваёй галавой».

«Яна села ў вугал, нацягнутая, як струна».

«У маленькай дзяўчынцы было многа братоў і сясцёр».

«Елена Андрэеўна параіла настаўнікам паменш выклікаць Валю, а толькі прашчупваць».

«Холад забіраўся праз гумавыя боты і шчыпаў шчокі».

«Мала-памалу нашы адносіны згладзіліся. Аднак, другое маё каханне аказалася часовым захапленнем, не правераным ні дзеяннем, ні часам».

«Зачыніліся рамы вокан у верхніх дахах дамоў».

«Пад раніцу Ніна прачнулася і ўбачыла ў паўзмроку белую здань — з канапы ўстаў Віктар. Ён на пальчыках наблізіўся да ложка і сказаў:
— Ніначка, выбачай, што разбудзіў. Я не створаны для канапы».

«Сямікласнікі папрасілі Ірыну Мікалаеўну расказаць пра курган. Яна паднялася на ўзгорак, і мінулае ажыло ў вачах відавочцы.
Назад яны вярталіся абратным парадкам».

«Внутренность определяет силу организма машины, человека, животного, а внешность обманывает и самого себя и других.
Так и у человека, если он не имеет хороших корней и не пользуется идеологической подкормкой, он чахнет».

**З рукапісаў, дасланых у рэдакцыю.**



# З блакнота падарожніка



Жанчыны ўпрыгожаны залатымі кольцамі ў носе і манетай на ілбе...

ZaH
MIROSLAV
ZIKMUND
A
JIŘÍ
HANZELKA

Іржы ГАНЗЕЛКА, Міраслаў ЗІКМУНД

## ПА ДАРОГАХ СВЕТУ

### ВАДЫ, ПАНОЧКУ, ВАДЫ...

Падвечар нас спынілі бедуіны, шатры якіх былі раскінуты направа ад пішты *. Калі мы пад'ехалі бліжэй, ад шатроў аддзялілася жменька людзей, цяпер яны стаяць перад намі, мужчыны і жанчыны, і штохвіліны да іх далучаюцца ўсё новыя і новыя. І ўсе падстаўляюць пустыя конаўкі, гаршкі, кацялкі і просяць: «Майі, ясыдзі, майі!..» Вады, паночку, вады!..

— О, гэта кепска — не мець вады. Што ж, падзелімся!

Мы апаражнілі ўвесь свой посуд і выплілі ваду з адной цыстэрны — іх было ў нас чатыры па баках

* Пішта — след машыны, пракладзены ў пустыні ці стэпу; дарога.

Працяг. Гл. № 1, 1961 г.



Ну што ж, падзелімся!

прычэпаў. Астатнюю ваду мы павінны берагчы, як непарушны запас, бо ўсе ў Дамаску звярталі нашу ўвагу на тое, што мы едзем у пустыню, што ў Пальміры вада дрэнная і, хто ведае, як яно будзе далей.

Бедуіны, якім дасталася вады, паклалі посуд на зямлю і скачуць ад радасці, як малыя дзеці, смяюцца і ўдзячна паціскаюць нам рукі. Астатнія пакуль што стаяць расчараваныя, але, нарэшце, з імі дзеляцца тыя, хто прыйшоў раней, і ўсе, крыху глынуўшы з свайго посуду, задаволена вяртаюцца да шатроў, каб напаіць дзяцей і згатаваць чай.

— Слухайце, хлопцы, але ж у старажытнасці Пальміра славілася, як аазіс, багаты на ваду!

Да яе заставалася ў гэтую хвіліну дванаццаць кіламетраў.

Яна ўзнікла перад намі, як прывід.

Мы выскачылі на ўзгорак і ў катлавіне ўбачылі яе ў зялёным уборы — сапраўдны аазіс пасярод жоўтай пустыні. Значыць, гэта праўда, што ў Пальміры і цяпер ёсць гаі фінікавых пальм, ад якіх старажытны Тадмор вядзе сваё новае імя. Іх вяршыні зелянелі на ўсходзе па ўсім даляглядзе — і гэта было самым большым нашым уражаннем. Толькі потым мы разгледзелі грандыёзныя руіны антычных збудаванняў, храмаў і доўгіх каланад, раскінутыя па ўсёй даліне да самага горада, які панаваў над паўночна-заходнім даляглядам. Што было ў Пальміры новага ў параўнанні з іншымі старажытнымі гарадамі, якія мы пабачылі ў Азіі, — дык гэта горы. Яны горда ўзнімаліся над Пальмірай, і якраз цяпер за імі заходзіла сонца. Яно залаціла фасады разбураных храмаў і бясконцыя рады калон з рэшткамі архітраваў, меланхалічна зацягвала заслону над сцэнай, дзе некалі, на схіле трэцяга стагоддзя, адбываліся грозныя падзеі. Рымскі імператар Аўраліян загадаў тады пакараць смерцю ўсіх дарадчыкаў пераможанай каралевы Зіновіі, а прыгожай палаянцы велікадушна дараваў жыццё і ўзяў яе з сабой у Рым, дзе ў час трыумфальнага параду загадаў ёй ісці ў залатых ланцугах перад яго калясніцай.

Не, мы не будзем даследаваць славутыя руіны: яны такія ж маўклівыя, як ўсюды — у Малой Азіі, Месапатаміі, на берагах Міжземнага мора. Але яны сведчаць аб тым, што сённяшняя барацьба за ключавыя пазіцыі на Бліжнім Усходзе мае вельмі даўнюю гісторыю, хіба толькі змяніліся мэты і баявая тэхніка, але зямля і сёння тут гэтакая ж гарачая, як і сотні, тысячы год назад.

Мы толькі праедзем міма маўклівай каланады, якая цягнулася некалі на тысячу дзвесце метраў, падпіраючы двайную галерэю — багатую выстаўку тавараў Усходу і Захаду, усё, чым гандлявала Пальміра. Праедзем праз вароты, якімі праходзілі тысячагаловыя караваны вярблюдаў, накіроўваючыся да Персідскага заліва па багацці Персіі, Кашміра, Індыі і Кітая, і вярталіся да гэтых варот, абцяжараныя багаццямі Усходу. Прыпынімся хоць на хвілінку ў пустых залах храма Ваала, за сценамі якога шастаюць галінкі фінікавых пальм. Спускаецца цемра, на калону храма садзіцца крумкач, за ім — другі, трэці, пакаркаўшы, яны раптам усе адразу ўзнімаюцца і, цяжка лапочучы крыллем, адлятаюць.

Назаўтра Пальміру ахутаў густы туман, які прыпоўз аднекуль з неабсяжных раўнін, што цягнуцца аж да Еўфрата... А ў даліне Пальміры разгульваў сцюдзёны вецер, па-восеньску скавычучы ў руінах...



## ЛЮДЗІ ВЯРБЛЮДАЎ



Гэта будзе першы здымак.

У зімовыя месяцы колькасць жыхароў Дэйр эз-Зору і яго ваколіц павялічваецца больш чым удвая. З далёкіх пашаў сходзяцца бедуіны са сваімі статкамі — там, у Джэзіры, на поўнач ад Еўфрата, ужо зусім няма травы. Затое каля ракі, у шырокай паласе, абводненай каналамі, яшчэ многа харчу для авечак, на палях засталіся абабраныя кусцікі бавоўны — іх з апетытам з'ядуць і вярблюды і непераборлівыя авечкі.

Па гэтых жывёлах і падзяляюцца плямёны бедуінаў, якія самі ўзводзяць сваю назву да арабскага слова аль-бадзійя — пустыня. Адны з іх называюцца ахль альганам — людзі авечак, другія — ахль аль-баір — людзі вярблюдаў. Апрача таго, у басейне Еўфрата жывуць і напаўаселыя бедуіны — яны пасля зімовых дажджоў высылаюць пастухоў са статкамі ў памаладзелы стэп, астатнія застаюцца на месцы.

— Да іх належыць і шэйх Рагіб эль-Башыр. Нам расказвалі, што яго людзі маюць права ўзяць сабе толькі палову свайго ўраджаю, другую ж павінны адвезці шэйху. За карыстанне абвадняльнай сістэмай ён адлічвае трыццаць працэнтаў, за пасяўны матэрыял — пяць, астатнія пятнаццаць — за арэнду зямлі.



Уезд на мост праз Еўфрат.

— Мы павінны паглядзець яшчэ, як жывуць людзі вярблюдаў... Гэта нам па дарозе...

У 1927 годзе французы пабудавалі ў Дэйр эз-Зоры вісячы мост праз Еўфрат. Ён умацаваны на чатырох высокіх слупах, паміж якіх ціснецца вузкая асфальтавая дарога з яшчэ больш вузкімі праходамі для пешаходаў. Здалёк здаецца, што мост павешаны на слупах павукамі. На мосце два вазы не размінуцца.

Ахова маста ветліва прапусціла нас, нават дабрадушна прывітаўшы. І вось мы на сярэдзіне маста, пад намі бяжыць каламутны Еўфрат. Але што гэта — насустрач

нам цягнецца калона грузавікоў, між імі брыдуць аслы з абярэмкамі бацвіння бавоўны, коні, веласіпедысты і безліч пешых. Мужчыны ў жоўтых доўгіх кажухах, аўчынай у сярэдзіну, жанчыны ў стракатых уборах, з кружкамі і залатымі падвескамі ў носе, з залатымі манетамі, прывязанымі тонкай касічкай на ілбе, з дзецьмі на руках. Бадай толькі ў Гватэмале бачылі мы ў апошні раз такія стракатыя, маляўнічыя ўборы, як тут. Але абедзве калоны ўжо сутыкнуліся «носам да носа» і застылі ў чаканні. За намі доўгі рад машын, пешаходаў, коней і аслоў. Што будзе далей?

Перш за ўсіх апамяталіся ахоўнікі на абодвух баках маста і пачалі лаяцца паміж сабой. Узняўся шум, гам. Ты чаму, джахім *, пусціў гэтыя машыны з прычэпамі на мост, калі ведаеш, што не твая чарга? Што ж мне цяпер, вяртаць усіх назад? І ахоўнікі пачалі размахваць рукамі адзін перад адным. Але вось настаў паварот — і ў пераносным і ў літаральным сэнсе. Грузавікі падаліся назад, за імі павярнуліся і коні, і аслы, і веласіпедысты, і пешаходы — і цяпер усе моўчкі адыходзяць на зыходныя пазіцыі, без адзінага слова пратэсту, без скаргаў і нараканняў. Было нешта велічнае ў гэтай цішыні, у шорганні босых ног і падэшваў ад старых аўтамабільных пакрышак, у поўнай пакорнасці лёсу і волі алаха, ва ўсім гэтым маўклівым шэсці па мосце праз раку Еўфрат.

* * *

Людзі вярблюдаў збегліся са сваіх шатроў на ўскраіну бавоўнікавага поля, пакінуўшы вярблюдаў і авечак пад апеку сабак-ачварак, і цiснуцца вакол машын, бо некалькі дзяцей ужо атрымалі падарункі — хто люстэрка, хто апельсін, хто кавалак шакаладу. Яны нічога не маюць супраць таго, каб з іх зрабілі здымак, нават здаецца, што ім гэта прыемна, ды і іх вярблюдам апарат не пашкодзіць. Але — стойце, ні кроку далей. Мы падышлі на адлегласць пяцідзесяці метраў ад шатроў, якія, зразумела, больш за ўсё цікавяць нас — там дамашнія рэчы, гаспадарка, кухня, дзеці...

— ...І жанчыны. І ў гэтым уся загваздка. Зноў гэты няшчасны алах!

— Паглядзі, Алі, — прыйшла Роберту ў галаву шчаслівая думка, — я табе нешта пакажу. Вось фатаграфія маёй жонкі, а вось — мая мама. Бачыш, ім нічога не зрабілася, калі яны згадзіліся сфатаграфавацца. Вы можаце гэта пераклясці, містэр Барудзі.

Той без усякай ахвоты пераклаў.

Фатаграфіі пераходзяць з рук у рукі, мужчыны племені вярблюдаў, як малыя дзеці, вырываюць іх адзін у аднаго з рук, здаецца, яны ахвотна пакінулі б іх у сябе.

— Дык што, Алі? Паклічаш нас у свой шацёр? Мы нікому не зробім нічога дрэннага, а твае жонкі і дзеці атрымаюць падарункі... Пойдзем, — і ён узяў Алі за плячо.

Алі вагаецца, ён хоча перасіліць сам сябе, вось ён, азіраючыся ўвесь час навокал, нерашуча накіраваўся да свайго шатра.

Мужчыны, якія яшчэ хвіліну назад нагадвалі бясклапотных дзяцей, зараз акамянелі, як статуі. І раптам адзін з іх перасцерагальна ўзняў рукі і пачаў лаяць Алі:

— У цябе ўвайшоў злы дух! Ты што, здурнеў — вадзіць няверных гяураў у памяшканне, дзе жанчыны? Зараз жа вярніся!

Алі застыў на месцы, усмешка сышла з яго твару. Цяпер у яго вачах было толькі халоднае «не».

Мы вярнуліся да машын і завялі маторы. Мужчыны вярблюдаў засталіся каля сваіх шатроў, яны стаяць нерухомай сцяной, і ніхто з іх нават не ўсміхнецца. Толькі некалькі дзяцей выбегла да машын.

* Джахім — чорт бы цябе ўзяў; у пекла б цябе!

## У ПЯЦІШАСТОВАГА ШЭЙХА

Мы праехалі бавоўнікавыя палі. Кусцікі ўжо даўно аббраны, толькі сям-там бялее шматок бавоўны — ці то зборшчыкі паленаваліся лішні раз сагнуцца, ці то каробачка раскрылася занадта позна. З пыльнай пішты збочвала ў бок Еўфрата многа дарог, двойчы мы памыліліся ў выбары кірунку і патрацілі дарэмна паўтары гадзіны. Калі, нарэшце, мы даехалі да пасёлка, у ім было пуста. Шэйх Рагіб эль-Башыр, быццам бы, гадзіну назад выехаў у Дэйр эз-Зор, у яго там неадкладныя справы. Калі ён вернецца? Гэта ён, мухтар, не ведае, ён вельмі шкадуе, што так нядобра атрымалася, але для гасцей ён зараз згатуе каву... І павёў нас у прасторны шацёр.

Знакамітасць і багацце бедуінскіх шэйхаў вымяраюцца, з аднаго боку, колькасцю авечак і вярблюдаў, з другога — лікам шастоў у шатры. Найбагацейшы ў Сірыі шэйх Мічхем ібн-Эмхейд — шэйх васемнаццацішастовы, а наш адсутны гаспадар, якога замяшчае староста-мухтар, хоць і не з самых бедных, але ўсё ж яго шацёр толькі пяцішастовы. Ён даўжынёй у дваццаць метраў, з фасаднага боку адкрыты. Звычайна шацёр называецца байм аш-шаар, літаральна — валасяны дом. Маецца на ўвазе казіная воўна. Доўгія палосы цёмнай тканіны, сшытыя разам, таксама ткуцца з ніцяў, скручаных з казінай воўны — яны не прапускаюць дажджавой вады.

У левым кутку шатра — прамавугольная яма ў чвэрць метра глыбінёй, гэта ачаг. Не паспелі мы азірнуцца, як вакол ачага расклалі падушкі, на іх кінулі другія, меншыя, — гэты стус напластаваных адна на адну падушак павінен служыць апорай для рук. Мужчыны пачалі зносіць посуд для прыгатавання кавы.

Усё, што потым адбывалася, нагадвала неймаверна запаволены і прытым яшчэ вельмі расцягнуты фільм. І крыху падобна было на дзеянні нерашучага гаспадара, які ўсё яшчэ раздумвае, чым частаваць гасцей, і ніяк не можа адважыцца. Але гэтае параўнанне было б крыўднае для людзей, якія не лічаць час вартасцю і рытму жыцця якіх мы зусім не ведаем. Прыём гасцей лічыцца ў бедуінаў справай, якую нельга вырашаць неабдумана. Госці прыходзяць не кожны дзень, трэба аказаць ім павагу не толькі гасціннасцю, але і дастойным спакоем. Неразважліва робяць толькі людзі, якія жывуць у тым, другім, мітуслівым свеце.

Праз паўгадзіны прынеслі цыноўкі і шаўковыя вышытыя падушкі пад локці, нехта загадзя наліў вады ў вялікія порыстыя пасудзіны, з якіх яна, ужо фільтраваная, па кроплі капала ў падстаўленыя жбаны. Нехта іншы прынёс абярэмак дроў і акуратна склаў іх каля ачага. Да ачага падышоў чалавек у нязменнай арабскай куфіі на галаве, моўчкі апусціўся на зямлю і, скрыжаваўшы рукі на грудзях, стаў глядзець у пустату перад сабой.

Але вось ужо ўвесь посуд сабраны для гатавання кавы. Да ачага сеў мухтар, узяў бітон з газай і, лінуўшы газы на дровы, пстрыкнуў запальнічкай. З-пад самай большай пасудзіны паваліў густы дым.

Гатаванне арабскай кавы — гэта сапраўдны абрад, які мае нешта агульнае з алхіміяй. Відаць, яго наладжваюць дзеля таго, каб вочы тых, хто чакае, былі нечым заняты, каб іх думкі засяродзіліся на кульмінацыйным моманце, калі мухтар першы паспрабуе гатовае пітво (у доказ таго, што ў ім няма атруты), і конаўка пойдзе ў кругавы шлях па шатры, ад аднаго да другога. Перад кожным мухтар цырымонна спыніцца, напоўніць да палавіны маленькі кубачак густым пітвом, зробіць гэтым кубачкам кругавы рух і падасць госцю. За кожным рухам мухтара сочаць дзесяць пар вачэй, якія крыху раней гэтак жа напружана сачылі, як ён мяшае на скавародзе зярняткі кавы, каб яны спражыліся так, як гэтага патрабуе традыцыя.

Вось мухтар ледзь прыкметна ўсміхнуўся і на яго твары мільгнуў выраз задавальнення — яго пітво, шмат разоў пераліваюць з пасудзіны ў пасудзіну, ачышчанае ад пены і падагрэтае на агні да загадзя вызначанай тэмпературы, атрымала прызнанне ў гасцей з далёкай краіны.

## ...І З ЧАГО ЯНЫ ЖЫВУЦЬ?

Калі мы дапілі апошні кубак і паківалі ім у знак таго, што больш наліваць не трэба, сонца было над

пашарпаным краем уваходу ў шацёр. Са здзіўленнем мы пераканаліся, што кававы абрад працягваўся больш трох гадзін.

Мухтар потым зразумеў, што мы б ахвотна агледзелі шэйхаву гаспадарку, але ён не меў на гэта дазволу шэйха і не ведаў, што можна паказваць, а чаго не. Ён павадзіў нас па мяжы бавоўнікавага поля, нерашуча дазволіў сфатаграфаваць групку жанчын з зялёнай татуіроўкай на твары і цяжкімі сярэбранымі бранзалетамі на руках — яны збіралі бацвінне бавоўны.

Мы ўжо хацелі развітацца, падзякаваць за гасціннасць, бо наўрад ці варта было чакаць шэйха, калі ніхто не ведаў, ці вернецца ён сёння. Мухтар і яго памочнік, малады чалавек з нахмураным ілбом, аж спыніліся. Як так, ехаць? Цяпер, калі жанчыны згатавалі абед, калі зварылі барана, паклалі на вялікі медны паднос тонкія лустачкі хлеба і палітыя вярблюджай смятанай кавалкі бараніны і толькі чакаюць, калі ў гасцей абудзіцца апетыт?

Мы змірыліся са сваім лёсам, зноў селі на падушкі, складзеныя ўжо на сярэдзіне шатра, і чакаем, што будзе далей. Але трэба, каб госці спачатку памылі рукі, бо бедуіны не карыстаюцца прыборамі. Каля нас ужо стаіць мужчына з алавянай місай, другі трымае конаўку з вадой, у трэцяга ў руках пахучае амерыканскае мыла і каляровы ручнік з махрамі — калі ласка, адзін за адным, па чарзе.

Нам стала крыху ніякавата, калі на нізкі столік паставілі гэты медны паднос, на якім узвышалася баранова галава, насмешліва ўзіраючыся на нас шэра-зялёнымі зваранымі вачыма. Праз гадзіну, калі мы запэўнілі гаспадароў, што мы сапраўды з задавальненнем палі, калі мы зноў памылі рукі пахучым мылам і выцерлі іх махровым ручніком, каля ўваходу ў шацёр спыніўся амерыканскі лімузін, з якога выйшаў шэйх у снежна-белай куфіі на галаве і ў галабіі з шэра-блакітнай камвольнай пражы, здаецца, англійскага паходжання. Ён велічна кіўнуў нам і падаў руку — і з той прычыны, што мы ўжо выходзілі, мы толькі паціснулі гэтую руку і яшчэ раз падзякавалі за ўвагу.

— Шкада толькі, — сказалі мы, сеўшы за руль, — што нам ніхто не расказаў, што гэтыя людзі робяць, калі не п'юць каву, і з чаго яны жывуць.

І яшчэ шкада, што не паказалі нам, як выглядае гаспадарка за гэтым пяцішастовым шатром.

## ГІЛЬГАМЕШ

Хлапчукі, шлёпаючы босымі нагамі па лужынах, гарэзліва крычалі нам: «Сау-рна, сау-рна!» («Сфатаграфуй нас!», «Сфатаграфуй нас!».)

Але надвор'е было пахмурнае, плаксівае, над Цытадэллю цягнуліся нізкія хмары — брацца за фотаапарат не было сэнсу. Замест таго, каб глядзець на навакольныя мясціны, мы павінны былі пільна сачыць за лужынамі ліпучай гразі, якія ператварылі снежаньскі Халеб у непрыветлівы горад. Людзі выглядалі, як мокрыя куры, і адскоквалі ад аўтамабіляў, каб не трапіць пад пырскі бруднай слоты.

Ад такога надвор'я трэба было хавацца некуды ў музей.

Дырэктар музея Фейсал Сарафі прывітаў нас, як старых знаёмых.

— Мне пра вас пісаў з Дамаска доктар Самі Дахан, я ўсё ведаю і нічога не маю супраць фатаграфавання. Калі вам патрэбна святло, я паклічу нашага фатографа, ён падрыхтуе для вас ліхтары і шнуры і пакажа, дзе ў залах разеткі.

Большага мы не маглі і жадаць. І былі ўжо амаль рады, што на дварэ такая слота; а ў залах музея нам свяціла сонца даўніх стагоддзяў, нішы і вітрыны азараліся нябачаным мастацтвам шумераў, хетаў, фінікійцаў, арамейцаў і асірыйцаў... У Халебскім музеі захоўваюцца такія каштоўнасці, якія вы марна сталі б шукаць у сталіцы. Тут знайшлі сабе месца скарбы так званага дакласічнага перыяду гісторыі Сірыі — з Арслан-Ташу, Тэль-Ахмару (сірыйскай Чырвонай гары), з Тэль-Харыра, які таксама знаходзіцца на Еўфраце, з Тэль-Халафу — сталіцы арамейскага царства, з слаўнай



Марыйская багіня ўрадлівасці.

Рас-Шамры — угарыцкай сталіцы.

У адной з залаў вы ўбачыце каменныя пліты. На іх арамейскія скульптары высеклі доказ таго, што тры тысячы год назад тут былі жывёлы, ад якіх сёння ў Сірыі не засталося і следу: львы, ягуары, антылопы, мядзведзі, нават страусы. Тут ёсць вядомая статуэтка Ламгі, караля імперыі Мары, якая некалі распасціралася аж да Персідскага заліва. Ламгі — дзядок у адзенні з авечага руна, сядзіць, сашчапіўшы рукі, а на спіне, распісанай арамейскімі пісьменамі — какетлівы вузел валасоў. У дзядка такі выгляд, нібы ён вельмі прастуджаны і вось-вось чхне. У другім месцы на вас цікаўна зірне марыйская багіня ўрадлівасці — прыгожая дзяўчына ў натуральную велічыню, аздобленая жамчужнымі каралямі. Прычоска яе нагадвае валовыя рогі — гэта сімвал боскага паходжання, губкі капрызна надзьмуты. Калісьці яна была русавалосая — яшчэ сёння пад адным з рагоў захаваўся ледзь прыкметны след чырвонай фарбы.

У час раскопак у халебскай Цытадэлі знайшлі барэльеф, на якім, на першы погляд, можна было адгадаць барцоў у нейкіх пагрозлівых скоках. Аднак іх сціснутыя кулакі мелі больш высокую задачу — яны падтрымлівалі сімвал бога сонца і справядлівасці, што, як нованароджаны, спаў у паўмесяцы — сімвале бога часу. Абодва барцы спяшаюцца, яны павінны ўвесь час паспяваць за імклівым сонцам — і старажытны скульптар паказаў іх ногі такімі, нібы яны дакраналіся да распаленых вуголляў, ды яшчэ даў барцам двайныя крылы.

Аднак самы прыгожы барэльеф вы знойдзеце ва ўваходнай зале — гэта арамейскі небасхіл з сонечным дыскам, падстаўка якога аздоблена чатырма стакроткамі. Небасхіл падтрымлівае шумерска-вавілонскі бог Энкіду, напалавіну чалавек — напалавіну бык з хвастом і рагамі. Скульптар быў чалавекам дасціпным і ведаў сёе-тое з эстэтыкі: каб у яго барэльеф выйшаў сіметрычным, ён даў Энкіду ў двух экземплярах — у люстраных паставах па абодва бакі, а пасярэдзіне змясціў цара Гільгамеша, легендарнага асілка. Толькі прыгледзьцеся, як надрываецца небарака Гільгамеш, падпіраючы не толькі сонца і небасхіл, але і бога Энкіду, і яго двайніка; ад натугі ў яго вочы вылазяць з арбіт і падкошваюцца калені.

Ён вытрэшчвае вочы ўжо тры тысячы год!

## ПЯТНАЦЦАЦІКІЛАМЕТРОВЫ БАЗАР

Назаўтра выглянула сонца, усе заспяшаліся ў мячэці — была пятніца, арабская нядзеля. Высока над горадам ўздымалася Цытадэль — гордае сярэдневяковае збудаванне на вялікім штучным узгорку. Тут некалі стаяў храм Тэшупа, галоўнага бога ў хецкім пантэоне, божага, як кажуць, прэм'ер-міністра (яго імпазантная статуя таксама ў Халебскім музеі).

Мусульмане, навучаныя ўласнымі ж хітрыкамі і вераломствам, дзякуючы якім яны ў свой час авалодалі Цытадэллю, ператварылі яе цяпер у сапраўдную крэпасць — абклалі гладкімі дошкамі адхоны ахоўнага вала, які ўзнімаецца пад вуглом у 48°, ва ўваходную браму ўбудавалі замаскаваныя краштэйны, з якіх можна кідаць палаючыя факелы і ліць

расплаўленую смалу на асаджальнікаў, і наогул удасканалілі крэпасныя збудаванні так, што Цытадэль стала непрыступнай. У гэтым хутка ўпэўніўся візантыйскі імператар Нікіфар Фока, які спустошыў увесь горад і, каб адпомсціць за гібель свайго ўнука, загадаў прывесці да Цытадэлі 12 000 палонных жыхароў Халеба, паставіў іх на калені і загадаў на вачах у абаронцаў пакараць іх смерцю, усіх да аднаго.

Цяпер крэпасць прапануе свае тайныя галерэі і казематы турыстам. Але больш за ўсё нам спадабаліся хлапчукі, якія з адхону пяцідзесяціметровай штучнай гары зрабілі сабе цудоўную коўзанку. Як малпачкі, караскаюцца яны ўгару, а дабраўшыся да вяршыні, перамо́жна азіраюцца, садзяцца тым месцам, адкуль ногі растуць, і — шусь! — праз хвіліну зноў на дне канавы, якая калісьці была напоўнена вадой.

Кажуць, што ў тыя часы для гарантыі непрыступнасці адхон гары палівалі алеем. Такое мерапрыемства, несумненна, віталі б і сённяшнія маленькія гарэзнікі.

Халеб вядомы не толькі сваім музеем і Цытадэллю, але і развітай, добра наладжанай тэкстыльнай прамысловасцю. Больш чым на пяцістах буйных і дробных прадпрыемствах выпрабляецца вядомая адамашка, а таксама саят — цяжкая шаўковая тканіна для пышных арабскіх убораў, матавая шаўковая тканіна агхабані для паясоў, турбанаў, мужчынскага адзення і пышных пасцельных покрывак. Аднак цяжэй за ўсё парча, якую патрабуюць замежныя, асабліва амерыканскія, заказчыкі.

І яшчэ Халеб вядомы сваімі падземнымі базарамі. Падземнымі?— перапытаеце вы.— Нашто ж іх будавалі пад зямлёй? Можа з абаронных меркаванняў, па ўзору тайных галерэй Цытадэлі?

Ну, так літаральна не трэба разумець слова «падземныя» — базары ўтвараюць злучаныя адно з адным галерэі, лоджыі, тунелі, над якімі стаяць дамы, склады і майстэрні. Кажуць, што калі б усе гэтыя базары выцягнуць у адну лінію, дык яны ўтварылі б тунель даўжынёй у пятнаццаць кіламет-



Драўляныя балконы — асаблівасць Халеба.

раў. Нават у дваццаць пяць, сцвярджаюць некаторыя.

Сапраўды, гэта нешта нечуванае. Нават для таго, хто выхадзіў арабскія базары па ўсім паўночнаафрыканскім узбярэжжы і Блізкім Усходзе. Цэнтрам нескончонага сплячэння калідораў з'яўляецца Вялікая мячэць, або Меджыд-Закарыя. Гэта, калі хочаце, Усход паводле ўсіх правіл — з таямнічымі закуткамі, з шумам і гоманам многіх людзей, з незлічоным мноствам тавараў, і з мешанінай прыемных і непрыемных пахаў. Тут вы ўбачыце людзей, якія цэлымі днямі горбяцца ў цесных норах, скручваючы з казінай воўны бясконцыя чорныя матузкі, з якіх потым плятуцца арабскія акалы *. У другім месцы сядзіць на карачках чаканшчык па золаце — з ранку да вечара слепіць ён вочы над мініятурнымі пацеркамі, якія карыстаюцца попытам у турыстаў і набожных мусульман. Прасуне ён тонкі, як волас, лобзік у адтуліну на залатой пласцінцы, потым замацуе канец лобзіка, прыхіліць пласцінку да меднай стойкі і напружана жмурыць вочы на свае

* Акал — шнур.



пальцы, а пад імі нараджаецца філіграннaя тканіна, якую стварыў не павук, а чалавек...

Мы маглі б цэлымі днямі хадзіць па гэтых завулках. Нанач яны зачыняюцца цяжкай жалезнай брамай, у ніжняй частцы якой, аднак, ёсць невялікія адтуліны, куды пасля закрыцця базару можа пралезці толькі начны вартаўнік, што нясе адказнасць за ўсю даверaную яму маёмасць.

Над Вялікай мячэццю разлягаецца вячэрняя малітва муэдзіна, па вуліцы бяжыць чародка авечак, пастукваючы капытцамі па асфальце і здзіўлена міргаючы ў святле фар. То там, то тут замычыць ягнятка, потым цокат капытцаў сціхае, замаўкае і дрыжачы голас муэдзіна. Толькі гул людскіх галасоў, гэты неад'емны шум усіх базараў, вісіць у паветры.

Стомленыя, вяртаемся мы з вячэрняй прагулкі, заўтра на світанні мы хочам рушыць далей, вось толькі наспех перакусім і — адразу ў ложак.

— Давайце я завяду вас у адзін рэстаран, вы атрымаеце там нешта, чаго няма больш ва ўсёй Сірыі. Баранінай вы, напэўна, сытыя па горла, га?

Аказалася, зямляк, хто ж іншы...

Афіцыянт падаў нам меню, хвіліну паслухаў, на якой мове мы гаворым, і нахіліўся над сталом:

— We have excellent * зельц, цыбуля, воцат. Do you like it? Only place in Syria, you can be sure! **

## У ХОМСЕ

Ёсць у Сірыі два гарады, назвы якіх чужаземцы заўсёды блытаюць. Размешчаны яны недалёка адзін ад аднаго, абодва па шашы з Халеба ў Дамаск і абодва пачынаюцца з літары «Х». Каб чужаземцы не блыталі іх, даведнікі ўказваюць, што Хаму вы пазнаеце па высокіх вадзяных колах рымскай эпохі — норыях, у той жа час як у Хомсе цукровы завод ды яшчэ там выпрабляюць баваўняную пражу.

Ну, дык ведайце, што такое

* У нас ёсць цудоўныя... (англ.)
** вам падабаецца? Адзінае месца у Сірыі, запэўняю вас! (англ.)

адрозненне было зручнае толькі да 1959 года. А потым Хомс праславіўся тым, што ў ім чэхаславакі пабудавалі вялікі нафтаперагонны завод, які хутка апынуўся на памятных медалях і паштовых марках, а назва Хомс у сувязі з заводам увайшла ў гісторыю маладога сірыйскага раёна ААР і запісана ў ёй залатымі літарамі. Калі мы ехалі ў Хомс, завод даўно ўжо меў за плячамі не толькі ўрачыстае хрышчэнне і афіцыяльныя прамовы на адкрыцці, але і перыяд, калі тут не зачыняліся дзверы ад замежных наведвальнікаў. Да іх так прывыклі, што ўжо не звярталі ўвагі на такія візіты.

Было зусім цёмна — каля дзесяці гадзін вечара, калі мы спыніліся перад брамай завода. Не вельмі яно прыемна — прыязджаць так позна ў госці, але мы вельмі заваждаліся са здымкамі глінянай канічнай вёсачкі і праслаўленых норый у Хаме — нічога больш не застаецца рабіць.

— Пачакайце хвілінку, я паклічу дзяжурнага, — сказаў у трубку тэлефона голас па-чэшску зусім проста і дзелавіта. Гэта прагучала надзвычай сімпатычна — якая ўрэшце розніца, прыехаў у Брно наведвальнік з суседняга Бланска ці сюды праз дзевяць краін, дзесяць мораў і адзінаццаць горных хрыбтоў!

— Але куды гэта варта ездзіць поначы? Ну, хіба так можна? — працягваў голас.

— Гэта наш Пепік, ён заўсёды такі, — смяецца назаўтра інжынер Блажак. Смяецца і ўся брыгада чэшскіх тэхнікаў, калі мы ў памяшканні дырэкцыі расказваем аб сваім начным прыездзе. — Але ён добры хлопец, вы гэта, напэўна, і самі заўважылі, га?

## ВАСЕМНАЦЦАЦЬ ГАДЗІН У ДЗЕНЬ

Увесь завод яшчэ ззяе навізной, серабрыцца алюмініевай афарбоўкай. Нават таблічкі з надпісам, што без рукавіц і ахоўных акуляраў сюды ўваход забаронены, яшчэ новенькія, не аблупіліся. Усё выглядае так, нібы тут чакаюць прыезду каралёў, прэзідэн-




...гэта зразумее і той, хто не ўмее чытаць.

таў і прэм'ер-міністраў або, прынамсі, дэлегацый ад тых канкурэнтных фірм, якія так дамагаліся права на будаўніцтва завода, але не атрымалі заказу. Аднак амаль нідзе вы не ўбачыце ніводнага чалавека, увесь гэты гігант працуе сам, нібы дастаткова таго, што пад ім днём і ноччу цячэ рака нафты і што кемлівыя людзі ўдыхнулі ў яго аднойчы жыццё. А цяпер ён і без людзей абыдзецца...

— Паглядзелі б вы, які ён быў год назад!

— Ды што год! Яшчэ за шэсць месяцаў да пуску!

У лютым стукнулі маразы і выпаў снег. Людзі, якім не было трыццаці год, бачылі снег упершыню ў жыцці. З трох тысяч рабочых на працу выйшла восемдзесят. Будаўніцтва апазнілася на чатыры месяцы.

— Нашы працавалі ў такіх умовах, у якіх арабы адмаўляліся выходзіць на будоўлю. Хомс знаходзіцца нібы ў самым вусці яра, на дне горнага жолаба, які ўтвораны хрыбтамі Ліван і Антыліван. Па гэтым жолабе вецер імчаўся з хуткасцю восемдзесят кіламетраў у гадзіну, а нашы зваршчыкі працавалі ў такім пекле, быццам нічога і не здаралася. Па калені ў ледзяной слоце. І па васемнаццаць гадзін у дзень.

— А Сірыя ў гэты час падпісала кантракт на пастаўкі замежнага бензіну, бо ніхто не верыў, што завод будзе пушчаны ва ўстаноўлены тэрмін. А мы працавалі! І я прызнаюся вам, часам нам было вельмі горача, часам мы не спалі многа начэй запар, — і інжынер Блажак выцер лоб, хоць сёння з антыліванскага жолаба дзьмуў вільготны ветрык, сагрэты нясмелым зімовым сонейкам.

Каля брамы стаіць шэсць шэрых «татраў-111». Калі б яны не выходзілі такімі шэрымі з капршыўніцкага завода, дык усё роўна пашарэлі б ад невыноснай працы тут.

— Іх было шэсць, але на сваіх кузавах яны перацягнулі ўвесь завод, — сказаў інжынер Фрыдрых, галоўны тэхнолаг. — Нашы хлопцы перавезлі з Латакскага порта дваццаць тры тысячы тон абсталявання, І, бывала, забіралі па трыццаць пяць тон адразу, інакш бы нічога не выйшла.

## ЯК З БЕНЗІНАМ?

Каля ўваходу на завод прымацавана сціплая таблічка, якая на англійскай і арабскай мовах абвяшчае, што гэты завод у Хомсе пабудаваў у 1958—1959 гг. Тэхнаэкспарт, Чэхаславакія. З прычыны таго, што арабы чытаюць справа налева, арабскі тэкст — «Тэкнуэксбурт, Чыкуслуфакія» — знаходзіцца справа, на ганаровым месцы. Але англійскі тэкст таксама займае пачэснае месца, хоць, як вядома, яго трэба чытаць злева направа...

Той, хто прыедзе сюды з Чэхаславакіі, можа сапраўды ганарыцца. У яго для гэтага ёсць усе падставы. Нават калі б іх не было больш, хапіла б наступных дзвюх. Па-першае, нашы тэхнікі ўступілі з замежнымі ў канкурэнцыю, і нялёгкую, бо ў тыя часы ў экспарце камплектных нафтаперагонных заводаў у нас не было ніякага вопыту, а ў іх — быў. Па-другое, гэты гігант мы здалі ў тэрмін, і цяпер завод ідзе поўным ходам, хоць цяжкасцей на будаўніцтве было шмат.



Дырэктар завода інжынер Блажак і галоўны тэхнолаг інжынер Фрыдрых.



— Ну, наконт поўнага ходу — гэта не зусім так, — азваўся адзін з чэшскіх таварышаў.

Хвіліначку, мы зараз даведаемся аб нечым такім, што не трапляла ў газеты...

— Паводле ўмовы, мы павінны апрацоўваць сто пяцьдзесят кубічных метраў сырой нафты за гадзіну, гэта значыць, 3 600 за дзень. Але мы працуем толькі на дзве трэціх сваёй магутнасці.

— А чаму? Што-небудзь не ў парадку?

— Не, што вы, усё ідзе, як па маслу, нават у час пяцідзённай гарантыйнай пробы мы давалі тыя 86,3 працэнта актану, наконт якіх сёй-той сумняваўся. Але сірыйцы не ведаюць, што ім рабіць з атрыманым бензінам. Унутраны попыт даволі нязначны, а збыту за граніцу няма.

На прасторным бетаніраваным двары перад помпавай пляцоўкай стаялі ў рад дзесяткі пустых цыстэрн, шафёры цярпліва чакалі, пакуль пярэдні праедзе крыху ўперад. На цыстэрнах чаргаваліся надпісы канкурэнтных фірм: ЭСО, Сацоні, Шэл, Кальтэкс, нават французская Соры і мясцовая Ватанія — усе яны мірна чакалі каля адной помпы, хоць над бетоннай эстакадай яна была не адна.

Завод можа перагнаць мільён тон сырой нафты ў год. Апрача газы, кацельнага паліва, газойля для дызельных матораў, асфальту і бутану, ён можа здабыць з гэтай нафты больш дваццаці працэнтаў лёгкага і цяжкага бензіну, і іменна гэтых вырабаў аўтамабілісты чакаюць больш за ўсё.



У дыспетчарскай — Міраслаў Барта.

— Больш двухсот тысяч тон. Удзельная вага бензіну каля 0,7, значыць, гэта складзе каля трохсот мільёнаў літраў, якія штогод закупляліся сірыйцамі за мяжой.

З той прычыны, што гэтыя лічбы, на першы погляд, нічога не гавораць, мы яшчэ на хвілінку заняліся падлікам, колькі аўтамабіляў з акругленай патрэбнасцю ў дзесяць літраў на сто кіламетраў магло б...

— ... ну, напрыклад, аб'ехаць вакол свету, — засмяяліся таварышы ў белых плашчах, выцягваючы на дапамогу алоўкі.

— Даволі салідная была б калона, га? У мяне выйшла 75 000 машын, якія зрабілі б па экватары шлях у 40 000 кіламетраў кожная.

Пераклад з чэшскай мовы
**А. МАЖЭЙКІ.**

(Працяг будзе.)

Спорт

# ШКОЛА АСІЛКАЎ

## КРЫХУ ГІСТОРЫІ

Мінскі губернатар чытаў прашэнне доўга, а думаў яшчэ даўжэй. «Даць ці не даць дазвол гэтым юнакам? Што гэта за новае таварыства? «Санітас»» — здароўе, гм... Аб чым здароўі яно будзе клапаціцца? Ці не створана яно для падрыву асноў імперыі?.. Праўда, юнакі, быццам, з паважаных, прыстойных сем'яў, усе — маладыя чыноўнікі, купчыкі, гімназісты... Адмовіць ім няма прычыны. У Пецярбургу, Маскве і іншых гарадах Расіі «Санітас» ужо адкрыў свае філіялы...». І яго высакароддзе нехаця зрабіў прывычны, размашысты росчырк на паперы...

На Петрапаўлаўскай вуліцы (цяпер вуліца Энгельса) прыватны танц-клас. Тут у 1913 годзе асталявалася таварыства «Санітас». У адным з куткоў танц-класа насыпалі пілавіння і накрылі яго брызентам, які падараваў таварыству сын мясцовага фабрыканта. Цыркавы барэц Уладзіслаў Сакалдынскі даваў на гэтым пілавінні першыя ўрокі французскай барацьбы.

Яна толькі так называлася — французскай. На самай справе барацьба была яшчэ вядома ў перыяд старагрэчаскіх алімпіяд. Бадай няма такога народа, які б у свае гульні і забавы не ўключаў барацьбу. У гульнях народаў нашай краіны барацьба займала пачэснае месца. Рускія асілкі выходзілі на змаганне нават з мядзведзем. Любілі барацьбу і далёкія продкі беларусаў. Яны баroліся на паясах, у абхват, «крыж-накрыж». Сціснуць, быццам абцугамі, адзін другога два асілкі, напружваюцца, пакуль адзін не злаўчыцца і не пакладзе другога на спіну. У цырках гэты від барацьбы называлі французскай, а на алімпійскіх гульнях — грэка-рымскай, а цяпер яе завуць класічнай.

Вялікі Кастрычнік вымеў усё старое, прывілеяванае. На сметнік гісторыі быў выкінут і спартыўны клуб выпешчаных юнакоў з «прыстойных» сем'яў. У спорт прыйшла рабочая моладзь. На Камсамольскай вуліцы ў маладзёжным клубе «КІМ» быў створан першы спартыўны гурток. Падыманнем цяжараў, партэрнай акрабатыкай тут займаліся юнакі з агрубелымі ад цяжкай працы рукамі. Такія ж гурткі былі створаны ў клубах будаўнікоў, металістаў, друкароў, харчавікоў, гарбароў. Па прыкладу Мінска, барацьба стала папулярнай у Барысаве, Бабруйску, Гомелі, Віцебску, Магілёве.

Мінскі клуб будаўнікоў асабліва славіўся сваімі барцамі. Іх тут было больш за сотню. Гэты клуб даў рэспубліцы многа выдатных майстроў дывана, большасць чэмпіёнаў рэспублікі выйшла з будаўнікоў. Многія з іх заваёўвалі прызавыя месцы на чэмпіянатах краіны. Будаўнікі і пасля вайны па традыцыі доўга трымалі першынство рэспублікі.



## «ДЗЯДЗЬКА ЧАРНАМОР»

Гэтую мянушку атрымаў старшы трэнер зборнай каманды беларускіх барцоў Міхаіл Іванавіч Мірскі. Былы муляр, Мірскі валодаў не толькі тэхнікай барацьбы, а яшчэ і педагагічным майстэрствам. Калі ў Мінск для падрыхтоўкі зборнай каманды БССР прыязджаў славуты савецкі барэц чэмпіён краіны масквіч Рыгор Пыльноў, ён заўсёды браў сабе ў дапамогу Міхаіла Мірскага. І мінчанін з захапленнем вучыўся ў выдатнага барца і трэнера, а пасля яго ад'езду паспяхова замяшчаў свайго настаўніка.

Мірскі пераняў ад Пыльнова добрую спадчыну і стаў развіваць яго навуку творча. Паступова выпрацоўвалася свая сістэма падрыхтоўкі барцоў, свой стыль трэніроўкі, свая тэхніка і тактыка вядзення схватак.

Гэта не была знаходка аднаго Мірскага. На зборах, трэніроўках працавалі і другія беларускія трэнеры — вучні Мірскага. І ў кожнага праяўлялася нешта сваё, асабістае. Мірскі прыглядаўся да кожнага і знойдзенае новае, карыснае абагульняў з тым, каб скарыстаць у сваёй практыцы. Творча працавалі з барцамі маладыя трэнеры Аляксей Куцэнка, Міхаіл Сіндар, Іосіф Аборскі. Дружная работа, часты абмен думкамі, вопытам, самакрытычны падыход да справы садзейнічалі росту трэнерскага і спартыўнага майстэрства беларускіх барцоў. Кожны з гэтых трэнераў меў асабістую выдатную падрыхтоўку, вырасціў славутых асілкаў і ўсё ж прыслухоўваўся да слоў галоўнага трэнера. А на зборах «галоўнакамандуючым» заўсёды быў М. Мірскі. Ён даваў парады, вызначаў тактыку схватак. І яго слухалі, бо вопыт, веды і тонкае разуменне каманднай барацьбы стварылі Мірскаму бясспрэчны аўтарытэт. Ён адным з першых спартсменаў Беларусі атрымаў званне заслужанага майстра спорту СССР і адным з першых трэнераў Беларусі — званне заслужанага трэнера СССР. Вось чаму, калі М. Мірскі выводзіць на парад сваіх барцоў-асілкаў, адразу ўспамінаецца створаны Пушкіным вобраз Чарнамора.

## САКРЭТЫ МАЙСТЭРСТВА

У гісторыі беларускага спорту класічная барацьба займае вядучае месца хоць было шмат удач і няўдач. Аднак ужо вось пяць год, як няўдачы абмінаюць беларускіх барцоў. У 1956 годзе на першай Спартакіядзе народаў СССР каманда барцоў Беларусі заняла пятае месца, а Алег Караваеў — першы з беларускіх барцоў заваяваў залаты медаль чэмпіёна краіны. Так адкрылася паласа ўдач.



**Заслужаны майстар спорту СССР М. І. Мірскі — трэнер зборнай каманды беларускіх асілкаў.**

Прайшло яшчэ два гады, і беларускія барцы ўсёй камандай узняліся на другое месца п'едэстала пашаны на першынстве краіны. У 1958 годзе Алег Караваеў стаў чэмпіёнам свету ў лягчэйшай вазе. На другой Спартакіядзе народаў СССР Алег Караваеў чацвёрты раз стаў чэмпіёнам краіны.

1960 год быў знамянальны для беларускіх барцоў. Спачатку яны дабіліся трыумфу на асабістым чэмпіянаце СССР. У чатырох вагавых катэгорыях чэмпіёнамі краіны сталі беларусы. Яны павезлі дадому палавіну залатых медаляў!.. Іван Коршунаў стаў чэмпіёнам у лёгкай вазе, Мі-



**Рашучая схватка на дыване: В. Жыцянёў (знізу) з масквічом Ю. Калуновым.**

калай Чучалаў — у сярэдняй, Сяргей Залускі — у цяжкай. Уся гэтая тройка — упершыню, а Алег Караваеў пяты раз заваяваў медаль чэмпіёна. Сяргей Залускі на гэтым чэмпіянаце паклаў на лапаткі чэмпіёна свету Івана Богдана.

У Рым на XVII Алімпійскія гульні паехалі два беларускія асілкі. Алег Караваеў перамог усіх сваіх праціўнікаў і заваяваў званне чэмпіёна Алімпійскіх гульняў.

Закончылі год беларусы сенсацыйна—яны заваявалі каманднае першынство Савецкага Саюза. У гісторыі беларускага спорту — гэта першая такая буйная перамога.

Цяпер кажуць, што снежаньская перамога беларускіх барцоў — заканамерная. І не таму, што яна была вынікам папярэдніх поспехаў, а таму, што апраўдала сябе беларуская школа барацьбы.

У чым асаблівасць гэтай школы? Беларускія трэнеры вучаць барцоў весці схваткі агрэсіўна, ініцыятыўна і... разумна. Пры адным і тым жа захваце кожны павінен умець праводзіць некалькі розных варыянтаў кідкоў, прыёмаў. Не выйшаў адзін—адразу бярыся за другі, трэці, чацвёрты... Не давай праціўніку апамятацца!

Але хіба іншым барцам гэта невядома? І так, і не так. Беларускія барцы, апрача шматварыянтнасці, навучыліся прымяняць адзін прыём ва ўзаемадзеянні з другім. І ў розных шматлікіх спалучэннях. Гэта вельмі складана, цяжка, але пакуль няма ў краіне каманд, якія б маглі ўстаяць перад беларускай зборнай.

Вопытныя майстры ўмеюць парыраваць любы прыём у класічнай барацьбе. Часта схватка двух волатаў заканчвалася «гросмайстарскай» нічыёй, як у шахматах. Беларусы нанеслі «гросмайстарскай» нічыёй — смяротэльны ўдар.

У партэры ёсць больш прастор для розных прыёмаў, але супраць усіх старых прыёмаў распрацаваны разнастайныя «супрацьпрыёмы». Больш дзейсны, але вельмі рызыкоўны быў пераварот накатам. Стоячы, як і праціўнік, на каленях, барэц абхватвае партнёра, адрывае ад дывана, прыўзнімаецца на нагах і, трымаючы яго ў руках, разам з ім пераварочваецца, сам апынаецца ўнізе, перакочвае праціўніка праз сябе, пасяваючы пры гэтым вынырнуць. Праціўнік, такім чынам, застаецца ляжаць на спіне. Рызыкоўны і небяспечны прыём! Ці доўга тут самому дакрануцца лапаткамі да дывана?..

Накат прымяняўся многімі лепшымі савецкімі барцамі, але рэдка і аднастайна. Вопытнаму барцу няцяжка было абараняцца ад яго. Беларускія барцы распрацавалі 17 варыянтаў накату і прымяняюць іх ва ўзаемадзеянні з іншымі прыёмамі. Супраць беларускага накату рэдка які барэц устаіць. Асабліва небяспечны гэты прыём для цяжкавагавікоў. Беларускі цяжкавагавік Сяргей Залускі выдатна валодае накатам. Ён смела прымяняе гэты прыём пры сваёй 113-кілаграмовай вазе і з'яўляецца гразой для ўсіх сваіх праціўнікаў.

## КАМАНДА ЧЭМПІЁНАЎ

Двойчы праводзіліся ў Мінску першынствы краіны па класічнай барацьбе: у 1933 і ў 1948 годзе. Беларускія барцы вялікага поспеху на гэтых спаборніцтвах не мелі. Трэці прыезд у Мінск лепшых каманд барцоў краіны чакаўся ўсімі знаўцамі барацьбы (а іх у сталіцы БССР многа) з нецярпеннем. І снежань 1960 года запомніцца назаўсёды аматарам барацьбы. Беларуская каманда павінна была даказаць сваю сталасць, а беларуская школа барацьбы — сваю перавагу.

Пяць разоў выходзіла беларуская васьмёрка барцоў на дыван і пяць разоў заставалася пераможцам. Свае пераможнае шэсце каманда пачала з сустрэчы з барцамі Малдавіі. Затым яна нанесла сакрушальны ўдар моцнай камандзе Украіны, ды так, што цяжкавагавік украінцаў алімпійскі чэмпіён Іван Богдан адмовіўся сустрэцца з Залускім. Не ўстаялі супраць беларусаў · славутыя барцы Грузіі. Зламала каманда БССР упорнае супраціўленне барцоў Расійскай Федэрацыі і завяршыла свой удзел у першынстве фінальнай сустрэчай з камандай Масквы — пераможцам другой Спартакіяды народаў СССР. Але перамагчы беларусаў і масквічам было не пад сілу. Як заслужаную ўзнагароду прынялі беларускія барцы каманднаы прыз краіны — крыштальны кубак. Каманда беларускіх барцоў стала камандай чэмпіёнаў СССР.

У гэтай гістарычнай, бадай, для ўсёй савецкай барацьбы бітве асабліва вызначыліся мінскія барцы Алег Караваеў, Віталь Фефелаў, Мікалай Чучалаў, Іван Коршунаў, Сяргей Залускі, Віталь Жыцянёў, Васіль Секуноў. Многа зрабілі для каманды Іван Лакціёнаў, Яфім Фішбейн. Дзмітры Коган, аднак у асобных схватках ім не хапала вытрымкі і вопыту.

Беларуская школа барацьбы вытрымала галоўны экзамен. Цяпер варта не спыняцца на дасягнутым, а ўдасканальваць яшчэ больш методыку падрыхтоўкі і трэніроўкі, шукаць новае ў тэхніцы і тактыцы, эфектыўныя прыёмы ў стойцы. Адным словам, трэба працаваць, працаваць і працаваць.

**І. ЦЫВЕС.**



**Зборная каманда барцоў Беларусі—чэмпіён СССР па класічнай барацьбе: С. Залускі, М. Чучалаў, Д. Коган, В. Жыцянёў, Я. Фішбейн, В. Фефелаў, А. Караваеў і І. Лакціёнаў.**

## ЗМЕСТ


**Іван Навуменка.** Эру касманаўтаў пачалі мы. . . . . . . 3
**Пятрусь Макаль.** Давайце паляцім! Верш. . . . . . . 5
**Леанід Гаўрылкін.** Каця. Аповесць. . . . . . . 7
**Міхась Лыньконў.** Шукальнік запаветнага слова. . . . . 49
**Васіль Вітка.** Эпітафія вірусам. Вершы. . . . . . . 50

**У нас у гасцях «Дніпро»**

Пераклады з украінскай

**Андрэй Малышка.** Здалося маламу... Верш. . . . . . 54
**Юхім Тасенка.** Байран са стэпавых прастораў. Апавяданне. 55
**Барыс Алейнік.** Сто трынаццаты полк. Балада. . . . . 66
**Яўген Гуцала.** Гардзей. Апавяданне. . . . . . . 68
**Любоў Забашта.** Жывым Джыакондам. Верш. . . . . . 73
**Майя Фідчунова.** Унукі. Апавяданне. . . . . . . 75
**Анатоль Касматэнка.** «Геба». Верш. . . . . . . 83
**Паўло Ключына.** Вандроўны Шпак. Байка. . . . . . 84

**Дарогамі сямігодкі**

**Сцяпан Кухараў.** Веснавыя настроі. З сельскага дзённіка. . 85
**Маякі нашага часу.** . . . . . . . . . . . 96
**Барыс Стральцоў.** Суседзі. Нарыс. . . . . . . . 97

**Гары, камсамольскі аганёк!**

**У. Нядзведскі.** Будні аднаго райкома. . . . . . . 102

**Навука і культура**

**Дзмітры Жураўлёў.** Зойдзем у палац музыкі. . . . . 109
**С. Бобаў.** Загадкі Венеры адгадваюцца. . . . . . . 115
**В. Камароў.** Ці населены сусвет? . . . . . . . . 118
**В. Бархатава.** Танцуе маладосць. . . . . . . . . 122
**Анатоль Тычына.** Кніжныя знакі. . . . . . . . . 124
**Язэп Семяжон.** Вялікі пісьменнік Індыі. . . . . . . 128
**Рабіндранат Тагор.** Жыццё. Адзінства. Людзі працы. Вершы. 130

**Размова аб майстэрстве**

**Уладзімір Боган.** Спецыфіка жанра. . . . . . . . 135
**Агрэхі стылю.** . . . . . . . . . . . . . 144

**З блакнота падарожніка**

**Іржы Ганзелка, Міраслаў Зікмунд.** По дарогах свету. Пераклад з чэшскай мовы. Працяг. . . . . . . . 145

**Спорт**

**І. Цывес.** Школа асілкаў. . . . . . . . . . . . 156


**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «А гармонік грае, грае...»**


**Галоўны рэдактар Пімен ПАНЧАНКА**
**Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), Мікола АЎРАМЧЫК, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Генадзь ЖАБІЦКІ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Іван НАВУМЕНКА, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Янка СКРЫГАН, Уладзімір ЮРЭВІЧ (адказны сакратар).**




Першыя ролі.
Удзельніцы студэнцкага спектакля оперы Моцарта «Вяселле Фігара», падрыхтаванага студыяй Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі: Аляўціна Цялятнікава (злева) і Галіна Чарняўская.
Фота А. Дзітлава.



Я. Мацiеўская. Вячэрнi Кiеў.

З выстаўкi «Савецкая Украiна».



І. Раманоўскі. Даярка Надзя Бяляўская.

З паездкі ў калгас «Рассвет»